УДК 069(476) (091)
ББК 79.

Навуковы рэдактар:
доктар гістарычных навук, прафесар У.М. Міхнюк

Рэцэнзенты:
доктар мастацтвазнаўства, прафесар Я. Ф. Высоцкая
доктар гістарычных навук І. У. Чаквін
Кніга выдадзена пры падтрымцы газеты "Рабочы"

А.А. Гужалоўскі. Музеі Беларусі (1918 — 1941 гг.) — Мн.: НАРБ, 2002,- 176 с.

ISBN 985-6372-22-4

Прапануемая кніга прысвечана станаўленню музейнай справы Беларусі пачынаючы ад першых ініцыятыў Савецкай улады ў гэтай галіне на усходнебеларускіх землях да спынення музейнай дзейнасці ў рэспубліцы ў 1941 г. Прыведзены больш за 20 ілюстрацый, некаторыя з якіх публікуюцца ўпершыню. Гэтае выданне зацікавіць як спецыялістаў-музеёлагаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, калекцыянераў, мастакоў, студэнтаў, так і аматараў айчыннай гісторыі.

УДК 069(476) (091)
ББК 79.1

ISBN 985-6372-22-4

# УВОДЗІНЫ

У наш час у жыцці музеяў Беларусі назіраюцца значныя змены. З'яўляюцца новыя віды і профілі музеяў, формы работы з музейнымі прадметамі, экспазіцыйныя рашэнні, узаемаадносіны музея і наведвальнікаў. На мяжы стагоддзяў традыцыйныя грамадскія інстытуты пераглядаюць асновы свайго існавання, і музей — не выключэнне.

Як павінен выглядаць музей у XXI стагоддзі? Дзе яго месца ў новым сацыякультурным кантэксце, які абумоўлены перамогай інфармацыйных тэхналогій і экалагічнымі катастрофамі, глабальнымі зрухамі ў грамадскай свядомасці і стратай традыцыйных культурных каштоўнасцей? Шукаючы адказы на гэтыя пытанні, можна знайсці «падказкі» ў дасягненнях музейнай практыкі мінулых часоў.

Значэнне гісторыі музейнай справы (ці, згодна заходнееўрапейскай тэрміналогіі, гістарычнай музеялогіі), як і любой іншай гістарычнай дысцыпліны вызначаецца агульнапрынятым у навуцы патрабаваннем гістарычнага падыходу да вывучаемых з'яў грамадскага жыцця. Вывучэнне гісторыі музейнай справы дазваляе прасачыць працэс назапашвання помнікаў гісторыі і мастацтва, зразумець прычыны страт і руху музейных прадметаў і ў сувязі з гэтым — працэс фарміравання нацыянальнага музейнага фонда, яго змест, размяшчэнне і арганізацыю. Гісторыя музейнай справы закранае шматлікія пытанні, якія ўваходзяць у сферу інтарэсаў гістарыяграфіі культуры і дапаможных гістарычных дысцыплін. Але яна мае і самастойнае значэнне. Кожная галіна чалавечай дзейнасці на пэўным этапе свайго развіцця патрабуе «самапазнання», пошукаў сваіх вытокаў, свайго шляху ў эвалюцыі.

Айчынныя і замежныя музейныя тэарэтыкі і практыкі лічаць заканамерным існаванне гісторыі музейнай справы як самастойнай навуковай і вучэбнай дысцыпліны, якая мае свой прадмет, спецыфічныя задачы, міждысцыплінарныя сувязі. Гісторыю музейнай справы ў найменшай ступені можна аднесці да абстрактнай галіны ведаў. Тысячамі ніцей яна звязана са шматлікімі праявамі чалавечай дзейнасці: дзяржаўнай, палітычнай, матэрыяльнай, духоўнай і адлюстроўвае ступень развіцця грамадства. Акрамя пазнавальнага значэння зварот да гісторыі музейнай справы мае таксама яскрава акрэслены маральны аспект — трэба ведаць і цаніць заслугі тых, хто з любоўю, часам у самых неспрыяльных умовах, знаходзіў магчымасць вывучаць і захоўваць помнікі мінуўшчыны, перадаваць іх нашчадкам, каб ніколі не перарывалася шматвяковая эстафета культуры.

У 1918-1941 гг. музеі займалі важнае месца ў жыцці беларускага грамадства. З'явіліся органы кіраўніцтва музейнай справай, новыя тыпы музейных устаноў новыя формы работы, музейная літаратура, нарэшце, прафесія музейнага работніка. Гэта быў важны этап на шляху да прызнання музейнай справы як самастойнай галіны чалавечай дзейнасці, час радыкальных змен дзейнасці музеяў ва ўсім свеце. Сутнасць гэтых змен была ў дэмакратызацыі, значным пашырэнні аўдыторыі музеяў, павелічэнні іх колькасці, профіляў, а таксама папулярнасці.

У прапануемай чытачу кнізе разглядаюцца ўсе музеі, што знаходзіліся на беларускіх землях. У адпаведнасці з ведамаснай прыналежнасцю, музеі БССР міжваеннага перыяду можна падзяліць на тры групы: 1) музеі сістэмы Наркамасветы; 2) музеі іншых паркаматаў і ведамстваў; 3) музеі Цэнтральнага бюро краязнаўства. Музеі Заходняй Беларусі ў адпаведнасці з тым жа прынцыпам можна падзяліць на наступныя групы: 1) музеі навуковых арганізацый; 2) гарадскія музеі; 3) музеі Польскага краязнаўчага таварыства.

Храналагічныя рамкі даследавання ахопліваюць перыяд з 1918 па 1941 г. Гэты храналагічны зрэз дапамагае высветліць агульныя заканамернасці, уласцівыя цэласнаму этапу станаўлення музейнай справы Беларусі. Пачатак дадзенаму перыяду паклала з'яўленне першых дзяр жаўных музеяў, а яго заканчэнне акрэсліў пачатак нямецкай акупацыі, падчас якой музейная сетка БССР была цалкам знішчана.

У рабоце разглядаецца працэс узнікнення і развіцця музеяў у БССР — на тэрыторыі Аршанскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Віцебскай, Калінінскай, Магілёўскай, Мазырскай, Мінскай, Полацкай і Слуцкай акруг (з 1938 г. — Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Палескай абласцей), у Польшчы — на тэрыторыі Віленскага, Наваградскага, Палескага і ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводстваў. Культурнымі цэнтрамі гэтых зямель былі Мінск і Вільня, дзе былі створаны музеі, якія ўвабралі шматлікія і каштоўныя беларускія матэрыялы.

Аўтарам прынята наступная перыядызацыя станаўлення музейнай справы БССР у міжваенны перыяд:

1.1918-1923 гг. — перыяд стварэння першых савецкіх музеяў, пошуку арганізацыйных форм, якія дазвалялі вырашыць пытанні аховы культурнай спадчыны, прыцягнення дарэвалюцыйных кадраў мастацкай і навуковай інтэлігенцыі да справы музейнага будаўніцтва.

2. 1923-1929 гг. — перыяд закладвання асноўных заканадаўчых актаў, якія рэгулявалі стварэнне музеяў. У гэты перыяд у

супрацоўніцтве з кадрамі нацыянальнай інтэлігенцыі дзяржава распрацоўвала праграму развіцця музейнай справы, дзе асноўная ўвага надавалася збіранню і ахове музейных каштоўнасцей, якія ў выніку рэвалюцыі засталіся без нагляду. Работа ў галіне музейнай справы пашырылася на аснове стабілізаванай музейнай сеткі, якая падпарадкоўвалася Народнаму камісарыяту асветы і Цэнтральнаму бюро краязнаўства БССР.

3.1929-1941 гг. — перыяд узрастання ў сістэме дзяржаўнага апарату супрацьлегласцей паміж задачамі паглыблення культурнай работы і спрошчанымі ўяўленнямі пра культуру, і, як вынік — адносін да музея як да інструмента ідэалагічнага ўздзеяння на масы; развіцця музейнай справы як часткі партыйнай прапагандысцкай работы, што прывяло да разбурэння апарату кіраўніцтва музейнай справай, знішчэння старых музейных кадраў, продажу музейных калекцый.

Развіццё музеяў Заходняй Беларусі, якое ішло ў рэчышчы польскай культуры, характарызавалася адносна роўным пастулальным рухам наперад да пачатку другой сусветнай вайны, пасля чаго ў дзейнасці заходнебеларускіх музеяў адбыліся кардынальныя змены.

Працэс станаўлення музейнай справы Беларусі ў 1918-1941 гг. у даваенны час амаль не вывучаўся. У якасці выключэння трэба назваць грунтоўную манаграфічную працу «Краязнаўства», якая была напісана М.І. Каспяровічам у 1929 г. [ 179]. Там мы знаходзім не толькі статыстычныя дадзеныя па музейнай сетцы БССР, але і тэарэтыка-метадычныя развагі, прасякнутыя рамантычнымі ўяўленнямі, характэрнымі для краязнаўцаў тых часоў адносна музейнай дзейнасці.

Спробы даследавання гісторыі музейнай справы Беларусі ў 1918-1941 гг. у пасляваеннай БССР таксама эпізадычныя. У часы панавання савецкай ідэалогіі не было ўмоў для вывучэння гэтай праблематыкі. Дзейнасць па збіранні, вывучэнні і інтэрпрэтацыі нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны ішла ў разрэз афіцыйнай ідэалогіі. Гэтая тэма замоўчвалася, на яе было накладзена няпісанае табу. І калі пра дзейнасць музеяў можна сустрэць невялічкія артыкулы ці параграфы ў манаграфіях, дык пра музейных дзеячаў не ўзгадваецца нідзе.

Першыя звесткі па гісторыі музейнай справы Беларусі міжваеннага перыяду мы знаходзім у нарысе В. В. Іонавай, які прысвечаны музейнаму будаўніцтву ў СССР у гады даваенных пяцігодак [171, с. 84-118].

Сярод матэрыялаў агульнасаюзнага характару ў нарысе ёсць нешматлікія колькасныя дадзеныя (значна зменшаныя), што адлюстроўваюць дынаміку росту музейнай сеткі ў БССР з 1928 па 1941 г.

У пачатку 70-х гг. XX ст. да нацыянальнай гісторыка-музейнай праблематыкі міжваеннага перыяду ўпершыню звяртаюцца беларускія гісторыкі. Так, у той час з'явіліся артыкулы В. К. Бандарчыка [160, с. 41-43] і Я.М. Мяшэчкі [202, с. 51-52]. Першы аўтар даў кароткую характарыстыку дзейнасці краязнаўчых арганізацый БССР і ў сувязі з іх дзейнасцю прывёў колькасныя звесткі пра музеі, створаныя краязнаўчымі арганізацыямі. Другі аўтар у тым жа ракурсе, але больш уважліва ўглядаецца ў працэс фарміравання сеткі краязнаўчых музеяў БССР у той перыяд. На жаль, якасць яго аналізу зніжана факталагічнымі памылкамі, а таксама апалагетыкай тагачаснай дзяржаўнай культурнай палітыкі.

У 1974 г. выйшла з друку манаграфія С.В. Марцэлева, прысвечаная гісторыі беларускай савецкай культуры з 1917 па 1970-я гг. [197]. У ёй музейная дзейнасць у міжваеннай БССР даследуецца разам з іншымі сферамі культуры: літаратурай, тэатрам, кіно, выяўленчым мастацтвам, бібліятэчнай справай. Музеям у гэтай вялікай па аб'ёме працы прысвечана некалькі невялікіх фрагментаў якія не дазваляюць скласці агульнае ўяўленне пра станаўленне музейнай сеткі БССР. Аўтар паказаў (безумоўна, без тлумачэнняў прычын) спад у музейнай рабоце ў 1930-я гг. Але, на канцэптуальным узроўні С.В. Марцэлеў падзяляў сфарміраваны партыйнымі ідэолагамі погляд на музей як на прапагандысцкую ўстанову, а на музейных работнікаў — як на «байцоў ідэалагічнага фронта».

Першая праца, дзе зроблена спроба паставіць гісторыю музейнай справы Беларусі міжваеннага перыяду ў якасці самастойнай праблемы — артыкул Е.В. Маскоўкінай «Музейнае будаўніцтва» [ 198, с. 29-35]. Да моцных бакоў гэтай працы трэба аднесці імкненне стварыць агульную карціну станаўлення музейнай справы на базе архіўных матэрыялаў і тагачаснай перыёдыкі. Але, як і ў манаграфіі С.В. Марцэлева, музей у ёй разумеецца як прапагандысцкая ўстанва. На жаль, праблема, сфармуляваная Е.В. Маскоўкінай, не атрымала ў беларускай савецкай гістарыяграфіі культуры далейшага развіцця.

Пачатак 80-х гг. XX ст. быў часам з'яўлення некалькіх артыкулаў, дзе музейная справа Беларусі даследавалася ў сувязі са станаўленнем дзяржаўнай сістэмы аховы помнікаў у першыя гады Савецкай улады. Так, асобныя звесткі пра дзейнасць першых музеяў у БССР мы знаходзім у артыкулах Л.Д. Налівайка [203, с. 30-31], Г.А. Багуслаўскага [159, с. 41-42], У.М. Дзянісава [166, с. 19-20].

Пасля 1985 г., калі ў былым СССР пачаліся працэсы дэмакратычнага абнаўлення грамадства, вывучэнне гісторыі нацыянальнай культуры, у тым ліку музейнай дзейнасці, выходзіць на перадавыя

рубяжы гістарычнага даследавання. Гісторыкі культуры, супрацоўнікі музеяў, краязнаўцы імкнуліся ўзнавіць праўду, ліквідаваць «белыя плямы» гісторыі, вярнуць добрыя імёны суайчыннікам, якія былі несправядліва забыты ці абылганы. Адпаведна значна ўзрастала колькасць прац, дзе ў той ці іншай ступені закрануты пытанні гісторыі музейнага будаўніцтва ў Беларусі.

Значнай падзеяй у гістарыяграфіі, гісторыі музейнай справы былога СССР было з'яўленне манаграфіі Ю.М. Жукава, прысвечанай станаўленню і дзейнасці савецкіх органаў аховы помнікаў гісторыі і культуры [168]. У гэтай рабоце ўпершыню выяўлена роля мастачка-гістарычных камісій, удакладнены шэраг фактаў фарміравання савецкага дзяржаўнага кіраўніцтва музейнай справай і аховай помнікаў у Петраградзе, Маскве і саюзных рэспубліках. Абагульніўшы апублікаваныя раней факты і ўзбагаціўшы іх уласнымі архіўнымі знаходкамі, аўтар асвятліў першы этап фарміравання музейнай сеткі ў СССР. Асобны параграф манаграфіі Ю.М. Жукава прысвечаны Беларускай ССР. У ёй разглядаюцца заканадаўчая база дзейнасці па ахове помнікаў, структура кіруючых органаў, а таксама іх канкрэтныя мерапрыемствы, у тым ліку стварэнне Абласнога музея і Музея А. Міцкевіча ў Навагрудку. Гэтыя ж пытанні ўздымае ў сваёй дысертацыі беларускі даследчык М.Я. Клепікаў [ 181 ].

Першая гісторыка-музейная праца, якая з'явілася ў БССР у «перабудоўчую эпоху», была прысвечана гісторыі Беларускага музея імя І. Луцкевіча [163]. Яе аўтар А.В. Бяляцкі падае інфармацыю пра музей ў цікавай і незвычайнай форме — праз уражанні вядомых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў М. Багдановіча, З. Бядулі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка і інш., якія наведалі яго ў розны час.

Важны ўнёсак у пашырэнне ведаў пра дзейнасць Беларускага музея імя І. Луцкевіча зрабіў пляменнік стваральніка музея Л.А. Луцкевіч [191]. Ён даволі падрабязна апісаў гісторыю стварэння музея, яго развіццё, а таксама склад калекцый. Галоўная каштоўнасць гэтага артыкула ў тым, што ён мае характар мемуарнай першакрыніцы. Найбольш цікавым падаецца імкненне аўтара пазбавіць чытача ад стэрэатыпаў, якія склаліся ў савецкай гістарыяграфіі, у прыватнасці, пра немагчымасць развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў Вільні ў міжваенны перыяд.

Дзве працы, прысвечаныя Музею імя І. Луцкевіча, з'явіліся на пачатку 90-х гг. XX ст. і маюць археаграфічны характар. У першай з іх П. Сурмач дае кароткую характарыстыку дакументаў з Музея імя І. Луцкевіча, якія былі перададзены на захоўванне ў Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва [223, с. 34-35]. У другой

мы знаходзім пералік архіўных дакументаў музея, якія забраў НКУС Літоўскай ССР у жніўні 1944 г., што характарызуюцца аўтарам гэтай працы Ю.А. Лабынцавым як «найгалоўнейшы замежны архіў Беларусі» [186].

У гэтае ж дзесяцігоддзе ў гісторыкаў мастацтва выклікаў цікавасць шэраг прац, дзе разглядалася станаўленне музеяў мастацкага профілю. Так, эвалюцыю поглядаў беларускіх аўтараў на гісторыка-музейную праблематыку дэманструе артыкул А. Бандарэнка, прысвечаны кароткаму, але вельмі плённаму і цікаваму перыяду існавання Віцебскага музея сучаснага мастацтва [161]. На аснове вялікай колькасці першакрыніц, знойдзеных аўтарам у беларускіх і расійскіх архіўных сховішчах, у гэтай працы дэталёва і на высокім прафесійным узроўні паказаны ўклад мастакоў-авангардыстаў у стварэнне музея, прасочаны лёс яго найкаштоўнейшай калекцыі.

Асобныя звесткі па адкрыцці карціннай галерэі Ю. Пэна ў Віцебску знаходзяцца ў кнізе М. Рыўкіна і А. Шульмана, прысвечанай жыццёваму лёсу славутага мастака [213]. Нягледзячы на тое, што дадзеная кніга па форме ўяўляе белетрыстычны твор, яе змест базіруецца на строга выверавых дакументальных матэрыялах, перш за ўсё архіўных, некаторыя з якіх выкарыстаны ўпершыню. Яшчэ адна знакамітая постаць у беларускім мастацтве 20-х гг. ХХ ст. — М.М. Шчакаціхін, які стаў героем артыкула І. Чэбан [233, с. 91-96]. Гэты артыкул мае археаграфічны характар і змяшчае поўны тэкст даклада М.М. ІГІчакаціхіна, прадстаўленага ў 1925 г. на мастацкай секцыі Інбелкульта з прапановай стварэння музея беларускага мастацтва на аснове калекцый Беларускага дзяржаўнага музея. У 2001 г. быў надрукаваны артыкул Н. Усавай, прысвечаны генеалогіі мастацкага музея ў Беларусі [227, с. 18-23]. Там узгадваецца аб праекце стварэння мастацкага музея В. Ельскага, пра мастацкія калекцыі Беларускага дзяржаўнага музея, а таксама пра абставіны стварэння Дзяржаўнай карціннай галерэі.

У 90-я гг. ХХ ст. да распрацоўкі гісторыка-музейнай праблематыкі звярнуліся музейныя практыкі. Іх увагу прыцягнулі перш за ўсё сюжэты, звязаныя з гісторыяй стварэння і існавання ўласных музейных устаноў у міжваенны перыяд. Удзел музейных практыкаў у гісторыка-музейных даследаваннях абумовіў пашырэнне іх крыніцазнаўчай базы, увядзенне ў навуковы ўжытак раней невядомых матэрыялаў з музейных фондаў.

У 1990-я гг. у выніку правядзення ў Гродне шэрага рэспубліканскіх навукова-практычных канферэнцый музейная грамадскасць Беларусі ўпершыню атрымала магчымасць азнаёміцца з абставінамі

стварэння і двух першых дзесяцігоддзяў дзейнасці гродзенскіх Гісторыка-археалагічнага і Прыродазнаўчага музеяў. На жаль, ні ў тэзісах А.А. Салаўёвай і В.М. Царук [218, с. 3--6], дзе зроблена спроба рэканструкцыі даваеннай гісторыі Гісторыка-археалагічнага музея, ні ў тэзісах А.М. Плешавені [208, с. 6-8], прысвечаных Прыродазнаўчаму музею, не знайшлося месца для паказу падзей другой паловы 1930-х гг. Тэзісы Л.В. Фёдаравай [228, с. 8-9], дзе ў сціслай форме перадаецца працэс камплектавання фондавых калекцый Гісторыка-археалагічнага музея, і А.І. Саўчук [221, с. 7-12], якая аналізуе яго выставачную дзейнасць, таксама храналагічна абмежаваны дваццатымі гадамі.

Заслугай ўдзельнікаў гродзенскіх музейных канферэнцый 1990-х гг. з'яўляецца зварот да біяграфій музейных дзеячаў. У тэзісах А.А. Цітовай мы знаходзім цікавыя біяграфічныя звесткі пра вядомага археолага і музейнага дзеяча І. І. Ядкоўскага [230, с. 9-10]. Далейшае развіццё гэты сюжэт атрымаў ў тэзісах В. В. Шведа, які, на жаль, не ставіў перад сабой задачу глыбокага вывучэння ні музеялагічных поглядаў, ні практычнай музейнай дзейнасці свайго героя [234, с. 86-92]. Яскравая характарыстыка І.І. Ядкоўскага-бібліяфіла, з дапамогай якога створаны славуты кнігазбор Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, змяшчаецца ў тэзісах В.І. Шоцік [238, с. 116-126]. Асобная публікацыя прысвечана жыццю і прафесіянальнай дзейнасці дырэктара Прыродазнаўчага музея ў Гродне С.П. Жыўны [ 169, с. 92-96].

Значнымі фактамі насычаны артыкул М.Р. Марголінай, прысвечаны гісторыі Палескага музея ў Пінску [196, с. 60-64]. Гэты артыкул — вынік шматгадовай працы аўтара па вывучэнні гісторыі музея, а таксама дзейнасці яго кіраўнікоў (Р. Тарашкевіча і Дз. Геаргіеўскага) па ўсебаковым вывучэнні Піншчыны. Пераважна на перамены ў дзейнасці Баранавіцкага музея ў 1939-1940 гг. звяртае ўвагу С.А. Шчарбакоў [239, с. 588-591]. Даваенная гісторыя Слонімскага краязнаўчага музея прасочваецца праз прызму шэрага публікацый у перыядычным друку, прысвечаных стваральніку музея І. І. Стаброўскаму [204,232]. Палова грунтоўнага артыкула А.Д. Пісаненка і Л. П. Шклярава займае асвятленне дзейнасці супрацоўнікаў Заалагічнага музея БДУ па вывучэнні фауны Беларусі, прычым асаблівая ўвага нададзена стваральніку музея А.У. Фядзюшыну [206, с. 6-22].

Змястоўнасцю вылучаюцца матэрыялы па гісторыі музейнай справы ў Магілёве, прадстаўленыя Л. Ф. Кандрацьевай на навуковую канферэнцыю, якая была прысвечана 130-годдзю Магілёўскага краязнаўчага музея [174, с. 3-23]. Другая частка матэрыялаў прысвечана

дзейнасці Магілёўскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея ў 20-я гг. XX ст., трэцяя частка — трагічным выпрабаванням 1930-х гг. і гібелі музея ў 1941 г. Заслугоўвае ўвагі імкненне аўтара прасачыць драматычны лёс фондавых калекцый Магілёўскага музея, у тым ліку такіх шэдэўраў як крыж Еўфрасінні Полацкай.

Сярод прац па гісторыі музейнай справы Беларусі важнае месца займае зборнік, падрыхтаваны да 80-годдзя Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. У шэрагу матэрыялаў, прадстаўленых супрацоўнікамі музея, раскрываюцца пошукі і дасягненні ў музейным будаўніцтве ў першыя паслярэвалюцыйныя гады. Крыніцы, прыцягнутыя аўтарамі М.Н. Агаем [205, с. 3-6], Т.А. Шодай [237, с. 6-16], А.В. Курчыцкім [ 184, с. 17-33], пашыраюць і ўдакладняюць наша ўяўленне пра культурнае жыццё Гомельшчыны ў 20-30-я гг. XX ст. Так, безумоўную цікавасць уяўляюць некаторыя назіранні пра узаемаадносіны мясцовых улад і музея, змест і магчымасці правядзення навуковаасветніцкай дзейнасці на новых ідэалагічных асновах, рух музейных калекцый.

Падобны ж характар маюць артыкулы АЛІ. Чарныша [231, с. 209-214], В. Лютынскага [192], Ю.Г. Ксяневіч [182, с. 258-267], дзе падрабязна выкладзена гісторыя арганізацыі музеяў у Ваўкавыску, Оршы, а таксама Музея рэвалюцыі ў Мінску.

Не ўсе артыкулы і тэзісы музейных практыкаў, прысвечаныя вывучэнню гісторыка-музейнай праблематыкі, раўназначныя. У некаторых з іх не хапае ацэнак і меркаванняў, не заўсёды дакладна акрэслена аўтарская пазіцыя. Не ўдалося пазбегнуць шэрага факталагічных памылак. Тым не менш, сам факт звароту практыкаў да гісторыка-тэарэтычных асноў сваёй дзейнасці заслугоўвае станоўчай ацэнкі.

У заканчэнні гістарыяграфічнага агляду неабходна ўзгадаць апублікаваныя ў 90-я гг. XX ст. працы, што напісаны прафесіянальнымі гісторыкамі і мастацтвазнаўцамі, якія зрабілі спробу стварэння агульнай карціны станаўлення музейнай справы і аховы помнікаў у Беларусі ў разглядаемы перыяд.

Шэраг важных для нашага даследавання матэрыялаў змяшчае артыкул М.М. Яніцкай «Стан музейнай справы ў БССР у 20-30 гады», якую аўтар прысвяціла кароткаму пераказу гісторыі буйнейшых музеяў, што існавалі ў разглядаемы перыяд [241, с. 27-40]. Структурна артыкул падзяляецца на два блокі: музеі, якія былі закрыты ў 30-я гг. і музеі, якія «паспяхова працавалі да пачатку II сусветнай вайны».

Даследаванню працэсу станаўлення археалагічнай навукі і гістарычнага краязнаўства Беларусі ў XVI ст. — 30-я гг. XX ст. прысвечана манаграфія Л.В. Аляксеева, напісаная на аснове

папярэдніх распрацовак аўтара [156]. У ёй пераважна на базе літаратурных крыніц і матэрыялаў перыёдыкі пераканаўча паказаны ўклад першых беларускіх савецкіх музейных супрацоўнікаў у археалагічнае даследаванне краю, абуджэнне грамадскай цікавасці да мінулага. Аўтар спыняецца на арганізацыі работ па краязнаўству, стварэнні Інбелкульта, асобныя параграфы прысвечаны I з'езду даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, а таксама супрацоўніку Беларускага дзяржаўнага музея археолагу А. М. Ляўданскаму. Менш увагі ў манаграфіі нададзена ахоўным мерапрыемствам, якія праводзіліся музеямі гісторыка-краязнаўчага профілю, а таксама дэманстрацыі помнікаў старажытнасці, што адкрылі вучоныя ў выніку раскопак.

У манаграфіі В.А. Лабачэўскай падаецца гісторыя народнага мастацтва і промыслаў Беларусі [185]. У ёй цікавы параграф пад назвай «Музейныя зборы пароднага мастацтва», дзе разгледжана дзейнасць заходнебеларускіх музеяў у міжваенны перыяд у абраным аўтарам аспекце. Развіццё этнаграфічных аддзелаў у гістарычных і краязнаўчых музеях адлюстроўвала аб'ектыўную патрэбу ў комплексным вывучэнні беларускага этнаграфічнага матэрыялу з мэтай навуковых абагульненняў. В. А. Лабачэўская пераканаўча дэманструе ўнёсак заходнебеларускіх музейных дзеячаў — М. Знамяроўскай-Пруфер, Я. Драздовіча, Ю. Ядкоўскага, Дз. Геаргіеўскага, I. Сяброўскага ў вывучэнне і папулярызацыю твораў народнага мастацтва.

Разгледжанымі працамі практычна вычэрпваецца гістарыяграфія гісторыі музейнай справы Беларусі міжваеннага перыяду. Нягледзячы на апісальны характар, уласцівы большасці даследаванняў, адсутнасці паспяховых спроб стварыць цэльную гістарычную карціну, неабходна прызнаць, што беларускія гісторыкі паклалі пачатак разгляду дадзенай праблемы ў якасці самастойнага прадмета вывучэння. Былі праведзены спецыяльныя даследаванні гісторыі вялікіх музеяў, руху прадметаў калекцый, створаны біяграфічныя нарысы асобных музейных дзеячаў. Аднак комплекснага навуковага аналізу разглядаемай праблемы ў папярэднія гады праведзена не было. Тлумачыцца гэта тым, што і ў 1990-я гг. беларуская гістарыяграфія не здолела цалкам пераадолець інерцыю ў дачыненні да музейнай дзейнасці, зададзеную яшчэ ў савецкую эпоху.

Найважнейшай базай апублікаваных крыніц па гісторыі музейнай справы Беларусі ў 1917-1941 гг. з'яўляюцца заканадаўчыя і нарматыўныя акты БССР і Польшчы, цэнтральны і мясцовы перыядычны друк. Асаблівую цікавасць уяўляе часопіс «Наш край» (з

1932 г. — «Савецкая краіна»), у якім адлюстроўваліся тэматыка і методыка краязнаўчай работы, друкавалася вялікая колькасць даследаванняў, праведзеных мясцовымі таварыствамі. Акрамя часопіса «Наш край», матэрыялы па стану музеяў выдаваліся ў «Известиях» губвыканкамаў часопісах губернскіх аддзелаў народнай адукацыі, газеце «Савецкая Беларусь», часопісах »Маладняк», «Полымя», «Асьвета», «Калосьсе», «Ziemia», акруговых выданнях краязнаўчых арганізацый »Віцебшчына», «Магілёўшчына», «Аршаншчына», а таксама ў перыядычных выданнях музеяў.

Значны фактычны матэрыял быў выяўлены ў цэнтральных і абласных архівах, а таксама фондасховішчах беларускіх музеяў. Каштоўныя дакументы, якія адлюстроўваюць арганізацыю і кіраўніцтва дзейнасцю дзяржаўных музеяў, знойдзены ў фондах ЦК КП(б)Б і Наркамасветы, што захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Канкрэтныя дадзеныя па арганізацыі і фарміраванні калекцый грамадскіх краязнаўчых музеяў дае фонд Цэнтральнага бюро краязнаўства ў Цэнтральным навуковым архіве Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ).

Вялікае значэнне для адлюстравання розных аспектаў гісторыі Беларускага музея імя І. Луцкевіча маюць крыніцы, якія захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (АР ЦБАНЛ) і Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).

Справаздачы, спісы і фармуляры асобных музеяў мы знаходзім у фондах Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці (ДАВВ), Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці (ДАГВ), Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці (ДАМБ).

Асобную групу крыніц складаюць асабістыя дакументы музейных дзеячаў і канцылярскія дакументы, якія захоўваюцца ў фондах дзяржаўных абласных музеяў, у тым ліку Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (ВАКМ), Гомельскага абласнога краязнаўчага музея (ГАКМ) і Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея (ГГАМ).

## Глава I ДЗЯРЖАЎНЫЯ МУЗЕІ БССР

Пачатак стварэння сеткі дзяржаўных музеяў на этнічных беларускіх землях звязаны з дзейнасцю Саюза камун Паўночнай вобласці з цэнтрам у Петраградзе (Заходняй камуны). У склад гэтай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі Савецкай Расіі акрамя этнічных расійскіх зямель увайшлі неакупіраваныя немцамі паветы Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў.

Пасля пераезду савецкага ўрада ў сакавіку 1918 г. у Маскву частка апарату Народнага камісарыята асветы на чале з А.В. Луначарскім засталася ў Петраградзе. Яна ўзяла на сябе функцыі камісарыята асветы Заходняй камуны. У тым жа сакавіку 1918 г. у аддзеле народнай адукацыі камуны была створана калегія па справах музеяў, якую ўзначаліў мастацтвазнаўца, урадавы камісар Г.С. Ятманаў. На працягу двух гадоў петраградская музейная калегія дзейнічала аўтаномна ад усерасійскага аддзела музеяў, створанага ў Маскве летам 1918 г. пад кіраўніцтвам Н.І. Тройкай [183, с. 109].

Асноўнай задачай петраградскай калегіі па справах музеяў была ахова помнікаў мастацтва і даўніны. 9 мая 1918 г. калегія ўхваліла «Пастанову № 2», якая стала першым нарматыўным актам Савецкай улады ў галіне музейнай справы і аховы памнікаў. Пастанова абавязвала ўсе губернскія і павятовыя саветы Заходняй камуны «...распачаць энергічныя захады па захаванні ўсіх культурных каштоўнасцей, што знаходзяцца ў раёнах Саветаў: музеяў, карцінных галерэй, разнастайных калекцый, старажытных будынкаў і інш., а таксама інфармаваць калегію «што менавіта знаходзіцца ў раёне савета, у якім стане, якія захады зроблены па ахове культурных каштоўнасцей і ці не пагражае ім раскраданне» [67, с. 4].

11 мая была ўхвалена яшчэ адна важная пастанова, якая забараняла праводзіць раскопкі ў межах Заходняй камуны без спецыяльнага дазволу. Для ажыццяўлення вызначаных задач калегія патрабавала «стварыць пры саветах мясцовыя мастачка-археалагічныя камісіі, якія б распачалі ахову помнікаў мастацтва і даўніны» і паведаміць пра спецыялістаў, навуковыя і мастацкія таварыствы, якія маюцца на месцах. Не чакаючы выканання апошняга сябры калегіі распачалі стварэнне ўласнага інстытута павятовых упаўнаважаных [67, с. 6].

Такім чынам, вясной 1918 г. на абшарах былой Расійскай імперыі ўпершыню ўзнік дзяржаўны орган кіравання музейнай справай, у сферу дзейнасці якога ўваходзіла ўсходняя частка Беларусі. Ва ўмовах рэвалюцыйнага хаосу ў прыфрантавой паласе яго дзейнасць мела абмежаваны характар — сродкаў ледзь хапала на заработную

плату і камандзіроўкі супрацоўнікаў. Тым не менш, менавіта з ім звязана стварэнне першых дзяржаўных беларускіх музеяў.

Цікавая музейная ініцыятыва прагучала напрыканцы снежня 1918 г. на першым з'ездзе па пазашкольнай адукацыі Заходняй камуны. На з'ездзе была прынята пастанова аб стварэнні сацыяльнага музея ў выглядзе стройнай сістэмы музеяў-выставак, дзе б экспанаваліся прадметы, «…прадстаўляючыя рост духоўнай культуры чалавецтва ў святле эканамічнага разумення гістарычнага працэсу» [55, арк. 2]. Асаблівая ўвага калегіі была звернута на стварэнне музеяў навучальных устаноў (педагагічны музей Дзісненскага павета, музей вучэбных дапаможнікаў і кабінеты Віцебскага педагагічнага інстытута, музей наглядных дапаможнікаў Полацкай настаўніцкай семінарыі і інш.), якія не захоўвалі аўтэнтычных прадметаў і мелі выключна дыдактычны накірунак.

У Віцебскай іуберні пытанні музейнага будаўніцтва знаходзіліся ў кампетэнцыі Камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва на чале з А.О. Цшохерам. Яму дапамагалі ўпаўнаважаныя петраградскага аддзела па справах музеяў і аховы помнікаў С.Н. Наседкін і С.Н. Юрэнеў якія на працягу 1919-1920 гг. фарміравалі губернскі музейны фонд, дзе бралі на ўлік помнікі і музейныя калекцыі, займаліся іх апісаннем і фотафіксацыяй. У лістападзе 1918 г. камісія распачала стварэнне «агульнаадукацыйнага, прыродазнаўчага, археалагічнага і тэхналагічнага музея» ў Віцебску, калекцыі якога налічвалі больш за 10 тыс. адзінак захоўвання. У асноўным гэта былі прадметы збору А.Р. Брадоўскага, які ў той час ужо быў сістэматызаваны па наступных калекцыях: археалогія, прыродазнаўства, нумізматыка, фалерыстыка, пячаткі, гадзіннікі, абразы, крыжы, рэлігійныя медалі, тканіны, вышыўкі, мазаікі, інкрустацыі, біжутэрыя, жывапіс, французскія і рускія эмалі, мастацкія вырабы з фарфору, мастацкія вырабы з бронзы, рукапісы, яўрэйская калекцыя. Паводле сведчання прафесара Б. Брэжга, найбольш каштоўнай з гэтых калекцый была нумізматычная [246, с. 235].

Музей, перайменаваны ў «гісторыка-археалагічны», адкрыўся для наведвальнікаў у маі 1919 г. у будынку Базыльянскага кляштара. Яго экспазіцыі, спраектаваныя А.Р. Брадоўскім, які быў прызначаны дырэктарам новай установы, карысталіся вялікай папулярнасцю. Адначасова з абавязкамі дырэктара музея А.Р Брадоўскі выконваў абавязкі старшыні створанай у лютым 1920 г. музейнай камісіі, у кампетэнцыю якой адышлі пытанні аховы і вывучэння рухомай гісторыка-культурнай спадчыны ў губерні. У склад музейнай камісіі,

праіснаваўшай да 1924 г., уваходзілі мастакі С.Б. Юдовін, А.Г. Ром, а таксама гісторык М.М. Багародскі.

А.Р. Брадоўскі надаваў вялікую увагу камплектаванню калекцый музея. Акрамя ўласнага збору, дзякуючы яго намаганням у фонды музея паступіла значная частка калекцый В.П. Федаровіча, калекцыі эвакуіраванага ў Віцебск Віленскага афіцэрскага таварыства, каштоўныя рукапісы. Шмат каштоўных помнікаў было дастаўлена ў музей з рэзідэнцый заможнай шляхты Віцебскай губерні. У выніку гэтай дзейнасці фонды музея падчас далучэння Віцебска да БССР у 1924 г. налічвалі ўжо каля 30 тыс. адзінак захоўвання [10, арк. 2].

Важным цэнтрам па вывучэнню помнікаў матэрыяльнай культуры Беларусі магло стаць Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. У 1919 г. гісторыка-этнаграфічны кабінет аддзялення значна ўзбагаціўся за кошт перададзеных туды калекцый Віцебскага царкоўна-археалагічнага камітэта і Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (разам больш за 5 тыс. адзінак). Праз два гады Віцебскае аддзяленне атрымала ад нашчадкаў В.П. Федаровіча частку яго збору. На жаль, супрацоўнікі і студэнты аддзялення не паспелі разгарнуць работы па навуковай атрыбуцыі і сістэматызацыі гэтых калекцый — 30 ліпеня 1922 г. археалагічныя інстытуты ў Савецкай Расіі былі закрыты. Да 1924 г. калекцыі праляжалі у будынку Вышэйшага педагагічнага інстытута, а пасля ўвайшлі ў склад фондаў Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея [80, с. 63].

Важную ролю ў культурным жыцці Віцебска ў першыя паслярэвалюцыйныя гады адыгрываў Музей сучаснага мастацтва, ініцыятыва стварэння якога зыходзіла ад упаўнаважанага Наркамасветы па Віцебскай губерні «з правамі арганізацыі школ, музеяў і выстаў» М.З. І Нагала [76]. Актыўны ўдзел у камплектаванні калекцыі жывапісу бралі камісар па ахове помнікаў даўніны і мастацтва К.С. Малевіч, першы дырэктар Віцебскага мастацкага вучылішча М.В. Дабужынскі, выкладчыкі А. Ром і В. Ермалаева, а таксама члены Віцебскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва [75].

Канцэпцыя будучага музея выклікала значныя спрэчкі паміж яго стваральнікамі, перш за ўсё паміж М.З. Шагалам і К.С. Малевічам, якія па-рознаму разумелі сутнасць новага мастацтва. Калі згодна першапачатковай задуме М.З. Шагала музей павінен быў мець два аддзелы — гісторыка-мастацкі і сучаснага мастацтва, то пасля далучэння да працы ўвосень 1919 г. К.С. Малевіча ад гісторыка-мастацкага аддзела вырашана было адмовіцца. Падобны падыход адпавядаў радыкальнаму светапогляду, філасофска-эстэтычнай канцэпцыі апошняга, якая прапанавала погляд на традыцыйны музей, як

на стваральніка ілюзіі адвечнасці культуры. Культура разумелася мастаком як мёртвае цела. Захоўваць яго ў музеі бессэнсоўна, ды і немагчыма. Стваральнікі ж класічных музеяў займаюцца проста «забойствам» прадметаў і «зняволеннем» іх у музеях. Нягледзячы на ўвесь радыкалізм мастацкай тэорыі К.С. Малевіча, ён усё ж дапускаў існаванне музея, але насычанага не творамі мастацтва, а немастацкімі рэчамі[1].

Першыя паступленні музея дэманстраваліся на выставе, арганізаванай у Віцебску ў лістападзе 1919 г. А падчас святкавання трэціх угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі адбылося адкрыццё Музея сучаснага мастацтва, экспазіцыі якога былі разгорнуты ў памяшканні мастацкага вучылішча. Гэта былі работы Канчалоўскага, Фалька, Лентулава, Розанавой, Асьмёркіна, Ганчаровай, Ле-Данто, Экстэр, Шаўчэнкі, Малевіча, Шагала, Пэна, Сомава, Бразера, Юдовіна і інш. (усяго каля 80 твораў) [77].

З канца 1921 г. віцебскі аддзел народнай адукацыі, напалоханы смелымі эксперыментамі ў галіне мастацкай педагогікі, імкнуўся абмежаваць работу мастацкага вучылішча (у той час перайменаванага ў Мастацка-практычны інстытут). Ананімны аўтар у артыкуле «Наш мастацкі інстытут», апублікаваным у канцы 1922 г., пісаў: «...ніякай сапраўднай, фактычнай работы амаль не было... Мастацкі інстытут «жыў» выключна сваркамі. Цяпер наш мастацкі інстытут пазбавіўся ўсіх выкладчыкаў з левых. Уведзена платнасць...Дапамога дзяржавы невялікая...Становішча незайздроснае» [74].

Віцебскі аддзел народнай адукацыі скараціў штатныя пасады выкладчыкаў Першы паверх інстытута, дзе была разгорнута музейная экспазіцыя, ён перадаў музычнаму тэхнікуму. З Віцебска ад'язджаюць стваральнікі музея — М.З. Шагал, К.С. Малевіч, шэраг іх паплечнікаў. У гэтых умовах далейшае існаванне Музея сучаснага мастацтва зрабілася немагчымым. На працягу 1922 г. выкладчыца інстытута В. Ермалаева перадала большасць палотнаў у Рускі музей і Траццякоўскую галерэю. 31 карціну «левага накірунку» перадалі Віцебскаму гісторыка-археалагічнаму музею, а ў пачатку 1930-х гг. і іх вывезлі ў Маскву [9, арк. 14].

Акрамя Гісторыка-археалагічнага музея і Музея сучаснага мастацтва Віцебская камісія па ахове помнікаў даўніны і мастацтва адкрыла ў 1919 г. Прыродазнаўчы музей, які займаў тры пакоі ў сельскагаспадарчым тэхнікуме (каля 60 тыс. узораў флоры і фауны

[1] Прамыя заклікі да знішчэння музея як сацыяльнага інстытута можна знайсці ў эсэ К.С. Малевіча «Аб музеі». Падзялялі гагу пазіцыю і шмат іншых авангардыстаў пачатку XX ст.

пераважна Віцебшчыны, але былі таксама і прывезеныя з розных краін Еўропы, Азіі і Амерыкі). Прыродазнаўчы музей падзяляўся на 2 кабінеты — энтамалагічны і заалагічны, і вылучаўся не толькі прывабнымі экспазіцыямі, але і высокім узроўнем сістэматызацыі і навуковай апрацоўкі калекцый. Апошняе было зроблена стваральнікам і загадчыкам музея, вядомым беларускім натуралістам У.А. Плюшчык-Плюшчэўскім. Паводле ацэнак спецыялістаў, гэта быў адзін з лепшых музеяў дадзенага профілю ў Савецкай Расіі [ 57, арк. 125].

Захаваліся сведчанні пра існаванне ў паслярэвалюцыйным Віцебску Сельскагаспадарчага музея пры Доме селяніна, Эканамічна-прамысловага музея пры эканамічным тэхнікуме, Ветэрынарнага музея пры губернскім ветэрынарным аддзеле, а таксама Музея санітарнай асветы і гігіены пры губернскім аддзеле аховы здароўя. Невялікія музейныя зборы ажыццяўляліся намаганнямі мясцовых аддзелаў аховы помнікаў даўніны і мастацтва ў Полацку, Оршы і Певелі. Зборы складаліся пераважна з прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, карцін, мэблі, кніг і рукапісаў, перавезеных з сядзіб мясцовай шляхты. У 1924 г. усе яны былі перавезены ў Віцебск.

Вядома, што першыя савецкія музеі Віцебска карысталіся даволі вялікай папулярнасцю. Так, на працягу 1921 г. у Гісторыка-археалагічным музеі было праведзена 39 экскурсій, у якіх удзельнічала 7 890 чалавек. А ў 1923 г. Прыродазнаўчы музей наведала б 537 чалавек, для якіх было праведзена 60 экскурсій.

Са студзеня 1919 г. актыўную дзейнасць па выяўленні і ўліку культурных каштоўнасцей разгарнуў пададдзел па справах музеяў і аховы помнікаў даўніны і мастацтва Магілёўскага губернскага аддзела народнай адукацыі, які ўзначальваў вядомы этнограф І.А. Сербаў. Пададдзел распрацоўваў інструкцыі, анкеты, планы, падаваў інфармацыю пра ўрадавыя дэкрэты, пастановы, цыркуляры. Хутка аналагічныя секцыі былі ўтвораны ў павятовых гарадах, вяліся рэгістрацыя і ўлік культурных каштоўнасцей, канфіскаваных у шляхецкіх сядзібах, пачалося фарміраванне губернскага музейнага фонду [ 13, арк. 7-10].

У 1919 г. у гонар першай гадавіны ўтварэння Чырвонай Арміі рашэннем Магілёўскага губернскага аддзела народнай адукацыі быў створаны Дзяржаўны гістарычны музей пралетарскай культуры. Тады ж рашэннем губвыканкама музею быў перададзены будынак былога Сялянскага банка, у той час лепшы ў горадзе. Акрамя гістарычных помнікаў, наведвальнікі Магілёўскага музея маглі агледзець карцінную галерэю, якая складалася з работ беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў, перасоўныя прыродазнаўчыя і

атэістычныя выстаўкі. Абразы, крыжы, царкоўнае начынне і іншыя культавыя прадметы, перавезеныя з былога Магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея, як варожыя пралетарскай культуры, склалі ў браніраваны пакой, дзе раней захоўваліся банкавыя каштоўнасці[1].

У далейшым тэмпы развіцця музейнай справы ў Магілёве былі затрыманы стратай горадам статуса губернскага цэнтра і скасаваннем у ліпені 1919 г. Магілёўскай губерні. У сярэдзіне 1919 г. пададдзел па справах музеяў пераехаў з Магілёва ў Гомель, дзе ў якасці першачарговай задачы вызначыў стварэнне ў горадзе музейнага фонда, што складаўся з культурных каштоўнасцей, якія да рэвалюцыі знаходзіліся ў прыватнай уласнасці[2]. Для экспертызы і выкарыстання музейнага фонду ў асветніцкіх мэтах быў утвораны вучоны савет, куды ўвайшлі мясцовыя вучоныя і мастакі, а таксама эмісар Наркамасветы з Масквы І.А. Маневіч. Яны размяркоўвалі прадметы паміж школамі, дзіцячымі дамамі, бібліятэкамі, клубамі. Найбольш рэдкія і каштоўныя прадметы вывозілі «на захаванне» ў Маскву, у Румянцаўскі музей, у тым ліку старадрукі і рукапісы, нумізматычныя і геральдычныя калекцыі, карціны і мініяцюры на сланавай касці, фарфоравыя вырабы XVIII ст. і інш.

20 ліпеня 1919 г., у дзень савецкай прапаганды, пры музейным фондзе быў урачыста адкрыты Мастацка-гістарычны музей імя Н.І. Троцкай. Супрацоўнікі музея імкнуліся зрабіць музейныя экспазіцыі максімальна зразумелымі для неадукаваных мас. Дзеля гэтага чыталіся бясплатныя лекцыі (напрыклад, «Ці патрэбна мастацтва працоўнаму народу?», «Мастацтва і рэвалюцыя», «Што такое пралетарскае мастацтва?»), праводзілася агітацыя за ахову помнікаў праз мясцовы друк, былі наладжаны заняткі па падрыхтоўцы грамадскіх экскурсаводаў. Можна сцвярджаць, што Мастацка-гістарычны музей імя Н.І. Троцкай карыстаўся вялікай папулярнасцю, калі ўлічыць, што толькі ў дзень адкрыцця яго наведала больш за тысячу чалавек. Нечакана у кастрычніку 1919 г. Наркамасветы РСФСР выдаў загад аб пераводзе музея разам з Цэнтральным фондам з Гомеля ў Маскву, дзе яго сляды губляюцца [13, арк. 12].

8 мая 1917 г. Гомельскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў пастанавіў рэквізаваць палац княгіні Паскевіч, а маёмасць і каштоўнасці ўзяць пад сваю апеку [13, арк. 21]. Неабходнасці ў гэтай пастанове на самай справе не было — удава апошняга гаспадара палаца, княгіня Ірына Іванаўна Варанцова-Дашкава (яна заставалася

---

[1] У 1918 г. немцы вывезлі каля 500 лепшых прадметаў з царкоўна-археалагічнага музея, большая частка калекцый музея статыстычнага камітэта была таксама разрабавана.
[2] Падобны музейны фонд быў створаны таксама і ў Бабруйску.

ў палацы разам з дварэцкім М.11. Далговым да сваёй смерці ў 1921 г.), прыхільна ставілася да ідэі стварэння ў яе палацы агульнадаступнага музея [14, арк. 34]. На працягу 1917-1918 гг. палац Паскевічаў, перайменаваны рэвалюцыйнымі ўладамі ў «народны замак», выкарыстоўваўся як Дом саветаў, штаб надзвычайнай «пяцёркі» па барацьбе з карнілаўскім мяцяжом, штаб гомельскіх баявых атрадаў па барацьбе з нямецкімі войскамі. Камандаванне апошніх падчас акупацыі Гомеля з павагай ставілася да гістарычнай і культурнай значнасці палаца. Каля яго была выстаўлена ахова, нічога не было кранута ці сапсавана.

У сакавіку 1919 г. палац Паскевічаў быў значна пашкоджаны падчас артылерыйскага абстрэлу паўстаўшага чырвонаармейскага палка пад камандаваннем Стракапытава, які захапіў яго. Эвакуацыю з палаючага палаца найбольш каштоўных карцін, гравюр, кніг, рукапісаў, нумізматыкі, ювелірных вырабаў, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва арганізаваў прыкамандзіраваны да заходніх губерній эмісар музейнага аддзела Наркамасветы РСФСР В.В. Пашуканіс. Паводле яго справаздачы, толькі прадметы з каштоўных металаў, якія ён перавёз з гомельскага палаца ў Гістарычны музей у Маскву, «важылі каля ста пудоў»[1].

Хутка, пасля падаўлення стракапытаўскага мяцяжу, гомельскія ўлады атрымалі тэлеграму ад А.В. Луначарскага, у якой ён патрабаваў ажыццявіць неадкладныя меры па стварэнні музея на базе палаца Паскевічаў. У чэрвені 1919 г. мясцовыя ўлады выдзелілі 25 тыс. рублёў на стварэнне новага музея, пасля чаго пачаліся работы па інвентарызацыі і сістэматызацыі прадметаў, якія засталіся, і стварэнні на іх аснове гісторыка-мастацкіх экспазіцый. Быў сфарміраваны штат музея, які складаўся з 10 чалавек на чале з І.А. Маневічам. Урэшце 7 лістапада 1919 г. у вежы палаца Паскевічаў адкрыўся музей імя А.В. Луначарскага [12, арк. 26].

Трэба адзначыць, што на працягу ўсяго міжваеннага перыяду ішла схаваная ці адкрытая барацьба паміж дырэкцыяй музея і мясцовымі ўладамі за музейны будынак, а таксама за парк і гаспадарчыя прыбудовы, якія размяшчаліся каля яго. Так, ужо праз два гады пасля адкрыцця музея І.А. Маневіч быў вымушаны ехаць са скаргаю ў Маскву — у пачатку 1921 г. Гомельскі губвыканкам ухваліў пастанову аб перадачы левага флігеля палаца сельскагаспадарчым курсам, на верхніх паверхах пасяліліся артысты мясцовага тэатра,

---

[1] Вядома, што ў 1919 г. з мэтай вывазу каштоўнасцей у Маскву В.В. Пашуканіс аглядаў Магілёў, Оршу, Нясвіжскі палац і шэраг іншых шляхецкіх сядзіб.

парк заняў селькагаспадарчы інстытут. Патрабавалася асабістае ўмяшанне М.І. Калініна, каб непажаданыя кватаранты з'ехалі з палаца [14, арк. 77].

Вераснем 1919 г. датуецца стварэнне Гомельскага педагагічнага музея. Ён задумваўся як цэнтральная ўстанова, дзе канцэнтраваліся і размяркоўваліся па пачатковых і сярэдніх навучальных установах наглядныя дапаможнікі і кнігі. Усе гады свайго існавання музей знаходзіўся на поўным гарадскім забеспячэнні, чым можна патлумачыць хуткае павелічэнне яго фондаў Ужо на працягу першага года яго існавання з закрытых гімназій туды паступіла каля 2,5 тыс. прадметаў, пазней фонды ўзбагаціліся некалькімі прыватнымі прыродазнаўчымі калекцыямі, быў сфарміраваны бібліятэчны фонд. Вядома, што педагагічны музей карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод гомельскіх настаўнікаў і вучняў, спрыяў паляпшэнню навучальнага працэсу. Музей знаходзіўся яшчэ ў стадыі фарміравання, калі ў 1927 г., пасля далучэння Гомельшчыны да БССР, беларуска-расійская пагаджальная камісія вырышала перавезці яго ў Бранск [15, арк. 45].

Захаваліся фрагментарныя звесткі пра ініцыятывы гомельскіх гарадскіх і губернскіх улад па стварэнні медыцынскага і прамысловага музеяў, а таксама музея друку. Па зместу сваёй дзейнасці яны павінны былі нагадваць педагагічны музей. Іншымі словамі, перад імі ставіліся перш за ўсё адукацыйна-асветніцкія задачы [15, арк. 30].

1920-я гг. былі перыядам актыўнага музейнага будаўніцтва на ўсіх абшарах былога СССР. Так, у 1920 г. у Маскве былі адкрыты Музей мэблі, Музей парцэляны, Музей цацкі, Побытавы музей 40-х гадоў XIX ст. Адбылося адкрыццё Музея Л. М. Талстога, які быў пераведзены ў новае, спецыяльна падрыхтаванае памяшканне. Тады ж вяліся работы па стварэнні ў Петраградзе і Маскве новых музеяў жывапіснай культуры. У іх экспазіцыях творы мастацтва былі прадстаўлены не толькі ў гістарычнай паслядоўнасці. Дэманстраваліся змены матэрыялу, колеру, прасторы, часу, формы і тэхнікі.

Прынцыпова новым напрамкам у музейнай справе было стварэнне музеяў новых тыпаў, якія ў дарэвалюцыйны час не існавалі (напрыклад, Музей рэвалюцыі ў Петраградзе (1919 г.), Цэнтральны Музей Чырвонай Арміі ў Маскве (1919 г.), а таксама буйных музеяў у сталіцах саюзных рэспублік (напрыклад, Музей Заходняга і Усходняга мастацтва ў Кіеве (1919 г.), Музей мастацтваў Узбекістана (1918 г.) і г. д.). Адначасова новыя ўлады рэарганізавалі некаторыя дарэвалюцыйныя музеі: Збройную палату — у Музей старажытнарускай мастацкай творчасці, Гістарычны — у Побытавы музей, Этнаграфічны музей — у

Музей народазнаўства. У гэты ж час было прынята рашэнне аб расфарміраванні унікальнай навукова-асветнай установы — Румянцаўскага музея ў Маскве.

На адным з першых пасяджэнняў часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР 30 студзеня 1919 г. спецыяльнай пастановай ўся адказнасць за збор і ахову рухомых помнікаў гісторыі і мастацтва была ўскладзена на Наркамасветы. У сваю чаргу калегія апошняга вырашыла арганізаваць мастацка-археалагічны пададдзел, які быў павінен ажыццяўляць гэтую дзейнасць на практыцы. У сакавіку 1919 г. былі зацверджаны штаты мастацка-археалагічнага пададдзела з 8 чалавек, куды ўвайшлі людзі мала знаёмыя з музейнай тэорыяй і практыкай: прыехаўшы з Расіі мастак левага накірунку УА. Дзмітрыеў, антыквар Л. Н. Замкоў, выкладчык гісторыі мастацтваў М. Г. Сыркін і інш. Пададдзел пачаў сваю працу з таго, што ўзяў пад ахову помнікі мастацтва і старасветчыны, якія знаходзіліся ў памяшканнях урадавых установ. Былі распачаты канфіскацыя і вываз у сховішча Наркамасветы каштоўных прадметаў з кватэр заможных гараджан, а таксама сядзіб шляхты [56, арк. 21].

Сакавіком 1919 г. датуюцца першыя крокі па ўзяцці пад ахову і пераўтварэнні ў музей Нясвіжскага замка. Супрацоўнік пададдзела Л.Н. Замкоў, агледзеўшы замак, канстатаваў значныя страты, якія панёс замак за некалькі месяцаў да яго прыбыцця, у выніку рабаўніцтваў і актаў вандалізму, здзейсненых у ім смаленскім аддзелам Надзвычайнай Камісіі за некалькі месяцаў да яго прыбыцця (падчас першай сусветнай вайны важнейшыя замкавыя інтэр'еры і зборы не кранулі нават кватараваўшыя ў ім рускія, а потым нямецкія войскі) [701. Калегія Наркамасветы БССР выдаткавала на рамонт замка 50 тыс. рублёў, стварыўшы камітэт па яго ахове.

Прыкладна ў той жа час Наркамасветы прыняў рашэнне аб утварэнні на аснове канфіскаваных помнікаў Абласнога музея ў Мінску. Для яго быў адведзены будынак былога Дваранскага схода, скляпенні якога пераабсталявалі пад сховішчы [71]. Загадчыкам музея прызначылі УА. Дзмітрыева, які адначасова выконваў функцыі загадчыка мастацка-археалагічнага пададдзела, захавальнікам — Л.Н. Замкова. Менавіта У.Л. Дзмітрыеў, які падзяляў погляды рускіх мастакоў-авангардыстаў, упершыню сфармуляваў асноўныя погляды новай бальшавіцкай улады Беларусі на музейную справу. Сярод іх трэба падкрэсліць некалькі пазіцый: адносіны да музейных каштоўнасцей як да агульнага набытку, адмаўленне ў праве валодання імі прыватным асобам, утылітарны погляд на гісторыка-культурныя помнікі, якія не маюць ніякай эстэтычнай каштоўнасці. Апошняя,

«пралеткультаўская», пазіцыя адносна гісторыка-культурнай спадчыны была выкладзена аўтарам у наступных словах: «... нам зразумела адно: не можа быць ганебнага гандлю і спрэчак з-за гэтых вельмі сумніўных «скарбаў», нельга ўпрыгожваць гэтымі «скарбамі» нашыя палацы, залы і школы, гэтыя «скарбы» трэба абясшкодзіць — сабраць і замкнуць у вязніцы-музеі» [167].

Цяжка сказаць, што сабой уяўляў «вязніца-музей», створаны Дзмітрыевым у Мінску, але хутчэй за ўсё ў яго экспазіцыі сумяшчаліся інтэр'ерны і калекцыйны спосабы паказу жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметаў матэрыяльнай культуры.

Далейшае развіццё Абласнога музея перапынілася з перамяшчэннем Наркамасветы ў Вільню ў сувязі з абвяшчэннем Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (у Мінску пакінулі аддзел народнай адукацыі пры рэўкаме, у кампетэнцыю якога адышлі пытанні музейнай справы і аховы помнікаў). Тым не менш і ў той час былі зроблены пэўныя крокі ў галіне музейнага будаўніцтва.

22 лютага 1919 г. старшыня часовага ўрада Літбел В.С. Міцкявічус-Капсукас падпісаў пастанову аб ахове культурных каштоўнасцей на тэрыторыі рэспублікі. Гэтая пастанова прадугледжвала абвяшчэнне ўласнасцю дзяржавы ўсіх помнікаў, агульную забарону на іх вываз, а таксама арганізацыю ўліку. Практычнае выкананне гэтай пастановы было даручана пазашкольнаму аддзелу Наркамасветы Літбел. [137, с. XX]. На працягу першай паловы 1919 г. аддзел займаўся размеркаваннем каштоўнасцей, нацыяналізаваных мясцовым аддзелам народнай адукацыі. Найбольш каштоўнае накіроўвалі ў Мінск, у Абласны музей і кабінеты БДУ, менш каштоўныя прадметы заставаліся ў мясцовых пазашкольных установах (клубах, бібліятэках, народных дамах).

Быў распрацаваны і прыняты часовы статут Дзяржаўнага гісторыка-этнаграфічнага музея ў Вільні (вернутага з эвакуацыі былога Віленскага музея старажытнасцей), згодна з якім апошні зноў аб'ядноўваўся з адноўленай Археалагічнай камісіяй і атрымліваў статус навукова-асветніцкай установы з калегіяльным кіраўніцтвам. [137, с. XXI]. Часовы статут сведчыў пра імкненне новай улады рэабілітаваць ідэі заснавальніка музея Я.П. Тышкевіча, памяць аб якім захоўвалася сярод дэмакратычнай інтэлігенцыі Вільні. Тут, у Вільні, пазашкольны аддзел планаваў стварыць мастацкі аддзел і музей-выстаўку па дашкольным выхаванні. У выніку правядзення батанічных, заалагічных і мінералагічных экскурсій улетку 1919 г. планавалася адкрыццё музеяў пры ўсіх мінскіх школах [54, арк. 54].

Нягледзячы на пералічаныя і некаторыя іншыя мерапрыемствы Наркамасветы, накіраваныя на арганізацыю музеяў і ахову помнікаў, знішчэнне і вываз беларускай гісторыка-культурнай спадчыны ў той час дасягнулі небывалых памераў. Помнікі знікалі ў выніку неаднаразовага перамяшчэння лініі фронту, вандалізму, і галоўнае — мэтанакіраванага вывазу найбольш каштоўных прадметаў у суседнія дзяржавы. Акрамя вышэйзгаданай дзейнасці эмісара музейнага аддзела Наркамасветы РСФСР В.В. Пашуканіса, летам 1920 г. перад адступленнем з Беларусі польскія войскі вывезлі разам з калекцыямі Абласнога музея шэраг прыватных збораў [263, с. 121]. Сярод іх была багатая калекцыя мясцовага і заходнееўрапейскага жывапісу Вільгельма Ельскага, на аснове якой, згодна плану ўладальніка, у Мінску павінен быць створаны першы публічны мастацкі музей[1].

Новыя вялікія страты помнікаў матэрыяльнай культуры Беларусь панесла пасля падпісання ў сакавіку 1921 г. (пры адсутнасці беларускай дэлегацыі) мірнага дагавора паміж Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай — з другога. Разам з прызнаннем гістарычных правоў Польшчы на землі Заходняй Беларусі XI артыкул дагавора прызнаваў польскі народ уласнікам усіх рухомых помнікаў гісторыі і культуры, створаных у Заходняй Беларусі, нават калі яны знаходзіліся па-за межамі апошняй. У сваю чаргу палякі ўзялі на сябе абавязак вярнуць Расіі і Украіне іх нацыянальныя культурныя каштоўнасці, што трапілі ў розныя часы ў сховішчы Польшчы. На практыцы гэта азначала перадачу з расійскіх сховішчаў у Польшчу прадметаў са збораў Радзівілаў, Сапегаў, Бранскіх і інш. У адваротным накірунку перадаваліся шматлікія помнікі мастацтва і гістарычныя рэліквіі, якія мелі ўсходнебеларускую тэрытарыяльную прывязку.

Варта адзначыць, што падчас работы спецыяльнай змешанай камісіі, якая ажыццяўляла XI артыкул Рыжскага дагавора, у складзе Наркамасветы БССР ужо дзейнічала, абапіраючыся на некалькі адпаведных заканадаўчых актаў, група аховы помнікаў мастацтва і старажытнасцей. Але прадстаўнікоў Наркамасветы не запрасілі ў склад змешанай камісіі. Гэта не выклікала абурэння — пасля няўдалай спробы аднавіць у 1918 г. незалежную дзяржаву большасць нацыянальнай інтэлігенцыі знаходзілася ў эміграцыі. А кіраўніцтва БССР з ахвотаю дэлегавала свае правы Маскве.

У 1920 г. на тэрыторыі БССР, якая зменшылася да памераў былой Мінскай губерні, пачаў дзейнічаць пададдзел аховы помнікаў

[1] Здзейсніць гэты высакародны ўчынак В. Ельскаму перашкодзіла заўчасная смерць у снежні 1919 г. Захаваўся архітэктурны праект будынка музея, выкананы мастаком Урублеўскім.

Наркамасветы. Ва ўмовах пасляваенных разбурэнняў і адсутнасці грашовых сродкаў гэтая праца ішла вельмі павольна. На паперы засталіся рэзалюцыі прадстаўнікоў асветы і культуры аб неабходнасці вяртання на Беларусь усіх культурных каштоўнасцей, якія былі вывезены падчас вайны. Працягваліся стыхійныя рабаўніцтвы кінутых сядзіб. Прыпыніла сваю дзейнасць большасць музеяў.

У гэтай сітуацыі 24 ліпеня 1920 г. старшыня Мінскага губернскага рэўкама А.Р Чарвякоў падпісаў загад, у якім прыватным асобам прапаноўвалася ў 3-дзённы тэрмін паведаміць у Абласны музей пра маёмасць, што мае гісторыка-культурную каштоўнасць «для ўліку і прыёму яе Музеем» [39, арк. 10].

Сітуацыя змянілася да лепшага пасля ўтварэння ў 1921 г. у складзе Наркамасветы Акадэмічнага цэнтра, які аб'яднаў усіх вучоных, што мелі дачыненне да вывучэння і аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Акадэмічны цэнтр кіраваў дзейнасцю навукова-даследчых, мастацкіх устаноў, а таксама навуковых сховішчаў.

У першую групу ўвайшлі Беларуская тэрміналагічная камісія, педагагічная камісія, рэдакцыйная камісія, Інстытут беларускай культуры, Інстытут яўрэйскай культуры, Мінскае таварыства гісторыі і старажытнасцей, Мінскае педагагічнае таварыства, Вольнае эканамічнае таварыства і Навукова-гістарычнае яўрэйскае таварыства. У другую групу ўвайшлі тэатральная камісія, літаратурная камісія, экспедыцыя па вывучэнні беларускай народнай творчасці, Беларуская оперна-драматычная студыя. У трэцюю — архіўная камісія, музейная камісія, бібліятэчная камісія са сховішчамі пры іх [164, с. 19].

Музейная камісія (ці Галоўмузей), нягледзячы на матэрыяльна-тэхнічныя цяжкасці, упершыню ў беларускай гісторыі паставіла мэту стварэння агульнадзяржаўнай музейнай сеткі з цэнтральным кіраваннем. Музейная камісія складалася са старшыні — нумізмата П.В. Харламповіча, які быў запрошаны кіраўніком Акадэмічнага цэнтра С.М. Некрашэвічам з Расіі, сакратара і двух членаў. Першым і галоўным заданнем камісіі было аднаўленне Абласнога музея ў Мінску, які пасля адступлення польскіх войск знаходзіўся ў жудасным стане. У 192 I г. у ім заставалася каля 1 тыс. прадметаў мастацтва і каля 2 тыс. адзінак нумізматыкі.

Змены ў дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы, курс на беларусізацыю паскорылі тэмпы аднаўлення музея, які разглядаўся як адзін з важнейшых нацыянальна-культурных сімвалаў. Пра неабходнасць у сталіцы падобнай установы сведчыла таксама грамадская думка. У 1921 г. у Наркамасветы з прапановай аб стварэнні ў Мінску гісторыка-археалагічнага музея звяртаўся настаўнік гісторыі А.А. Сцепур-

жынскі. Музей беларускай культуры прапанаваў заснаваць мастак К. Елісееў [41, арк. 4].

Аднаўленне Абласнога музея ішло ўжо ў новым памяшканні — у будынку архірэйскага дома. У 1921-1922 гг. тут праводзіліся інтэнсіўныя работы па збору і інвентарызацыі калекцый. Уліку найбуйнейшых паступленняў таго часу трэба прыгадаць калекцыю тканін, вопраткі і замалёвак, якую сабрала экспедыцыя Наркамасветы ў Слуцкім павеце. Фонды музея ўзбагацілі рукапісныя кнігі, нумізматычны збор, культавыя рэчы былога мінскага царкоўна-археалагічнага музея, рээвакуіраваныя з Разані. Мінскае таварыства гісторыі і старасветчыны перадало музею матэрыялы археалагічных раскопак у Заслаў'і і рэшткі калекцый былога Мінскага гарадскога музея.

На аднаўленне музея звярнулі ўвагу вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы БССР: ЦВК ахвяраваў калекцыю старажытных манет, СНК — калекцыю акварэлей XIX ст., наркамат земляробства — карціны і старажытную зброю. Галоўны музейны фонд РСФСР перадаў невялікую калекцыю фарфору і прадметаў выяўленчага мастацтва. Шэраг каштоўных прадметаў быў ахвяраваны ў музей прыватнымі асобамі. Так, адзін з найбольш каштоўных падарункаў зрабіў супрацоўнік Цэнтрархіва БССР І. Барашка, які адшукаў рэшткі мінскай выставы 1918 г., наладжанай І. Луцкевічам і А. Іпелем. Напрыканцы 1922 г. Беларускі з'езд Саветаў вырашыў перадаць у музей выстаўку, арганізаваную да яго адкрыцця.

Фонды і экспазіцыя музея яшчэ знаходзіліся ў стане фарміравання, калі 19 лістапада 1922 г. у яго ўвайшла першая вучнёўская экскурсія.

Трэба адзначыць, што адзіным узорам для выпрацоўкі першых дэкрэтаў, загадаў, а таксама структуры органаў аховы культурнай спадчыны і кіраўніцтва музейнай справай для Наркамасветы БССР была расійская праватворчасць. Гэта тлумачылася поўным адзінствам палітыкі, якая праводзілася ўрадамі савецкіх рэспублік ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і ў культурнай будаўніцтве. Акрамя таго, Наркамасветы БССР імкнуўся выканаць падобныя задачы хутчэй, шляхам выкарыстання апрабаванага права.

Стварэннем Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы скончыўся першы перыяд арганізацыі кіраўніцтва музейнай справай і аховай помнікаў у

БССР, які заклаў фундамент усёй далейшай працы ў гэтым накірунку.

* * *

У снежні 1923 г. выйшла пастанова СНК БССР «Аб рэгістрацыі, прыёму на ўлік і ахове помнікаў мастацтва, мінуўшчыны, побыту і мясцовасцей прыроды, якія з'яўляюцца ўласнасцю ўстаноў і таварыстваў, а таксама прыватных асоб» [132]. Гэтай пастановай забараняліся вываз і продаж помнікаў культуры за мяжу, перадача іх ад аднаго ўладальніка другому; перамяшчэнне помнікаў павінна было абавязкова рэгістравацца навукова-экспертнай камісіяй, якая была створана Наркамасветы. Пры продажы таго ці іншага помніка перавагу мела навукова-экспертная камісія. Музеі маглі выкарыстоўваць помнікі, якія знаходзіліся ў прыватнай уласнасці. У цэлым пастанова стварала прававую базу збіральніцкай дзейнасці дзяржаўных музеяў у БССР.

Падчас выхаду памянёнай вышэй пастановы, Беларускі дзяржаўны музей (БДМ) — так было вырашана назваць узноўлены колішні Абласны музей — ужо меў сваё палажэнне, распрацаванае ў Акадэмічным цэнтры. Адпаведна гэтаму дакументу, БДМ з'яўляўся «цэнтральнай установай для захавання прадметаў і калекцый мастацкага, гісторыка-археалагічнага і этнаграфічнага характару, якія маюць агульнарэспубліканскае і агульнанавуковае значэнне» [42, арк. 1]. Прадугледжвалася стварэнне аддзелаў: этнаграфічнага, яўрэйскага, гісторыка-археалагічнага, мастацкага, царкоўнага, прыроды, кустарна-прамысловага. Для захоўвання дакументаў ствараўся архіў, для захоўвання кніг — бібліятэка. Аўтарам падобнага структурнага падзелу музея быў хутчэй за ўсё яго дырэктар П.В. Харламповіч, які адначасова, як гэта адзначалася вышэй, выконваў абавязкі старшыні музейнай камісіі Акадэмічнага цэнтра. Гэтая структура, небездакорная з пункту гледжання традыцыйнага падзелу дапаможных гістарычных дысцыплін, была абумоўлена наяўнасцю музейных калекцый.

Згодна з палажэннем, вышэйшым кіруючым органам музея была рада музея, куды ўваходзілі дырэктар, навуковыя супрацоўнікі і вучоны сакратар. У кампетэнцыю рады ўваходзіла вырашэнне найбольш складаных пытанняў дзейнасці музея, у тым ліку прызначэнне дырэктара. Палажэнне давала музею афіцыйны статус навуковай установы з правам поўнай аўтаноміі ў вырашэнні ўнутраных пытанняў. Асобае значэнне надавалася параграфу, дзе добраахвотныя члены-карэспандэнты музея разглядаліся як жывая сувязь з правінцыяй.

У першы год існавання БДМ быў адкрыты для наведвання па нядзелях з 12 да 15 гадзін (адзін раз у месяц музей працаваў з 14 да 19 гадзін, каб даць магчымасць аглядаць экспазіцыі працуючым), экскурсіі праводзіліся па папярэднім запісе, уваход быў платны: для чыр-

вонаармейцаў і навучэнцаў — 5 кап., членаў прафсаюзаў — 10 кап., астатніх — 20 кап., сялян — уваход вольны). Сёння выклікае ўсмешку параграф, рэгламентуючы паводзіны наведвальнікаў у экспазіцыі: «Забараняецца ў музеі гучна размаўляць, грукатаць, пляваць на падлогу, паліць і дакранацца да прадметаў рукамі. Наведвальнікі з палкамі, парасонамі, кошыкамі, партфелямі і інш. у музей не дапускаюцца» [42, арк. 4].

Праз год палажэнне згубіла сваю моц — пасля далучэння да БССР Віцебскай і Магілёўскай губерняў пачалася работа па ўдасканаленні і аб'яднанні ў адну сетку музеяў сістэмы Наркамасветы. У 1924 г. СНК БССР зацвердзіў спіс музеяў, якія фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэта Акадэмічным цэнтрам. У яго ўвайшлі тры музеі: Беларускі дзяржаўны музей у Мінску, Дзяржаўны гістарычны музей пралетарскай культуры ў Магілёве і Губернскі гісторыка-археалагічны музей у Віцебску (у 1926 г. да гэтага спіса быў далучаны Гомельскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей). Астатнія (у асноўным гэта былі музеі краязнаўчых таварыстваў) разглядаліся як музеі мясцовага значэння і фінансаваліся з мясцовых бюджэтаў.

Было вырышана ісці па шляху канцэнтрацыі — БДМ у Мінску надаваўся статус цэнтральнай музейнай установы з філіяламі (аддзяленнямі) у Віцебску і Магілёве (з 1926 г. і ў Гомелі), куды павінны былі перадавацца ўсе помнікі агульнарэспубліканскага значэння. На думку ініцыятараў гэтага праекта, падзел на філіялы не азначаў простае паглынанне малых музеяў сталічным. Аб'яднаныя музеі, падпарадкоўваючыся волі савета сталічнага музея ці музейнай камісіі Акадэмічнага цэнтра, захоўвалі аўтаномію навуковай работы, свабоду папаўнення калекцый і іх недатыкальнасць. Усе гэтыя палажэнні былі выкладзены ў пастанове СНК БССР ад 19 лістапада 1924 г. «Аб канцэнтрацыі мастацкіх і гісторыка-культурных каштоўнасцей» [133].

Такім чынам, у 1924 г. была выпрацавана і рэалізавана праграма аб'яднання музеяў рэспублікі ў пэўную сістэму. Яна тычылася галоўным чынам музеяў дзяржаўнага значэння, якія ўваходзілі ў сістэму Наркамасветы. Сетка краязнаўчых музеяў, якія фінансаваліся з мясцовых бюджэтаў і па колькасці значна пераўзыходзілі наркамасветаўскія, патрабавала сур'ёзнай арганізацыйнай і навуковай прапрацоўкі. Не былі ўлічаны музеі, якія заставаліся ў іншых сістэмах (ЦК КП(б)Б, Нарказема, Інбелкульта, БДУ і інш.).

1924-1925 гг. былі перыядам актыўнага назапашвання фондавых калекцый. Згодна пастанове «Аб канцэнтрацыі...», у Мінск перавезлі калекцыі музея былой мсціслаўскай духоўнай семінарыі, былога музея ў Горы -Горках, найбольш каштоўныя экспанаты са

Слуцкага краязнаўчага музея. Бабруйскае краязнаўчае таварыства перадало ў Мінск 537 сярэбраных манет 1612-1650 гг. У 1926 г. з Віцебскага музея ў БДМ перавезлі помнікі яўрэйскай культуры са збору Брадоўскага [44, арк. 3].

Акрамя таго калекцыі папаўняліся за кошт ахвяраванняў грамадзян і планавых экспедыцый. Вельмі плённай была экспедыцыя па збору прадметаў (перш за ўсё этнаграфічных) для беларускага аддзела на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве [173, с,. 23]. Летам 1926 г. археалагічны аддзел музея праводзіў раскопкі Банцараўшчынскага гарадзішча, даследаваў курганы каля Лагойска, а таксама стаянку каменнага веку ў Кострыне каля Пухавіч. Этнаграфічны аддзел правёў дзве экспедыцыі на Мазыршчыну і Барысаўшчыну. Яўрэйскі аддзел праводзіў экспедыцыю па збору экспанатаў на Калінінішчыне [44, арк. 148].

Члены рады БДМ звязвалі вялікія надзеі з павелічэннем фондавых калекцый першакласнымі помнікамі беларускай культуры, якія былі вывезены ў канцы XVIII — пачатку XX стст. у Расію. Ужо ў 1924 г. намеснік наркама асветы А.В. Баліцкі звяртаўся да камісара па ваенных справах у Маскве з просьбаю пра дастаўку ў БД М узораў зброі і рыштунку часоў першай сусветнай вайны. У больш рашучай форме прэтэнзіі да РСФСР вярнуць культурныя помнікі былі выказаны ўдзельнікамі I з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, які па ініцыятыве Інбелкульта адбыўся ў Мінску 17-18 студзеня 1926 г. У рэзалюцыі з'езда № 4 «Аб музейнай справе», між іншым, гаварылася: «З'езд лічыць патрэбным падняць перад Урадам пытаньне аб узвароце ў Музэі БССР прадметаў архэолёгіі і мастацтва, якія вывезены ў розныя часы за межы Беларусі і знаходзяцца ў музэях РСФСР, як, напрыклад, а) у Смаленскім музэі — 25 карцін з Горак (італьянскія і нідэрландскія майстры XIV-XVII стст. — А.Г.); б) у Маскве — куфар з срэбра і шкатулка з дыяментамі, эвакуяваныя з Менскага музэю; в) ва Ульянінску — часткі музейных рэчаў беларускага гісторыка Жыркевіча» [86, с. 59].

Гэтыя патрабаванні былі перададзены урадам БССР у Наркамасветы РСФСР. Рэакцыя Масквы была нечаканая. 19 ліпеня 1926 г. за подпісам В.У. Куйбышава выйшла спецыяльная пастанова СНК СССР «Аб вяртанні ў Беларускі дзяржаўны музей некаторых музейных экспанатаў з музеяў РСФСР». Першыя чатыры пункты пастановы адмаўлялі беларускаму боку ў пералічаных вышэй патрабаваннях на падставе таго, што апошнія мелі «агульнасаюзнае значэнне» [44, арк. 208]. І толькі апошні, пяты пункт дазваляў вярнуць у БДМ «шрыфт і абсталяванне старажытнай яўрэйскай

друкарні, старажытнай работы Тору, ханукальную лампаду любавічскага равіна Шэерсона, сярэбраныя ўпрыгожванні да Торы, сярэбраны крыж XVII ст. з Заслаўскай царквы» [44, арк. 208].

II жніўня 1926 г. па дамоўленасці з Галоўмузеем Наркамасветы РСФСР у Маскву за музейнымі прадметамі былі камандзіраваны дырэктар БДМ П.В. Харламповіч і супрацоўнік Інбелкульта М.М. Шчакаціхін. Кіраўніцтва Наркамасветы РСФСР аказалася больш шчодрым, чым Савет народных камісараў — акрамя пазначаных у пятым пункце яўрэйскіх старажытнасцей беларускім навукоўцам перадалі з музейнага фонду 39 карцін рускіх мастакоў (Айвазоўскі, Рэпін, Макоўскі, Сямірадскі, Сяроў і інш.), скульптуры Антакольскага, каля 500 старажытных манет.

15 студзеня 1927 г. П.В. Харламповіч зноў накіроўваецца ў Маскву, дзе атрымлівае ад Галоўмузея каля 30 карцін рускіх мастакоў, больш за 40 старажытных прадметаў з фарфору і крышталю, 40 гравюр, 80 манет, 5 абразоў, 2 слуцкія паясы і 40 кніг па гісторыі мастацтва. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя прадметы былі вернуты ў БССР дзякуючы настойлівасці і ўпартасці Харламповіча. Большасць яго просьбаў, калі гутарка ішла пра той ці іншы вельмі каштоўны помнік беларускага паходжання, маскоўскія калегі адхілялі [44, арк. 53, 56,146]. На працягу 1927 г. Наркамасветы БССР арганізоўваў яшчэ дзве камандзіроўкі сваіх супрацоўнікаў у Маскву і Ленінград з рэстытуцыйнымі мэтамі. Але яны плёну не далі, за выключэннем «...шасці прадметаў з бронзы...і пару тузінаў прадметаў з разрозненага багемскага шкла сумніцельнай музейнай каштоўнасці» [ 45, арк. 170]. Каб вярнуць з РСФСР беларускія музейныя каштоўнасці, Наркамасветы БССР больш захадаў не рабіў.

Інтэнсіўныя работы па камплектаванні фондавых калекцый БДМ у першае пяцігоддзе яго існавання (да канца 1927 г. іх агульная колькасць складала болей за 30 тыс. адзінак) абумовілі стварэнне новай, больш складанай сістэмы ўліку калекцый. Згодна новай сістэме ўліку, распрацаванай у 1927 г., кожны прадмет паступаў у музей са суправаджальным дакументам (акт перадачы, дароўная, рахунак). Потым прадмет заносіўся ў кнігу паступленняў, якая мела наступныя пазіцыі: парадкавы нумар, дату паступлення, назву прадмета, яго кароткае апісанне, спосаб набыцця, легенду прадмета, заўвагі. Акрамя агульнамузейнай кнігі паступленняў кожны аддзел меў сваю кнігу. Меліся дзве картатэкі, адна з якіх выкарыстоўвалася як адміністрацыйна-уліковая, другая — як навуковая [44, арк. 289].

Хуткі рост калекцый паспрыяў пошуку новых шляхоў у экспазіцыйнай рабоце. На працягу 1926 г. у музеі была праведзена

рээкспазіцыя, пасля чаго 10 кастрычніка 1926 г. адбылося адкрыццё новый экспазіцыі БДМ. Мастацкі аддзел (курыраваў П.В. Харламповіч) займаў чатыры пакоі, у трох з якіх экспанаваліся творы рускіх мастакоў XIX — пачатку XX стст., а ў чацвёртым была разгорнута выстава «Старажытны беларускі партрэт». Звяртаў таксама на сябе ўвагу этнаграфічны аддзел, які займаў памяшканне былой хатняй архірэйскай царквы. Яго стваральнікі імкнуліся адысці ад манатоннага акадэмічнага калекцыйнага паказу этнаграфічных калекцый, увесці элемент тэатралізацыі з дапамогай манекенаў, інтэр'ера сялянскай хаты, а таксама мастацкага аздаблення сцен былой царквы. Акрамя беларускага этнаграфічнага аддзела ў абноўленай экспазіцыі стварыўся яўрэйскі аддзел (загадчык — А.Д. Палеес)[1], дзе пераважна дэманстраваліся прадметы яўрэйскага побыту і культавыя рэчы. Самастойнае значэнне меў археалагічны аддзел з пададдзелам нумізматыкі.

Такім чынам, новая экспазіцыя БДМ была створана пераважна на сістэматычнай, пакалекцыйнай форме падачы прадметаў. Але ў шэрагу выпадкаў (напрыклад, у аддзеле этнаграфіі) былі зроблены спробы арганізацыі экспазіцыйнай прасторы па ансамблеваму прынцыпу. Падобны сінтэтычны спосаб падачы музейных прадметаў адпавядаў тагачаснай еўрапейскай музейнай практыцы — гістарычныя экспазіцыі, пабудаваныя па тэматыка -храналагічнаму прынцыпу, былі справай будучыні.

Пашырэнне экспазіцыі стрымлівалася недахопам памяшкання ў архірэйскім доме. На першым паверсе знаходзіліся Вышэйшыя беларускія курсы, другі паверх быў заняты Музеем прыроды, які падпарадкоўваўся Інбелкульту. Тым не менш супрацоўнікі БДМ здолелі арганізаваць у красавіку 1927 г. часовую выстаўку слуцкіх паясоў, у кастрычніку - адкрыць сталы аддзел народнай асветы, дзе экспанаваліся мадэлі школьных будынкаў, мэблі, вучнёўскія працы і інш. [43, арк. 26].

Нягледзячы на абмежаваны па часе доступ наведвальнікаў у музей і адсутнасць спецыяльнага аддзела, які б займаўся навуковаасветніцкай работай, у другой палове 1920-х гг. БДМ разгарнуў вялікую работу па папулярызацыі сярод насельніцтва БССР помнікаў беларускай гісторыі і мастацтва. Пераважна гэта былі навучэнцы, для якіх распрацавалі спецыяльныя экскурсіі. У лічбавых паказчыках наведванне музея ў 1924-1927 гг. выглядае наступным чынам:

[1] Яўрэйскі аддзел БДМ лічыўся яўрэйскай навуковай грамадскасцю музеем культуры яўрэяў Беларусі, таксама як функцыі цэнтральнага яўрэйскага музея на Украіне выконваў музей імя Мендэля ў Адэсе.

| Гады | Колькасць груп | У іх чалавек |
|---|---|---|
| 1924-1925 | 430 | 11 696 |
| 1925-1926 | 280 | 8 823 |
| 1926-1927 | 481 | 16 671 |

[222, с. 7].

Развіццё музейнай справы было б немагчымым без забеспячэння дзяржавай матэрыяльных і фінансавых умоў Гаспадарчы хаос пачатку 1920-х гг. адмоўна адбіўся на ўсім грамадстве, у тым ліку на музейнай сферы. Трэба было рамантаваць музейныя будынкі, не хапала паліва, большасць мясцовых краязнаўчых музеяў не атрымлівала асігнаванняў увогуле. 19 красавіка 1923 г. СНК РСФСР прыняў пастанову «Аб спецыяльных сродках на ўтрыманне культурных каштоўнасцей РСФСР» (10 кастрычніка СНК СССР надаў ёй сілу ў БССР і іншых саюзных рэспубліках) [40, арк. 68]. У мэтах матэрыяльнага забеспячэння дзяржаўнай аховы культурных каштоўнасцей і скарачэння выдаткаў дзяржавы на гэтыя мэты музеям дазвалялася мець спецыяльныя сродкі. Апошнія складаліся з узымання ўваходнай платы, продажу выданняў, эксплуатацыі зямельных участкаў, будынкаў і інш.

Пастанова «Аб спецыяльных сродках...» закладала базу самастойнасці музеяў ў атрыманні неабходных ім фінансаў. Але паляпшэння матэрыяльнага становішча музеяў гэта пастанова не дала[1]. Больш таго, дырэктары музеяў, неспрактыкаваныя ў арэндных аперацыях, часта рабіліся ахвярамі арандатараў. Так было ў Мінску падчас канфлікту паміж Н.В. Харламповічам і кіраўніцтвам саюза працаўнікоў асветы, які арандаваў у БДМ сад. Так было ў Магілёве, калі дырэкцыя музея спрабавала здаць частку свайго памяшкання ў арэнду Управе пабудовы чыгункі Рослаў — Асіповічы.

У 1926/27 акадэмічным годзе[2] значна павялічыўся штат музея — у ім працавалі 12 чалавек: дырэктар, яго намеснік і тры навуковыя супрацоўнікі, астатнія — тэхнічныя супрацоўнікі. Быў створаны інстытут практыкантаў. Падчас летніх канікул у музеі звычайна працавалі добраахвотнікі з педагагічнага факультэта БДУ. Важную ролю ў жыцці музея адыгрывала яго рада, якая акрамя навуковага персаналу музея ўключала супрацоўнікаў Інбелкульта Дз.І. Даўгялу і І.А. Сербава, прадстаўніка ЦБК А.З. Казака, супрацоўніка бюро

---

[1] Напрыклад, у 1926/27 навучальным годзе спецсродкі БДМ складаліся з: 1) здачы у арэнду зямельнага участка (750 руб.); 2) здачы ў арэнду памяшкання (1 200 руб.); 3) выпадковых паступленняў (282 руб.); 4) уваходнай платы (240 руб.). Разам — 2 472 руб. Выдаткі складаліся з: 1) гаспадарча-аперацыйных (822, 5 руб.); 2) вучэбных (1118 руб.); 3) рамонта будынка (907 руб.). Разам — 2 847,5 руб. НА РБ. Ф. 42. Воп. І. Спр. 483. Арк. І.

[2] Знаходзячыся ў падпарадкаванні Наркамасветы, БДМ «жыў» па графіку навучальных устаноў, зачыняючы свае дзверы па адзін летні месяц на канікулы.

краязнаўства А.А. Сцепуржынскага. На рэгулярных пасяджэннях рады абмяркоўваліся планы летніх экспедыцый, тэматыка выставак, сістэма ўліку музейных прадметаў. А на пасяджэнні рады музея 29 сакавіка 1927 г. абмяркоўвалася пытанне правядзення з'езда музейных супрацоўнікаў Беларусі. Гэта сведчыла, што музейная справа Беларусі знаходзіцца на мяжы новага этапа развіцця [44, арк. 200].

5 мая 1927 г. П.В. Харламповіч[1] быў вызвалены з пасады дырэктара БДМ. Замест яго дырэктарам быў прызначаны славуты беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, этнограф, філолаг, калекцыянер В.Ю. Ластоўскі, які ў красавіку прыехаў у БССР з Коўна (адначасова ён выконваў абавязкі сакратара і загадчыка кафедры этнаграфіі Інбелкульта). На перыяд знаходжання В.Ю. Ластоўскага на пасадзе дырэктара (май 1927 — жнівень 1929 гг.) прыпадае найвышэйшы пік дзейнасці БДМ.

Адным з першых крокаў акадэміка В.Ю. Ластоўскага на пасадзе дырэктара музея было выратаванне нацыянальнай святыні — славутага крыжа майстра Богшы, болей вядомага пад назвай крыжа Еўфрасінні Полацкай. Яго знайшлі падчас полацкай экспедыцыі ў мясцовым фінаддзеле і, нягледзячы на пратэсты полацкага акрвыканкама, перадалі на захаванне ў БДМ [44, арк. 255].

Вялікія здабыткі дала сумесная этнаграфічная экспедыцыя БДМ і Інбелкульта на чале з Ластоўскім на Случчыну і Мазыршчыну, дзе было сабрана шмат этнаграфічных прадметаў — мастацкіх тканін, старажытнай вопраткі, разьбы па дрэве і інш. Экспедыцыя знаёмілася на месцы з рознымі прадметамі, якія мелі археалагічнае і гістарычнае значэнне. Праводзілася фотафіксацыя сялянскіх тыпаў і арнаментаў У выніку экспедыцый БДМ на Тураўшчыну і Мсціслаўшчыну ў 1928 г. было набыта больш за тысячу прадметаў, сярод якіх кавалкі дываноў XVII ст., кубкі, талеркі, паясы, світкі.

Павялічваецца колькасць ахвяраванняў ад прыватных асоб. У пратаколе пасяджэння рады музея ад 19 студзеня 1928 г. чытаем: «...музей атрымаў ад Я. Купалы 3 прадметы: сярэбраны крыжык, шкляное баккара, жалезны старасвецкі замок» [45, арк 134]. Вядомы этнограф А.К. Сержпутоўскі перадаў музею каля 50 прадметаў побыту, сабраных ім улетку 1924 г. у Аршанскай акрузе. Выкарыстоўваліся сувязі з краязнаўчымі арганізацыямі на месцах, якія таксама дапамагалі набываць новыя прадметы.

Значна папоўнілася калекцыя нумізматыкі, дасягнуўшы 20 тыс. адзінак.

---

[1] П.В. Харламповіч працаваў на пасадзе дырэктара БДМ да 31 жніўня 1927 г., пасля чаго з'ехаў з БССР назаўсёды.

Да 1930 г. у музеі з'явіліся новыя аддзелы: царкоўна-археалагічны, прамысловы, сфрагістыкі, старажытнабеларускай вайсковасці. Рабіліся захады да стварэння аддзела гравюрнага і акварэльнага мастацтва, польскага і латышскага аддзелаў, збіралі матэрыялы, якія тычыліся жыцця цыган і татар на Беларусі. 13 кастрычніка 1928 г. рада музея, якая папоўнілася такімі таленавітымі даследчыкамі, як С.М. Некрашэвіч (старшыня), А.А. Шлюбскі, А.М. Ляўданскі, А.У. Фядзюшын, разгледзела і зацвердзіла новую арганізацыйную структуру музея. Яна ўключала наступныя аддзелы:

— мастацкі (скульптура, жывапіс, гравюра, мастацкае шкло, фарфор, бронза, серабро, мэбля, рэчы ўжытковага мастацтва);

— этнаграфічны (народны быт, вопратка, арнаментыка, народны тэатр, музыка);

— археалагічны (культуры палеаліту, неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў);

— яўрэйскі (побыт, культура і мастацтва яўрэяў);

— нумізматычны (манеты, медалі, боны);

— аддзел старабеларускай вайсковасці;

— царкоўны;

— стары Менск;

— палеаграфічны (рукапісы і старадрукі);

— бібліятэка [45, арк. 29].

Аднак Наркамасветы не зацвердзіў такую структуру, забараніўшы выдзяляць у якасці самастойных аддзелы старабеларускай вайсковасці, царкоўны і палеаграфічны.

Мастацкі аддзел быў значна пашыраны за кошт старажытнага і сучаснага мастацтва і быў структураваны В.Ю. Ластоўскім наступным чынам: а) беларускае мастацтва (работы Рустэма, Арлоўскага, Урублеўскага, Ясінскага, Піліповіча і інш.); б) рускае мастацтва; в) заходнееўрапейскае мастацтва.

У археалагічным аддзеле, загадчыкам якога з 1927 г. быў арганізатар першых у БССР археалагічных экспедыцый А.М. Ляўданскі, дэманстравалася матэрыяльная культура палеаліту (знаходкі К.М. Палікарповіча), неаліту, бронзавага і жалезных вякоў, была прадстаўлена значная колькасць прадметаў курганных раскопак (грыўны, бранзалеты, пярсцёнкі).

Загадчык яўрэйскага аддзела антыквар А.Д. Палеес прадставіў у сваім раздзеле экспазіцыі пераважна яўрэйскія культавыя старажытнасці і ў меншай ступені — этнаграфічны матэрыял. У нумізматычным аддзеле можна было ўбачыць манеты і медалі розных краін:

Грэцыі, Рыма, Сярэдняй Азіі і інш. У аснову іх класіфікацыі былі пакладзены перыяды праўлення манархаў.

Вялікае навуковае значэнне меў царкоўны аддзел, дзе захоўвалася значная колькасць помнікаў беларускай іканапіснай школы (найстаражытным быў абраз прападобнага Ільы ад 1447 г.), а таксама старажытных прадметаў праваслаўнага рэлігійнага культу.

Аддзел «Стары Менск» быў адкрыты ў 1927 г. Сярод першых паступленняў выдзяляліся партрэты мінскіх ваявод, старажытныя рамесніцкія прылады, цэхавыя харугвы (шапавалаў, ткачоў, музыкантаў, сталяроў), старыя планы і малюнкі Мінска і інш. [ 116, с. 270].

Разам у фондах БДМ у Мінску налічвалася каля 60 тыс. адзінак захоўвання [211, с. 62].

У красавіку 1928 г. В.Ю. Ластоўскім быў распрацаваны новы статут БДМ. Ён не ўнёс ніякіх прынцыповых змен ні ў фармулёўку задач, ні ў структуру музея, якія былі выпрацаваны ў папярэднім статуце. Музей па-ранейшаму вызначаўся як навукова-даследчая і асветная ўстанова, аб'ектам вывучэння якой была матэрыяльная і духоўная культура беларускага народа. Прынцыпова новае знаходзім у № 4 «Філіялы музея». У ім Віцебскае, Магілёўскае і Гомельскае аддзяленні БДМ пазбаўляліся статусу філіялаў і прыраўноўваліся да аддзяленняў цэнтральнага музея ў Мінску [45, арк. 100]. Праект Ластоўскага, які быў прыхільнікам жорсткай цэнтралізацыі (нават камплектаванне філіялаў згодна яго планаў павінна было адбывацца праз Мінск), выклікаў занепакоенасць і незадавальненне загадчыкаў філіялаў. Такі настрой падзяляла і кіраўніцтва Наркамасветы.

Праект новага статута, прапанаванага В.Ю. Ластоўскім, трэба разглядаць у кантэксце больш шырокага праекта рэарганізацыі музейнай сеткі БССР, які быў распрацаваны ім пасля прыходу ў студзені 1928 г. на пасаду дырэктара БДМ. Аўтар праекта ўпершыню прапанаваў план будаўніцтва музейнай сеткі на тэрыторыі Беларусі на аснове навуковых прынцыпаў, запазычаных з перадавога еўрапейскага вопыту. На яго думку, «Першае і найбольш характэрнае заданьне музэйнага будаўніцтва ёсць зьбіраньне, сыстэматызаваньне, пераховываньне, вывучэнне, экспонаваньне і публікаваньне паводле навуковых прынцыпаў помнікаў матар'яльнае культуры і прыроды» [45, арк. 1].

Далей В.Ю. Ластоўскі прапануе падзяліць усе музеі БССР на навукова-даследчыя і масава-асветныя. Дзейнасць навукова-даследчых музеяў павінна была будавацца на аснове аўтэнтычных, унікальных помнікаў агульнарэспубліканскага значэння. Фондавыя калекцыі масава-асветных музеяў уключалі помнікі мясцовага значэння, а ў іх

экспазіцыях дапускалася выкарыстанне копій. У музеях абодвух тыпаў уся праца па камплектаванні і экраніраванні сабраных матэрыялаў базіравалася на навуковых прынцыпах.

На практыцы, на думку аўтара, гэты падзел мог выглядаць наступным чынам: сталіца БССР павінна мець 4 цэнтральныя музеі навукова-даследчага характару, пабудаваныя на аўтэнтыках: прыродазнаўчы, тэхналагічны, гістарычны і мастацкі. Статус навукова-даследчай установы не азначаў адмову ад правядзення асветніцкай работы сярод насельніцтва, ён азначаў наяўнасць у штаце музеяў дадзенай групы высокакваліфікаванага персаналу, які праводзіць актыўную навукова-даследчую работу. Ва ўсіх акруговых цэнтрах павінны ствараецца масава-асветныя музеі, сфера камплектавання якіх абмежаваная па тэрыторыі. У раённых цэнтрах маглі знаходзіцца раённыя краязнаўчыя музеі, галоўнай задачай якіх з'яўлялася б вывучэнне мясцовага краю (раёна) з улікам яго прыроднай, гістарычнай ці вытворча-прамысловай спецыфікі.

Штаты цэнтральных музеяў складаліся, згодна праекту, з дырэктара, загадчыкаў аддзелаў і навуковых супрацоўнікаў; акруговых — з дырэктара, навуковых супрацоўнікаў і экскурсаводаў; раённых — з аднаго экскурсавода[1].

Такім чынам, В.Ю. Ластоўскі прапанаваў цэльную праграму рэарганізацыі музейнай сеткі БССР выкананне якой у значнай ступені павысіла б узровень музейнай работы ў рэспубліцы. Яна ў значнай ступені апярэдзіла свой час — няцяжка заўважыць, што сёння сетка дзяржаўных музеяў Рэспублікі Беларусь будуецца менавіта па прынцыпу, прапанаванаму В.Ю. Ластоўскім: цэнтральныя (сёння нацыянальныя) — акруговыя (сёння абласныя) — раённыя музеі. У той жа час праект Ластоўскага выклікаў шэраг пытанняў, на якія, відаць, сам аўтар не меў дакладнага адказу. Напрыклад, па крыніцах фінансавання акруговых і раённых музеяў, іх памяшканнях, забеспячэнні кваліфікаванымі кадрамі.

Напрыканцы свайго праекта Ластоўскі прапанаваў кіраўніцтву Наркамасветы правесці ў другой палове 1928 г. музейны з'езд, на якім адкрыта і галосна абмеркаваць усе пытанні музейнага будаўніцтва ў БССР.

Праект рэарганізацыі музейнай сеткі БССР, напісаны В.Ю. Ластоўскім (таксама, як і праект новага статута БДМ), так і застаўся на паперы. Не сабраўся ў 1928 г. і першы беларускі музейны з'езд.

---

[1] Калі дырэктар, загадчыкі аддзелаў і навуковыя супрацоўнікі павінны былі мець вышэйшую адукацыю, то для падрыхтоўкі экскурсаводаў пры цэнтральных музеях арганізоўваліся спецыяльныя курсы.

Тлумачылася гэта, галоўным чынам, недахопам грошай — падобныя маштабныя мерапрыемствы вымагалі велізарных выдаткаў, якія БССР у той час проста не магла дазволіць.

У жніўні 1928 г. на калегіі Наркамасветы быў зацверджаны новы статут беларускіх дзяржаўных музеяў. Згодна з ім, былыя аддзяленні Белдзяржмузея выдзяляліся ў самастойныя гаспадарчыя адзінкі з уласным бюджэтам. У сувязі з гэтым дзяржаўным музеям былі дадзеныя наступныя назвы:

Мінскаму — «Беларускі Дзяржаўны Культурна-гістарычны Музей»;

Віцебскаму — «Беларускі Дзяржаўны Культурна-гістарычны Музей»;

Магілёўскаму — «Беларускі Дзяржаўны Акруговы Краязнаўчы музей;

Гомельскаму — «Беларускі Дзяржаўны Мастацка-Культурны музей;

Крыху павялічвалася фінансаванне збіральніцкай і выдавецкай дзейнасці музеяў, планавалася стварэнне музейнай аспірантуры [63, с. 165].

Тады ж пры Наркамасветы была арганізаваная Галоўная ўправа па справах навукова-даследчых установаў (Галоўнавука), якую ўзначаліў С.М. Некрашэвіч. Ёй былі перададзены ў падпарадкаванне навуковыя таварыствы, батанічныя сады, а таксама музеі. Для апошніх гэта мела істотнае значэнне — за імі заканадаўча замацоўваўся статус навуковых установаў, якімі яны і з'яўляліся ў той час на самай справе.

Новы імпульс у сваім развіцці як навукова-даследчай установы пасля далучэння Віцебскай губерні да БССР атрымаў Гісторыка-археалагічны музей у Віцебску. Як ужо казалася вышэй, у 1924 г. ён атрымаў статус аддзялення БДМ у Віцебску і адпаведна дзяржаўнае фінансаванне з рэспубліканскага бюджэту. На пасадзе дырэктара 65-гадовага А. Р Брадоўскага[1] змяніў вядомы дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, археолаг і педагог ЯЛ. Васілевіч, які да таго часу знаходзіўся на навуковай працы ў БДУ.

Важнай падзеяй, якая паспрыяла пашырэнню ўсіх напрамкаў музейнай работы, было рашэнне СНК БССР ад 4 лістапада 1924 г. аб перадачы Віцебскаму музею будынка гарадской ратушы. Але мясцовыя савецкія ўлады абыякава паставіліся да праблем музейнага будаўніцтва ў сваім горадзе. На працягу амаль двух гадоў фондавыя

[1] А.Р. Брадоўскі да сваёй смерці ў 1928 г. не пакідаў музейна-краязнаўчай работы, выконваючы абавязкі кансультанта музея і члена праўлення Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства.

калекцыі перакідвалі з аднаго памяшкання ў другое (апошнім прытулкам былі былыя вінныя склады), перш чым яны занялі сваё законнае памяшканне ў ратушы.

Віцебскае аддзяленне БДМ, якому ў 1925 г. рашэннем гарадскога савета было нададзена імя Ф. Скарыны, вылучалася сярод іншых вельмі моцным кадравым складам. Усяго ў 1926-1927 гг. у музеі працавала 8 чалавек, у тым ліку загадчык аддзялення і тры навуковыя супрацоўнікі.

З 1921 г. да сваёй смерці ў 1930 г. навуковым супрацоўнікам у музеі працаваў вядомы гісторык, музейны дзеяч і краязнаўца, член былой ВВАК У.Г. Краснянскі. Дзякуючы яго намаганням былі апісаны, каталагізаваны і тым самым захаваны для навуковага выкарыстання калекцыі б. ВВАК, б. царкоўна-археалагічнага музея і збор В.П. Федаровіча. У.Г. Краснянскі вядомы як аўтар шэрага шырокавядомых прац па гісторыі Беларусі, у тым ліку «Чарцёж горада Віцебска 1664 года...».

З 1928 г. па 1936 г. намеснікам дырэктара і адначасова загадчыкам царкоўнага аддзела з'яўляўся таксама член б. ВВАК, старшыня гісторыка-культурнай секцыі Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства, член-карэспандэнт Інбелкульта М.М. Багародскі. Даследаваннямі гістарычных помнікаў займаўся былы віцебскі настаўнік, краязнаўца В.В. Дабравольскі. Загадчык аддзялення ЯЛ. Васілевіч акрамя выканання адміністрацыйных абавязкаў адказваў за этнаграфічны і мастацкі аддзелы.

У 1924-1926 гг. актыўна папаўняліся і сістэматызаваліся фондавыя калекцыі, выпрацоўваліся планы будучай новай экспазіцыі. Як ужо гаварылася, у аснову музея былі пакладзены калекцыі б. ВВАК, б. царкоўна-археалагічнага музея, В.П. Федаровіча і А.Р. Брадоўскага. У 1924 г. пасля смерці славутага гісторыка А.Н. Сапунова туды былі перададзены яго архіў (каля 800 рукапісаў) і асабістыя рэчы [ 113, с. 183]. З Масквы вярнулі ў музей на захоўванне мошчы св. Еўфрасінні Полацкай[1]. З мэтай стварэння ў будучым яўрэйскага аддзела этнаграфічныя экспедыцыі ладзіла яўрэйская секцыя Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства [104, с. 74]. У выніку за 1924 -1925 гг. фонды музея павялічыліся на 2 550 адзінак, у наступныя тры гады — яшчэ на 3 500, перавысіўшы лічбу ў 30 тысяч.

[1] Пасля адкрыцця савецкімі ўладамі ў антырэлігійных мэтах дамавіны з мошчамі св. Еўфрасінні, што захоўваліся ў Спаса-Праабражэнскім храме ў Полацку, яны былі перавезены ў Маскву для дэманстрацыі па антырэлігійнай выстаўцы. У нямецкую акупацыю, калі былі зноў адкрыты храмы і адноўлены манастыры, віцябляне перанеслі мошчы ў Свята-Пакроўскую царкву, а 23 кастрычніка 1943 г. іх урачыста вярнулі ў Полацк.

Нягледзячы на вялікі аб'ём уліковай працы, музей не мог абмежавацца ёю. 27 кастрычніка 1926 г. адбылася пашыраная нарада супрацоўнікаў Віцебскага аддзялення БДМ з удзелам П.В. Харламповіча, на якой абмяркоўваўся план новай экспазіцыі, якая павінна была заняць тры паверхі ратушы [44, арк. 19]. Па выніках абмеркавання новая экспазіцыя Віцебскага аддзялення, адкрыццё якой было прымеркавана да I акруговага з'езда Саветаў і адбылося 27 красавіка 1927 г., складалася з шасці аддзелаў: археалагічнага, гістарычнага, мастацкага, этнаграфічнага, сучаснай прамысловасці, царкоўнага.

Як бачым, аўтары плана — бліскучыя спецыялісты ў галіне матэрыяльнай культуры, нават не рабілі спроб пакласці ў аснову групоўкі матэрыялаў раскрыццё пэўных гістарычных тэм. Гутарка ішла толькі пра пакалекцыйнае прадстаўленне прадметаў. І ўсё ж трэба прызнаць, што задача, якая была пастаўлена стваральнікамі новай экспазіцыі — даць агульнае ўяўленне пра гістарычнае мінулае краю, у цэлым была выканана.

Археалагічны аддзел займаў дзве залы. У першай зале дэманстраваліся мінералагічная і палеанталагічная калекцыі, а таксама знаходкі каменнага веку, зробленыя на Віцебшчыне (фрагменты шкілетаў маманта, тура, насарога, трылабіта). У другой зале наведвальнікам прапаноўвалі азнаёміцца з археалагічнымі знаходкамі, якія былі зроблены на месцы былога Віцебскага замчышча, а таксама падчас раскопак навакольных курганоў (зброя, упрыгожванні, кафля). Усе матэрыялы ў залах былі пададзены на фоне малюнкаў дагістарычнай прыроды і сярэдневяковага Віцебска. Усяго у археалагічным аддзеле было больш за 8 тыс. адзінак.

Гістарычны аддзел таксама займаў дзве залы. Першая зала была цалкам прысвечана палеаграфіі (найбольш цікавыя дакументы з нацыяналізаваных прыватных архіваў, рукапісы Яна Баршчэўскага, куток, дзе дэманстраваліся асабістыя дакументы, кнігі, клішэ выданняў і партрэт АЛІ. Сапунова). Значную частку другой залы займала экспазіцыя старажытнай зброі XV-XX стст., сярод якой найвялікшую цікавасць наведвальнікаў выклікалі даспехі эпохі Рэнесансу, гарматы-гарлачы, якія выкарыстоўвалі ў баях паўстанцы К. Каліноўскага, і інш. Пасля агляду зброі публіка магла азнаёміцца з харугвамі віцебскіх цэхаў — муляраў, тынкоўшчыкаў, металаапрацоўшчыкаў канатчыкаў, а таксама з багацейшай калекцыяй манет Грэцыі, Рыма, Залатой Арды, Заходняй Еўропы, Усходу, Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай XIV-XVIII ст., у тым ліку знакамітым «віцебскім скарбам», які складаўся з 792 пражскіх грошаў пачатку XIV ст. і

калекцыяй масонскіх знакаў. Усяго ў адзеле налічвалася таксама больш за 8 тыс. адзінак.

Звяртаў на сябе ўвагу найбольшы па колькасці адзінак захоўвання мастацкі аддзел (больш за 12 тыс. адзінак). Большасць прадметаў гэтага аддзела адносілася да помнікаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: фарфор, бронза, ювелірныя вырабы, эмаль, слановая косць, разьба па дрэве і касці, вышыўкі і г.д. У меншай ступені быў прадстаўлены класічны (Сальватор Роза, Баравікоўскі, Клевер і інш.) і сучасны (некаторыя віцебскія авангардысты 1920-х гг.) жывапіс.

Мала прадстаўлены быў этнаграфічны аддзел (250 адзінак). У ім уздоўж сцен па дэкаратыўнаму прынцыпу былі развешаны старажытная беларуская сялянская і яўрэйская местачковая вопратка, музычныя інструменты, прадметы штодзённага ўжытку, батлейка. Сістэматызацыя прадметаў у гэтым аддзеле была самая прымітыўная.

Адзел сучаснай прамысловасці ствараўся ў вельмі сціслыя тэрміны і па задуме аўтараў павінен быў дэманстраваць лепшыя вырабы прамысловых прадпрыемстваў Віцебшчыны. Камплектаванню аддзела надавалася вялікая ўвага. Менш чым за год было сабрана каля 700 экспанатаў і выраблена 400 экспазіцыйных дыяграм. Гэты аддзел павінен быў дэманстраваць наведвальнікам сувязь мінулага з сучаснасцю. Тут экспанаваліся ніткі фабрыкі «Дзвіна», папера з Чашнікаў, картон з Пудаці, а таксама толь, фанера, іголкі, скура, вырабленыя навучэнцамі прафтэхшкол Віцебска і Гарадка.

У стварэнні царкоўнага аддзела аўтары экспазіцыі маглі выкарыстоўваць, хоць не вельмі дасканалы, але даволі значны дарэвалюцыйны вопыт. Большасць з 800 прадметаў аддзела (абразы, царкоўнае начынне, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва) мелі паходжанне з былога Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея. Тут жа знаходзіліся мошчы св. Еўфрасінні Полацкай [195, с. 55].

У будынку ратушы акрамя музея знаходзілася Віцебскае аддзяленне Дзяржаўнай бібліятэкі.

Пры пабудове экспазіцыі музея не ўдалося пазбегнуць метадычных памылак — у шэрагу залаў адсутнічалі тлумачальныя надпісы нават фармальнага характару, а некаторыя мелі анекдатычны характар, напрыклад, «Масоны былі першымі рэвалюцыянерамі ў Расіі», «Шпонка ў памяць Л.М. Талстога, як рэвалюцыянера 1917 г.» і інш.

Тым не менш не гэтыя хібы вызначалі змест дзейнасці Віцебскага аддзялення БДМ у другой палове 1920-х гг. Новы змест экспазіцыі музея, павышэнне агульнай цікавасці насельніцтва да мінулага свайго краю паспрыяла павышэнню колькасці наведвальнікаў. У гэты перыяд музей штогод аглядала ад 12 да 23 тыс. чалавек. Сацыяльна-

ўзроставы склад наведвальнікаў выглядаў наступным чынам: рабочыя і сяляне — 40%, навучэнцы — 31%, чырвонаармейцы — 29% [240, с. 19].

У 1930 г. музей, павялічыўшы агульную колькасць фондавых калекцый да 38 тыс. адзінак, знаходзіўся напярэдадні новага пад'ёму сваёй дзейнасці.

У 1924 г. Дзяржаўны гістарычны музей пралетарскай культуры ў Магілёве страціў свой незалежны статус і стаў аддзяленнем БДМ у Магілёве. Новы статус вымагаў правядзення структурных і ідэалагічных пераўтварэнняў. Ажыццяўляць апошнія выпала навуковаму калектыву музея, які складаўся з трох чалавек на чале з 21-гадовым выпускніком чэрыкаўскай гімназіі У.Л. Вянюковым, прызначаным на пасаду загадчыка аддзялення ў снежні 1924 г. Да гэтага часу У.Л. Вянюкоў ужо меў вопыт арганізатарскай і навуковай музейнай работы. У 1921-1922 гг. ён з'яўляўся загадчыкам пададдзела па справах музеяў і палітпрацы ў Магілёўскім губаддзеле народнай асветы, год пазней стварыў у горадзе Музей санітарнай асветы. З 1925 г. адначасова з выкананнем абавязкаў дырэктара Магілёўскага аддзялення БДМ У.Л. Вянюкоў з'яўляўся намеснікам старшыні Магілёўскага акруговага краязнаўчага таварыства. Пасады навуковых супрацоўнікаў займалі А.Т. Радзько, Д.Т. Гусакоў і бібліяфіл Тычынін [47, арк. 4].

Першы год існавання музея ў складзе БССР сведчыў пра імкненне пашырыць работу па вывучэнні помнікаў матэрыяльнай культуры і прыроды краю. З дапамогай мясцовых краязнаўцаў была складзена карта глеб акругі. Музейныя калекцыі папоўніліся помнікамі эпохі неаліту з гарадзішча Нямкі, нумізматыкай са знойдзеных на Магілёўшчыне скарбаў, магістрацкімі актамі і кнігамі, старажытнымі гравюрамі з відамі горада, работамі Вато, а таксама мясцовымі царкоўнымі старажытнасцямі, кшталту шлюбных вянкоў, карон, званоў, рыз, крыжоў, у тым ліку плашчаніцы 1566 г. з Чарэйскага манастыра, асабістымі рэчамі Г. Каніскага і інш. [225, с. 26]. Важныя падзеі адбыліся ў лістападзе 1929 г., калі кіраўніцтва БССР прыняло рашэнне аб перамяшчэнні каштоўнасцей са сталіцы рэспублікі ў Магілёў, далей ад магчымай лініі фронту. Тады У.Л. Вянюкоў перавёз з БДМ у магілёўскае аддзяленне крыж Еўфрасінні Полацкай, Евангелле, пісанае ў 1582 г. рукой слуцкага князя Юрыя Алелькавіча, шэраг жывапісных палотнаў. З антыкварнага фонду ў музей былі перададзены залатыя ўпрыгожванні з раскопак Пампеі, сярэбраная булава Жыгімонта III, старажытныя келіхі, тытунёўкі, гадзіннікі, пярсцёнкі з каштоўных металаў, абразы, старадрукі.

Адначасова з работай па папаўненні калекцый і іх вывучэнні навуковыя супрацоўнікі распрацавалі структуру экспазіцыі музея, якая складалася з 12 аддзелаў. Падчас яе абмеркавання на радзе БДМ у Мінску экспазіцыя адразу ж падверглася крытыцы з боку П.В. Харламповіча і І.А. Сербава за «ўсёабдымнасць», у прыватнасці, за спробы стварэння аддзелаў электрыфікацыі, асавіяхіма, антырэлігійнага і некаторых іншых. Было вырашана зменшыць колькасць аддзелаў адпаведна галоўнай задачы, якая стаяла перад музеем — вывучэнне мінуўшчыны і прыроды краю (У.Л. Вянюкоў бачыў аснову сваёй дзейнасці ў адлюстраванні «сучаснага развіцця прыродна-вытворчых сіл краю»)[44, арк. 117].

У выніку першыя наведвальнікі ўбачылі ў 1927 г. новую экспазіцыю музея, у якой структура аддзелаў была наступная:

Мастацкі аддзел — карціны рускіх мастакоў Васнецова, Макоўскага, Айвазоўскага, Паленава, Ярашэнкі, Мясаедава, Баравікоўскага, некалькі карцін заходнееўрапейскіх мастакоў, а таксама прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з фарфору, серабра, бронзы. Перспектывы развіцця аддзела былі звязаны з адлюстраваннем старажытнага і сучаснага беларускага мастацтва, у прыватнасці, з вытворчасцю мастацкай мэблі, чым славіўся Магілёў.

Этнаграфічны аддзел — манекены, апранутыя ў беларускія сялянскія строі, старажытныя прылады працы, народнае пляценне і вышыўка, хатняе начынне з гліны, дзіцячыя цацкі, батлейка, фотаздымкі мясцовых этнаграфічных тыпаў. Папаўненне аддзела планавалася ажыццяўляць праз экспедыцыйную дзейнасць.

Гісторыка-археалагічны аддзел — шкілет маманта, археалагічныя знаходкі каменнага і жалезнага вякоў, старажытная зброя, 1115 расійскіх і заходнееўрапейскіх манет.

Прыродазнаўчы аддзел — мінералогія, арніталогія, 20 акварыумаў, біястанцыя, прэпаратная майстэрня. Гэта самы багаты аддзел, яго папаўненне планавалася праз правядзенне штогадовых экспедыцый.

Прамыслова-эканамічны аддзел — узоры вытворчасці мясцовых прадпрыемстваў, узоры парод дрэў, мадэлі машын, дыяграмы, малюнкі.

Аддзел рэўруху — каля 2 тыс. копій дакументаў і фотаздымкаў, зробленых у розных архівах.

Аддзел «Старажытны Магілёў».

Бібліятэка — другая па колькасці кніг у БССР (каля 70 тыс. тамоў) [44, арк. 110].

У другой палове 1920-х гг. супрацоўнікі музея, карыстаючыся яго прывабным месцазнаходжаннем (Магілёўскае аддзяленне БДМ паранейшаму знаходзілася ў будынку Сялянскага банка), паспяхова праводзілі асветніцкую працу. Для 12 тыс. наведвальнікаў, якія ў сярэднім штогод аглядалі экспазіцыю музея, праводзіліся часовыя выстаўкі, былі складзены даведнікі па асобных аддзелах, распрацаваны экскурсіі, створана ячэйка «прыхільнікаў музея» [44, арк. 192].

У другой палове 1920-х гг. супрацоўнікамі музея быў складзены спіс нерухомых помнікаў гісторыі і архітэктуры, якія знаходзіліся ў зоне яго дзейнасці і падлягалі ахове і навуковаму вывучэнню[1]. Гэта работа была ўскладзена на музей афіцыйна магілёўскім выканкамам у 1924 г. [33, арк. 134]. Цяжка сказаць, наколькі эфектыўнай магла быць работа калектыву з трох чалавек (нават пры падтрымцы мясцовых добраахвотнікаў-краязнаўцаў) па ахове 22 архітэктурных помнікаў. Мы не здолелі знайсці сляды нейкай канкрэтнай дзейнасці па ахове вызначаных аб'ектаў. Але сама пастаноўка гэтага пытання заслугоўвае ўвагі.

Трэба адзначыць, што развіццё Магілёўскага музея стрымлівалася рашэннем гарадскіх улад, прынятым яшчэ напачатку 1920-х гг., аб выдзяленні часткі памяшканняў Сялянскага банка пад жыллё. Вядома што У.Л. Вянюкоў на працягу доўгага часу вёў беспаспяховую барацьбу з магілёўскім выканкамам за высяленне з музейнага будынка жыхароў. І нават пажар, што здарыўся ў 1927 г. у музеі з-за неасцярогі жыхароў, не пераканаў выканкамаўскіх чыноўнікаў у станоўчым вырашэнні пытання [45, арк. 75].

Тым не менш менавіта на канец 1920-х гадоў прыпадае росквіт музея ў Магілёве. У 5-гадовым плане (1929-1933 гг.) яго працы мы знаходзім наступныя пункты: комплекснае вывучэнне Магілёўскага і Быхаўскага раёнаў, стварэнне двух новых — геабатанічнага і нумізматычнага аддзелаў, выданне першага нумара «Прац Беларускага дзяржаўнага акруговага краязнаўчага музея», адкрыццё пры музеі кабінета методыкі музейна-краязнаўчых даследаванняў, навуковыя стажыроўкі супрацоўнікаў музея ў Расіі і Германіі [16, арк. 1].

---

[1] У Магілёве помнікі падзяляліся на 1) архітэктурныя: гарадская ратуша, Брацкі манастыр, архірэйскае падвор'е, магіла маскоўскага гарнізона, які загінуў ў Магілёве ў 1661 г., капліца — помнік рускім воінам, што загінулі ў Паўночнай вайне, капліца ў памяць загінуўшых у бітве пры Салтанаўцы, езуіцкі калегіум, будынак, дзе была абвешчана савецкая ўлада, будынак, дзе размяшчаўся штаб першых атрадаў Чырвонай Арміі, магіла байцоўкамунараў, дом, дзе жыў у 1919 г. С. Арджанікідзе; 2) археалагічныя: група курганоў у калгасным садзе ў Салтанаўцы, гарадзішчы «Барсукова гара» і «Гарадок» у Палыковічах, гарадзішча ва ўрочышчы Пелагееўка. Па Магілёўшчыне былі вызначаны толькі архітэктурныя аб'екты: палац Сапегаў у Быхаве, палац Пацёмкіна ў Крычаве, ратуша ў Шклове, шклоўскі парк, касцёл у Мсціславе, Пустынскі манастыр, помнік у в. Лясной, сінагога ў м. Расла.

На жаль, ніводны з гэтых пунктаў плана, які сведчыў аб пераўтварэнні Магілёўскага музея ў хуткім будучым у буйнейшы ў рэгіёне музейна-краязнаўчы цэнтр, не ажыццявіўся.

Асаблівае месца сярод аддзяленняў БДМ займала Гомельскае, якое было створана пазней за іншыя, пасля передачы ў снежні 1926 г. у склад БССР Гомельскага і Рэчыцкага ўездаў[1]. Гомельскае аддзяленне было ўтворана на базе Абласнога мастацкага музея, які месціўся ў былым палацы князёў Паскевічаў. Маючы комплексныя па сваім характары фонды — скульптуру, ліццё, лепку, разьбу, інкрустацыю, мазаіку, кераміку, тэкстыль, жывапіс, гравюры — ён перадаваў атмасферу заможнай сядзібы эпохі класіцызму.

У васьмі залах палаца (астатнія былі заняты яўрэйскім педтэхнікумам, саўпартшколай і некаторымі іншымі арганізацыямі) наведвальнік мог убачыць мармуровыя скульптурныя партрэты: Арысціда работы Дж. Дэль Неро, І. Панятоўскага — Торвальдсэпа, Аляксандра І — Трэсконі, Мікалая І з жонкай — Рауха, М.П. Румянцава — Шубіна і інш. Вялікую зацікаўленасць спецыялістаў выклікалі фарфоравыя вырабы французскіх, саксонскіх і расійскага імператарскага заводаў, дываны і габелены фламандскай, французскай, японскай і турэцкай работы, калекцыя этрускіх ваз, падараваная князю Паскевічу папай Піем VII калекцыя расійскіх медалёў. Асобна дэманстраваліся партрэты і батальныя палотны майстроў розных еўрапейскіх школ — Лампі, Ван Боонена, Шыльдэра, Доу, Зіч. Акрамя гэтага, у экспазіцыі дэманстраваліся палеанталагічная (буйнейшая ў тагачаснай БССР) і археалагічная (з раскопак Е.Р. Раманава) калекцыі, а таксама матэрыялы па рэвалюцыйным руху на Гомельшчыне [199, с. 83-88].

Вядома, што ў гэты час навуковымі супрацоўнікамі аддзялення была сабрана вялікая калекцыя кніг, выдадзеных венецыянскімі і амстэрдамскімі друкарнямі XV-XVIII ст. З Мазыра былі прывезены лісты вядомага рускага паэта В. А. Жукоўскага і іншыя эпісталярныя каштоўнасці. На жаль, на працягу 1920-х гг. калекцыі музея, нягледзячы на пратэсты дырэктара, зменшыліся ў выніку перадачы «прадметаў немузейнага характару» з палаца ў губернскі аддзел народнай асветы, дом працоўнага селяніна, школы горада і г. д. У лік «прадметаў немузейнага характару» трапіла палацавая ампірная мэбля, персідскія і бухарскія дываны, карціны, музычныя інструменты, ювелірныя вырабы [14, арк. 93-113].

---

[1] Варта адзначыць, што яшчэ ў 1922 г. Наркамасветы БССР прасіў маскоўскае кіраўніцтва перадаць уцалеўшыя калекцыі Гомельскага палаца ў БДМ, але пасля выдачы ў тым жа годзе Наркамасветы РСФСР палацу ахоўнай граматы і афіцыйнай назвы «Абласны мастацкі музей імя А.В. Луначарскага» падобныя захады згубілі сэнс. Савецкая Беларусь. — 1922. — № 223.

Гомельскае аддзяленне БДМ карысталася славай вельмі папулярнага музея БССР. Пра гэта сведчаць наступныя лічбы: у 1928/29 навучальным годзе колькасць яго наведвальнікаў перавысіла 50 тыс. чалавек, прыкладна палова з якіх аглядала экспазіцыю з дапамогай экскурсавода [44, арк. 73].

Уся праца па захаванні, вывучэнні і папулярызацыі гомельскага збору выконвалася штатам супрацоўнікаў з дзесяці чалавек (з іх сем — тэхнічныя). 1 жніўня 1924 г. І.А. Маневіча, беспадстаўна абвінавачанага ў навеце, на пасадзе дырэктара музея на кароткі час змяніў Я.С. Розэнблюм, а апошняга — М.М. Папоў, выхаванец гісторыка-філалагічнага факультэта Юр'еўскага універсітэта, археолаг, вядомы курганнымі раскопкамі ў Трокскім і Клімавіцкім паветах адпаведна ў 1914 і 1918 гадах. На працягу трох гадоў ён адзін выконваў усю навуковую работу па вывучэнні і сістэматызацыі фондавых калекцый, агульная колькасць якіх па інвентарнам вопісе 1923 г. складала 5 600 адзінак. Нешматлікасць калекцый кампенсавалася іх якасцю. Напрыклад, у рукапісным аддзеле можна было ўбачыць арыгінал рукапісу п'есы А.С. Грыбаедава «Горе от ума» [II, арк. 33].

8 жніўня 1927 г. Гомельскі акрвыканкам сваёй пастановай нечакана звольніў М.М. Папова з пасады загадчыка Гомельскага філіяла БДМ і прызначыў на яе выпускніка Гомельскай саўпартшколы адказнага сакратара Гомельскага Гістпарта Я.М. Драбкіна. Наркамасветы БССР не паспеў выказаць сваё незадавальненне падобным свавольствам Гомельскага акрвыканкама, калі даведаўся, што 18 лістапада 1927 г. Драбкін ужо зняты з новай пасады, а на яго месца прызначаны былы кандуктар Закаўказскай чыгункі С.Т. Антонаў, які і кіраваў музеем да пачатку вайны [44, арк. 311]. Зразумела, што падобная кадравая палітыка мясцовых улад не спрыяла развіццю музея як комплекснай навукова-асветніцкай установы.

Адразу ж пасля свайго прызначэння С.Т. Антонаў правёў рэарганізацыю структуры музея і стварыў тры аддзелы: рэвалюцыйнага руху, агульны (дзе дэманстравалася мастацкая калекцыя Паскевічаў) і краязнаўства.

Нават пры беглым поглядзе на новую структуру музея відавочны перакос у бок рэвалюцыйнай тэматыкі, якая раскрывалася ў першым аддзеле з дапамогаю копій, якія не мелі ніякай музейнай вартасці [3, арк. 15]. Агульны аддзел таксама атрымаў матэрыялістычную афарбоўку і быў падзелены на наступныя тэмы: «Роля гандлёвага капіталізму ў развіцці прыгоннай дзяржавы ў былой Расіі», «Рэвалюцыйная буржуазія канца XVIII і першай паловы XIX стагоддзя», «Буржуазія і мастацтва». Гэтыя змены былі рэакцыяй Антонава на рэзкую крытыку

Гомельскага музея з боку мясцовага партыйнага кіраўніцтва, якое разглядала палац як месца, дзе захоўваецца «непатрэбнае барахло былога абшарніка» [123, с. 76].

Між тым у Маскве ў ідэалагічным кіраўніцтве УКП(б) пачало складвацца новае ўяўленне пра музеі. 20 ліпеня 1928 г. на пасяджэнні Усесаюзнага ЦВК была прынята рэзалюцыя аб музейным будаўніцтве, дзе музейныя работнікі крытыкаваліся за нездавальняючую працу з пункту гледжання сацыялістычнага будаўніцтва. У якасці галоўных задач, што стаялі перад музеямі, вызначаліся наступныя:

«а) магчымы ўдзел музеяў у агульным развіцці навукова-даследчай работы;

б) больш шырокае і паглыбленае абслугоўванне музеямі культурна-асветніцкіх патрабаванняў працоўных мас;

в) паглыбленне метадаў выяўлення калекцый для навукова-папулярызацыйных мэту напрамку найбольшага набліжэння музеяў да патрабаванняў школьнага і прафтэхнічнага выхавання і масавага асветніцтва;

г) удзел музеяў у вывучэнні прыродных і вытворчых сіл краіны;

д) узмацненне музейнай работы ў культурна-гістарычнай галіне ў напрамку вывучэння рэвалюцыі, рабочага руху і побыту працоўных;

е) удзел музеяў у індустрыялізацыі краіны, развіцці сельскай гаспадаркі, саматужных промыслаў;

ж) удзел музеяў ва ўздыме культурнага і гаспадарчага ўзроўню адсталых народнасцей і нацыянальных меншасцей;



з) удзел музеяў у рабоце па ўмацаванні абароны краіны і ажыццяўленні іншых найважнейшых задач сацыялістычнага будаўніцтва» [134, ст. 726].

Пачалася перабудова работы савецкіх музеяў, падчас якой значна змяніліся напрамкі іх дзейнасці, а таксама склад навуковых кадраў.

1 жніўня 1929 г. спецыяльная камісія Наркамасветы, якая абследавала БДМ, рэзка крытыкавала аддзел «Стары Менск» за экспанаванне партрэтаў мінскіх ваяводаў, яўрэйскі — за экспанаванне яўрэйскіх культавых старажытнасцей, этнаграфічны — за дэманстрацыю выключна сялянскіх рэчаў, мастацкі — за набыццё прадметаў царкоўнага мастацтва. Канстатавалася, што «...акрамя бюста Леніна на ўваходзе больш няма камуністычнай прапаганды» [50, арк. 34]. Адбыліся і прымусовыя кадравыя перастановы. З музея «як беспадстаўна прызначаныя» былі звольнены навуковыя супрацоўнікі Красінскі, Барсукова і Варанец. Моцна крытыкавалі В.Ю. Ластоўскага за

«бюракратычны, закрыты стыль працы, ...неразуменне сучаснага запатрабавання і ролі музея як выхаваўчае пралетарскае ўстановы» [50, арк. 34].

Трэба адзначыць, што становішча музея ў гэты крытычны момант значна пагоршыў асабісты канфлікт паміж В.Ю. Ластоўскім і яго намеснікам А.М. Ляўданскім. Апошні ў жніўні 1929 г. звярнуўся ў Наркамасветы з планам паляпшэння работы БДМ. На думку Ляўданскага, перш за ўсё для гэтага было неабходна:

«а) прызначыць дырэктарам БДМ вытрыманага партыйца;

б) прызначыць намеснікам дырэктара вытрыманага партыйца;

в) прызначыць загадчыкам антырэлігійнага аддзела партыйца;

г) рэарганізаваць цалкам музэй, які адпавядаў бы запатрабаванням сучаснасці і наогул соцыялістычнаму будаўніцтву...» [50, арк. 30].

Зразумела, што падобныя ініцыятывы знізу толькі спрашчалі задачу партыйных ідэолагаў па пераўтварэнні музея з навукова-асветнай установы ў кабінет палітасветы.

5 лістапада 1929 г. ЦК ВКП(б) ухваліў пастанову «Аб кіруючых кадрах работнікаў народнай адукацыі», якой даваліся ўказанні праводзіць чысткі сярод кіруючых кадраў асветніцкіх устаноў, а замест «ідэалагічна варожых» прыцягваць у кіраўніцтва партыйцаў, рабочых і камсамольцаў [121]. 25 лістапада таго ж года на бюро ЦК КП(б)Б была прынята рэзалюцыя «Па пытанню працы і кадраў органаў НКА», якая фактычна дубліравала маскоўскую пастанову [27, арк. 18].

Першымі ахвярамі гэтай чысткі сярод супрацоўнікаў беларускіх музеяў сталі В.Ю. Ластоўскі і старшыня Галоўнавукі С.М. Некрашэвіч[1], арыштаваныя разам 21 ліпеня 1930 г. Фармальнай зачэпкай для зняцця Ластоўскага з пасады дырэктара БДМ, а потым і пазбаўлення звання акадэміка паслужыў артыкул Я. Станкевіча «Дыспалаталізацыя ў беларускай мове», апублікаваны ў 1928 г. пад рэдакцыяй Некрашэвіча і з дазволу Ластоўскага. Абвінавачаныя ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі», абодва былі асуджаны на розныя тэрміны ссылкі ў глыб Расіі, а ўвосень 1937 г. паўторна арыштаваны і расстраляны.

У снежні 1930 г. у Маскве сабраўся Усерасійскі музейны з'езд. Накірунак яго работы быў дадзены ў лісце наркама адукацыі РСФСР А.С. Бубнова, які заклікаў пераадолець «рэакцыйнае руцінёрства», адысці ад «музеяў-кунсткамер», паставіць іх на службу сацыялістыч-

[1] С.М. Некрашэвіч не лічыў сябе спецыялістам у галіне музейнай справы. Між тым вядома, што БДМ у Мінску і яго філіял у Віцебску ствараліся пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. Менавіта ён прыцягнуў да працы П.В. Харламповіча і Я.І. Васілевіча. Вядома таксама яго шырокая музейная эрудыцыя — ён ведаў беларускія матэрыялы, што захоўваліся ў Віленскім музеі старажытнасцей, Музеі Чартарыйскіх у Кракаве, Украінскім музеі ў Львове.

наму будаўніцтву. У дакладах на з'ездзе ставіліся дзве кардынальныя праблемы:

- метадалагічныя асновы экспазіцый, іх ідэйны змест і структура;
- аб'ект музейнага паказу, роля аўтэнтычных помнікаў у музеі.

На жаль, абедзве праблемы былі вырашаныя на карысць ідэалогіі, а не культуры.

У канцы 1930 г. пасля чарговай рэарганізацыі Наркамасветы РСФСР у ім засталася толькі невялікая музейная група, якая і ажыццяўляла рашэнні І Усерасійскага музейнага з'езда. У рэчышчы сацыялагізму былі праведзены рээкспазіцыі ў Эрмітажы, Траццякоўскай галерэі, Рускім музеі. Так, у Траццякоўскай галерэі творы мастацтва размеркавалі па тэмах: «Мастацтва прыдворнага бюракратычнага дваранства», «Мастацтва аграрнага (баршчыннага) дваранства» і г.д. Экспазіцыя суправаджалася дыяграмамі, цытатамі, вытрымкамі з дакументаў, што перашкаджала ўспрыняццю творчасці прадстаўленага мастака, асэнсаванню яго месца ў развіцці мастацтва.

У Рускім музеі з'явіліся шыльды з лічбавымі матэрыяламі па выкананні пяцігодкі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, зямельна-воднай рэформы ў Сярэдняй Азіі. У ансамблевых музеях экспазіцыі замяняліся выстаўкамі, якія ўступалі з ансамблем у рэзкую супярэчнасць. Напрыклад, у палацы-музеі «Астанкіна» ладзіліся сельскагаспадарчыя выстаўкі, у Новадзявочым манастыры — антырэлігійны музей. У антырэлігійныя музеі былі пераўтвораны Казанскі і Ісакіеўскі саборы ў Ленінградзе. У пачатку 1930-х гг. рээкспазіцыі праводзіліся таксама ў Музеі антрапалогіі, Політэхнічным музеі і большасці іншых музеяў РСФСР і саюзных рэспублік.

У 1936 г. у Маскве быў адкрыты Цэнтральны музей Леніна, да якога ў якасці філіялаў далучылі раней створаныя музеі ў Горках, Смольным, Разліве, Шушанскім[1]. Быў пакладзены пачатак складанню сеткі музеяў Леніна, якая развівалася абасоблена ад музейнай сеткі краіны. Гэтыя музеі склалі самастойную сістэму, кіраванне якой належала ЦК УКП(б). У 1936-1940 гг. былі створаны музеі І.В.Сталіна, С.М. Кірава, Г.К. Арджанікідзе, Я.М. Свярдлова, В.У. Куйбышава, М.В. Фрунзе, В.І. Чапаева і інш.

Непасрэдным вынікам першага музейнага з'езда было з'яўленне ў 1931 г. спецыяльнага органа савецкіх музейных работнікаў —

---

[1] Цэнтральны музей Леніна быў абсалютным лідэрам у СССР на колькасці наведвальнікаў — у 1939 г. з яго экспазіцыяй азнаёміліся 1 239 800 чалавек.

часопіса «Савецкі музей», а таксама музейных аддзяленняў пры некаторых ВНУ Масквы, Ленінграда, Казані. Але гэтыя і некаторыя іншыя прагрэсіўныя падзеі (напрыклад, адкрыццё ў 1938 г. у структуры АН СССР Усесаюзнага музея А.С. Пушкіна і Дзяржаўнага музея Л.М.Талстога) не маглі змяніць агульнай тэндэнцыі бюракратызацыі і ідэалагізацыі музейнай дзейнасці.

Узяты ў Маскве курс замацавала Усебеларуская нарада музейных супрацоўнікаў, што адбылася ў Мінску ў 1932 г. Прынятая на нарадзе рэзалюцыя патрабавала ад музеяў перш за ўсё ўдзельнічаць «...у класавай барацьбе пралетарыяту з капіталістычнымі элементамі, у канчатковым выкарчоўванні карэнняў капіталізму і рашучай барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небяспекай — контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам і іншымі мясцовымі шавінізмамі» [129, с. 84]. На нарадзе гучалі заклікі да выгнання старых спецыялістаў, чысткі фондаў, перабудовы экспазіцый па ўзоры «Кароткага курса...». Прапаноўвалі нават не ўжываць слова «музей», а экспазіцыі рабіць на вуліцах. Наступным крокам было фізічнае знішчэнне музеяў, што і адбывалася на працягу 1930-х гг.

У пачатку 1930 г. СНК БССР выселіў апальны БДМ з будынка Архірэйскага падвор'я (вул. Чырвонаармейская, 3), выдзеліўшы для музея ў часовае карыстанне чатыры пакоі агульнай плошчай у 441 кв. м. у Доме селяніна. Туды ж перавялі Заалагічны музей Інбелкульта. У гэтым памяшканні калекцыі музея, перайменаванага ў Мінскі сацыяльна-гістарычны, нягледзячы на шматлікія звароты яго супрацоўнікаў у самыя высокія інстанцыі з просьбамі вярнуць былы будынак, заставаліся там да іх вывазу нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў 1944 г.

Пасля арышту В.Ю. Ластоўскага на працягу года абавязкі дырэктара выконваў М.І. Шапавалаў. У лютым 1931 г. на гэтай пасадзе яго змяніў выдатны дзеяч беларускага нацыянальнага руху, былы член Рады БНР, член ЦК Беларускай Рабочай Грамады С.А. Рак-Міхайлоўскі, які за некалькі месяцаў да гэтага прыехаў у БССР з Польшчы. У хуткім тэмпе пад яго кіраўніцтвам разгарнулі новую экспазіцыю, у аснову якой была пакладзена марксісцкая схема змены сацыяльна-эканамічных фармацый. Усе матэрыялы аўтары падзялілі па перыядах: першабытнае грамадства, феадалізм, капіталізм, дыктатура пралетарыяту і сацыялістычнае будаўніцтва. Найбольшая ўвага была нададзена апошняму перыяду, дзе з дапамогай макетаў, мадэлей і дыяграм распавядалася пра кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, індустрыялізацыю, электрыфікацыю, сацыяліс-

тычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, дасягненні ленінскай нацыянальнай палітыкі [209, с. 50].

У асветніцкай (дакладней кажучы прапагандысцкай) дзейнасці асноўная ўвага была звернута на стварэнне перасоўных выставак, прысвечаных гаспадарча-палітычным кампаніям, рэвалюцыйным святам і інш. Выстаўкі накіроўваліся ў школы, калгасы, прамысловыя прадпрыемствы, вайсковыя часці. Ідэалагічную танальнасць гэтых экспазіцый добра передае назва выстаўкі, падрыхтаванай да Міжнароднага чырвонага дня — «Супраць імперыялістычнай вайны — за вайну грамадзянскую» [50, арк. 14]. Падобная змена накірунку ў асветніцкай рабоце музея тлумачыцца не толькі імкненнем выйсці на максімальна шырокую аўдыторыю, але і пры вельмі абмежаваных магчымасцях прыняць наведвальнікаў у стацыянарнай экспазіцыі.

Падчас пазбаўлення БДМ свайго будынка ён канчаткова згубіў падтрымку з боку ўлады, якая існавала дагэтуль у выглядзе Галоўнавукі Наркамасветы. Пасля чарговай рэарганізацыі, у выніку якой Галоўнавука была скасавана, Наркамасветы структурна пачаў падзяляцца на кіраўніцтвы і аддзелы. У сёмы аддзел, які аб'ядноўваў хаты-чытальні, клубы, дамы культуры і паркі, трапілі і музеі [ 18, арк. 96]. Такім чынам, музеі юрыдычна былі пераўтвораны з навуковых устаноў у культурна-асветніцкія. А кіраўніцтва музейнай справай з калегіяльнага органа, які аб'ядноўваў буйнейшых спецыялістаў у галіне вывучэння і аховы гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны, ператварыўся ў звычайны бюракратычны дэпартамент, які займаўся перадачай загадаў «па інстанцыі».

Пасля арышту і абвінавачвання ў шпіёнскай дзейнасці (жнівень 1933 г.) і расстрэлу С.А. Рак-Міхайлоўскага (1937 г.) на пасаду дырэктара Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея быў прызначаны яго намеснік, аспірант гістарычнага факультэта БДУ С.М. Якубчык. Пасля двух гадоў змагання з уладамі за музейны будынак, ён пайшоў на своеасаблівы крок адчаю — звярнуўся з лістом у рэдакцыю газеты «Праўда». Ён пісаў: «Музейная справа ў БССР відавочна недаацэньваецца. Цэнтральны Гістарычны Музей у Мінску знайшоў прытулак у 4 маленькіх пакойчыках. Мастацкі аддзел музея зачынены, таму што няма выставачнай плошчы. Багацейшы фонд помнікаў мастацтва, археалагічныя калекцыі, вялікі этнаграфічны і антырэлігійны матэрыял музей вымушаны ўтрымліваць у вільготных скляпеннях...» [122].

Публікацыя гэтага крытычнага ліста ў галоўнай партыйнай газеце краіны выклікала прыняцце трох пастаноў бюро ЦК КП(б)Б, спецыяльна прысвечаных стану музейнай справы ў рэспубліцы. Першая з іх, якая выйшла 29 красавіка 1935 г. пачыналася з рэзкай

крытыкі ўсіх напрамкаў музейнай дзейнасці ў БССР Партыйнае кіраўніцтва было незадаволена адсутнасцю работы па стварэнні музейнай сеткі, слабым паказам сацыялістычнага будаўніцтва, адсутнасцю сувязі з гаспадарчымі і навукова-даследчымі ўстановамі, дрэнным улікам і аховай помнікаў, нізкай якасцю экскурсійнага абслугоўвання. Прычым віна за ўсё гэта ўскладалася на Наркамасветы і Беларускую Акадэмію навук. Паляпшэнню стану музейнай справы, на думку аўтараў пастановы, павінна было паспрыяць неадкладнае выкананне наступных мер: стварэнне спецыяльнага органа кіраўніцтва музеямі рэспублікі, паляпшэнне іх матэрыяльна-фінансавага становішча, стварэнне сістэмы прафесіянальнай падрыхтоўкі музейных супрацоўнікаў, увядзенне крымінальнай адказнасці за псаванне гістарычных помнікаў [17, арк. 126].

Трэба адзначыць, што ні адна з гэтых мер (кожная з якіх, безумоўна, спрыяла б паляпшэнню стану музейнай справы ў БССР) не была і не магла быць выканана ва ўмовах ідэалагічнага клімату, які існаваў у рэспубліцы ў 1930-я гг. Тым не менш 21 чэрвеня 1936 г. з'явілася новая пастанова ЦК КП(б)Б «Аб краязнаўчай рабоце і становішчы музейнай справы ў БССР», якая дубліравала папярэднюю пастанову [ 19, арк. 12]. Але і гэтая пастанова не была выканана, што зафіксавалі ў лютым 1937 г. у трэцяй пастанове бюро ЦК КП(б)Б «Аб выкананні рашэнняў бюро ЦК КП(б) ад 29 красавіка 1935 г. і 21 чэрвеня 1936 г. аб музеях» [20, арк. 230].

У сваёй аснове трэцяя пастанова ўздымала тыя ж пытанні, што і дзве папярэднія — сістэму кіраўніцтва, кадраў, матэрыяльна-фінансавага забеспячэння. Але на гэты раз яны атрымалі іншую палітычную афарбоўку. Тон усёй пастанове задаваў першы сказ, дзе, у прыватнасці, мы чытаем: «...ідэйна-палітычны змест работы музеяў яшчэ не перабудаваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі партыі ў галіне прапаганды грамадзянскай гісторыі, гісторыі бальшавізму і сацыялістычнага будаўніцтва» [20, арк. 230]. Экспазіцыі ўсіх музеяў гісторыка-краязнаўчага профілю планавалася перабудаваць у адпаведнасці са зместам пастановы ЦК У КП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР». На бліжэйшую будучыню было намечана ліквідаваць Мінскі сацыяльна-гістарычны музей шляхам зліцця яго з Музеем рэвалюцыі і ўтварэння адзінага Цэнтральнага гісторыка-рэвалюцыйнага музея (гэта не было здзейснена). Усіх беспартыйных кіраўнікоў музеяў загадвалася замяніць камуністамі і камсамольцамі. Працаваць на пасадах навуковых супрацоўнікаў беспартыйныя маглі толькі пад пільным наглядам камуністаў.

На гэты раз партыйнае кіраўніцтва не абмежавалася цьмянымі абвінавачваннямі ў адрас Наркамасветы і Акадэміі навук БССР (з 1937 г. яна ўжо не ажыццяўляла навуковае кіраўніцтва музеямі, якія падпарадкоўваліся выключна Наркамасветы). «За сабатаж» выканання пастаноў ЦК быў зняты з пасады і расстраляны ў маі 1938 г. пасля паўгадавога зняволення ў турме дырэктар Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея С.М. Якубчык[1]. «За сувязь з трацкісцкімі тэрарыстамі» была звольнена дырэктар Віцебскага культурна-гістарычнага музея А.С. Рафаловіч, а ў адносінах да папярэдніка апошняй — Ю.Т. Шэўчыка, было распачата следства.

Рашэнні лютаўскай пастановы бюро ЦК КП(б)Б 1937 г. замацавала Усебеларуская нарада музейных супрацоўнікаў, якая праходзіла ў Мінску 25-26 лютага 1938 г.

Удзельнікі нарады аднагалосна прынялі пастанову аб перабудове экспазіцый усіх музеяў БССР адпаведна рашэнням ЦК УКП(б) аб пастаноўцы гістарычнай адукацыі. Былі вызначаны тэрміны — 20-я ўгодкі ўтварэння БССР Выкананне рашэнняў нарады абумовіла паралелізм у дзейнасці музеяў БССР, размыццё граней паміж профілямі музеяў, а ў шэрагу выпадкаў іх закрыццё [212, с.28]. Шэраг рашэнняў прынятых на нарадзе, тычыўся матэрыяльна-тэхнічнай дзейнасці музеяў, забеспячэння іх кваліфікаванымі кадрамі. Так, было вырашана абавязаць абласныя і раённыя савецкія ўлады фінансаваць дзейнасць сваіх музеяў, павысіць якасць захавання фондавых калекцый, павялічыць штатныя расклады, заробкі музейных работнікаў, стварыць пры Мінскім сацыяльна-гістарычным музеі кабінет музеязнаўства.

У адрозненне ад задач ідэалагічнага характару, задачы паляпшэння матэрыяльна-тэхнічнага і кадравага стану музеяў БССР, ухваленыя Усебеларускай нарадай 1938 г., выкананы не былі.

Гэткімі ж цяжкімі, як і для Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея, былі вынікі новай савецкай культурнай палітыкі для яго былых філіялаў у Віцебску, Магілёве і Гомелі.

У лютым 1930 г. спецыяльнай камісіяй, якая складалася з прадстаўнікоў рабоча-сялянскай інспекцыі, гарсавета, а таксама дырэктара Магілёўскага краязнаўчага музея У.Л. Вянюкова, адбылася праверка Віцебскага культурна-гістарычнага музея. Камісія канстатавала нізкі ідэалагічны ўзровень яго работы. Так, у побытавым аддзеле не дэманстравалася перамога калектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай, у антырэлігійным — прадметы культа не атрымалі антырэ-

[1] Так праз тры гады партыйнае кіраўніцтва БССР адпомсціла С.М. Якубчыку за крытычны ліст у рэдакцыю газеты «Праўда» пра стан музейнай справы ў рэспубліцы.

лігійнага тлумачэння, у мастацкім — не было ні аднаго малюнка з рэвалюцыйным сюжэтам. Аўтары экспазіцыі крытыкаваліся за дэманстрацыю чатырох выяў Ф. Скарынкі, «...разнастайных Цяпінскіх, Будных, Каліноўскіх» [193, с. 13].

Дырэктару музея Я. Л. Васілевічу была ўзгадала яго дзейнасць па арганізацыі беларускай гімназіі падчас нямецкай акупацыі, навуковым супрацоўнікам М.М. Дабравольнаму — служба афіцэрам у царскай арміі, В.В. Багародскаму — пасада рэдактара епархіяльных ведамасцей. Па выніках работы камісіі 11 лютага 1930 г. Віцебскі акруговы камітэт КГІ(б)Б прыняў пастанову, згодна якой увесь навуковы персанал музея быў звольнены [25, арк. 202]. Хутка пасля звальнення быў арыштаваны і сасланы ў Башкірыю ЯЛ. Васілевіч, дзе ён неўзабаве памёр. У 1938 г. расстралялі як ворага народа В.В. Багародскага.

Пасля выгнання спецыялістаў, з музеяў пачалі знікаць аўтэнтычныя помнікі — іх замянілі плакаты, фотаздымкі, макеты. 11 красавіка 1932 г., згодна пастанове сакратарыята віцебскага ГК КП(б)Б, Віцебскі культурна-гістарычны музей быў перайменаваны ў сацыяльна-гістарычны «з адлюстраваннем грамадскіх фармацый і рэвалюцый». [130, с. 130]. За выкананнем рашэнняў, выкладзеных у пастанове сакратарыята віцебскага ГК КГІ(б)Б, назіраў новы дырэктар, малады партыец С.Р. Шчуцкі, а таксама музейны савет, утвораны з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і рабочых. Вынікам іх дзейнасці было рэзкае скарачэнне фондавых калекцый (да 1938 г. агульная колькасць прадметаў зменшылася да 17 тыс. адзінак) і «поўны развал музейнай гаспадаркі» [I, арк. 2].

15 чэрвеня 1938 г. пасля доўгатэрміновай рэканструкцыі адкрылася новая экспазіцыя Віцебскага музея, якая складалася з трох аддзелаў: старажытная гісторыя, сярэдневяковая гісторыя, аддзел сацыялістычнага будаўніцтва і сталінскай Канстытуцыі. Апошні аддзел займаў найбольшую плошчу і ўяўляў візуальны варыянт «Кароткага курса УКП(б)». На асобных планшэтах залачоным цісненнем былі выведзены назвы глаў канстытуцыі. Адпаведна зместу экспазіцыі будавалася адукацыйна-асветніцкая (г. зн. прапагандысцкая) дзейнасць музея. Наведвальнікам прапаноўвалася праслухаць наступныя лекцыі: «Паўночная вайна 1700-1721 гг», «Айчынная вайна 1812 г.», «Нагляднrealistic ўрок гісторыі ад бітвы на Чудскім возеры да падзей каля возера Хасан». Спецыяльныя выстаўкі былі прысвечаны 70-годдзю Леніна і 60-годдзю Сталіна [65].

У маі 1940 г. у будынку Антоніеўскага касцёла адкрыўся філіял Віцебскага сацыяльна-гістарычнага музея — Антырэлігійны музей.

Падчас яго адкрыцця гледачы маглі ўбачыць толькі адзін аддзел пад назвай «Рэлігія і навука аб светаўтварэнні і чалавеку». Да канца 1940 г. планавалася адкрыць яшчэ тры аддзелы, якія называліся «Рэлігія ў класавым грамадстве», «Рэлігія на службе імперыялізму і контррэвалюцыйная роля яе ў СССР», «Будаўніцтва шчаслівага жыцця ў СССР без рэлігіі і папоў». У цэнтры касцёла стваральнікі новага музея ўмацавалі маятнік Фуко, як сведчанне абарачэння Зямлі.

На працягу 1940 г. рэканструяваны Віцебскі музей наведала 36,5 тыс. чалавек. Нам сёння цяжка сказаць, наколькі добраахвотным было рашэнне той ці іншай асобы аб наведванні музея. Але логіка станаўлення таталітарнага грамадства сведчыць, што менавіта ў гэты час была сфарміравана «добраахвотна-прымусовая» сістэма наведвання савецкіх музеяў, працаваўшая ў больш мяккай форме яшчэ ў 80-я гады XX ст.

У 1932 г. дырэктар Магілёўскага краязнаўчага музея У.Л. Вянюкоў пераехаў у Мінск. Падчас кароткатэрміновага выканання абавязкаў дырэктара І.Х. Юшчанка, у 1933 г. па загаду мясцовага партыйнага кіраўніцтва музей адміністрацыйна выселілі з будынка Сялянскага банка (нагадаем, лепшага ў горадзе). З дапамогай міліцыі і студэнтаў фондавыя калекцыі і разманціраваную экспазіцыю са значнымі стратамі за 24 гадзіны перавезлі ў невялікі, непрыстасаваны будынак па вул. Леніна. Праз непрацяглы час там была разгорнута экспазіцыя па гісторыі савецкага грамадства. Прадметы з каштоўных металаў і камянёў (у тым ліку крыж Еўфрасінні Полацкай) засталіся ў браніраваным пакоі-сейфе банкаўскага будынка пад наглядам яго новага гаспадара — магілёўскага акругкама КПб)Б [31, арк. 42].

У студзені 1934 г. на пасаду дырэктара музея быў прызначаны 32-гадовы архіварыус партархіва ЦК КП(б)Б І.С. Мігулін, які кіраваў музеем да чэрвеня 1941 г. Ва ўмовах жорсткага ідэалагічнага дыктату і адсутнасці адпаведнага экспазіцыйнага памяшкання ён сканцэнтраваў сваю ўвагу на выставачнай дзейнасці, а таксама на ахове нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны. Так, у 1934 г. ён спрабаваў уратаваць ад разбурэння Іосіфаўскую царкву, стварыўшы там філіял музея — Музей гісторыі рэлігіі і атэізму. У гэтым філіяле акрамя прадметаў па гісторыі хрысціянства ў Беларусі дэманстраваліся археалагічная і палеанталагічная (у тым ліку адзіны ў БССР шкілет мамантa) калекцыі. Праз два гады ім быў створаны яшчэ адзін філіял у доме, дзе ў 1919 г. жыў і працаваў член рэўваенсавета 16-й арміі Заходняга фронту С. Арджанікідзе.

У 1938 г. музейныя калекцыі Іосіфаўнай царквы перавезлі ў будынак закрытай сінагогі, бо паводле распараджэння в.а. першага

сакратара ЦК КП(б)Б А.А. Волкава, гэта царква ў гэтым жа годзе была ўзарвана[1]. Затым музейныя калекцыі перапаравілі ў струхнелы будынак летняга цырка. Урэшце каля 7 тыс. прадметаў, што складала прыкладна 25% ад колішніх фондаў, перавезлі ў капліцу на Успенскіх могілках. [31, арк. 45]. Калекцыі, што знаходзіліся ў будынку па вул. Леніна, згарэлі летам 1941 г. Месцазнаходжанне каштоўнасцей з пакоя-сейфа, у тым ліку крыжа Еўфрасінні Полацкай, невядома.

Пастановай ЦК КП(б)Б ад 28 ліпеня 1937 г. было вырашана закрыць Гомельскі гістарычны музей, які з-за спецыфікі сваіх калекцый не мог выконваць прапагандысцкія функцыі. У палацы Паскевічаў было вырашана адкрыць палац піянераў. І толькі выпадковая рэпліка пра неабходнасць берагчы сабранае, кінутая К.Я. Варашылавым падчас агляду палаца, уратавала каштоўны збор. Аднак палац піянераў у будынку ўсё ж быў адкрыты [21, арк. 54].

Як частку дзяржаўнай палітыкі трэба разглядаць і продаж мастацкіх, а таксама гістарычных помнікаў, які даваў валютныя сродкі для вырашэння эканамічных задач. Знікалі шэдэўры еўрапейскіх майстроў, мэбля, ювелірныя вырабы, рэлігійныя помнікі, старадрукі і рукапісы. Прадавалі каштоўнасці з буйнейшых музеяў былога СССР, у тым ліку Эрмітажа, Рускага музея, Кіеўскага музея заходняга і ўсходняга мастацтва. На жаль, такое здарылася і ў БССР.

Першая партыя «экспартнага тавару» складалася са 132 прадметаў (сеўрскі і венскі фарфор, дробная пластыка, у тым ліку венецыянская шкатулка XV ст., посуд эпохі барока, старажытныя музычныя інструменты, гравюры) і была адпраўлена з Мінска ў Маскву ў чэрвені 1922 г. [49, арк. 46].

Пачынаючы з 1929 г. падборам і вывазам музейных рэчаў за мяжу займалася экспартна-імпартная кантора «Дзяржгандбел», якая выконвала загады ўсесаюзнага аб'яднання па экспарту «Антыкварыят». Яе першай ахвярай стаў БДМ, дзе ў 1928 г., нягледзячы на супраціўленне С.М. Некрашэвіча і В.Ю. Ластоўскага, канфіскавалі шэраг праваслаўных абразоў, якія зацікавілі заходніх калекцыянераў. Трохі пазней гэткім жа шляхам з фондаў музея зніклі карціны М.М. Антакольскага, Ю.М. Пэна, Я.М. Кругера і іншых вядомых мастакоў. У наступным годзе вываз музейных рэчаў з Беларусі дасягнуў такога

[1] С. Мігулін энергічна пратэставаў супраць зносу Кафедральнага сабора (помніка архітэктуры другой пал. XVIII ст., які знаходзіўся над аховай дзяржавы). Пасля яго ліста ў рэдакцыю газеты «Праўда» ў Магілёў з Мінска прыбыла камісія па чале з прэзідэнтам АН БССР К.В. Горавым, якая фактычна санкцыяніравала гэты беззаконны акт. У адчаі, калі ўсё ўжо было падрыхтавана да выбуху, І.С. Мігулін адмовіўся пакінуць будынак і быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС. Фондавыя калекцыі музея, выкінутыя па вуліцу, па працягу некалькіх дзён рабаваліся ўсімі жадаючымі. Сам Мігулін цудам пазбегнуў пакарання — праз два тыдні пасля арышту ў Магілёў прыйшоў адказ на яго чарговую скаргу В.М. Молатава дзе апошні асуджаў знос помніка.

ўзроўню, што ўзнікла неабходнасць стварыць у Мінску экспартны музейны фонд і экспартную камісію, куды ўваходзілі прадстаўнікі дзяржгандлю, Цэнтральнага бюро краязнаўства і БДМ [60, арк. 257].

Але тэмпы і аб'ёмы канфіскацый, відаць, не здавальнялі партыйнае кіраўніцтва.Таму ў канцы 1931 г. у БССР быў камандзіраваны прадстаўнік «Антыкварыяту» А. Брук, які ажыццявіў буйнейшую рэквізіцыю. Ён аб'ехаў усе музеі сістэмы Наркамасветы, адкуль вывез сотні каштоўных помнікаў гісторыі і мастацтва — дрэварыты Дзюрэра, фламандскія габелены, нямецкія сярэдневяковыя вырабы з серабра, слуцкія залататканыя паясы і інш [51, арк. 7-17].

Такім чынам, наш аналіз дзейнасці Беларускага дзяржаўнага музея ў 1920-1930-я гг. супярэчыць з традыцыйнымі поглядамі, што склаліся ў беларускай гістарыяграфіі культуры на яго гісторыю як на паступальны працэс развіцця, перапынены пачаткам Вялікай Айчыннай вайны. Гісторыю БДМ трэба падзяляць на два этапы. Першы этап (1923-1929 гг.) характарызаваўся інтэнсіўным развіццём музея як галоўнага цэнтра ў БССР па канцэнтрацыі, вывучэнні і папулярызацыі нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Другі этап (1930-1941 гг.) быў часам запаволенага развіцця музея і фактычным спыненнем яго дзейнасці напярэдадні вайны, што тлумачылася пазбаўленнем уласнага памяшкання, сыходам найбольш кваліфікаваных супрацоўнікаў, вывазам за мяжу сотняў каштоўных экспанатаў.

* * *

На мяжы 1920-1930-х гг. сетка дзяржаўных музеяў СССР складалася не толькі з музеяў сістэмы Наркамасветы. Яе істотнай часткай з'яўляліся музеі розных наркаматаў, арганізацый і ведамстваў. Наркамасветы не імкнуўся сабраць гэтыя музеі пад сваё цэнтралізаванае кіраўніцтва. Для гэтага не хапала сродкаў. Свой уплыў на музеі іншых ведамстваў Наркамасветы спрабаваў ажыццяўляць шляхам метадычнага кіраўніцтва, а таксама стварэння міжведамасных органаў. Так, пастановай СНК БССР ад 14 кастрычніка 1932 г., прынятай паводле маскоўскага узору, пры сектары навукі Наркамасветы была ўтворана міжведамасная музейная камісія з прадстаўнікоў наркаматаў лёгкай прамысловасці, лясной прамысловасці, цяжкай прамысловасці, шляхоў зносін, забеспячэння, а таксама Белкалгасцэнтра і ЦК ЛКСМБ. На жаль, далей абвяшчэння справа не пайшла, і юрыдычнае існаванне камісіі ніяк не паўплывала на паляпшэнне існуючай практыкі.

Звернемся да фактычнага матэрыялу пра ведамасныя музеі, створаныя ў разглядаемы перыяд.

Новай з'явай у развіцці музейнай справы СССР было стварэнне музеяў, прысвечаных палітычнай гісторыі. Знаходзячыся ў сістэме Гістпарта, гэтыя музеі ствараліся перш за ўсё з мэтай прапаганды бальшавіцкай ідэалогіі. Яны з'яўляліся таксама важнымі цэнтрамі па выяўленні і вывучэнні першакрыніц па гісторыі рэвалюцыйнага руху.

Першы падобны музей у БССР быў створаны ў Мінску, калі пастановай ад 19 студзеня 1923 г. ЦВК БССР нацыяналізаваў дом № 135 па вуд. Савецкай, дзе адбыўся I з'езд РСДРП [34, арк. 174]. У дзень адкрыцця музея, прымеркаванага да 25-годдзя правядзення з'езда, адбыўся мітынг з удзелам аднаго з дэлегатаў з'езда — Б.Л. Эйдэльмана. Пасля мітынгу над домам быў узняты чырвоны сцяг, і першыя наведвальнікі змаглі агледзець экспазіцыю. Яна мела мемарыяльны характар і паказала абстаноўку, у якой праходзілі пасяджэнні з'езда ў сакавіку 1898 г. [72]

Задачу супрацоўнікаў Гістпарта, ствараўшых экспазіцыю у рэкордна кароткія тэрміны (два месяцы), ускладняла амаль поўная адсутнасць аўтэнтычных прадметаў — з 1898 г. у доме змянілася шмат гаспадароў. Невялікая колькасць уласных рэчаў, што былі перададзены Гістпарту П.В. Румянцавым, які пражываў у доме падчас правядзення з'езда, не вырашала праблему кардынальным чынам. У значнай ступені дзякуючы кансультацыям П.В. Румянцава інтэр'ер пакояў быў узноўлены максімальна блізка да гістарычнай рэальнасці.

Падчас правядзення падрыхтоўчых работ па мемарыялізацыі дома, дзе праходзіў I з'езд, супрацоўнікі Гістпарта звярнуліся ў ЦК КП(б)Б з прапановай аб арганізацыі Музея рэвалюцыі БССР ў Мінску. Прайшло два гады, перш чым вышэйшае партыйнае і савецкае кіраўніцтва дало станоўчы адказ. З кастрычніка 1925 г. на пасяджэнні СНК БССР было вырашана выдаць неабходную суму для будаўніцтва будучага музея [38, арк. 5]. Першапачаткова для яго размяшчэння планавалася ўзвесці спецыяльны будынак побач з Домам-музеем I з'езда РСДРП. Але пазней вялікі кошт праекта вымусіў ад яго адмовіцца і абмежавацца прыстасаваннем пад экспазіцыйныя залы пакояў невялікага двухпавярховага дома па вул. Урыцкага, 4.

Па выніках падрыхтоўчай дзейнасці супрацоўнікі Гістпарта правялі выстаўку сабраных матэрыялаў, на аснове якой 2 мая 1926 г. і адбылося ўрачыстае адкрыццё Музея рэвалюцыі БССР. Газета «Звязда» наступным чынам апісвала гэтую падзею:

«На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі партыйных, прафсаюзных і савецкіх арганізацый, рабочыя мінскіх заводаў і прадстаўнікі

вайсковых частак. Урачысты мітынг у двары музея адкрыў заг. Гістпарта т. Агурскі. У прывітальнай прамове т. Крыніцкі[1] агучыў тэлеграму аб страйку англійскіх рудакопаў, што выклікала вялікі энтузіязм сярод прыйшоўшых.

Далей т. Крыніцкі спыніўся на вялікай ролі музея ў нашых беларускіх умовах. У Беларусі былі асабліва развітыя шматлікія палітычныя групоўкі: бунд, паолей-цыон, сацыял-дэмакраты, сацыял-рэвалюцыянеры і г.д. Без вывучэння гэтых партый мы не можам дэтальна вывучаць гісторыю нашай партыі. Камсамол, шырокія рабочыя масы атрымаюць у музеі веды, неабходныя для нашай далейшай барацьбы і творчай работы па пабудове сацыялізма.[2]

т. Адамовіч[3] у сваёй прамове спыніўся на вялікіх цяжкасцях, з якімі сутыкнуліся пры арганізацыі музея. Мы маем вельмі багаты матэрыял па гісторыі рэвалюцыі ў Беларусі, асабліва ў гады імперыялістычнай і грамадзянскай войн. Але гэты матэрыял раскіданы і часткова страчаны.

Сабраць яго, сканцэнтраваць, пазнаёміць з ім шырокія масы — пачэсная, высакародная задача...» [72].

Экспазіцыя новага музея будавалася па ўзоры Цэнтральнага музея рэвалюціі ў Маскве і ў асноўным уключала копіі матэрыялаў па рэвалюцыйным руху ў Расіі ад дзекабрыстаў да сацыялістычнага будаўніцтва - партрэты, карціны, фота, газеты, улёткі, кнігі, рукапісы. Але быў і беларускі аддзел, які меў арыгінальныя дакументы па дзейнасці народні каў, Бунда, нацыянальных сацыялістычных арганізацый, камплекты газет, якія выходзілі ў беларускіх гарадах ў 1917-1921 г., і іншыя каштоўныя помнікі палітычнай гісторыі.

На пасяджэнні 22 мая 1926 г. прэзідыум ЦВК БССР прыняў рашэнне аб уключэнні выдаткаў па ўтрыманні Музея рэвалюцыі ў свой каштарыс. Быў зацверджаны штат музея, які складаўся з дырэктара, двух навуковых супрацоўнікаў і чатырох тэхнічных супрацоўнікаў. Першым дырэктарам стаў удзельнік рэвалюцыі 1905 г., вядомы дзеяч Бунда, загадчык Гістпарта С.Х. Агурскі [48, арк. 120].

Другая палова 1920-х гг. была перыядам росту музея: актыўнага назапашвання фондавых матэрыялаў, пашырэння прапагандысцкай работы. З 1926 па 1931 г. колькасць фондаў павялічылася амаль удвая, з 4333 да 8020 адзінак. Спецыфіка складу фондаў была ў тым,

---

[1] Крыніцкі А.І. — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З верасня 1924 па май 1927 г. у БССР, займаў пасады сакратара, а са снежня 1925 г. — І-га сакратара ЦК КП(б)Б.

[2] За два месяцы да свайго выступлення на адкрыцці музея А.І. Крыніцкі настаяў на прыняцці пастановы ЦК КП(б)Б «Аб рабоце сярод інтэлігенцыі». Сутнасць яе была ў «выцясненні» з актыву КП(б)Б былых удзельнікаў непралетарскіх партый (БПСР, БУНДа і інш.), якое заканчвалася выключэннем з партыі і арыштамі.

[3] Адамовіч Я.А. — дзяржаўны дзеяч БССР, у 1924-1927 гг. старшыня СНК БССР.

што з 8 020 адзінак рэчавых і мастацкіх матэрыялаў было толькі 215, астатнія - дакументы, фотаздымкі і друкаваныя матэрыялы. Відавочны быў таксама рост наведвальнікаў. Калі ў 1926 г. музей наведвала ў сярэднім 800 чалавек у месяц, то ў 1930 г. — 2 000 чалавек. Адпаведна павялічыўся штат, дасягнуўшы 15 чалавек. [37, арк. 144-166].

4 чэрвеня 1929 г. выйшла пастанова калегіі Гістпарта ЦК КП(б)Б «Аб пастаноўцы работы Музея рэвалюцыі БССР», дзе музей вызначаўся як «навуковая ўстанова агітацыйна-асветнага характару» [28, арк. 150]. Але словы «навука» і «асветніцтва» ў гэтым вызначэнні былі хутчэй данінай сыходзячаму ліберальнаму часу. Пра гэта сведчаць радкі пастановы, дзе вызначалася місія музея, а менавіта: «...выяўленне гісторыі рэвалюцыйнага руху і гісторыі партыі бальшавікоў перад шырокімі рабоча-сялянскімі масамі ў найбольш даступнай іх разуменню форме». [28, арк. 150]. У гэтай фразе мы знаходзім яшчэ адзін характэрны падыход, які на доўгі час быў пакладзены ў аснову ўзаемаадносін паміж навуковым персаналам савецкіх музеяў і публікай. У сцісльм выглядзе гэты падыход можна сфармуляваць як «мы (навуковыя супрацоўнікі) — знаўцы, манапалісты на ісціну, а вы (наведвальнікі) — прафаны, пасіўна ўспрымаючыя на веру любую інфармацыю».

5 снежня 1931 г. прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў палажэнне аб Музеі рэвалюцыі БССР, дзе былі вызначаны яго структура, сістэма кіраўніцтва і фінансавання. З гэтага часу музей складаўся з чатырох сектараў: масавай работы, навукова-музейнага, архіўна-бібліятэчнага, арганізацыйна-адміністрацыйнага. Адміністрацыя складалася з дырэктара[1], намесніка па навукова-музейнай частцы, загадчыка адміністрацыйна-гаспадарчай часткі і сакратара.

Самастойнасць кіраўніцтва музея ў значнай ступені абмяжоўвалася грамадскім саветам, які існаваў пры дырэктары і складаўся з прадстаўнікоў ЦК КП(б)Б, Інстытута гісторыі партыі, Беларускай Акадэміі навук, Цэнтральнага бюро краязнаўства, Наркамасветы, Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення, Цэнтральнага архіўнага кіраўніцтва, рэдакцыі газеты «Звязда», Цэнтральнага савета прафсаюзаў, а таксама рабочых з трох буйнейшых прадпрыемстваў горада. Савету былі нададзены даволі шырокія паўнамоцтвы. Ён ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва навуковай і палітычна-асветнай работай музея, разглядаў яго планы, кантраляваў методыку пабудовы экспазіцый і правядзення экскурсій, зацвярджаў гадавыя справаздачы [36, арк.

[1] За кароткі пятнаццацігадовы перыяд існавання музея пераемнікамі С.Х. Агурскага былі Мікалай Шапавалаў, Іосіф Раманчук, Ашараў, Леон Майзель, Мікалай Кушнерак Арцём Данільчык, Мікалай Гракаў, Гдалій Сокальскі.

101]. Судзячы па складу савета (у прыватнасці, знаходжанне ў ім прадстаўніка Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення), ён выконваў хутчэй кантралюючыя, а не дарадчыя функцыі, перашкаджаючы рабоце навуковага калектыву.

На працягу 1930-х гг. Музей рэвалюцыі БССР перыядычна падпадаў пад жорсткую крытыку вышэйшага рэспубліканскага кіраўніцтва, перш за ўсё за экспазіцыйны паказ гістарычных падзей, якія навуковыя супрацоўнікі не паспявалі падладжваць пад змены палітычнай кан'юнктуры.

Так, у верасні 1931 г. прэзідыум ЦВК на сваім пасяджэнні прыйшоў да высновы, што галоўным недахопам у рабоце музея з'яўляецца «...недастатковае выяўленне ролі бальшавізму і гісторыі класавай барацьбы на Беларусі, абмежаванасць экспазіцыі музея перыядам грамадзянскай вайны і амаль поўная адсутнасць матэрыялаў перыяду сацыялістычнага будаўніцтва (1921-1931)» [35, арк. 93]. На тым жа пасяджэнні было вырашана на працягу 1932 г. правесці рэарганізацыю ўсёй экспазіцыі, пасля чаго зніклі нават згадкі пра існаванне небальшавіцкіх палітычных партый.

У 1935 г. музей наведала камісія з Інстытута гісторыі партыі, якая выявіла «шэраг палітычных памылак, фальсіфікацыю матэрыялаў у экспазіцыі, неапрацаванасць архіўных дакументаў». «Палітычнымі памылкамі і фальсіфікацыяй» члены камісіі назвалі экспанаванне партрэта і асабістых рэчаў рэпрэсіраванага вядомага савецкага военачальніка Г.Д. Гая, групавога фотаздымка са сцягам на заднім плане з надпісам «Бунд», партрэта гісторыка партыі У.І. Неўскага, абвінавачанага ў трацкізме, і г.д.

Вынікі работы камісіі каштавалі жыцця некалькім супрацоўнікам музея. Увосень 1935 г. па абвінавачанню ў трацкізме былі арыштаваныя і асуджаныя адпаведна да пяці і трох гадоў папраўча-працоўных лагераў дырэктар А.А. Данільчык і навуковы супрацоўнік М.Ф. Кійко (абодва загінулі). Палітычныя памылкі падчас правядзення экскурсій каштавалі трох з паловай гадоў лагераў навуковаму супрацоўніку С.Г. Розінай.

Пасля чысткі 1935 г. Музей рэвалюцыі БССР канчакова губляе сваё значэнне як цэнтр вывучэння і папулярызацыі палітычнай гісторыі Беларусі. У ліпені 1938 г. быў ліквідаваны Гістпарт, а летам 1939 г. музей пераводзяць у адзін з будынкаў Акадэміі навук БССР — у непрыстасаванае для музейнай эксплуатацыі памяшканне агульнай плошчай у 110 кв. метраў. Там была разгорнута экспазіцыя, структураваная па главах «Кароткага курса...», якая не карысталася папулярнасцю. За першае паўгоддзе 1940 г. яе наведала I 889 чалавек

(параўнай з 1930 г.) [29, арк. 15]. Там музей спыніў сваё існаванне ў 1941 г.

Камісія Інстытута гісторыі партыі ў 1935 г. аглядала не толькі Музей рэвалюцыі БССР але і яго філіял — Дом-музей I з'езда РСДРП. Там таксама былі знойдзены недахопы з-за адсутнасці паказу ролі Леніна-Сталіна як стваральнікаў партыі, іскраўскага перыяду дзейнасці бальшавікоў, барацьбы бальшавікоў з народнікамі. Для выпраўлення гэтых памылак у выглядзе рээксгіазіцыі спатрэбілася каля двух гадоў. Калі 12 красавіка 1937 г. Дом-музей I з'езда зноў адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў, апошнія былі шчыра здзіўлены адсутнасцю прадметаў інтэр'ера, у якім праходзіў з'езд. Іх замянілі стэнды з прапагандысцкімі матэрыяламі па гісторыі РСДРП(б) [162]. Як і Музей рэвалюцыі БССР Дом-музей I з'езда РСДРП быў знішчаны ў 1941 г.

Ёсць фрагментарныя звесткі пра існаванне ў другой палове 1920-х гг. у Мінску ў Доме камуністычнай асветы яшчэ аднаго музея палітычнай гісторыі — Таварыства паліткатаржан і ссыльных перасяленцаў [66, с. 22; с. 198]. На жаль, яны не даюць магчымасці прыгадаць ні імёны яго стваральнікаў, ні склад фондавых калекцый. Але цяжка дапусціць нават думку пра яго існаванне пасля 1930 г.

Інстытут беларускай культуры — буйнейшая навуковая ўстанова БССР — меў права ствараць свае бібліятэкі, архівы і музеі згодна са статутам, распрацаваным у 1921 г. [64, с. 33]. Ужо з першых дзён існавання інстытута пад кіраўніцтвам С.М. Некрашэвіча шэраг яго камісій распачаў інтэнсіўны збор матэрыялаў, у выніку чаго былі хутка створаны каштоўныя этнаграфічныя, заалагічныя, геалагічныя калекцыі, роўныя па значэнні самастойным музеям.

У 1925 г. тут пачынае дзейнічаць Музей прыроды, экспазіцыя якога складалася з трох аддзелаў: заалогіі, батанікі і глеб. У сувязі з немагчымасцю раўнамернага развіцця гэтых збораў у рамках аднаго музея было вырашана ўтварыць на базе аддзелаў самастойныя музеі. 7 лістапада 1927 г. на першым паверсе мінскай архірэйскай царквы адкрыўся Заалагічны музей Інбелкульта. Ён складаўся з двух аддзелаў: навуковага, дзе захоўваліся калекцыі для вывучэння фауны Беларусі, і выставачнага, у склад якога ўваходзілі сістэматычныя экспазіцыі і біягрупы, даступныя шырокаму наведвальніку [165, с. 79].

Нягледзячы на маленькі штат, які складаўся з дырэктара, навуковага супрацоўніка, таксідэрміста і тэхнічнага супрацоўніка, музей хутка набыў статус цэнтральнай установы ў галіне вывучэння і распаўсюджвання ведаў пра свет жывёл. За першыя паўтара месяца існавання музея яго наведала каля 5 тыс. чалавек, пераважна наву-

чэнцы школ Мінска і навакольных вёсак [165, с. 82]. Вялікую цікавасць у іх выклікала чучала зубра, якога ў той час немагчыма было ўбачыць жывым. Згодна задуме стваральнікаў, прэстыж музея павінен быў значна павысіцца пасля адкрыцця пры ім заапарка [ 117, с. 202].

У 1928 г. з аддзела глеб музея прыроды Інбелкульта намаганнямі кіраўніка геалагічнай экспедыцыі прафесара Б.К. Тэрлецкага ў будынку Сельскагаспадарчага даследчага інстытута ў Мінску быў створаны Геалагічны музей. Там наведвальнікі маглі азнаёміцца з «...узорамі зямных парод і карысных выкапняў Беларусі» [ 118, с. 234].

Як самастойныя падраздзяленні ў Інбелкульт уваходзілі археалагічны і антрапалагічны кабінеты, што ўзніклі ў выніку актыўнай экспедыцыйнай дзейнасці гэтай установы. Па ініцыятыве секцыі мастацтва інстытута, якую ўзначальваў Я.Л. Дыла, у 1925 г. у Мінску была праведзена І Усебеларуская мастацкая выстава. А праз тры гады секцыя распачала работы па стварэнні асобнага музея беларускага мастацтва [97, с. 52].

Шырокай падтрымкай грамадства карысталася праца тэатральнай падсекцыі Інбелкульта па стварэнні Тэатральнага музея. У 1926-1928 гг. яго фонды атрымалі ад В. Ластоўскага архіў тэатра І. Буйніцкага, ад У. Галубка — архіў яго ўласнай трупы, ад М. Ільінскага — матэрыялы пра жыццё і творчасць Ф. Аляхновіча [87, с. 89]. Абяцалі таксама передаць свае зборы Б.І. Эпімах-Шыпіла, акцёр Антук Крыніца (брат Фларыяна Ждановіча), Паўліна Мядзёлка [ 115, с. 200]. Не менш каштоўнымі паступленнямі Тэатральны музей узбагачаўся за кошт трывалых сувязей з мясцовымі краязнаўчымі таварыствамі. Члены тэатральнай падсекцыі распрацавалі вельмі цікавую структуру музея, якая ахоплівала ўсе перыяды існавання беларускага тэатра.

1). Беларускія пацешнікі (скамарохі); 2) Народныя паказы гадавога круга; 3) Беларускія царкоўныя містэрыі і інтэрмедыі школьнай драмы; 4) Батлейка; 5) Беларускі тэатр часоў Дуніна-Марцінкевіча і тэатр пры панскіх дварах часоў прыгону; 6) Беларускі тэатр часоў «Нашай нівы»; 7) Беларускі тэатр часоў «Першага таварыства драмы і камедыі»; 8) Сучасныя прафесіянальныя і самадзейныя тэатры на этнічных землях Беларусі [87, с. 79].

Тэатральны музей знаходзіўся яшчэ ў стадыі фарміравання, калі ў 1930 г. прэзідыум толькі што ўтворанай Беларускай Акадэміі навук, у распараджэнне якой перайшлі ўсе музеі і зборы Інбелкульта, пастанавіў перадаць яго зборы, за выключэннем этнаграфічных, Таварыству дрампісьменнікаў і кампазітараў [120, с. 169].

Вялікую навуковую каштоўнасць меў музей сельскай і лясной гаспадаркі, адкрыты ў 1928 г. у аднайменным навукова-даследчым інстытуце ў Мінску пры актыўнай падтрымцы членаў Інбелкульта.

У 1928 г. для патрэб Інбелкульта праектавалася пабудова спецыяльнага будынка. Згодна праекта, ён павінен быў складацца з трох корпусаў: 1) для прэзідыума, кабінетаў даследчыкаў, бібліятэкі; 2) для лабараторый; 3) для музеяў [119, с. 179]. Застаецца толькі шкадаваць, што гэты праект не быў рэалізаваны, таму што ў большасці выпадкаў развіццё музеяў Інбелкульта тармазілася адсутнасцю памяшканняў.

Згодна з пастановай СНК БССР ад 3 чэрвеня 1931 г., кіраўніцтва дзейнасцю ўсіх навукова-даследчых устаноў, у тым ліку музеяў былога Інбелкульта, ускладалася на прэзідыум'Беларускай Акадэміі навук. Ва ўмовах таталітарнага наступу на «непралетарскія» нацыянальныя культуры гэта падзея мела найгоршыя вынікі. Згодна з рашэннем І Усерасійскага музейнага з'езда, які адбыўся ў Маскве ў 1930 г., калекцыі акадэмічных музеяў трэба было выкарыстоўваць перш за ўсё не ў навуковых, а ў палітасветніцкіх мэтах. На практыцы гэта азначала адмаўленне ў праве на існаванне музеяў навуковага тыпу. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць загад прэзідыума Беларускай Акадэміі навук супрацоўнікам Інстытута гісторыі «...прыступіць да збору матэрыялаў» для арганізацыі гістарычна-мастацкага і этнаграфічнага музеяў. Такім чынам, амаль дзесяцігадовая аналагічная дзейнасць Інбелкульта не бралася пад увагу [120, с. 169]. Трэба канстатаваць, што музейныя зборы Інбелкульта, якія перайшлі ва ўласнасць Беларускай Акадэміі навук, не атрымалі далейшага развіцця.

Ацэньваючы музейную палітыку Інбелкульта трэба адзначыць яе непаслядоўнасць. Так, напачатку 1925 г., калі на Інбелкульт усклалі паўнамоцтвы па ахове помнікаў старажытнасці, прыроды і мастацтва было ўзнята пытанне аб перадачы пад кіраўніцтва гэтай установы ўсіх музеяў рэспублікі [114, с. 166]. Гэтую ініцыятыву, якая прагучала ў кантэксце дзяржаўнай праграмы аб'яднання ўсіх музеяў рэспублікі ў адзіную сістэму, трэба ацэньваць як, безумоўна, станоўчую. Аб'яднанне кіраўніцтва музеямі ў вышэйшай навукова-даследчай установе БССР адлюстроўвала ўяўленне навуковай грамадскасці 1920-х гг. пра музеі як навуковыя цэнтры, якія праводзяць на базе сваіх даследаванняў асветніцкую работу[1].

---

[1] Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць нядзейснены (на сённяшні дзень) праект стварэння на базе мастацкіх аддзелаў БДМ і яго аддзяленняў Музея беларускага мастацтва, прапанаваны ў сакавіку 1925 г. навуковым сакратаром Мастацкай секцыі Інбелкульта М.М. Шчакаціхіным. Гл.: Чэбан І. Мікалай Шчакаціхін і стварэнне нацыянальнага беларускага музея // Беларускі гістарычны часопіс. — 1996. — № 4. — С. 91-96.

Ужо 9 сакавіка 1927 г., рыхтуючыся да рэарганізацыі, сакратарыят Інбелкульта ўхваліў пастанову, якая прапаноўвала «...усім сэкцыям і камісіям ІБК, у якіх ёсць музэйныя рэчы, правесьці іх інвэнтарызацыю і перадаць у БДМ» [44, арк. 13]. Гэтая пастанова, як і папярэдняя ініцыятыва, не была выканана. З аднаго боку, стваральнікі музеяў Інбелкульта не жадалі губляць вынікі сваёй шматгадовай збіральніцкай працы. З другога — колькасць навуковых супрацоўнікаў, іх навуковая кваліфікацыя і, урэшце, матэрыяльна-тэхнічная база БДМ не дазвалялі «праглынуць» музеі Інбелкульта.

Асобнае месца сярод ведамасных музеяў займалі музеі вышэйшых навучальных устаноў. Некаторыя з іх не толькі саступалі, але пераўзыходзілі музеі сістэмы Наркамасветы па багацці фондавых калекцый і якасці адукацыйнай дзейнасці. Гэты феномен тлумачыўся не толькі высокім навуковым узроўнем прафесараў і энтузіязмам студэнтаў, але і глыбокай гістарычнай традыцыяй дзейнасці музеяў дадзенай групы.

Адзін з такіх музеяў быў заснаваны ў снежні 1921 г. на кафедры заалогіі педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Каля яго вытокаў стаяў выпускнік Маскоўскага універсітэта А.У. Фядзюшын, запрошаны ў Мінск для арганізацыі вучэбнага працэсу ў ствараемым універсітэце. Ён уласнаручна заклаў аснову фондавых калекцый падчас трох экспедыцый — у Бабруйскі павет (1921 г.), па рэчышчы р. Пціч (1923 г.) і ў Віцебскую губерню (1924 г.). У іх выніку былі сабраны тысячы ўзораў беларускай фауны, прэпараваць, сістэматызаваць і вывучаць якія А.У. Фядзюшыну дапамагалі студэнты.

Больш тысячы узораў марскіх жывёл было дастаўлена пасля паездкі на Мурманскую біястанцыю, у выніку перапіскі ў музей даставілі ўзоры некаторых экзатычных жывёл з Мексікі і Індыі, з Заалагічнага музея АН СССР у якасці падарунка былі атрыманы такія каштоўныя экспанаты, як аўстралійскі казуар, серыя калібры і інш. [52, арк. 73].

У 1927 г. А.У. Фядзюшын быў абраны сапраўдным членам Маскоўскага таварыства выпрабавальнікаў прыроды і яму было нададзена званне прафесара. Адначасова яго прызначаюць загадчыкам кафедры заалогіі і заалагічнага музея. Падобнае сумяшчэнне пасад забяспечвала музей высокакваліфікаванымі кадрамі — выкладчыкамі кафедры, што спрыяла яго хуткаму развіццю як навуковай і адукацыйнай установы. У гэты ж перыяд пры кафедры быў створаны метадычны кабінет з жывым кутком.

Хуткае развіццё Заалагічнага музея БДУ спынілася ў 1933 г., калі пры пашпартызацыі жыхароў БССР А. У. Фядзюшыну і яго

жонцы было адмоўлена ў выдачы пашпартоў, пасля чаго яны пакінулі Мінск. Новы загадчык кафедры І.Г. Собалеў не надаваў значэння музею як навуковай установе і яго калекцыі выкарыстоўваліся пераважна падчас выкладання. Адзінае паступленне вялікай колькасці экспанатаў гэтага часу датуецца 1939 г., калі з сядзіб, нацыяналізаваных у Заходняй Беларусі (у тым ліку з Нясвіжскага замка), былі дастаўлены паляўнічыя трафеі. У другой палове 1930-х гг. усе работы ў Заалагічным музеі БДУ выконваў пераважна адзін чалавек — таленавіты прэпаратар-таксідэрміст А.К. Ціток, дзейнасць якога была накіравана пераважна на захаванне калекцый.

Акрамя Заалагічнага музея на некаторых іншых факультэтах БДУ ў даваенны перыяд існавалі сціплыя па памерах «кабінеты» глебазнаўства, батанікі, першабытнай культуры (апошні ў 1940 г. перайменаваны ў гісторыка-археалагічны музей). Намаганнямі навуковай грамадскасці развіваліся вучэбныя музеі іншых вышэйшых навучальных устаноў — Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, Віцебскага ветэрынарнага інстытута і інш.

Важная падзея ў музейным і мастацкім жыцці БССР адбылася 24 студзеня 1939 г., калі СНК БССР ухваліў пастанову аб стварэнні ў Мінску Дзяржаўнай мастацкай галерэі [22, арк. 93]. Нагадаем, што прапановы аб стварэнні падобнай установы ўзнікалі перыядычна на працягу ўсяго разглядаемага перыяду і сыходзілі ад супрацоўнікаў Наркамасветы, Інбелкульта, Беларускай асацыяцыі мастакоў. Але справа зрушылася з месца толькі пасля стварэння Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР

Да гэтага ў БССР ужо быў вопыт стварэння экспазіцый твораў мастацтва. У 1925, 1927 і 1929 гг. у Мінску з поспехам прайшлі тры ўсебеларускія мастацкія выстаўкі. Усебеларуская выстаўка карцін, графікі, скульптуры і архітэктуры адбылася ў жніўні 1930 г. у БДМ. 29 снежня 1936 г. ва ўрачыстых абставінах адкрылася выстаўка твораў беларускіх мастакоў у Доме мастакоў у Мінску.

Першапачаткова ў галерэі планаваліся тры аддзелы: жывапісу, скульптуры, графікі. Але вельмі хутка з'явіўся чацвёрты аддзел — мастацкай прамысловасці, што, верагодна, тлумачылася спецыяльнасцю дырэктара галерэі — мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва М.П. Міхалапа. Аснову калекцыі галерэі склалі мастацкія творы, якія перадаваліся з музеяў сістэмы Наркамасветы (пераважна з Гомельскага), а таксама некаторых іншых дзяржаўных устаноў. Першыя

наведвальнікі, што ўвайшлі ў галерэю 7 лістапада 1939 г.[1], маглі ўбачыць «Забойства Стэфана» С. Розы, «Запарожца» Рэпіна, «Пейзаж» Клевера, «Продаж з торга» Рыцоні, «Кардынала» Якобі, дзевяць работ Сухадольнага, карціны, гравюры і скульптуры іншых майстроў [102, арк. 94]. У апошні мірны год у галерэі з поспехам экспанавалася выстаўка беластоцкіх мастакоў-графікаў.

У тым жа, 1939 г. быў створаны мастацкі музей у Віцебску. Ініцыятарам яго стварэння быў славуты жывапісец і педагог Ю.М. Пэн, які за два тыдні да сваёй трагічнай смерці ахвяраваў гораду 772 жывапісныя палотны. Фактычная перадача мастацкай спадчыны Нэпа ў грамадскае карыстанне адбылася ўжо пасля яго смерці, калі 28 лютага 1937 г. СНК БССР ухваліў пастанову «Аб мастацкай спадчыне і перапісцы мастака Ю.М. Пэна». Пастанова прадугледжвала арганізацыю мастацкай галерэі, узвядзенне помніка, выданне манаграфіі, прысвечанай мастаку, а таксама ўстанаўленне стыпендыі яго імя.

Справа была замаруджана бюракратычнымі правалочкамі чыноўнікаў Упраўлення па справах мастацтва і Віцебскага гарсавета, на якіх было ўскладзена выкананне пастановы СНК. Калі ў лістападзе 1938 г. усе юрыдычныя і фінансавыя цяжкасці былі пераадолены, то высветлілася, што «... «мецэнаты» з Віцебскага гарсавета ў плануемае памяткай – не галерэі ўжо засялілі жыхароў» [73]. Спатрэбілася спецыяльная пастанова бюро Віцебскага абкама КП(б)Б для таго, каб 12 чэрвеня 1939 г. у былой кватэры мастака адкрылася галерэя [135].

Яна заняла два вялікія пакоі, дзе было развешана каля 130 карцін, згрупаваных згодна перыядам творчасці Пэна, у тым ліку славутыя шэдэўры «Апошняя субота», «Развод», «Чалавек у чырвоным», «Стары цыган», «Жабрак» і інш. У экспазіцыі была паказана толькі малая частка калекцыі, якая налічвала больш за 800 карцін, эскізаў і эцюдаў, што тлумачылася вострым недахопам экспазіцыйных плошчаў. Нягледзячы на абмежаваныя магчымасці праводзіць у гэтых умовах шырокую асветніцкую работу, у апошні перадваенны 1940 г. галерэю наведала больш за 15 тыс. чалавек, для якіх было арганізавана звыш 230 экскурсій.

На 1941 г. невялікі навуковы калектыў галерэі на чале з Л.І. Эстрынай запланаваў набыць работы Пэна, што знаходзіліся па-за межамі БССР пашырыць удвая экспазіцыйныя памяшканні, правесці

---

[1] Рабочая група па стварэнні галерэі працавала з 1937 г. Навуковыя супрацоўнікі будучай галерэі, куды ўваходзіла стваральнік і бяззменны дырэктар (1944-1977 гг.) Дзяржаўнага мастацкага музея БССР А.В. Аладава, праходзілі падрыхтоўку ў буйнейшых музеях Масквы, займаліся збіраннем і рэстаўрацыяй твораў мастацтва, дастаўкай экспазіцыйнай мэблі.

перасоўныя выстаўкі мастакоў Юдовіна, Азгура, Кругера, Альперовіча, выдаць манаграфію, прысвечаную Пэну [136].

Новая сістэма народнай адукацыі, якая ствралася ў СССР пасля 1917 г., выклікала неабходнасць забеспячэння школ новымі наглядными дапаможнікамі і літаратурай.

З 1919 г. Педагагічны музей існаваў у Гомелі. Ён увабраў у сябе калекцыі дарэвалюцыйных навучальных устаноў горада і планаваўся як дапаможная ўстанова па забеспячэнні школ, калоній і дзіцячых дамоў нагляднымі дапаможнікамі, падручнікамі і літаратурай. На 1 студзеня 1927 г. у музеі, які пераўтварыўся ў буйнейшы ў БССР педагагічна-метадычны цэнтр, знаходзілася ўжо 4 167 павучальных дапаможнікаў і 8 658 кніг [39, арк. 221]. Беручы пад увагу апошняе, цалкам зразумела абурэнне гомельскіх настаўнікаў рашэннем пагаджальнай камісіі ад 28 студзеня 1927 г. аб перадачы музея Бранскай губерні. Дзякуючы пратэстам педагагічнай грамадскасці ён застаўся ў Гомелі і працягваў інтэнсіўна развівацца [44, арк. 220].

Праца музея значна ажывілася ў пачатку 1928/29 навучальнага года пасля прыходу на пасаду загадчыка — выпускніка педагагічнага факультэта БДУ Я. Ракуцькі. У той час Педагагічны музей валодаў багатымі мінералагічнай, заалагічнай, энтамалагічнай, батанічнай калекцыямі, гербарыямі, заспіртаванымі прэпаратамі, табліцамі, невялікай хімічнай лабараторыяй. Акрамя таго, пры ім існавала біястанцыя, дзе вучні непасрэдна вывучалі свет раслін і жывёл. У 1928/29 навучальным годзе гэтымі калекцыямі карысталіся каля 10 тыс. настаўнікаў і вучняў, першыя — падчас семінараў і самастойнай працы, другія — на экскурсіях [158, с. 113].

У верасні 1926 г. Мінскі акруговы аддзел народнай асветы заснаваў Цэнтральны педагагічны музей, які «...павінен стаць творчай майстэрняй і сродкам прапаганды новага школьнага будаўніцтва, новых метадаў і формаў працы» [224, с. 100]. Камплектаваўся музей пераважна працамі вучняў школ Мінскай акругі. Былі таксама атрыманы экспанаты з метадычных цэнтраў Ленінграда, уладкавана сувязь з Маскоўскім педагагічным музеем.

Ужо праз год пасля заснавання Педагагічны музей пераўтварыўся ў метадычны цэнтр, вакол якога гуртаваліся найбольш актыўныя настаўнікі Мінска. Музей не вёў статыстыкі наведвання, таму пра яго асветніцкую дзейнасць мы можам ускосна даведацца з запісаў у кнізе водгукаў наведвальнікаў Так, настаўнік адной са школ Уздзенскага раёна пісаў: «Лічу, што пэдмузэй мае вельмі вялікае значэньне з боку мэтадычнага, і асабліва карысна пабыць у ім вясковаму настаўніку і наладзіць сувязь». Настаўнік койданаўскай яўрэйскай школы ацэнь-

ваў музей як «...вельмі каштоўнае месца для абмену вопытам працы». Прыемнае ўражанне наконт дзіцячых прац выказвалі таксама асобы, непасрэдна не звязаныя з педагагічнай дзейнасцю [224, 101].

Акрамя пералічаных вышэй, яшчэ існаваў Політэхнічны музей пры Цэнтральнай школьнай станцыі ў Мінску.

Пасля ўсталявання на Беларусі Савецкай улады дзяржава абвясціла сваім абавязкам прапаганду аховы працы і санітарна-гігіенічных ведаў. У Гомелі ў 1921 г. для гэтага быў створаны Медыцынскі музей народнага здароўя з майстэрнямі пры ім, у Мінску ў 1926 г. — Музей працы пры Інстытуце сацыяльнай гігіены.

Музейную сетку Беларусі ў разглядаемы перыяд узбагачалі такія ведамствы, як Саўнаргас (сельскагаспадарчыя музеі ў Мінску і Магілёве, прамысловы музей у Гомелі, сталая будаўнічая выстаўка ў Мінску), Беларуская ваенная акруга (Музей пры Доме Чырвонай Арміі), НКУС (Музей крымінальнага вышуку ў Мінску), а таксама асобныя прамысловыя прадпрыемствы.

Дзейнасць ведамасных музеяў не падлягае агульным ацэнкам. У кожным асобным выпадку навуковы ўзровень таго ці іншага музея быў абумоўлены кваліфікацыяй і фінансавымі магчымасцямі яго стваральнікаў. Спецыфіка дзейнасці ведамства ці арганізацыі акрэслівала ступень адкрытасці іх музеяў для грамадства. Пры ўсіх адмоўных баках — раскіданасць музеяў гэтай групы па розных ведамствах, выкарыстанне рознай уліковай дакументацыі, паўтор памылак іншых пры пабудове ўласных экспазіцый і г. д. — варта адзначыць факт з'яўлення арыгінальных устаноў, якія былі пазбаўлены адбітку наркамасветаўскай уніфікацыі і дапаўнялі музейную сетку зборамі прыродазнаўчага, тэхніка-эканамічнага, сельскагаспадарчага і іншых профіляў.

Ацэньваючы 20-гадовую гісторыю дзяржаўных музеяў БССР, дынаміку развіцця органаў кіраўніцтва музейнай справай, а таксама асноўныя заканадаўчыя акты ў дадзенай галіне, трэба канстатаваць, што іх развіццё ў цэлым ішло па шляху ўзмацнення таталітарных тэндэнцый. Гэтае 20-годдзе можна падзяліць на два перыяды, якія храналагічна выглядаюць наступным чынам: 1919-1929 гг. і 1930-1941 гг.

Першы перыяд характарызуецца стварэннем падмурка музейнага заканадаўства, творчым пошукам арганізацыйных форм дзейнасці музеяў, прыцягненнем да працы дарэвалюцыйных кадраў навуковай і мастацкай інтэлігенцыі. Упершыню на беларускіх землях быў створаны орган кіраўніцтва музейнай справай — музейны аддзел Наркамасветы. Асноўная ўвага ў гэты перыяд надавалася збору і ахове

культурных каштоўнасцей, а таксама іх папулярызацыі сярод насельніцтва. Сетка дзяржаўных музеяў стала важнай часткай сістэмы нацыянальнага выхавання, інструментам палітыкі беларусізацыі. Трэба сказаць, што ўсе спробы знайсці новыя дэмакратычныя падыходы ў музейнай дзейнасці у той перыяд рабіліся ў межах пралетарскай ідэалогіі і марксісцкай навукі. 1928-1929 гг. — час узмацнення спрошчаных уяўленняў пра культуру, што замацавала адносіны дзяржавы да музея як да інструмента ідэалагічнага ўздзеяння на масы ў неабходным накірунку.

У другі перыяд развіццё дзяржаўных музеяў БССР адбывалася як частка агульнадзяржаўнай і партыйнай прапагандысцкай работы. Гіпертрафіраваліся прапагандысцкія функцыі музеяў пры недаацэнцы спецыфікі музея як навукова-даследчай і навукова-асветніцкай установы. Скасаваны Галоўнавука і Музейная рада як калегіяльныя органы, якія ўключалі буйнейшых прадстаўнікоў беларускай навукі і культуры. Замест іх у складзе Наркамасветы быў створаны бязлікі аддзел, дзе музеі згубіліся паміж клубамі і хатамі-чытальнямі. Дзяржаўныя музеі БССР апынуліся ў падпарадкаванні розных ведамстваў без каардынацыі паміж імі. Гэтыя негатыўныя тэндэнцыі прывялі да вялікіх страт кваліфікаванага музейнага персаналу і нацыянальнай культурнай спадчыны.

## Глава II ГРАМАДСКІЯ КРАЯЗНАЎЧЫЯ МУЗЕІ Ў БССР

Адной з найбольш яскравых з'яў культурнага жыцця ў СССР 20-х гадоў быў краязнаўчы рух. Па словах вядомага расійскага гісторыка С.О. Шмідта, першае дзесяцігоддзе савецкай улады — прыкладна да рубяжа 1920-1930-х гг. можна назваць «залатым дзесяцігоддзем» развіцця краязнаўства [236, с. 16].

Тэрмін краязнаўства вельмі ёмісты і шматзначны. Па-першае, краязнаўства — гэта навукова-даследчая і навукова-папулярызатарская дзейнасць, накіраваная на комплекснае вывучэнне пэўнай мясцовасці, краю. Па-другое, краязнаўства абапіраецца на міждысцыплінарныя навуковыя сувязі і ўлічвае не толькі вывады навуковых тэорый, але і першасных назіранняў звычайнай жыццёвай практыкі. Па-трэцяе, краязнаўства — гэта школа выхавання культурай, гістарычнымі традыцыямі, у якой можна спасцігуць складаную сістэму сувязей паміж прыродай і грамадствам. Па чацвёртае, краязнаўства — гэта адна з найважнейшых форм самаарганізацыі грамадства і станаўлення грамадзянскай супольнасці. Іншымі словамі, краязнаўства вызначае як характар засваення мінулага, так і спосаб пераўладкавання сучаснага. Усё гэтае цалкам адносіцца і да беларускіх зямель, дзе глеба для развіцця краязнаўства (да 1917 г. — радзімазнаўства) была падрыхтавана яшчэ да прыходу ўлады бальшавікоў.

На хвалі беларускага адраджэння пачатку XX ст. культурна-асветніцкі рух працягваў развівацца нават у складаных умовах першай сусветнай вайны. У правінцыі, дзе была ініцыятыўная інтэлігенцыя, пераважна настаўнікі, пачалі з'яўляцца культурна-асветныя таварыствы, аматарскія драматычныя і харавыя гурткі. Важнае месца сярод падобных аб'яднанняў займалі краязнаўчыя таварыствы, якія ва ўмовах працяглых баявых дзеянняў на тэрыторыі краю выконвалі тэрміновую задачу захавання шматлікіх гісторыка-мастацкіх калекцый, архіваў і бібліятэк.

У маі 1917 г. для каардынацыі намаганняў інтэлігенцыі па развіцці беларускай культуры пад эгідай Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску было заснавана таварыства беларускай культуры «Прасветам Сябры таварыства выдавалі тыднёвую газету «Вольная Беларусь», на старонках якой сярод іншых уздымаліся пытанні аховы гісторыка-культурнай спадчыны. У жніўні 1918 г. гэтае таварыства рэарганізавалася ў беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Яго заснавальнікамі былі Я. Лёсік, Я. Варонка, К. Езавітаў Я. Бялевіч, Ю. Гадыцкі-Цвірка і інш. Акрамя «Бацькаўшчыны» з канца лета 1917 г. у Мінску існаваў гурток беларускай моладзі «Вянок»,

рэарганізаваны пазней ў агульнанацыянальнае таварыства «Беларуская вучнёўская грамада».

Гэтыя арганізацыі стварылі свае аддзяленні ў Слуцку, Бабруйску, Гродне, а таксама ў шэрагу павятовых мястэчак і вёсак. Усведамленне неабходнасці захавання нацыянальнай культуры, у тым ліку гістарычных і мастацкіх помнікаў, гуртавала ўсіх, хто разумеў яе агульнакультурную і гістарычную каштоўнасць, нават людзей розных грамадска-палітычных поглядаў. Голад і побытавыя цяжкасці ў губернскіх гарадах прымусілі многіх асоб інтэлігентных прафесій змяніць месца жыхарства. Апынуўшыся ў невялікіх мястэчках і нават у вёсках яны разгарнулі шырокую краязнаўчую працу, карыстаючыся сваімі ведамі і метадычным вопытам.

З 1918 па 1921 г. арганізацыйна афармлена існаваў Смалярскі гурток радзімазнаўства ў былым Ігуменскім павеце. Ён складаўся з мясцовай моладзі, якая імкнулася да даследчай работы па вывучэнні свайго краю. У працэсе яго вывучэння ёй прыходзілася самастойна здабываць неабходныя метадычныя веды. Другой перашкодай ў дзейнасці гуртка быў бягучы склад яго сяброў. Толькі адзін ініцыятар яго заснавання заставаўся на кіраўнічай пасадзе ўвесь час.

Згодна статуту[1], гурток меў на мэце распрацоўку агульных пытанняў радзімазнаўства, даследаванне Ігуменскага павета, прапаганду ідэй радзімазнаўства сярод насельніцтва павета.

Дзейнасць сяброў гуртка была даволі разнастайная. Напрыклад, была ўкладзена брашура «Радзімазнаўства і яго задачы» аб'ёмам у тры друкаваныя аркушы. Гэтая праца пазней была высока ацэнена Акадэмічным цэнтрам Наркамасветы, рэкамендавана да выдання. У галіне практычнага вывучэння краю было падрыхтавана комплекснае апісанне Ігуменскага павета з вельмі каштоўным ілюстрацыйным матэрыялам у выглядзе дадатку. Апрача гэтага апісання быў сабраны багаты фальклорны і фатаграфічны матэрыял, а таксама даследаваны некалькі мясцовых азёр [179, с. 59].

Пачатак краязнаўчай работы на Случчыне таксама трэба аднесці да 1918 г.[2], калі ў Слуцку было заснавана культурна-асветніцкае таварыства «Папараць-кветка» [210, с. 62]. Яно складалася з трох секцый: краязнаўчай, роднай мовы, літаратуры і драматычна-харавой. Таварыства мела свае філіялы ў павеце: «Зарніца» — у в. Старыца

---

[1] Сам статут выклікаў падазронасць і быў канфіскаваны польскай паліцыяй ў 1920 г. падчас абшуквання дома кіраўніка гуртка.

[2] Паводле А. Калубовіча, таварыства было заснавана вядомым пісьменнікам і грамадскім дзеячам Фабіанам Шаптырам пры Слуцкай Беларускай гімназіі ў 1917 г. Калубовіч А. Крокі гісторыі. Даследаванні, артыкулы, успаміны. — Беласток-Вільня-Менск: Гамакс, 1993. — С. 69.

(кіраваў А. Калпак), «Крыніца» - у в. Засяленне (кіраваў А. Аніхоўскі), школьны гурток — у м. Грозава (кіраваў настаўнік І. Пратасевіч), «Зорка» — у в. Ліпнікі, гурткі моладзі — у в. Усерна (кіраваў У. Дубіна), у в. Сухая Міля (кіраваў М. Дубіна), а таксама ў в. Слабада-Кучынка.

Дзейнасць «Папараць-кветкі» заключалася ў збіранні фальклору, папулярызацыі ведаў пра Беларусь, папулярызацыі кніжак на беларускай мове, якіх за кароткі час існавання таварыства было распаўсюджана больш за 10 000. Выдаваўся часопіс «Наша каляіна». Толькі ў Слуцку таварыства мела 150 сяброў [210, с. 62].

Пасля падаўлення Слуцкага паўстання ў 1921 г. таварыства «Папараць-кветка» спыніла сваю дзейнасць. У тым жа годзе ўжо савецкімі ўладамі ў Слуцку быў арганізаваны павятовы аддзел народнай асветы, у сферу дзейнасці якога ўваходзіла арганізацыя вывучэння краю. Кіраўніцтва аддзела даручыла аднаму з сяброў былога таварыства «Папараць-кветка», А. Бараноўскаму, распачаць працу па збіранні і захаванні помнікаў гісторыі і культуры, для чаго адвяло пакой у будынку былой гімназіі і плаціла яму зарплату па стаўцы настаўніка. Такім чынам быў пакладзены пачатак заснавання ў Слуцку краязнаўчага музея.

Але ў хуткім часе высветлілася, што перагружаны школьнай працай аддзел народнай асветы не мае ні належнага часу, ні сродкаў для эфектыўнага кіраўніцтва краязнаўчай работай у павеце. Таму ўсе пытанні краязнаўства было вырашана перадаць асобнай камісіі, якую планавалі сфарміраваць з шырокім удзелам зацікаўленых асоб па прынцыпу добраахвотнасці. Так, у верасні 1922 г. пры Слуцкім павятовым аддзеле народнай асветы была створана Павятовая камісія беларусазнаўства. Камісія мела на мэце:

— авалоданне ведамі пра Беларусь, якія былі назапашаны да часу заснавання камісіі;

— распрацоўку метадычных пытанняў выкладання комплексу ведаў пра Беларусь (г. зн. беларусазнаўства) у школах;

— вывучэнне і даследаванне Беларусі, асабліва былога Слуцкага павета [179, с. 60].

Камісія складалася пераважна з выкладчыкаў беларусазнаўства ў школах, інспектараў сацыяльнага выхавання і інш. Яе праца будавалася ў двух накірунках: беларусазнаўства і краязнаўства.

У першым накірунку дзейнасць камісіі заключалася ў скліканні агульнагарадскіх і павятовых беларусазнаўчых сходаў і канферэнцый. На іх заслухоўваліся даклады, якія мелі на мэце дапамагаць выкладчыку беларусазнаўства ў яго школьнай працы — пра творчасць М. Чарота, прозу Ц. Гартнага, стан Беларусі пасля Люблінскай уніі,

рэвалюцыйны рух на Беларусі, а таксама пра задачы і методыку выкладання беларусазнаўства ў школе. Кульмінацыйнай кропкай у рабоце камісіі былі агульнагарадская і павятовая беларусазнаўчыя канферэнцыі, якія адбыліся адпаведна 18 кастрычніка 1922 г. і 15-17 студзеня 1923 г. На гэтых канферэнцыях былі абмеркаваны значэнне тэрміна «беларусазнаўства», вучэбныя праграмы, упершыню было ўзнята пытанне школьнага краязнаўства.

У накірунку краязнаўства члены камісіі наладжвалі экспедыцыі па вёсках павета. У выніку было зроблена больш за 2 000 замалёвак народнага арнаменту[1], сабраны каштоўныя прыродазнаўчыя і гісторыка-этнаграфічныя матэрыялы. Да найбольш каштоўных помнікаў, знойдзеных у гэты час, адносіліся партрэты князёў Алелькавічаў, рукапіснае евангелле XVI ст., епітрахіль, посах і сярэбраная рыза XVI ст., кальвінская біблія берасцейскага выдання 1563 г. Менавіта гэтыя матэрыялы заклалі аснову Слуцкага краязнаўчага музея, аднаго з багацейшых у БССР. Акрамя таго, пад кіраўніцтвам камісіі пачалі стварацца валасныя музеі ў Грозаве, Леніна і іншых месцах.

Павятовая камісія беларусазнаўства праіснавала год, да верасня 1923 г., потым была рэарганізавана ў Слуцкае павятовае таварыства краязнаўства.

Гурток вывучэння Гомельшчыны быў заснаваны 29 сакавіка 1923 г. студэнтамі Дзяржаўнага інстытута сельскай гаспадаркі. Гурток меў мэтаю ўсебаковае вывучэнне Гомельшчыны і налічваў каля 30 сяброў. Іх сіламі была зроблена значная праца па збору прыродазнаўчых, гістарычных і эканамічных матэрыялаў для вывучэння Гомельшчыны. Гэтыя матэрыялы былі б добрай асновай для стварэння краязнаўчага музея. На жаль, гэтага не адбылося, што тлумачылася неспрыяльнымі ўмовамі, у якіх праходзіла краязнаўчая работа. Акрамя недахопу сродкаў на дзейнасці краязнаўцаў негатыўна адбівалася адсутнасць арганізацыйнага цэнтра падчас летніх канікул. У канцы 1925 г. гурток закрыўся [179, с. 65].

У канцы 1923 г. пачалася праца па арганізацыі Віцебскага таварыства краязнаўства пры губернскім аддзеле народнай асветы. Былі прыняты статут таварыства і распрацаваны план работы па прыродазнаўча-геаграфічнай, эканамічнай, культурна-гістарычнай і этнаграфічнай секцыях. Асабліва цікавай часткай плана этнаграфічнай секцыі было вывучэнне гаворак Віцебскай губерні і ўкладанне слоўніка дыялектаў заходняй і ўсходняй частак Віцебскай губерні. Статут таварыства падалі на зацвярджэнне спачатку ў прэзідыум

[1] Яны с поспехам дэманстраваліся па Усесаюзнай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўцы.

губернскага выканаўчага камітэта, потым — у прэзідыум гарадскога выканаўчага камітэта. Але і ў першым і другім выпадку адказ быў адмоўны. У выніку дзейнасць таварыства ў 1923 г. так і не распачалася [179, с. 65].

У 1923 г. намаганнямі групы мясцовых энтузіястаў на чале з М.В. Шатэрнікам быў створаны краязнаўчы гурток у Чэрвені [112, с. 136]. Да першых арганізацый трэба таксама аднесці Хутарскі валасны гурток краязнаўства, пра які, апрача факта яго існавання ў 1920 г., звестак не знойдзена.

Важнай падзеяй у гісторыі беларускага краязнаўчага руху было стварэнне 29 снежня 1923 г. Цэнтральнага бюро краязнаўства (ЦБК). Думка пра важнасць арганізацыйнай краязнаўчай дзейнасці была ўпершыню выказана супрацоўнікамі Інбелкульта. Менавіта яны ў 1922 г. упершыню звярнуліся да насельніцтва БССР з заклікам ствараць краязнаўчыя арганізацыі на месцах [170, с. 7]. У той час Інбелкульт імкнуўся аб'яднаць і каардынаваць дзейнасць аматараў перш за ўсё ў рэчышчы работы тэрміналагічнай камісіі. Эфектыўная дзейнасць апошняй (увесь Інбелкульт ў 1922 г. складаўся з 16 правадзейных членаў на чале са старшынёю С.М. Некрашэвічам) без актыўнай падтрымкі энтузіястаў на месцах была, зразумела, немагчыма.

Не толькі практычныя патрэбы навуковай работы, але ў значнай ступені і расійскі прыклад абумовілі рашэнне стварыць цэнтр па каардынацыі краязнаўчай дзейнасці ў рэспубліцы менавіта пры Інбелкульце, які ў той час выконваў функцыі Акадэміі навук. Так быў арганізаваны краязнаўчы рух у РСФСР. Са студзеня 1922 г. пры Расійскай Акадэміі навук існавала Цэнтральнае бюро краязнаўства на чале з неадменным сакратарам акадэміі, тэарэтыкам і арганізатарам краязнаўчага руху ў Расіі акадэмікам С.Ф. Альдэнбургам. Вядома, што ён вёў перапіску з кіраўніцтвам Інбелкульта [170, с. 7].

Пасля ўтварэння ЦБК, у склад якога ўвайшлі вядомыя вучоныя БССР — гісторыкі У.І. Пічэта і В.Д. Друшчыц, географы А.А. Смоліч і М.В. Азбукін, вучоны-аграрнік С.В. Скандракоў, а таксама прадстаўнікі ад Галоўпалітасветы, Галоўсацвыху, Дзяржаўнай планавай камісіі і Саюза працаўнікоў асветы, краязнаўчы рух у БССР набыў арганізаваны характар. У сакавіку 1924 г. была склікана Мінская краязнаўчая канферэнцыя, а 29 лістапада таго ж года — І Усебеларуская. Апошняя намеціла метады каардынацыі краязнаўчай работы ў межах

БССР, спосабы прапаганды краязнаўчых ідэй, а таксама рэкамендавала выданне спецыяльнага краязнаўчага часопіса[1].

У пункце 8 рэзалюцыі канферэнцыі была вызначана галоўная задача краязнаўцаў, якая фармулявалася наступным чынам: «выяўленне помнікаў старасветчыны, народнай культуры і прыроды» [61, с. 170]. Асобныя пункты рэзалюцыі арганізатары канферэнцыі прысвяцілі ўзаемадзеянню краязнаўцаў з работай акруговых аддзяленняў БДМ і Цэнтрархіва. 13 батанічным садам і пітомнікам, што знаходзіліся ў розных частках БССР, быў нададзены статус навукова-даследчых установ.

Рэарганізацыя Інбелкульта ў канцы 1924 г. выклікала рэарганізацыю ЦБК. 21 лютага 1925 г. на агульным сходзе Інбелкульта быў абраны новы склад ЦБК, у які ўваходзілі П.Р. Вілянстовіч (старшыня), Р.К. Шукевіч-Траццякоў (намеснік старшыні), С.В. Скандракоў (сакратар). Акрамя таго былі кааптаваны В.Д. Друшчыц, К.К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), М.В. Азбукін, І.А. Сербаў і прадстаўнікі ад сельскагаспадарчай, гісторыка-археалагічнай, прыродазнаўчай і педагагічнай секцый Інбелкульта, а таксама ад ЛКСМБ, саюза працаўнікоў асветы, БДУ, Сельскагаспадарчага інстытута, Цэнтральнай статыстычнай управы, Галоўсацвыха, Галоўпалітасветы, БДМ і Цэнтрархіва.

ЦБК працавала пад навуковым кіраўніцтвам прэзідыума Інбелкульта і ажыццяўляла сувязь паміж апошнім і краязнаўчымі арганізацыямі. Аматары-краязнаўцы бралі актыўны ўдзел у рабоце секцый Інбелкульта шляхам пісьмовых паведамленняў, збору навуковых матэрыялаў і назіранняў па заданнях секцый. Адным з найбольш плённых накірункаў супрацоўніцтва было складанне дыялекталагічных краёвых слоўнікаў.

Так у 1927 г. быў складзены «Віцебскі краёвы слоўнік», апрацаваны М.І. Каспяровічам. Праз краязнаўчыя арганізацыі Інбелкульт атрымліваў багаты матэрыял па фальклоры, этнаграфіі, назіраннях за з'явамі прыроды. Гэтая сувязь праявілася таксама ў сумесным правядзенні навуковых экспедыцый.

Праца ЦБК у першую чаргу была накіравана на стварэнне сеткі краязнаўчых арганізацый на ўсёй тэрыторыі БССР Паступова сфарміравалася наступная іерархічная структура краязнаўчага руху ў рэспубліцы. Адпаведна новаму адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу выявіліся краязнаўчыя арганізацыі трох узроўняў: акруговыя таварыствы, раённыя таварыствы і гурткі. Напрыканцы 1925 г.

[1] Такі часопіс пад назвай «Наш край» выдаваўся ў Мінску пры Інбелкульце з кастрычніка 1925 на кастрычнік 1930 г., рэдактарам якога быў вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Зм. Бядуля.

агульная колькасць іх сяброў дасягнула 5 тыс. чалавек. У працэнтных адносінах, у параўнанні з колькасцю краязнаўчых арганізацый у іншых савецкіх рэспубліках, гэта лічба выглядала наступным чынам: РСФСР — 71%, УССР — 10%, БССР — 4%, Закаўказскія рэспублікі — 5% [175].

У большасці выпадкаў члены бюро звязваліся з раённымі таварыствамі і школьнымі гурткамі праз акруговыя таварыствы, якім дасылаліся для распаўсюджвання інструкцыі, праграмы, анкеты, распрацаваныя у розных секцыях Інбелкульта. Але з шэрагам раённых таварыстваў і школьных гурткоў была наладжана непасрэдная сувязь. У тых выпадках, калі ў раёнах не было краязнаўчых арганізацый, наладжвалі сувязь з раённымі аддзеламі народнай асветы. Акрамя таго, стваралася сетка карэспандэнтаў з асоб, якія цікавіліся пытаннямі вывучэння краю, але не ўвайшлі ў склад тых ці іншых краязнаўчых арганізацый.

Трэба адзначыць, што падобная сістэма арганізацыі краязнаўчага руху выключала магчымасць жорсткага бюракратычнага адміністрыравання, давала максімальную свабоду дзеяння арганізацыям усіх узроўняў. Што тычыцца ЦБК, то яно ставіла на мэце менавіта каардынацыю, а не кіраўніцтва дзейнасцю краязнаўчай сеткі БССР. Задачы і змест работы бюро былі вызначаны яго статутам, які прэзідыум Інбелкульта зацвердзіў у 1928 г. Кіраўніцтва краязнаўчай дзейнасцю ЦБК ажыццяўляла на з'ездах і канферэнцыях, а паміж імі — на пашыраных пленумах, у рабоце якіх бралі ўдзел прадстаўнікі раённых арганізацый.

У пачатку 1926 г. наспела патрэба падвесці вынікі краязнаўчай работы — быў скліканы I Усебеларускі краязнаўчы з'езд. Для яго падрыхтоўкі ЦБК звярнулася за дапамогай у Інбелкульт, некаторыя ВНУ, здаўна звязаныя ў сваёй працы з мясцовымі ўстановамі, а таксама да вучоных, вядомых сваёй цікаўнасцю да краязнаўства. З'езд адбыўся 7-10 лютага 1926 г. На яго былі запрошаны прадстаўнікі амаль што ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР. Усяго прыехала 120 дэлегатаў Не лічачы прадстаўнікоў Інбелкульта, ЦБК і БДМ, былі прадстаўлены 87 краязнаўчых таварыстваў і гурткоў. Агульны ж лік краязнаўчых арганізацый напачатку 1926 г. дасягнуў 167 [124, с. 16].

На з'ездзе было ўхвалена шмат важных пастаноў, якія дазваляюць нам сёння даведацца пра структуры і напрамкі дзейнасці краязнаўчых арганізацый у другой палове 1920-х гг. Пастанова па арганізацыйных пытаннях ставіла задачу стварэння краязнаўчых арганізацый ва ўсіх раённых цэнтрах і, па магчымасці, у сельсаветах БССР, прычым, у якасці іх першачарговай задачы вызначалася стварэнне

мясцовых музеяў. Удзельнікі з'езда надавалі асаблівую ўвагу школьнаму краязнаўству На іх погляд, уся сістэма пачатковай і сярэдняй адукацыі павінна набыць краязнаўчы ўхіл. А перад раённымі арганізацыямі ставілася задача на працягу вясны-лета 1926 г. закласці падмурак краязнаўчых музеяў ва ўсіх школах БССР [87, с. 82].

Спецыяльная пастанова была прысвечана навуковай дзейнасці краязнаўцаў, якая разумелася як «навуковае апісанне сваёй тэрыторыі» (са звяртаннем асабістай увагі на дынаміку змен у жыцці вёскі). Разам гэтыя апісанні павінны былі скласці «калектыўны твор усёй краязнаўчай сеткі — краязнаўчае апісанне БССР» [87, с. 83]. У якасці канчатковай мэты навуковай дзейнасці краязнаўцаў вызначалася паляпшэнне дзейнасці мясцовых гаспадарчых і культурных устаноў. Важным сродкам папулярызацыі вынікаў навуковай дзейнасці краязнаўцаў была лектарска-экскурсійная дзейнасць.

Рэзалюцыя № 4 з'езда была цалкам прысвечана краязнаўчым музеям і бібліятэкам. У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «Кожная краязнаўчая арганізацыя павінна арганізаваць музей, прычым рэчы агульнадзяржаўнага значэння павінны праз ЦБК накіроўвацца ў Дзяржаўны музей і яго аддзяленні. У цэнтрах акруг закладваюцца музеі мясцовага краю, утрыманне якіх пажадана правесці на мясцовам бюджэце. Раённыя музеі павінны адлюстроўваць у экспазіцыях прыроду, гаспадарку і побыт свайго раёну. Калі гэтыя музеі не атрымоўваюць сродкаў па мясцовым бюджэце, дык яны змяшчаюцца альбо пры мясцовым краязнаўчым таварыстве, альбо пры адной з мясцовых культурных устаноў» [87, с. 83].

Важнае значэнне мелі т. зв. інструкцыйныя даклады, зробленыя А.У. Фядзюшыным («Аб прыродазнаўчым вывучэнні Беларусі»), С.М. Некрашэвічам («Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый»), М.І. Гарэцкім («Аб збіранні і апрацоўцы фальклору»), М.В. Доўнар-Запольскім («Аб краязнаўчай працы ў галіне гісторыі і археалогіі»), М.В. Мялешкам («Аб вывучэнні быту»), С.А. Пятровічам («Як весці працу па вывучэнні гаспадаркі»). Гэтыя даклады фактычна вызначалі асноўныя напрамкі дзейнасці краязнаўцаў: а) выяўленне, улік, ахову і выкарыстанне гісторыка-культурных каштоўнасцей; б) ахову, збор іназіранне за з'явамі прыроды; в) выяўленне і вывучэнне вытворчых сіл і мясцовых промыслаў у мэтах народнагаспадарчых патрэб.

Падобную шырокую праграму работы, якая ахоплівала ўсё правінцыяльнае жыццё, трэба ацаніць як вельмі перспектыўную. Можна сцвярджаць, што ў выпадку яе выканання (што было рэальна) праз 10-15 гадоў культурнае жыццё беларускай правінцыі выглядала б зусім па-іншаму.

Першыя вынікі выканання гэтай праграмы былі падсумаваны на II Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе, які адбыўся 10-13 лютага 1927 г. у памяшканні Інбелкульта. У з'ездзе бралі ўдзел 187 дэлегатаў розных краязнаўчых таварystваў і гурткоў з усіх акруг БССР, якія прадстаўлялі ўжо 9 000 беларускіх краязнаўцаў [125, с. 171. З'езд праходзіў вельмі актыўна, з абмеркаваннем дыскусійных пытанняў Асноўнымі праблемамі, што разглядаліся на з'ездзе, былі:

— замацаванне арганізацыйных форм краязнаўчай сеткі;

— высвятленне перспектыў далейшай працы ў галіне ўсебаковага вывучэння краю;

— узмацненне краязнаўчай працы сярод нацыянальных меншасцей БССР;

— наладжванне кіраўніцтва ў краязнаўчых арганізацыях навучальных устаноў, асабліва сярод студэнцтва [93, с. 71].

Былі адзначаны поспехі ў працэсе назапашвання слоўнікавага матэрыялу жывой беларускай мовы, казак, песень і іншага фальклорнага матэрыялу, запісаў метэаралагічных і феналагічных назіранняў. У якасці аднаго з галоўных недахопаў вызначалася недастатковая ўвага да вывучэння вытворчых сіл БССР, яе эканомікі ў цэлым. У асобнай рэзалюцыі адзначалася, што «...не разгарнулася належным чынам праца па арганізацыі раймузэяў і зборы калекцый». Ставілася задача «...наладзіць справу такім чынам, каб яны [музеі] адбівалі ўсё жыцьцё раёну і прыцягвалі да сябе ўвагу шырокіх працоўных мас і органаў улады, якія, бачачы яго дасягненьні і карысьць, будуць падтрымліваць яго матар'яльна» [93, с. 61].

Падчас адкрыцця II Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ў студзені 1929 г. пад кіраўніцтвам ЦБК дзейнічалі ўжо 8 акруговых краязнаўчых таварystваў, 101 раённае таварыства і 96 краязнаўчых гурткоў, куды ўваходзілі 10 510 сяброў Апрача музейных збораў, краязнаўчыя арганізацыі БССР да гэтага часу сабралі шмат разнастайных, каштоўных для навукі матэрыялаў: каля 150 000 картак-слоў мясцовай мовы, каля 30 000 фальклорных запісаў, больш за 200 розных калекцый і 600 апісанняў, каля 2 000 запоўненых анкет і інш. [179, с. 69]. Лічбы, змешчаныя ў справаздачы ЦБК канферэнцыі, сведчылі пра значную навукова-асветніцкую працу, што была праведзена пасля II краязнаўчага з'езда. Гэтыя лічбы адлюстравалі высокі ўзлёт краязнаўчага руху ў беларускай гісторыі.

Па партыйнай, нацыянальнай і прафесійнай прыналежнасці склад сяброў краязнаўчай сеткі на I студзеня 1928 г. выглядаў наступным чынам: беспартыйных — 80,3%, членаў ЛКСМБ — 11,7%, членаў і кандыдатаў у члены КП(б)Б — 8%; беларусаў — 81%, яўрэяў

— 14,4%, рускіх — 2,2%; палякаў — 1,3%, іншых — 1,1%; выкладчыкаў — 60%, студэнтаў і вучняў — 27%, іншых прафесій — 13% [ 179, с. 69].

Канферэнцыю адкрыў старшыня ЦБК А.З. Казак (змяніўшы на гэтай пасадзе П.Р. Вілянстовіча), выступіўшы з праграмным дакладам «Сутнасць краязнаўства і яго сённяшнія задачы». У ім побач з канстатацыяй факта відавочных дасягненняў беларускіх краязнаўцаў у галіне аховы і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама прыроднага асяроддзя прагучала рэзкая крытыка краязнаўчых арганізацый за пасіўнасць у вывучэнні сучаснай эканомікі і энергетычных рэсурсаў рэспублікі. Толькі адзінкавыя арганізацыі займаліся вывучэннем цукраварэння (Горацкае раённае таварыства), садаводства і агародніцтва (Слуцкае акруговае таварыства). Краязнаўца з Мазыршчыны А.Я. Крукоўскі паведамляў пра знаходкі жалезнай руды. У якасці іншага істотнага недахопу ўзгадваўся нязначны працэнт сялянства ў краязнаўчым руху.

Крытыка, змешчаная ў выступленні А. З. Казака, мела знакавы характар. Яна азначала пачатак працэсу пераарыентацыі краязнаўства (які ўжо адбываўся ва ўсесаюзным маштабе) у загадзя падрыхтаванае рэчышча і імкненне звесці яго да задавалення надзённых гаспадарчых патрэб. Акрамя таго, па шэрагу выступленняў на канферэнцыі бачыцца імкненне да жорсткай палітызацыі работы краязнаўцаў.

Але не гэтыя тэндэнцыі вызначалі атмасферу, у якой праходзіла II краязнаўчая канферэнцыя. На ёй панавала атмасфера творчага пошуку, эксперыменту, дыскусій. Так, ажыўленыя спрэчкі метадычнага характару выклікаў даклад В. Сташэўскага «Арганізацыя раённага музея», у якім ён выказаў ідэі, блізкія да філасофіі сучаснага экамузея. У прыватнасці, ён сцвярджаў: «Музеі павінны ўзбуджаць самастойную творчасць насельніцтва мастацкае вартасці (тканьне, ганчарныя і драўляныя вырабы) шляхам зацікаўленым і пашырэньня ведаў аб гэтым у народзе» [101, с. 54]. В.Ю. Ластоўскі, які таксама ўдзельнічаў у рабоце канферэнцыі, крытыкаваў краязнаўчыя музеі за непрадуманую методыку іх арганізацыі. Батанік М. Збіткоўскі прапаноўваў кожнаму краязнаўчаму музею перш за ўсё скласці гербарый сваёй мясцовасці.

Сярод краязнаўчых арганізацый БССР найбольш актыўна дзейнічала Віцебскае акруговае таварыства, якое было заснавана 2 сакавіка 1924 г. У склад праўлення таварыства ўвайшлі М.І.

Каспяровіч[1] (старшыня), І. Багдановіч (наместнік старшыні), Я. Варпаховіч (сакратар). Лік сяброў таварыства ўжо напрыканцы 1924 г. дасягаў 500 чалавек.

Таварыства падзялялася на 5 секцый: культурна-гістарычную, прыродазнаўчую, мастацкую, светазнаўчую і беларусазнаўчую. Пры секцыях працавалі, як дапаможныя ўстановы, астранамічны пункт, феналагічнае бюро, энтамалагічнае бюро, а таксама камісіі па ўкладанні даведніка «Навука і навуковыя працаўнікі Віцебшчыны», па арганізацыі краязнаўчых музеяў, па вывучэнню яўрэйскай культуры і г.д. Акрамя таго, сябрамі Віцебскага акруговага таварыства чыталіся агульнадаступныя лекцыі на краязнаўчыя тэмы.

Увесну 1925 г. таварыствам былі праведзены дзве акруговыя канферэнцыі: краязнаўчая і светазнаўчая. Улетку былі наладжаны арніталагічная і этнаграфічная экспедыцыі, вынікі якіх былі прадстаўлены на выставе, прымеркаванай да 3-й акруговай канферэнцыі, што адбылася напрыканцы 1926 г. [91, с. 76]. У тым жа годзе мастацкая секцыя таварыства правяла выстаўку дрэварытаў С.Б. Юдовіна.

Праца гэтага таварыства асветлена таксама ў друкаваных выданнях. За першы год сваёй дзейнасці таварыства выдала наступную друкаваную прадукцыю: «Беларуская архітэктура» і «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Каспяровіча, «Беларускае мастацтва» А. Іпеля, «Новая беларуская літаратура» А. Багдановіча, «Эканамічны нарыс Беларусі» П. Аўхімені. Нарэшце вышлі ў свет грунтоўныя выданні таварыства: неперыядычны орган таварыства «Віцебшчына» і па-мастацку аздобленая кніга І. П. Фурмана «Крашаніна» [83, с. 8].

Падобнае па структуры Магілёўскае акруговае таварыства саступала віцебскаму як па аб'ёму дзейнасці, так і па колькасці сяброў. Яно ўтварылася 12 лістапада 1924 г. па ініцыятыве мясцовага настаўніцтва. У праўленне таварыства ўваходзілі Баранаў (старшыня), Троська (намеснік старшыні), Гурло (сакратар), Д.І. Даўгяла і У.Л. Вянюкоў. Лік сяброў таварыства напрыканцы 1924 г. складаў з 45 асобаў.

Да самых старэйшых краязнаўчых таварыстваў БССР адносіліся аршанскае (старшыня В.І. Саўліч) і барысаўскае (старшыня В.А. Самцэвіч), заснаваныя таксама ў 1924 г. На працягу 1925-26 гг. узніклі акруговыя краязнаўчыя таварыствы ў Мінску, Мазыры, Бабруйску, Полацку, Слуцку і Клімавічах [83, с. 10].

---

[1] М.І. Каспяровіч (1900 -1937) з'яўляўся найбольш яскравай постаццю ў гісторыі беларускага краязнаўчага руху 1920-х гг. Найбольш плённыя гады яго жыцця прыпадаюць па другую палову 1920-х гг., калі ён з'яўляўся павуковым сакратаром ЦБК і, адышоўшы ад практычнай дзейнасці, звярнуўся да пытанняў гісторыі, тэорыі і методыкі краязнаўства і музейнай справы.

Высокім навукова-метадычным узроўнем вылучалася дзейнасць краязнаўчых арганізацый вышэйшых навучальных устаноў.

У БДУ гэта дзейнасць канцэнтравалася вакол кабінета краязнаўства, створанага ў 1923 г. пад непасрэдным кіраўніцтвам выкладчыка кафедры геаграфіі А.А. Смоліча. Канчаткова краязнаўчая арганізацыя універсітэта аформілася да пачатку 1927 г. пад кіраўніцтвам рэктара У.І. Пічэта. Яна падзялялася на наступныя секцыі: а) медыцынскую; б) культурна-гістарычную; в) сацыяльна-эканамічную; г) прыродазнаўча-геаграфічную; д) яўрэйскую. Акрамя навуковых экспедыцый, краязнаўчых вечарын таварыства БДУ наладзіла шасцітыднёвыя нядзельныя курсы-студыю па краязнаўству, якія наведала каля 200 настаўнікаў, студэнтаў, вучняў і інш. [116, с. 29]. А ў канцы 1928 г. на агульным пасяджэнні таварыства было вырашына заснаваць ва універсітэце краязнаўчы музей [207, с. 29].

Адным з буйнейшых краязнаўчых асяродкаў была Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія ў Горках. Студэнцкае краязнаўчае таварыства стварылася тут у снежні 1924 г., а ўжо праз паўгода колькасць яго сяброў дасягнула 363 чалавек. Трэба адзначыць, што даследчыцкія працы, якія праводзіліся горацкімі студэнтамі пад кіраўніцтвам сваіх выкладчыкаў, у тым ліку гідралагічныя даследаванні, метэаралагічныя і феналагічныя назіранні, вывучэнне флоры і фауны рэгіёна, мелі агульнарэспубліканскае значэнне [219, с. 32].

З мэтаю падрыхтоўкі новых кадраў краязнаўцаў у 1928 г. ЦБК сумесна з Наркамасветы вырашылі ўвесці выкладанне методыкі краязнаўства ва ўсіх вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах. Члены ЦБК склалі «План курса краязнаўства ў вышэйшых навучальных установах»[1], але рэалізаваны ён быў толькі ў некаторых тэхнікумах, пераважна педагагічных.

Такім чынам, 1920-я гг. былі перыядам арганізацыйнага афармлення музейна-краязнаўчага руху ў БССР, прыцягнення да ўдзелу ў ім шматлікіх энтузіястаў, разгортвання вывучэння гістарычнага мінулага

і прыроды Беларусі па шырокіх праграмах.

* * *

Агульную каардынацыю музейнай дзейнасці краязнаўчых таварыстваў, а таксама яе навукова-метадычную падтрымку ажыццяў-

[1] На змест плана ў значнай ступені паўплывалі тэарэтычныя распрацоўкі М.І. Каспяровіча, у т. л. прапанаваны ім структурны падзел краязнаўства па навуковае, аматарскае, грамадска-нрактычнае, асветнае. Мэтай апошняга было выхаванне і адукацыя краязнаўцаў у працэсе вывучэння імі краю, прычым не толькі школьнікаў, але і дарослых. Каспяровіч М. Краязнаўчая праца ўстаноў народнае асьветы // Асьвета. — 1926. — № 3. — С. 142-144.

ляла ЦБК. Пытанні музейнага будаўніцтва ўздымаліся амаль на кожным пленуме бюро, абмяркоўваліся на старонках часопіса «Наш край». Так, ужо ў першым нумары часопіса быў апублікаваны ўзорны статут раённага краязнаўчага таварыства, дзе сярод яго галоўных мэт вызначалася арганізацыя ўласнага музея [85, с. 38]. У шэрагу артыкулаў знайшла адлюстраванне праблема методыкі збірання экспанатаў і пабудовы музейных экспазіцый [188]. На пасяджэнні ЦБК 30 чэрвеня 1927 г. быў зацверджаны расклад лекцый па краязнаўству на радыё, адна з якіх мела назву «Як арганізаваць мясцовы музей» [96, с. 83]. На курсах-студыі па краязнаўству пры БДУ В.Ю. Ластоўскі чытаў цыкл лекцый «Музеязнаўства і музеябудаўніцтва» [99, с. 85]. Аналагічныя курсы былі ўведзены ў праграмы педтэхнікумаў.

Кіраўніцтва ЦБК рэгулярна ўздымала пытанне матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці краязнаўчых музеяў. Большасць з іх знаходзілася ў невялікіх непрыстасаваных будынках, дзе немагчыма было разгарнуць сур'ёзную навукова-фондавую і экспазіцыйную работу. Таму ў сярэдзіне 1926 г. бюро афіцыйна звяртаецца да старшынь аблвыканкамаў з просьбай аб адводзе памяшканняў пад краязнаўчыя музеі [89, с. 66].

Краязнаўчыя музеі былі вынікам работы таварыстваў па вывучэнні прыроды, гісторыі і эканомікі сваёй мясцовасці. Таму ў большасці музеяў меліся тры галоўныя аддзелы: прыродазнаўчы, культурна-гістарычны і грамадска-эканамічны. У той жа час у некаторых з іх пачалі фарміравацца мастацкія калекцыі. З простых сховішчаў навуковага матэрыялу грамадскія краязнаўчыя музеі БССР на працягу 1920-х гг. пераўтварыліся ў своеасаблівыя навукова-даследчыя ўстановы, якія праводзілі асветніцкую работу ў цеснай сувязі з сістэмай народнай адукацыі.

Шырокая работа па стварэнні краязнаўчых музеяў разгарнулася пасля І Усебеларускага краязнаўчага з'езда, дзе была ўхвалена пастанова, згодна якой кожная краязнаўчая арганізацыя павінна была заснаваць свой музей, які б паказваў у экспазіцыях прыроду, гаспадарку і побыт дадзенага раёна [87, с. 80].

Першы грамадскі краязнаўчы музей на тэрыторыі БССР быў створаны ў Слуцку.

Як ужо гаварылася вышэй, дзейнасць па стварэнні слуцкага музея пачалася ў 1921 г. па ініцыятыве мясцовага аддзела народнай асветы. Новы імпульс гэтая праца атрымала пасля прызначэння ў слуцкі аддзел на пасаду інспектара сацыяльнага выхавання М.І. Каспяровіча. У 1922 г. ён стварыў у горадзе камісію беларусазнаўства, на якую была ўскладзена праца па арганізацыі краязнаўчага музея з

наступнымі аддзеламі: педагагічным, этнаграфічным, прамысловым (з сельскагаспадарчым, тэхнічным і кустарна-мастацкім пададдзеламі). Непасрэдная праца па камплектаванні калекцый, пошуку памяшкання і г. д. была даручана музейнаму бюро ў складзе Яфімава (старшыня), А. Бараноўскага, Барташэвіча і Яновіча [111, с. 164].

Адразу ж пасля ўтварэння слуцкае музейнае бюро разгарнула актыўную працу. Былі праведзены некалькі экспедыцый па збору рэчавага матэрыялу і запісе фальклору, рассылаліся анкеты з мэтаю выяўлення помнікаў старажытнасці і прыроды, зроблены захады па іх ахове. Урэшце, члены бюро распрацавалі план стварэння школьных павятовых краязнаўчых музеяў. Ідэя разгортвання музейнага руху прапагандавалася таксама праз лекцыйную дзейнасць. Першыя сабраныя калекцыі члены музейнага бюро прадэманстравалі публіцы ўжо ў 1923 г. на павятовай сельскагаспадарчай выстаўцы, дзе меўся спецыяльны этнаграфічны аддзел. Пасля закрыцця выстаўкі калекцыі, сабраныя членамі бюро, былі перавезены ў будынак Слуцкай царквы-брамы, які да 1926 г. выкарыстоўваўся ў якасці фондасховішча [126].

Хутка пасля пераўтварэння ў верасні 1923 г. камісіі беларусазнаўства ў Слуцкае павятовае таварыства краязнаўства большасць актыўных членаў музейнага бюро на чале з М.І. Каспяровічам з'ехала са Слуцка. Праца па фарміраванні фондаў слуцкага музея спынілася на два гады — да 22 лістапада 1925 г., калі быў зацверджаны новы статут Слуцкага акруговага таварыства краязнаўства. Апошні прадугледжваў стварэнне ў структуры таварыства музейнай секцыі, куды адразу ж запісаліся 32 асобы, пераважна моладзь. Сябры секцыі ў кароткі тэрмін склалі і распаўсюдзілі па акрузе адозву аб ахвяраванні прадметаў музейнага значэння, перавезлі архіў кальвінскага збору, пашырылі бібліятэку, знайшлі экспазіцыйнае памяшканне, заснавалі краязнаўчыя музеі ў Капылі, Любані, Старых Дарогах і Старобіне [210, с. 73].

Адкрыццё новай экспазіцыі музея адбылося ў слуцкім Доме культуры 28 сакавіка 1927 года. У той час на ёй было прадстаўлена 1946 прадметаў, згрупаваных у тры аддзелы.

1) Культурна-гістарычны аддзел — партрэты слуцкіх князёў, рукапіснае евангелле, епітрахіль і посах XVI ст., малюнкі Катарбінскага (перададзены ў БДМ, маюць агульнарэспубліканскае значэнне), неалітычныя малаткі і цёслы, знойдзеныя ў курганах чарапы, косці, гаршкі, шкляныя пацеркі, галаўная грыўна, жалезная сякера XII ст., фрагмент кальчугі, план Слуцка 1780 г., палова слуцкага паса XVIII ст. з надпісамі «Лео Маджарскі», «в граде Слуцке», нумізматычная

калекцыя, партрэты, мастацкія вышыўкі XVIII ст., старажытная цэгла, прылады працы, ядры ад гармат.

2) Прыродна-геаграфічны аддзел — тапаграфічная і глебавая трохвярстовыя карты Слуцкай акругі, планы гарадоў, алеявыя малюнкі пейзажаў Случчыны, фотаздымкі палескіх тыпаў (жанчын і дзяўчат у нацыянальнай вопратцы, сляпога з павадыром, пастушка, лірнікаў), чучалы дзіка, сусла, пацука, крата, геаграфічныя карты, складзеныя на дрэве, калекцыі матылёў, мінералаў і мясцовых раслін.

3) Грамадска-эканамічны аддзел — альбом тканін, мадэль бараны, снапкі збожжа гаспадароў, якія атрымалі прэміі на сельскагаспадарчай выстаўцы, узоры насення, вырабы народнай творчасці, мадэль маста, карта эканамічнай сеткі Слуцкай акругі, калекцыя па ахове здароўя і інш.

Пры музеі існавала бібліятэка, якая складалася з 1334 назваў Падзялялася яна на тры аддзелы: беларусазнаўства і краязнаўства, старадрукаў, markdown рознае. У першым аддзеле было 244 назвы, у тым ліку археаграфічныя зборнікі старажытных грамат і актаў, падручнікі па краязнаўству і творы агульна-геаграфічнага і гістарычага характару. Другі аддзел меў 260 назваў — выданні розных краін, пачынаючы з 1605 г. і да канца XVIII ст., а таксама 67 рукапісных кніг і 48 дакументаў Кніг markdown рознага зместу было 800 назваў [200, с. 29].

Музей, адкрыты для публікі два дні ў тыдзень, карыстаўся вялікай папулярнасцю. Толькі за першыя пяць месяцаў існавання яго агледзела 7 254 індывідуальныя наведвальнікі, а для 559 чалавек было праведзена 12 экскурсій.

У 1927/28 акадэмічным годзе музейная секцыя атрымала ад слуцкіх гарадскіх улад 300 рублёў на ўтрыманне музея, што дазволіла пашырыць прыродна-геаграфічны і грамадска-эканамічны аддзелы музея, пачаць каталагізацыю калекцый, а таксама правесці фотафіксацыю гістарычных і прыродных помнікаў

Пасля прыняцця курса на індустрыялізацыю СССР на XIV з'ездзе УКП(б) у якасці важнейшага накірунку дзяржаўнай эканамічнай палітыкі разглядалася пытанне стварэння новай тэхнікі і авалодання ёю. У сувязі з гэтым развівалася політэхнічная адукацыя, у якой значная роля адводзілася політэхнічным музеям. Прапаганда дасягненняў тэхнікі шляхам увядзення ў экспазіцыю мадэлей, макетаў, дэталей машын вялася многімі краязнаўчымі музеямі СССР. У БССР першыя захады ў гэтым накірунку былі зроблены Бабруйскім акруговым таварыствам краязнаўства.

Бабруйскі краязнаўчы музей быў створаны ў 1924 г. мясцовымі краязнаўцамі на чале з энтузіястам музейнай справы Ц.Я. Славіным[1]. Музей размяшчаўся ў невялікім драўляным будынку, які знаходзіўся насупраць гарадской бібліятэкі, дзе ў чатырох пакоях была разгорнута экспазіцыя.

Асноўны экспазіцыйны аддзел быў прысвечаны завадскому і фабрычнаму жыццю Бабруйшчыны. У ім Ц.Я. Славін размясціў мадэлі, якія дэманстравалі працэс вытворчасці на мылаварным, маслабойным, дрэваапрацоўчым, гутным і іншых заводах. Усё гэта ілюстравалася схемамі, статыстычнымі дадзенымі вытворчасці і збыту, дыяграмамі прафесійных хвароб і неабходнымі тлумачэннямі па санітарыі і гігіене. У гэтым жа аддзеле меўся пададдзел электрыфікацыі, дзе наглядна дэманстраваліся канструкцыі тэлефона, званка, тэлеграфа, лампы, кінаапарата.

Меншымі па памерах былі аддзелы сельскай і лясной гаспадаркі, земляробства, пчалярства, меліярацыі, саматужніцтва, палявання. Асобна дэманстравалася прыродазнаўчая калекцыя — выкапні, гербарыі, чучалы птушак і жывёл. Мелася невялікая колькасць экспанатаў па археалогіі і этнаграфіі Бабруйшчыны [94, с. 63].

Праз два гады пасля заснавання музея, у лютым 1926 г. удзельнікі 1-й краязнаўчай канферэнцыі Бабруйскай акругі канстатавалі, што «адным з найважнейшых дасягненняў таварыства з'яўляецца арганізацыя Бабруйскага акруговага музея, у якім ужо ёсць каля 1000 экспанатаў» [87, с. 87 ]. Пра дынаміку росту фондавых калекцый сведчыць той факт, што ўжо праз год толькі ў прыродазнаўчым аддзеле музея налічвалася каля 3 тыс. адзінак [92, с. 83].

Найлепш Бабруйскі музей вёў адукацыйна-асветніцкую работу, пік якой прыпадае на 1929/30 акадэмічны год. Гэты бок дзейнасці наглядна ілюструе наступная табліца:

| | Колькасць экскурсій | | | |
|---|---|---|---|---|
| Месяцы | Навучэнцы | Ваеннаслужачыя | Сяляне | Усяго |
| Кастрычнік 1929 г. | 42 | - | I | 43 |
| Лістапад 1929 г. | 33 | 7 | - | 40 |
| Снежань 1929 г. | 75 | 17 | - | 92 |
| Студзень 1930 г. | 56 | 26 | 2 | 84 |
| Люты 1930 г. | 77 | 6 | - | 83 |

[1] Ц.Я. Славін (1887-1937) парадзіўся ў в. Гарадок Глускага пав.,з 1920 г. працаваў бібліятэкарам дзіцячага аддзялення гарадской бібліятэкі, у 1924-1937 гг. з'яўляўся загадчыкам Бабруйскага краязнаўчага музея. Ц.Я. Славін вылучаўся ў Бабруйскай краязнаўчай арганізацыі разнастайнымі талентамі (у прыватнасці, музычнымі), імкненнем да самаадукацыі і, самае галоўнае, адданасцю справе стварэння музея. Адзін з сучаснікаў пазваў Славіна «паэтам у сваёй працы». У жніўні 1937 г. ён быў арыштаваны па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, загінуў у адным з лагераў ГУЛАГа.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сакавік 1930 г. | 52 | 11 | - | 63 |
| Красавік 1930 г. | 55 | 18 | - | 73 |
| УСЯГО | 390 | 85 | 3 | 478 |

[106, с. 79].

Калі ўлічыць, што сярэдняя колькасць экскурсійнай групы складала 40 чалавек, то, відавочна, што толькі арганізавана за семь месяцаў музей наведала 19 200 экскурсантаў, што суадносна з аналагічнымі паказчыкамі БДМ і яго аддзяленняў. З табліцы няцяжка заўважыць, што абсалютную большасць наведвальнікаў складалі навучэнцы і ваеннаслужачыя. Рабочыя, сяляне, прадстаўнікі інтэлігентных прафесій амаль не праяўлялі цікавасці да музея. Дадзеныя паказчыкі можна растлумачыць імкненнем сяброў краязнаўчага таварыства максімальна выкарыстаць патэнцыял музея ў педагагічных мэтах. З іншага боку, навучэнцы і ваеннаслужачыя ўяўлялі «лёгкаарганізуемыя» сацыяльныя групы насельніцтва, з жаданнем ці нежаданнем якіх наведаць музей ніхто не лічыўся.

Хуткае павелічэнне колькасці наведвальнікаў і фондавых калекцый прымусіла кіраўніцтва краязнаўчага таварыства ў 1930 г. узняць перад акруговым выканкамам пытанне пра новае памяшканне для музея. Хутка яно знайшлося — гэта быў большы па плошчы будынак з прыбудовай для фондасховішча па вул. Пушкіна, 145. Але фінансаванне музейных работ, за выключэннем невялікага заробку загадчыка музея Ц.Я. Славіна, з мясцовага бюджэту адкрыта так і не было. Тым не менш музейны актыў у 1930 г. планаваў арганізаваць пры музеі метэастанцыю, закласці паказальныя ўчасткі паляводства, ілюстраваць у натуральным выглядзе жыццё шкоднікаў, правесці лабараторна-даследчыя работы.

Адначасова з бабруйскім краязнаўчым музеем былі створаны музеі яшчэ ў двух акруговых цэнтрах БССР — Оршы і Барысаве.

Важнымі асяродкамі краязнаўчай працы з'яўляліся два аршанскія музеі, заснаваныя ў 1924 г. сябрамі Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства (іх колькасць перабольшвала 700 чалавек) пад кіраўніцтвам старшыні прэзідыума таварыства, кіраўніка аршанскай партыйнай арганізацыі В.І. Саўліча[1].

У культурна-гістарычным музеі працавалі сябры музейна-археалагічнай секцыі Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства. Вядома, што яны зрабілі шмат для камплектавання этнагра-

[1] В.І. Саўліч з'яўляўся, безумоўна, яскравай індывідуальнасцю, што праявілася не толькі ў яго краязнаўчай, але і палітычнай дзейнасці. Ён рэзка публічна крытыкаваў першага сакратара ЦК КП(б)Б А.І. Крывіцкага за адыход ад палітыкі беларусізацыі, што прымусіла апошняга адказваць на крытыку публічна па X з'ездзе КП(б)Б.

фічнай, археалагічнай і мастацкай калекцый. Відаць, культурна-гістарычны музей увабраў у сябе таксама калекцыі Аршанскага музея старажытнасцей, які існаваў да ўваходжання горада ў склад БССР.

Стварэннем сельскагаспадарчага музея займалася прыродна-эканамічная секцыя, сябры якой прыцягнулі да камплектавання калекцый раённыя краязнаўчыя арганізацыі Аршанскай акругі. У 1926 г. Аршанскі сельскагаспадарчы музей разгарнуў свае сталыя экспазіцыі ў будынку 1-й сямігодкі па вул. Ленінскай. Структурна яго экспазіцыя была падзелена на аддзелы вытворчасці, лугаводства, паляводства, заалагічны, батанічны і энтамалагічны [92, с. 74].

Хутка пасля заснавання аршанскіх музеяў высветлілася, што матэрыяльных сродкаў для забеспячэння нармальнай работы абодвух музеяў у краязнаўчым таварыстве не хапае. Таму на 3-й акруговай краязнаўчай канферэнцыі ў снежні 1926 г. вырашылі аб'яднаць іх пад адным дахам, што і было зроблена на працягу 1928-1929 гг. Новую, аб'яднаную экспазіцыю музея адкрылі ўжо ў новым будынку былой царквы па вуд. Энгельса [226, с. 60].

Барысаўскі краязнаўчы музей, які быў заснаваны ў жніўні 1924 г. акруговым таварыствам пад кіраўніцтвам інспектара сацвыхавання В. А. Самцэвіча, меў невялікую калекцыю прадметаў мясцовай прыроды і побыту. Стварэннем музея займалася спецыяльная камісія, куды ўваходзілі дырэктар Барысаўскага педтэхнікума Ю.Я. Мазінг, настаўнікі С.П. Нікіфаровіч і І.П. Лабач, а таксама загадчык акруговага архіва І.Ф. Жалкевіч [58, арк. 6]. Экспазіцыя музея была адкрыта для агляду два разы ў тыдзень у адным з пакояў тэхнікума. Але знаходзілася яна там толькі да пачатку 1925/26 навучальнага года, пакуль пакой не забралі пад вучэбны працэс. Усе звароты кіраўніцтва краязнаўчага таварыства да мясцовых улад з просьбай падтрымаць музей, выдзеліць памяшканне і сродкі не мелі поспеху, у выніку чаго калекцыі захоўваліся ў скрынях [92, с. 93].

Тым не менш і ў падобных неспрыяльных умовах у 1928-1930 гг. назіраецца ажыўленне музейнай работы, што праявілася ў павелічэнні новых паступленняў. Тлумачылася гэта ў значнай ступені абраннем на пасаду загадчыка музея мясцовага настаўніка Кегелеса. Так, у азначаны перыяд калекцыі ўзбагаціліся археалагічнымі знаходкамі, тапаграфічнымі картамі раёна, табліцамі феналагічных і метэаралагічных назіранняў, фотаздымкамі нерухомых гістарычных помнікаў, арніталагічнай і энтамалагічнай калекцыямі [103, с. 78]. Важнай падзеяй у жыцці музея была перадача ў фонды музея экспанатаў, якія дэманстраваліся на выстаўцы, прысвечанай 5-годдзю стварэння барысаўскага гуртка натуралістаў [106, с. 81].

Краязнаўчая праца, якая пачала разгортвацца на Полаччыне пачынаючы з восені 1925 г., таксама выклікала патрэбу ў арганізацыі акруговага краязнаўчага музея. З верасня 1925 г. музейная рада пад кіраўніцтвам мясцовага настаўніка С.М. Мялешка распачала збор і сістэматызацыю экспанатаў. Ёй дапамагалі каля 450 сяброў раённых краязнаўчых таварыстваў, якія дасылалі ў Полацк каштоўныя знаходкі, праводзілі экскурсіі, збіралі звесткі пра нерухомыя помнікі. Энтузіязм краязнаўцаў дазволіў ўжо ў чэрвені 1926 г. разгарнуць сталую экспазіцыю ў будынку Сафійскага сабора. Перадача музею гэтага будынка адбылася дзякуючы прыхільнаму стаўленню кіраўніцтва Полацкага акрвыканкама, які штогод выдзяляў на музейныя работы 1000 рублёў [88, с. 75]. Уся экспазіцыя падзялялася на тры аддзелы:

1) Аддзел культурна-гістарычны, які складаўся з наступных пададдзелаў: а) мастацкага (67 партрэтаў дзеячаў езуіцкага і дамініканскага ордэнаў, копіі Карэджа і Тыцыяна, малюнкі сучасных полацкіх мастакоў, скульптура, мэбля, узоры тканін, вышывак, дываны, паясы з бісеру, слуцкія паясы, некалькі малюнкаў візантыйскага і уніяцкага пісьма); б) нумізматычнага (больш за 1 000 манет Вялікага княства Літоўскага і Расійскай імперыі, якія паходзілі са скарбаў, знойдзеных на Полаччыне, а таксама папяровыя грошы); в) вайсковага (халодная і агнястрэльная зброя пераважна XIX ст.); в) археалагічнага (каля 100 знаходак, датуемых эпохай неаліту); г) старажытнага друку (рукапісныя кнігі XVII ст., бібліі на нямецкай і польскай мовах XVI-XVII ст., лекцыі прафесараў і запіскі студэнтаў Полацкай езуіцкай акадэміі, акты, планы, граматы па гісторыі старажытнага Полацка, друкарскі станок XVIII ст.); д) рэвалюцыйнага руху на Полаччыне (фотаздымкі рэвалюцыянераў 1905 г., частак горада, дзе адбываліся рэвалюцыйныя падзеі, і г.д.); е) савецкага будаўніцтва на Полаччыне (матэрыялы па ўсталяванні Савецкай улады, павятовых і акруговых з'ездаў Саветаў і г.д.).

2) Аддзел грамадска-эканамічны змяшчаў экспанаты пераважна па этнаграфіі насельніцтва Полаччыны. Матэрыяльная культура сялян была прадстаўлена аўтэнтычнымі прадметамі і замалёўкамі. Цэнтральнае месца ў аддзеле займала хата полацкага селяніна XIX ст., дзе дэманстраваўся яго побыт у працы і адпачынку, а таксама манекены гаспадара і гаспадыні. Асобна дэманстраваліся ўзоры тканін, посцілкі, кросны, прасніцы, бёрды, сукала і інш. Акрамя таго, у экспазіцыі Молена было ўбачыць сялянскую вопратку, народныя музычныя інструменты, шкляныя і ганчарныя вырабы.

3) Аддзел прыродна-геаграфічны меў 40 чучалаў звяроў, 23 гербарыі, узоры глеб Полаччыны [201, с. 571.

Музейная рада Полацкага акруговага таварыства краязнаўства прыкладала актыўныя намаганні па папулярызацыі сабраных калекцый. Нягледзячы на абмежаваны доступ (музей быў адкрыты тры дні ў тыдзень з 10 да 16 гадзін) яго наведвала 5 тыс. чалавек у год.

30 ліпеня 1926 г. пасля сямімесячных падрыхтоўчых работ у памяшканні Дома асветы адбылося адкрыццё Клімавіцкага акруговага краязнаўчага музея (Калінінская акруга). Хуткае развіццё новай установы адбывалася дзякуючы падтрымцы гарадскіх выканаўчых улад, якія фінансавалі музейнае будаўніцтва ў межах усёй акругі [59, арк. 62].

У аснову фондавых калекцый музея былі пакладзены нешматлікія курганныя знаходкі і старажытныя манеты, якія засталіся ад музея мужчынскай гімназіі, існаваўшага ў горадзе да першай сусветнай вайны. Музей складаўся з 5 аддзелаў: заалагічнага, археалагічнага, гістарычнага, нумізматычнага і мастацкага. У хуткім часе планавалася адкрыццё двух новых аддзелаў — рэлігійнага і краязнаўчага.

Найбольш каштоўным у навуковых адносінах быў археалагічны аддзел, дзе першыя наведвальнікі маглі ўбачыць помнікі старажытнаегіпецкага мастацтва (бронзавыя статуэткі Азірыса, Аліса, Лунуса і інш.), палеалітычныя помнікі (крамянёвыя сякеры, долаты, скрабкі), курганныя знаходкі (пацеркі, завушніцы, спражкі, вісочныя кольцы, шыйныя абручы), сярэдневяковую зброю (мячы, кальчугі, панцыры). У гістарычным аддзеле прыцягвала ўвагу калекцыя бюстаў старажытна-рымскіх палкаводцаў і палітычных дзеячаў, у мастацкім — калекцыі саксонскай парцэляны і французскіх гравюр з малюнкаў Верн'е.

Падчас адкрыцця музея ў ім налічвалася крыху больш за 1 000 прадметаў, але калекцыі хутка павялічваліся дзякуючы энтузіязму мясцовага насельніцтва. Пра папулярнасць музея сведчыць таксама наступная лічба: за першыя два месяцы існавання яго наведала каля 4 тыс. чалавек, не лічачы экскурсійных груп [90, с. 71].

Апошні акруговы краязнаўчы музей адкрыўся ў Мазыры. Рашэнне пра яго стварэнне было ўхвалена 3 красавіка 1927 г. на агульным сходзе Мазырскага акруговага таварыства [95, с. 67].

Як і ў папярэдніх выпадках фарміраванне яго калекцый было вынікам аматарскай працы мясцовага насельніцтва ў галіне вывучэння краю. Так, мазырскі саюз паляўнічых арганізаваў збор арніталагічнай калекцыі. Летам 1927 г. падчас удзелу сяброў Мазырскага акруговага таварыства ў экспедыцыі Усесаюзнага музея народазнаў-

ства значна папоўнілася этнаграфічная калекцыя. Акрамя таго, на працягу 1927/28 навучальнага года фонды ўзбагацілі археалагічныя знаходкі, нумізматыка, царкоўныя старажытнасці, а таксама прыродазнаўчая калекцыя, што дазволіла адкрыць музей для наведвання I студзеня 1929 г. [102, с. 62].

Экспазіцыя мазырскага акруговага музея, адкрытая для агляду шырокай публікі два разы ў тыдзень, адрознівалася ад іншых імкненнем яе стваральнікаў паказаць падзеі найноўшай палітычнай гісторыі БССР — польскую і нямецкую акупацыю, усталяванне Савецкай улады, барацьбу з бандытызмам. Планаваўся паказ дасягненняў мясцовых калектыўных гаспадарак. Дасягалася гэта мэта праз дэманстрацыю дакументальных матэрыялаў.

Да 1926 г., акрамя вышэй пералічаных музеяў, вельмі актыўную дзейнасць разгарнулі Мінскае, Віцебскае, Магілёўскае і Гомельскае акруговыя краязнаўчыя таварыствы. Але ў сувязі з тым, што у гэтых гарадах існавалі аддзяленні БДМ, з якімі таварыствы цесна супрацоўнічалі, самастойных краязнаўчых музеяў там не стварылі. Цэнтр увагі ў музейнай дзейнасці гэтыя таварыствы перанеслі на раённыя гарады (напрыклад, у Віцебскім акруговым краязнаўчым таварыстве разгортваннем музейнага руху ў раёнах заёмалася асобная секцыя).

Не менш важнай з'явай у музейным жыцці Беларусі 1920-х гг. было масавае стварэнне раённых краязнаўчых музеяў. Большасць з іх з'явілася ў 1927-1928 гг., што сведчыла пра новы этап развіцця краязнаўчага руху, яго пранікненне ў глыб правінцыі. Для беларускай гістарычнай і прыродазнаўчай навук, якія знаходзіліся ў той перыяд у стадыі назапашвання і сістэматызацыі фактаў, падобная з'ява мела асаблівае значэнне. Беручы пад увагу слабую вывучанасць рэспублікі і абмежаванасць у навуковых кадрах, збіранне матэрыялаў па гісторыі, прыродзе і эканоміцы Беларусі сябрамі раённых краязнаўчых арганізацый было важнейшай умовай стварэння паўнавартаснай крыніцазнаўчай навуковай базы.

Згодна справаздачы ЦБК, сетка раённых краязнаўчых музеяў на I студзеня 1928 г. выглядала наступным чынам:

| Назва акругі | Колькасць музеяў | Колькасць экспанатаў | Колькасць музеяў, якія маюць уласныя памяшканні |
|---|---|---|---|
| Аршанская | 4 | 4 000 | 2 |
| Бабруйская | 2 | 4 475 | 2 |
| Віцебская | 1 | 480 | 1 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гомельская | - | - | - |
| Магілёўская | 4 | 2 344 | 4 |
| Мазырская | 4 | 1800 | 4 |
| Мінская | 2 | 1020 | 2 |
| Полацкая | 2 | 1200 | 2 |
| УСЯГО | 19 | 15 319 | 17 |

[98, с. 60].

Трэба адзначыць, што аўтары справаздачы дапускалі памылковасць агульных лічбаў у бок памяншэння ў сувязі з тым, што некаторыя раённыя таварыствы не даслалі сваечасова звесткі гіра сваю дзейнасць. Аналіз архіўных матэрыялаў і краязнаўчай перыёдыкі тых гадоў дазваляе ўдакладніць колькасць раённых краязнаўчых музеяў, што існавалі ў БССР напрыканцы 1920-х гг. і давесці іх колькасць да 27. Музеі існавалі ў Азарычах, Асіповічах, Бабры, Бешанковічах, Быхаве, Бялынічах, Бярэзіне, Гарадку, Дрысе, Камарыне, Капаткевічах, Капылі, Лагойску, Лепелі, Мсціславе, Нароўлі, Плешчаніцах, Смалявічах, Смілавічах, Суражы, Сянне, Талачыне, Тураве, Ушачах, Хоцімску, Чэрыкаве, Чэрвені.

У той жа час, на стадыі фарміравання знаходзіліся музеі краязнаўчых таварыстваў у Асвеі, Бялынічах, Грэску, Горках, Жлобіне, Клічаве, Лельчыцах, Лёзна, Міласлаўлі, Рагачове, Самахвалавічах, Старых Дарогах, Уваравічах, Чашніках, Чырвонай Слабадзе, Шклове.

Лепшы раённы краязнаўчы музей знаходзіўся ў Асіповіцкім раёне, які ЦБК у 1927 г. вызначыла як узорны. Музей быў адкрыты для ўсеагульнага агляду ў сакавіку 1928 г. у будынку Асіповіцкай чыгуначнай школы. Зборам экспанатаў, афармленнем экспазіцыі і правядзеннем экскурсій займалася музейная камісія з чатырох чалавек на чале з настаўнікам А. Г. Немцавым. Усе экспанаты музея падзяляліся на тры аддзелы: прыродна-геаграфічны, побытавы і культурна-гістарычны. Асноўнае месца ў іх займалі матэрыялы раённага паходжання. Іх паступленне фіксавалася ў спецыяльнай інвентарнай кнізе, што сведчыла пра спробы асіповіцкіх краязнаўцаў наладзіць улік музейных прадметаў. Адначасова вёўся ўлік наведвальнікаў, яны маглі пакінуць свае ўражанні пра ўбачанае ў музеі ў кнізе водгукаў [155, с. 64].

З 1927 г. прыцягвалі ўвагу навукоўцаў і шырокіх колаў грамадскасці прыродазнаўчыя, этнаграфічныя і нумізматычныя калекцыі раённых краязнаўчых музеяў у Чэрвені (загадчык У. Дземяшкевіч), Чэрыкаве (загадчык Зыкаў), Смілавічах (загадчык А. Шыдлоўскі).

Як ужо адзначалася вышэй, паслярэвалюцыйны перыяд у гісторыі музейнай справы прасякнуты імкненнем адкрыць і зрабіць даступнымі для працоўных усе скарбы чалавечай цывілізацыі, пераўтварыць «музеі-кунсткамеры», «мёртвыя сховішчы» ў інструменты культурнай рэвалюцыі. Нягледзячы на тое, што адукацыйнае разуменне музея на беларускіх землях мела больш чым 200-гадовую традыцыю, культурныя дзеячы 1920-х гг. ухвалялі свае ідэі як абсалютна новыя, народжаныя рэвалюцыяй, супрацьпастаўлялі іх ідэалам буржуазнага асветніцтва. Тым не менш трэба прызнаць, што менавіта настаўнікі-краязнаўцы 1920-х упершыню паставілі ўсур'ёз пытанне пра ролю, змест, месца ў адукацыйным працэсе школьнага музея.

Па пытанні аб спецыфіцы школьнага музея і музейнай адукацыі сярод настаўнікаў-краязнаўцаў не было адзінага пункту гледжання. Яно актыўна абмяркоўвалася на старонках перыёдыкі тых гадоў.

Ініцыятарам яго публічнага абмеркавання ў 1923 г. быў інспектар Слуцкага аддзела народнай асветы М.І. Каспяровіч. У сваім артыкуле «Арганізуйце школьныя музеі!» ён выказаў думку, што мэтаю стварэння школьнага краязнаўчага музея з'яўляецца, з аднаго боку, вывучэнне мясцовага краю, з другога — развіццё здольнасцей вучняў падчас збіральніцкай работы. Такім чынам, сцвярджаў М.І. Каспяровіч, галоўнае — не сам музей, а працэс яго ўтварэння. Вядомы педагог і арганізатар краязнаўчага руху разумеў школьны краязнаўчы музей як «...месца, ў якім дзеці практыкуюць сваю волю, завострываюць розум, гадуюць пачуцці, навучаюцца свядомым і ўдумлівым адносінам да акружаючага, навучаюцца наглядаць, здабываць сістэматычныя пазнаньні ня толькі з кніжкі, але на жывой практыцы. Такім парадкам, музей з'яўляецца мэтадам, асабліва важным у руках настаўніка» [176].

Больш традыцыйныя погляды на школьны краязнаўчы музей мы сустракаем на старонках артыкула члена ЦБК Г. Аляксандрава «Чарговыя задачы школьнага краязнаўства». Яго аўтар сцвярджаў, што «...такі музей павінен мець у сабе аб'екты і матэрыялы, якія ўсебакова характарызуюць жыццё раёна — яго прыроду, гаспадарчыя формы, быт» [157, с. 13).

Пошукі аптымальных форм работы школьных краязнаўчых музеяў працягваліся настаўнікамі на канферэнцыях, сустрэчах, у штодзённай практычнай рабоце.

Вельмі цікавае апісанне ўзнікнення школьнага краязнаўчага музея мы знаходзім у артыкуле аднаго з вясковых настаўнікаў. «Як стала вясна, пасыпаліся ў музей вучнёўскія працы і сшыткі, малюнкі, падзелкі з жалеза, дрэва і рэчы, вылепленыя з гліны, сплеценыя з

пруцця, выразаныя з бібулы, засушаныя расьліны, кузуркі і інш. Калі сталі паступаць батанічныя і заолёгічныя колекцыі з'явілася патрэба адрозьніць гэты матар'ял, утварыць з яго аддзяленьне краяведчае... такім чынам у нашым музеі расьлі 2 аддзяленні: пэдагогічнае і краяведчае. З цягам часу зьявілася патрэба адчыніць яшчэ адно аддзяленьне — гістарычнае. Усе матар'ялы якія адносіліся да вайны германскай і грамадзянскай: розныя лісты, апавяданні ўдзельнікаў, кускі шрапнэляў супроць газавыя маскі, ранцы ды інш. — усе гэтыя рэчы зладжылі трэці багаты аддзел — гістарычны. Цяпер у гэтым музеі робіцца шмат экскурсій. Кожная школа таго раёну лічыць сваім абавязкам прысьці сюды з выпускнымі вучнямі... А калі-небудзь нашы матар'ялы скарыстаюць вучоныя» [187, с. 89].

Лепшыя краязнаўчыя музеі былі створаны ў Мсціслаўскім і Рагачоўскім педтэхнікумах, Рэчыцкім белпедтэхнікуме, Чырвонабярэжскім аграпедтэхнікуме, Магілёўскай саўпартшколе і інш. Прыкметнай з'явай было ўзнікненне вясковых школьных краязнаўчых музеяў. У якасці прыкладу можна прывесці музей у в. Ульянава Полацкай акругі, дзе пад кіраўніцтвам мясцовага настаўніка Б. Паршуты былі створаны экспазіцыі па археалогіі, этнаграфіі, геалогіі, батаніцы і школьнаму краязнаўству.

1928-1929 гг. былі часам высокага ўзлёту музейна-краязнаўчага руху ў БССР. Да гэтай дзейнасці далучаюцца асобы рознага сацыяльнага становішча і рознай ступені падрыхтоўкі, але ў асноўным інтэлігентных прафесій і навучэнцы. Выяўленне, улік, ахова і выкарыстанне імі культурных каштоўнасцей стала асноўным напрамкам дзейнасці большасці краязнаўчых арганізацый, што давала магчымасць ствараць новыя музеі. У БССР на 1 студзеня 1928 г., паводле падлікаў аўтара, існавала 7 акруговых і 27 раённых грамадскіх краязнаўчых музеяў.

* * *

Паступова з другой паловы 1920-х гг. узмацнілася імкненне да ідэалагізацыі работы краязнаўцаў, асабліва ў адукацыйнай сферы. Гэта прасочваецца па выступленнях на краязнаўчых канферэнцыях дзяржаўных і палітычных дзеячаў, публікацыях у перыядычным друку, арганізацыйна-метадычнай дзейнасці ЦБК.

Работа краязнаўцаў праходзіла ў формах дэмакратычнай самадзейнасці, самаарганізацыі жыцця, якая брала пачатак ад дарэвалюцыйных, земскіх традыцый. Далучэнне да ведаў адбывалася абмінаючы дзяржаўныя кіраўнічыя ўстановы, без уніфікаваных методык і абавязковых распараджэнняў. Гэта не адпавядала курсу на бюра-

кратызацыю грамадскага жыцця, які быў узяты ва ўмовах фарміравання культу асобы Сталіна. Калі ўлады імкнуліся ўсё нівеліраваць, краязнаўцы лічылі сваім абавязкам знайсці адметнасць, своеасаблівасць. Калі ўлады сілаю намагаліся падзяліць грамадства і навязаць думку пра абвастрэнне класавай барацьбы, краязнаўцы імкнуліся захапіць агульнай культурнай працай людзей розных пакаленняў, рознага сацыяльнага паходжання, рознага ўзроўню адукаванасці. У гады паўсюдных міграцый намецілася тэндэнцыя разрыву сувязі насельніцтва са сваімі каранямі. Краязнаўцы ж імкнуліся захаваць гэтыя сувязі, зрабіць іх крыніцай далейшага культурнага развіцця. Такім чынам, краязнаўчы рух зрабіўся непатрэбным ва ўмовах каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, якая фарміравалася Сталіным.

Пачынаючы з 1930 г. у агульнасаюзным маштабе разгортваецца кампанія за «новы этап» у развіцці краязнаўства, каб цесна звязаць яго з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва. У якасці галоўнай задачы краязнаўцаў вызначаецца вывучэнне пяцігадовага плана развіцця раёна і практычная дапамога ў яго выкананні.

У БССР кардынальныя змены ў культурным развіцці супалі з першай хваляй масавага тэрору, калі АДПУ арыштавала цэлую групу нацыянал-камуністаў. Сярод іх былі тры былыя члены ўрада БССР, якія мелі непасрэднае дачыненне да разгортвання краязнаўчага руху 1920-х гг. — наркам працы, гісторык і пісьменнік В.Л. (Язэп) Дыла, наркам асветы А.В. Баліцкі, наркам земляробства Дз.Ф. Прышчэпаў. Яны былі далучаны да арыштаваных у той час былых дзеячаў БНР, выдатных беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, работнікоў асветы і мастацтва, якія былі абвінавачаны ў прыналежнасці да неіснуючай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз Вызвалення Беларусі».

Новы курс у краязнаўстве быў абвешчаны на III Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 25-26 студзеня 1930 г. На ёй гучала разгромная крытыка дзейнасці лепшых краязнаўчых арганізацый, загадзя арганізаваная партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. Цэнтральнае бюро краязнаўства абвінавацілі ў адсутнасці яснай устаноўкі па эканамічных пытаннях. Загадзя падрыхтаваныя дэлегаты адзначалі нізкі ўзровень работы па вывучэнню калгаснага руху і прамысловасці, патрабавалі ліквідацыі нацыянальных секцый пры таварыствах.

Справаздачнае выступленне старшыні ЦБК А.З. Казака (апошняе на гэтай яго пасадзе) было своеасаблівым падсумаваннем вынікаў дзейнасці беларускіх краязнаўцаў 1920-х гг. У прыватнасці, А.З. Казак гаварыў пра 333 краязнаўчыя арганізацыі, якія дзейнічалі на

тэрыторыі БССР. Акрамя стварэння музеяў, члены гэтых арганізацый склалі і выдалі апісанні Асіповіцкага, Горацкага, Лагойскага, Азарыцкага раёнаў, падрыхтавалі да выдання апісанне Слуцкага раёна. Была сабрана вялікая колькасць слоў жывой беларускай мовы (131 тыс. адзінак) і фальклорнага матэрыялу (46 тыс. адзінак), праведзена шмат феналагічных, гідраграфічных, мэтэаралагічных назіранняў. Выдаваліся 4 зборнікі і часопісы, а таксама 2 краязнаўчыя газеты [105, с. 55].

У павестку дня канферэнцыі было ўключана пытанне пра стан музейнай справы. Падчас абмеркавання гэтага пытання М.І. Каспяровіч заклікаў дэлегатаў арганізоўваць краязнаўчыя музеі на новых прынцыпах. Гэтыя прынцыпы былі выкладзены ў спецыяльнай брашуры, дзе быў змешчаны пералік экспанатаў, якія дазвалялася дэманстраваць у музеях. Падобныя музеі, паводле яго выказвання, павінны былі стаць «катэдрамі сацыялістычнага будаўніцтва»[1]. Прадстаўнік Музея рэвалюцыі прапаноўваў краязнаўцам засяродзіцца на зборы матэрыялаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Загадчык полацкага музея гаварыў пра неабходнасць аб'яднання ўсіх музеяў у межах аднаго горада. Упершыню прагучала трывожная інфармацыя пра знішчэнне музеяў. Першай ахвярай стаў краязнаўчы музей у Камарыне, які быў выкінуты на вуліцу мясцовай кааперацыяй, а ў музейным памяшканні адкрылі сталовую [105, с. 61].

У выніку на канферэнцыі была прынята рэзалюцыя «Аб становішчы краязнаўчай справы ў БССР», якая заклікала беларускіх краязнаўцаў да «...вывучэння пытанняў, звязаных з індустрыялізацыяй краіны, з вывучэннем энэргетычных рэсурсаў, вывучэннем калгасаў і калгаснага руху, асобных праблем павышэння ўраджайнасці сельскай гаспадаркі, вывучэння эканомраёнавання і эканамічнага стану раёна, вытворчых сіл, рэвалюцыйнага руху і інш.» [105, с. 62].

Пасля заканчэння III Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі прайшлі краязнаўчыя канферэнцыі ў раённых цэнтрах БССР, дзе арганізатары краязнаўчага руху абвінавачвалі сябе ў здрадзе ідэі сацыялістычнага будаўніцтва, галасавалі за выключэнне са складу арганізацый сваіх таварышаў, арыштаваных АДПУ, распрацоўвалі планы перабудовы сваёй працы. Змест некаторых рашэнняў, якія прымаліся на гэтых канферэнцыях, немагчыма растлумачыць з пазіцый цвярозага розуму. Так, удзельнікі слуцкай раённай канферэнцыі,

[1] Безумоўна, беручы пад увагу ўсю папярэднюю дзейнасць М.І. Каспяровіча, ўсё гэта гаварылася ім над ціскам партыйных ідэолагаў. Падобныя выказванні выціскаліся з людзей, якія мелі значна большую грамадска-палітычную вагу, напрыклад, з прэзідэнта Акадэміі павук БССР У.М. Ігнатоўскага. На жаль, М.І. Каспяровіча гэта не выратавала — праз паўгода пасля заканчэння III Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ён быў арыштаваны і асуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў, а ў снежні 1937 г. — да вышэйшай меры пакарання.

дзе за некалькі тыдняў да гэтага былі арыштаваны найбольш актыўныя і таленавітыя краязнаўцы, ухвалілі рэзалюцыю наступнага зместу: «Прасіць урад навадзіць Ордэнам Леніна слаўны орган дыктатуры пралетарыяту — АДПУ» |I27|.

Адначасова з канферэнцыяй у рэспубліканскім маштабе праходзіла краязнаўчая пяцідзёнка (25-30 студзеня 1930 г.) пад лозунгам раскрыцця нацыяналізму ў краязнаўстве. Гэтая акцыя, якая дапаўняла канферэнцыю, напалохала найбольш актыўных краязнаўцаў. Член ЦБК Ф.П. Садоўскі ў сярэдзіне 1931 г. быў вымушаны канстатаваць, што ў шэрагу месц назіраецца поўны развал краязнаўчай работы, што старыя краязнаўцы адышлі ад работы, а новыя не прыцягнуты. Былі разгромлены краязнаўчыя арганізацыі ў Барысаве, Ветцы, Оршы, Віцебску, Полацку, Лепелі, Дрысе, Крупках, Горках, Мінску. «Паверыўшы контррэвалюцыйным шкодніцкім чуткам, што краязнаўства і беларускі нацдэмакратызм адно і тое ж, група краязнаўцаў, якая раней актыўна працавала, адышла, адмахнулася ад краязнаўства і ў шэрагу раёнаў... зусім адсутнічаюць краязнаўчыя арганізацыі» [215, с. 3].

І тым не менш падставы атаясамліваць паняцці нацдэмакратызм і краязнаўства ўсё ж былі. У лік нацдэмаў трапілі найбольш актыўныя дзеячы краязнаўчага руху — арыштаваныя АДПУ В.Ю. Ластоўскі, М.І. Каспяровіч, А.А. Шлюбскі, С.М. Мялешка, Р. Пяцэвіч, М. Ламака і інш. Толькі некаторыя са сталых вучоных, яшчэ не зразумеўшы кардынальнага павароту ў дзяржаўнай культурнай палітыцы, наіўна спрабавалі прыстасаваць краязнаўчыя напрацоўкі 1920-х гг. да новых сацыяльна-эканамічных рэалій.

Так, у красавіку 1930 г. І.А. Сербаў звярнуўся з лістом у Наркамасветы з прапановай арганізоўваць этнаграфічныя музеі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі. Цалкам апраўданую і высакародную работу па кансервацыі і экспанаванні этнаграфічных помнікаў І.А. Сербаў прапаноўваў праводзіць у апусцелых хатах заможных сялян, высланых разам з сем'ямі ў Сібір падчас кампаніі за суцэльную калектывізацыю ў другой палове 1929 г. У прыватнасці, ён пісаў: «Там зусім лёгка знайсці старую сядзібу, пераважна серадняка, і прыстасаваць гэтую сядзібу цалкам да музея» [46, арк. 39]. Залішне гаварыць пра тое, што ўлады мелі зусім іншыя, больш прагматычныя планы адносна жыллёвага фонду, які вызваляўся.

Тэарэтычнае абгрунтаванне новага разумення краязнаўства пры захаванні старых, традыцыйных падыходаў за тры месяцы да свайго арышту даў М.І. Каспяровіч ў сваім артыкуле «Краязнаўства і школа». У прыватнасці, мы знаходзім там новае тлумачэнне тэрміна «краязнаўства», якое трактуецца як «...усебаковае вывучэнне краю органі-

заванымі мясцовымі грамадскімі сіламі для перабудовы краю на соцыялістычны лад». Сярод краязнаўчых вучнёўскіх работ, на думку аўтара, трэба было выбіраць найбольш тэрміновыя, грамадскакарысныя, г. зн. тыя, што будуць выкарыстаны ў бягучым сацыялістычным і гаспадарчым будаўніцтве. М.І. Касяровіч называе пяць відаў гэтых работ: 1) здача настаўніку прадмета музейнага значэння ці бібліяграфічнай заметкі, якая характарызуе край; 2) здача настаўніку нейкага прадмета (малюнка, чарцяжа, фотаздымка, муляжа), які характарызуе край уласнай вытворчасці; 3) здача настаўніку апісання аднаго з назіранняў — феналагічнага, гідралагічнага, метэаралагічнага, моўнага, слоўнікавага, фальклорнага і інш.; 4) прадстаўленне настаўніку ўсебаковага апісання эканамічнай (фабрыкі, завода, калгаса, саўгаса) ці прыроднай (ракі, возера, леса) з'яў мясцовага жыцця; 5) прадстаўленне пісьмовай работы, якая звязана з гісторыяй ці геаграфіяй краю [ 178, с. 61 ].

Новыя людзі, прызначаныя на пасады арыштаваных і выгнаных краязнаўцаў, не мелі ні жадання, ні ведаў, каб узначаліць краязнаўчы рух. Працытуем адказ Гомельскага раённага бюро краязнаўства на запыт ЦБК пра становішча спраў у 1931 г.: «Па сутнасці, адкрыта кажучы, таварыства не існуе, сяброў няма і ніякай працы не вядзецца... Два разы прызначалася пашыранае паседжанне праўлення па пытаннях аб краязнаўчай пяцідзёнцы з удзелам прадстаўнікоў Гаркому КП(б)Б, камсамолу, Гарпрофсавету, гар'інспектуры Нарасветы, але абодвы разы ніхто не з'явіўся... На гэтым праца і спынілася... Старшыня таварыства тав. Калясьнёў выдзелены Гаркомам КП(б)Б, ніякай працы не вядзе, аб чым Гарком добра ведае, але ўзамен яго нікога не вылучае» [215, с. 5].

Апошні перыяд існавання (1930-1933 гг.) ЦБК працавала ў складзе масавага сектара Беларускай Акадэміі навук[1]. Краязнаўчая работа разумелася там як частка масавай навукова-даследчай работы на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах. Узнік новы тэрмін — «вытворчае краязнаўства». У той час бюро было занята пераважна стварэннем праграм і інструкцый па манаграфічным вывучэнні раёнаў па вывучэнні лекавых раслін, карысных выкапняў, феналагічных з'яў, гісторыі грамадзянскай вайны, партызанскага руху і г.д.

У кастрычніку 1930 г. работа ЦБК заслухоўвалася на прэзідыуме Беларускай Акадэміі навук. Там гучала рэзкая крытыка краязнаўцаў за ідэалізацыю буржуазна-панскага ладу, нацыяналістычны ўхіл у

[1] Сектар масавай работы быў створаны пры прэзідыуме Беларускай Акадэміі навук у ліпені 1931 г. для планавання, аператыўнага кіраўніцтва і ўліку масавай навукова-даследчай работы.

этнаграфічнай і мовазнаўчай рабоце. Быў зменены склад ЦБК і рэдакцыі часопіса «Наш край». На змену аўтарытэтным вучоным прыйшлі асобы, якія мелі вопыт пераважна партыйнай ці дзяржаўнай работы. Старшынёй ЦБК быў абраны В.С. Серафімаў, навуковым сакратаром — В.А. Самцэвіч. Новаму складу ЦБК рэкамендавалася ў якасці першачарговых задач вывучыць склад членаў краязнаўчых арганізацый з мэтаю пазбаўлення ад «варожых элементаў», а таксама перагледзець усю метадычную літаратуру. Былі створаны брыгады па праверцы друкаванай краязнаўчай прадукцыі і выяўленні антыленінскіх установак у нацыянальным пытанні.

З лістапада 1930 г. часопіс «Наш край» пачынае выходзіць пад назвай «Савецкая краіна». З яго старонак паступова знікае гістарычная тэматыка, а на яе месца прыходзяць зусім іншыя, далёкія ад навуковай аб'ектыўнасці матэрыялы. У пачатку першага нумара гэтага часопіса паведамлялася: «Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм, базай якога была Беларуская Акадэмія Навук,ператварыў кафедры і інстытуты АН у свае трыбуны, здзяйсняў справу падрыхтоўкі інтэрвенцыі супраць СССР... Свае ідэі яны прапагандавалі праз штомесячнік «Наш край», асноўнай мэтай якога былі контррэвалюцыйныя задачы ў выглядзе агульнабеларускага, агульнанацыянальнага бескласавага развіцця, курс на самаадраджэнне капіталістычнай Беларусі, ...адсюль зразумела чаму краязнаўства БССР вывучала старажытнасць, мінулае, ігнаруючы задачы сацыялістычнага будаўніцтва» [217, с. 5].

Наступнай мерай, накіраванай на знішчэнне краязнаўчага руху была арганізацыйная перабудова краязнаўчай сеткі БССР. Гэтая мера люстэркава паўтарала рэарганізацыю краязнаўчай сеткі РСФСР, якая была праведзена крыху раней. Сутнасць яе была ў пабудове па вытворчаму прынцыпу, г.зн. перанясенне ўсёй работы ў краязнаўчыя ячэйкі на фабрыках і заводах, калгасах і саўгасах. Кіруючым органам у раёне з'яўлялася раённае бюро краязнаўства.

Структурна сетка краязнаўчых арганізацый БССР пасля рэарганізацыі выглядала наступным чынам: ячэйка — райбюро — ЦБК. Раённыя бюро існавалі пры райвыканкамах і складаліся з 10-15 чалавек, якія абіраліся на раённай канферэнцыі, куды запрашаліся прадстаўнікі ўсіх грамадскіх арганізацый. Ранейшы структурны падзел краязнаўчых арганізацый на секцыі (прыродна-геаграфічную, грамадска-эканамічную, культурна-гістарычную, а таксама нацыянальныя — яўрэйскую, польскую і інш.) быў заменены новым (на прамысловую, сельскагаспадарчую і школьную). Такім чынам, добра-

ахвотныя дэмакратычныя грамадскія арганізацыі былі заменены органамі, якія выконвалі толькі адміністрацыйныя функцыі.

Адміністрацыйнае кіраўніцтва дзейнасцю краязнаўчых арганізацый ажыццяўлялася без уліку іх патрабаванняў і рэальных магчымасцей. Арганізацыі супраціўляліся перабудове, захоўваючы старую арганізацыйную структуру ці самараспускаліся. З 75 раёнаў БССР толькі ў 15 здолелі арганізаваць райбюро краязнаўства. Не больш паспяховай была работа па арганізацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах. Па ўсёй БССР іх было створана 94, яны аб'ядноўвалі каля 1000 чалавек [129, с. 93].

На пачатку 1930-х гг. улады яшчэ спрабавалі адрадзіць краязнаўчы рух, выкарыстоўваючы адміністрацыйныя рычагі. Ствараецца аддзел краязнаўства і музеяў у складзе Наркамасветы. Ухваляецца зварот Культпропа ЦК КП(б)Б, культсектара Цэнтральнага Савета прафсаюзаў, Наркамасветы да мясцовых улад з заклікам дапамагаць краязнаўчым таварыствам. У пастановах ЦК КП(б)Б і СНК БССР мы знаходзім рэкамендацыі па арганізацыі матэрыяльнай дапамогі краязнаўчым арганізацыям, адзначаецца неабходнасць выдання навукова-папулярнай літаратуры, бібліяграфічных даведнікаў і дапаможнікаў для краязнаўчых ячэек [ 131, с. 11].

Але нягледзячы на вышэйпамянёныя меры краязнаўчая работа ў рэспубліцы так і не адрадзілася. Калі ў маі 1932 г. Беларускай Акадэміяй навук і Дзяржпланам БССР была склікана Усебеларуская канферэнцыя па навукова-даследчай рабоце, то краязнаўчы рух на ёй прадстаўлялі толькі 9 чалавек. Прычым, прадстаўнікі рэчыцкай, полацкай, мазырскай, мсціслаўскай і рагачоўскай арганізацый (дзе ўжо былі дагэтуль адкрыты важныя ў навуковых адносінах музеі) паведамлялі аб пачатку работ па стварэнні ўласных музеяў — праца, зробленая ў 1920-я гг. пад увагу не бралася [130, с. 131].

Змена стаўлення кіраўніцтва БССР да краязнаўства ў цэлым абумовіла перагляд прыярытэтаў у музейнай сферы. У 1929 г. экспартна-імпартная кантора «Дзяржгандбел» стварыла ў акруговых цэнтрах спецыяльныя камісіі па выяўленні ў краязнаўчых музеях прадметаў гісторыі і мастацтва, маючых «экспартную каштоўнасць». Спачатку забіралі тое, што не мела беларускай тэрытарыяльнай прывязкі. Напрыклад, з Аршанскага краязнаўчага музея забралі камплект (132 адзінкі) малюнкаў, на якіх былі паказаны розныя эпізоды франка-прускай вайны, творы кітайскага і японскага выяўленчага мастацтва і інш. З цягам часу чыноўнікі «Дзяржгандбела» перайшлі да экспарту мясцовай гісторыка-культурнай спадчыны. На беларускія абразы вялікі попыт быў па антыкварных рынках Чэхаславакіі і

Югаславіі, прадметы яўрэйскага побыту і мастацтва адпраўлялі ў Злучаныя Штаты Амерыкі [26, арк. 777 ].

Падобнае стаўленне да грамадскіх краязнаўчых музеяў было ідэалагічна замацавана на Усебеларускай парадзе музейных работнікаў у 1932 г. Галоўная ўвага была звернута на становішча краязнаўчых музеяў ў дакладзе В.С. Серафімава «Музей і краязнаўчая работа». У ім не ўлічвалася спецыфіка работы краязнаўчых музеяў, што адбілася на змесце рэзалюцыі, прынятай па дакладзе. Краязнаўчым музеям у максімальна кароткія тэрміны прапаноўвалася стварыць новыя марксісцкія экспазіцыі, але не раскрываліся канкрэтныя спосабы рэалізацыі гэтай задачы.

В.С. Серафімаў не падкрэсліў значэння збіральніцкай працы для адлюстравання сацыялістычнага будаўніцтва, хоць і паставіў гэтую задачу перад усімі краязнаўчымі музеямі. Гэта прыводзіла да таго, што новыя раздзелы экспазіцый не мелі аўтэнтычных помнікаў і ствараліся на ілюстрацыйным і тэкставым матэрыялах. Барацьба супраць так званага «рэчавага феціцшзму» абумовіла амаль поўнае выключэнне помнікаў з экспазіцый краязнаўчых музеяў і ператварала іх ў збор этыкетак і тэкстаў Уплыў сацыялагізму і схематызму адбіўся ў рэкамендацыях па стварэнні спрошчаных экспазіцый, у якіх пад загадзя прынятую схему падганяліся экспанаты, а калі такіх не знаходзілася, выраблялiся навукова-дапаможныя матэрыялы [127, с. 71].

Паводле вынікаў Усебеларускай нарады, 11 красавіка 1932 г. калегія Наркамасветы БССР прыняла пастанову № 58, у якой, у прыватнасці, адзначалася: «Абвостраная класавая барацьба знайшла свой яскравы адбітак і ў музейнай рабоце, асабліва ў форме праяў вялікадзяржаўнага шавінізму, беларускага нацдэмакратызму, яўрэйскага, польскага і іншых шавінізмаў. На аснове паслядоўнага правядзення генеральнай лініі партыі і ленінскай нацпалітыкі, змагаючыся з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небяспекай наданым этапе, рабочы клас БССР, пад кіраўніцтвам Кампартыі, нанёс руйнуючы ўдар па беларускаму нацдэмакратызму, які імкнуўся скарыстаць музейную справу ў сваіх контррэвалюцыйных мэтах. У выніку гэтай барацьбы музеі БССР становяцца на шлях перабудовы сваёй работы ў адпаведнасці з задачамі соцбудаўніцтва» [128, с. 85].

Калегія Наркамсветы загадала ўсім музеям пад адказнасць дырэктараў правесці рэарганізацыю сваіх экспазіцый, звярнуўшы асаблівую ўвагу «на асвятленне соцбудаўніцтва, класавай барацьбы пралетарыяту, антырэлігійнай работы, узмацненне абароназдольнасці краіны і вытворча-тэхнічную прапаганду» [128, с. 85].

На апошнюю задачу была звернута асаблівая ўвага ў мэтах максімальнага спрыяння рэалізацыі першага пяцігадовага плана. Прапаноўвалася арганізоўваць выстаўкі, якія б адлюстроўвалі пяцігадовы план па СССР і на яго фоне паказаць мерапрыемствы, якія намячаліся ў краі. Адкрыццё новага прамысловага прадпрыемства павінна было адразу ж адлюстроўвацца ў краязнаўчым музеі з мэтай нагляднага інфармавання насельніцтва аб ходзе рэалізацыі пяцігадовага плана. У кантэксце вышэйсказанага трэба разумець з'яўленне утапічных праектаў, накшталт таго, што быў распрацаваны чыноўнікамі Наркамасветы напрыканцы 1932 г. Яго сутнасць была ў стварэнні сеткі політэхнічных музеяў па ўсёй тэрыторыі БССР, якія б з'яўляліся своеасаблівай альтэрнатывай грамадскім краязнаўчым музеям, якія закрываліся.

Сетка політэхнічных музеяў, на думку аўтараў праекта, павінна быць прывязана да прадпрыемстваў і калгасаў (саўгасаў) і выглядала наступным чынам: у Барысаве — да леспрамгаса, Боркавічах — ільнозавода, Віцебску — завода «Чырвоны металург», Оршы — электрастанцыі, льнопрадзільнага камбіната, Гарадку — саўгаса, Гомелі — завода імя Ланцуцкага, Дзяржынску — МТС, Добрушы — папяровай фабрыкі, Дрысе — калгаса, Дуброўне — Дубровенскай мануфактуры, Жыткавічах — калгаса, Клімавічах — сілікатнага завода, Крычаве — цэментавага завода, Лёзне — калгаса, Мазыры — саўгаса, Магілёве — шаўковай фабрыкі, Мінску — завода імя Варашылава, Мсціславе — ільнопрадзільнага завода, Полацку — керамічнага завода, Рэчыцы — запалкавай фабрыкі, Слуцку — калгаса, Тураве — саўгаса, Чэрвені — саўгаса, Шклове — папяровай фабрыкі [211, с. 61].

Імкненне накіраваць краязнаўчы рух у рэчышча бягучых гаспадарчых патрэб ужо ў сярэдзіне 1930-х гг. прывяло да катастрафічных вынікаў — была ліквідавана большасць краязнаўчых арганізацый разам з іх музеямі. Каштоўныя калекцыі, выкінутыя на вуліцу, былі згублены. Гэта нанесла вялікі ўрон гістарычнай навуцы, якая страціла сваю крыніцазнаўчую базу, што адбівалася на маральным стане грамадства. Развіццё краязнаўства на дзесяцігоддзі затармазілася. Пачаліся рэпрэсіі. Маладых спецыялістаў, у тым ліку тых, хто займаўся вывучэннем гісторыі рэвалюцыйнага руху, расстрэльвалі, саджалі ў турмы.

На пераадоленне схематызму і вульгарнага сацыялагізму ў экспазіцыях краязнаўчых музеяў былі скіраваны рашэнні вышэйшага партыйнага кіраўніцтва, прынятыя ў сярэдзіне 1930-х гг.

У сакавіку 1934 г. на пашыраным пасяджэнні Палітбюро ЦК УКП(б) абмяркоўвалася пытанне пра гістарычную адукацыю ў СССР.

Было вырашана выдаць падручнікі па гісторыі, а таксама ўзнавіць гістарычныя факультэты ў ВНУ. Курс на ўзнаўленне гістарычнай навукі і адукацыі ў СССР быў замацаваны ў пастанове партыі і ўрада ад 16 мая 1934 г. У ёй, у прыватнасці, гаварылася, што «курс гісторыі павінен забяспечыць неабходныя для навучэнцаў даступнасць, нагляднасць і канкрэтнасць гістарычнага матэрыялу, на аснове чаго толькі і магчымы правільны разбор і правільнае абагульненне гістарычных падзей, якія падводзяць навучэнцаў да марксісцкага разумення гісторыі» [172, с. 18]. Курс на ўзнаўленне гістарычнай навукі, нават ў рамках марксісцкай філасофіі і метадалогіі, даваў краязнаўчым музеям шанцы на адраджэнне навукова-збіральніцкай і экспазіцыйнай дзейнасці ў галіне мясцовай гісторыі.

Не хапала краязнаўцаў з музеязнаўчай падрыхтоўкай, таму з 1 лістапада 1934 г. у Маскве былі адкрыты цэнтральныя вышэйшыя музейныя курсы. Першы іх набор складаўся з 50 супрацоўнікаў краязнаўчых музеяў. Слухачы курсаў мелі розную адукацыю — ад пачатковай да няскончанай вышэйшай, што адмоўна ўплывала на якасць падрыхтоўкі спецыялістаў. Курсы былі разлічаны на два гады і мелі два цыклы — гістарычны і прыродазнаўчы. Акрамя агульнаадукацыйных дысцыплін на курсах чыталіся музеязнаўчыя дысцыпліны: прынцыпы пабудовы краязнаўчага музея, асновы пабудовы музейнай экспазіцыі, мастацкае афармленне музейнай экспазіцыі, гісторыя музейнай справы, кансервацыя музейных матэрыялаў, абсталяванне музейных будынкаў, формы і метады палітыка-асветніцкай работы музеяў

У 1937/38 навучальным годзе на курсах вучылася ўжо 130 чалавек. На завочнае аддзяленне было прынята 200 чалавек і тэрмін навучання падоўжаны да трох гадоў Была пашырана таксама аспірантура, якая існавала пры шэрагу музеяў агульнасаюзнай катэгорыі — Эрмітажы, Політэхнічным, Народаў СССР, Траццякоўскай галерэі.

Пералічаныя вышэй мерапрыемствы сярэдзіны 1930-х гг. паспрыялі ажыўленню дзейнасці шэрага расійскіх краязнаўчых музеяў (напрыклад, Істрыйскага музея Маскоўскай вобл.). У БССР такая тэндэнцыя не прасочвалася.

У 1936 г. была зроблена апошняя спроба з боку партыйнага кіраўніцтва БССР адрадзіць краязнаўчы рух у рэспубліцы — 21 чэрвеня прынята пастанова ЦК КП(б)Б «Аб краязнаўчай рабоце і становішчы музейнай справы ў БССР». У пастанове прапаноўвалася кіраўніцтву Наркамасветы, ЦК ЛКСМБ, Беласвода і Цэнтральнаму Савету прафсаюзаў актыўна ўключыцца ў работу па разгортванні краязнаўчага руху ў рэспубліцы. Разгортваць краязнаўчы рух партыйнае

кіраўніцтва збіралася з дапамогай правядзення школьных турысцкіх паходаў, шлюпачных прабегаў па несудаходных рэках, арганізацыі экскурсій да помнікаў грамадзянскай вайны, выдання інструкцый па стварэнні школьных гербарыяў, мінералагічных калекцый і заалагічных музеяў. У асобным пункце пастановы ішла гаворка пра стварэнне савета па краязнаўству пры Наркамасветы [19, арк. 12].

Як бачым, у сярэдзіне 1930-х гг. змянілася нават разуменне сутнасці феномена краязнаўства і краязнаўчага музея. Цяпер апошні разумеўся толькі як сродак дзіцячага выхавання, своеасаблівы жывы наглядны дапаможнік, які спрашчае засваенне школьнай праграмы. Такім чынам, партыйныя ідэолагі імкнуліся вытравіць памяць пра краязнаўства і краязнаўчыя музеі 1920-х гг. Залішне гаварыць, наколькі эфектыўнымі маглі быць дзіцячыя шлюпачныя паходы і экскурсіі да помнікаў грамадзянскай войны ў справе адраджэння краязнаўчага руху.

Тэарэтычнае абгрунтаванне падобнага стаўлення да краязнаўчых музеяў, новага разумення сэнсу краязнаўчай дзейнасці ўвогуле было зроблена ў шэрагу артыкулаў, апублікаваных у 1930-1931 гг. Так, А.К. Супінскі ў артыкуле «За новы музей» сцвярджаў, што «музэй, як сховішча, як крама старажытных рэчаў павінен знікнуць, уступіць месца музэю-школе, масаваму унівэрсітэту, дзе ў ногу з усёй савецкай грамадскасцю пачнецца змаганне за новае жыцьце, за новага чалавека» [222, с. 7]. Ф.П. Садоўскі ў сваім артыкуле таксама рабіў націск на політэхнізацыі дзейнасці музеяў: «Школьны музэй павінен быць пры кожнай школе ўсіх ступеняў. Яго грунт — розныя гурткі, якія організуюцца пры школах. Вытворчы куток павінен адбіць сабою жыццё і працу тых вытворчых прадпрыемстваў, з якімі непасрэдна зьвязана Даная школа. Усе вытворчыя процэсы гэтых прадпрыемстваў, дадатныя і адмоўныя бакі гэтых процэсаў павінны знайсці адлюстраванне ў вытворчых кутках школы, у школьных музеях, з дасканалым растлумачэннем і наглядным паказам прычын дадатных ці адмоўных вынікаў» [216, с. 22].

Да найбольш разбуральных вынікаў новай музейнай палітыкі трэба аднесці знішчэнне Аршанскага краязнаўчага музея. З 1930 па 1939 г. яго закрывалі 6 разоў, калекцыі перакідвалі з аднаго памяшкання ў другое, звальвалі іх ў падвалы і на гарышчы. У верасні 1939 г. рэшткі калекцый па загаду старшыні гарсавета Шчэрбы былі выкінутыя на вуліцу з апошняга прытулку ў будынку райвыканкама. Праз нейкі час гарадскія ўлады загадалі пагрузіць карціны і іншыя творы мастацтва на фурманку з-пад цэглы і перавезці ў гарадскі тэатр. Але месца для музейных калекцый там не знайшлося і яны вярнуліся

назад. У выніку частка музейнага збору была скінута ў кут аднаго з пакояў райвыканкама, астатняе так і засталося на двары пад адкрытым небам. [31, арк. 265].

У 1936-1938 гг. закрыліся краязнаўчыя музеі ў Слуцку, Мазыры, Нароўлі, Мсціславе, Чэрвені і некаторых іншых гарадах, лёс калекцый якіх невядомы. Некалькі захаваўшыся грамадскіх краязнаўчых музеяў набылі дзяржаўны статус шляхам перадачы іх у падпарадкаванне Наркамасветы. Такім чынам, паняцце «грамадскі музей» у БССР на доўгія дзесяцігоддзі было забыта.

Дзейнасць краязнаўцаў 1920-х гг. мела вялікае значэнне для развіцця навукі, уздымала інтэлектуальны ўзровень правінцыяльных гарадоў і вёсак, спрыяла асвеце шырокіх колаў насельніцтва і ў той жа час прыцягвала да сацыялістычнага будаўніцтва сталую інтэлігенцыю. Так захоўваліся і выкарыстоўваліся і культурная спадчына, і культурныя кадры, фарміраваліся новыя традыцыі культурнай і народнай адукацыі.

Значныя заслугі краязнаўцаў, асабліва тых, хто працаваў у музеях і архівах, у развіцці спецыяльных гістарычных і філалагічных дысцыплін, у распрацоўцы метадаў атрыбуцыі і апісання музейных прадметаў, рукапісаў, выданняў.

Выключнае значэнне мела краязнаўчая дзейнасць для вывучэння мінулага і развіцця нацыянальнай культуры не толькі Беларусі, але і ўсіх саюзных рэспублік.

Пры ўсіх хібах — непрыстасаваных памяшканнях, сціплым фінансаванні, адсутнасці штатных пасад — краязнаўчыя музеі адыгралі вялікую ролю ў павышэнні культурнага ўзроўню краіны. Яны былі формай праяўлення дэмакратычнай самадзейнасці насельніцтва, апавядалі пра традыцыі, нацыянальныя карані, кансалідавалі грамадства. Вынікі працы краязнаўцаў, якія на базе сабраных матэрыялаў праводзілі канкрэтныя даследаванні, дапамаглі савецкай гістарычнай навуцы захавацца ў гады панавання сацыялагічнай вульгарызацыі.

## Глава III. МУЗЕІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. значная частка беларускай гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны апынулася на супрацьлеглым баку заходняй мяжы БССР.

Для разумення ідэалагічнага клімату, у якім адбывалася развіццё музейнай справы ў Заходняй Беларусі ў 1920-1930 гг., неабходна падкрэсліць, што на ідэю польскага рэгіяналізму (пра гэты феномен размова пойдзе ніжэй) паклалася іншая ідэя — нацыянальнага і дзяржаўнага адзінства Польшчы.

Але ажыўленыя дыскусіі пра арганізацыю музейнай справы ў краіне пачаліся яшчэ да атрымання ёю незалежнасці. Выказванні Дж. Раскіна і У. Морыса пра музеі як могілкі мастацтва, праекты А. Ліхтварка, якія падкрэслівалі асветніцкую функцыю музеяў, стваралі інтэлектуальны клімат, у якім фарміравалася музейная справа ў Польшчы. Напярэдадні першай сусветнай вайны ў красавіку 1914 г. у Кракаве адбыўся першы з'езд прадстаўнікоў польскіх музеяў, якія стварылі Саюз польскіх музеяў. А ў 1917 г. з'явілася кніга, якая падсумавала дасягненні музейнай справы ў Польшчы ва ўмовах страты дзяржаўнасці [262]. Атрыманне незалежнасці ў 1918 г. стварыла новыя ўмовы для развіцця музеяў краіны.

У 1918 г. урад Польшчы сканцэнтраваў апеку над музеямі ў Міністэрстве мастацтва і культуры, пазней гэтыя функцыі былі перададзены Міністэрству веравызнанняў і народнай асветы. Тады ж былі ўтвораны спецыяльныя кансервацыйныя органы. У 1928 г. музейная дзейнасць у Польшчы атрымала заканадаўчую базу — быў прыняты «Закон аб ахове твораў мастацтва і помнікаў старажытнасці», які, у прыватнасці, забараняў іх вываз за мяжу. Гэты закон быў падмацаваны законам 1933 г. «Аб апецы над публічнымі зборамі», які абавязваў мясцовыя ўлады спрыяць развіццю музеяў Важнай мерай па каардынацыі дзейнасці польскіх музеяў было стварэнне Дырэкцыі дзяржаўных мастацкіх калекцый, якой падпарадкоўваліся буйнейшыя музеі Варшавы і Кракава. У 1935 г. з гэтай жа мэтай фарміруецца музейны савет, куды ўвайшлі спецыялісты, якія прадстаўлялі музеі розных профіляў.

Істотную кансалідуючую ролю ў музейным жыцці Польшчы адыграў Саюз музеяў які ўзнавіў сваю работу ў 1921 г. Яго дзейнасць выяўлялася галоўным чынам у арганізацыі штогадовых музейных з'ездаў, а таксама ў выданні часопіса «Музейны дзённік» [189, с. 33]. Але выпрацоўка адзінай праграмы, каардынацыя музейнай дзейнасці ў маштабах краіны ўскладнялася прыналежнасцю музеяў да розных

дзяржаўных устаноў, грамадскіх інстытутаў, а таксама прыватных асоб. Польская дзяржава давала неабмежаванае права ўсім жадаючым ствараць і развіваць у абраным накірунку свае музеі.

Характарызуючы агульны накірунак развіцця музеяў Польшчы ў міжваенны перыяд, трэба адзначыць, што ўсе намаганні дзяржаўных органаў і грамадскасці былі накіраваны на выкананне асноватворных задач, якія не маглі быць выкананы раней ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці, супраціўлення польскай нацыянальнай культуры германскаму і русіфікатарскаму ўплывам. У гэтай сітуацыі беларускі нацыянальна-культурны рух на «крэсах усходніх» успрымаўся палякамі як варожая з'ява. Гэтую думку можна яскрава праілюстраваць на прыкладзе існавання Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні (больш вядомага як Беларускі музей імя І. Луцкевіча).

Падчас заснавання музея радай Беларускага навуковага таварыства ў 1921 г. вынікі збіральніцкай дзейнасці І. Луцкевіча ўжо атрымалі рэпутацыю буйнейшага сховішча помнікаў гісторыі Беларусі. Будынак на Вострабрамскай, 9 (Базыльянскія муры), які перадаў таварыству ў бясплатнае карыстанне Віленскі праваслаўны епіскапат, ведалі ўсе, хто цікавіўся беларускай старасветчынай. Фонды музея папаўняліся кожны год, але былая прыватная калекцыя І. Луцкевіча па-ранейшаму складала аснову калекцый нават у апошні перыяд існавання музея. Новыя паступленні міжваеннага перыяду складаліся з закупак, перадачы з розных арганізацый, але пераважна з ахвяраванняў прыватных асоб. У 1941 г. фондавы збор музея налічваў 13 450 адзінак захоўвання [220, с. 229].

Згодна інвентарнай кнізе, складзенай у 1922 г., музейны збор быў структураваны па аддзелах наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| A. | Калекцыя персценяў | M. | Мэбля і хатнія рэчы. |
| B. | Крыжы і абразкі з медзі. | N. | Разьба па дрэве. |
| C. | Абразкі святыя. | O. | Гравёрскія бляхі. |
| D. | Абразкі на метале і воты[1] | P. | Вопратка, тканіны, царкоўнае начынне. |
| E | Клямры[2], бляхі і аздобы да збруі. | R. | Посуд з медзі, цынку, гліны, шкла, фаянсу. |
| F | Клямры, аздобы і т.п.. | S. | Жывапіс. |
| G. | Гузікі і засцежкі да адзення. | T. | Фальклор. |

[1] Боты — ахвяравальныя рэчы рэлігійнага ўжытку, больш часта ў выглядзе сэрцаў, вачэй, рук, ног, з серабра ці сплаву металаў, часам аздобленыя залачэннем, чаканкай, гравіроўкай.
[2] Спражкі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| H. | Прылады катавання. | U. | Малюнкі. |
| I. | Пячаткі. | V. | Зброя. |
| K. | Дагістарычныя выкапні. | W. | Кафля, цэгла і т.п. |

[78, с. 47].

Як бачна з вышэйпададзенай структуры, у яе аснову было пакладзена адначасова некалькі крытэрыяў падзелу рэчавага матэрыялу, а менавіта крытэрыі матэрыялу вырабу, утылітарнага ўжытку, а таксама крытэрый прыналежнасці да пэўнай дапаможнай гістарычнай дысцыпліны. Падобны эклектычны падыход ускладняў выкарыстанне фондавых калекцый у навуковых і асветніцкіх мэтах. У наступныя гады структура фондавага збору музея ўдакладнялася і набыла наступны выгляд: 1) археалогія; 2) сфрагістыка; 3) нумізматыка; 4) этнаграфія; 5) прадметы рэлігійнага культу; 6) абразы; 7) свецкае мастацтва; 8) зброя і рыштунак; 9) палеаграфія; 10) кнігазбор [191, с. 14]. Пры гэтым падзеле фондавага збору быў выкарыстаны ўжо адзіны крытэрый — прыналежнасці музейных прадметаў да пэўнай дапаможнай гістарычнай дысцыпліны.

Археалагічны аддзел музея налічваў больш за 200 адзінак, знойдзеных пры раскопках курганоў, якія праводзіў І. Луцкевіч. Некалькі комплексаў прадметаў было з раскопак Я. Тышкевіча, якія праводзіліся апошнім у розных рэгіёнах Беларусі, з раскопак ІІ. Церабеева ў 1893-1894 гг. на Дзісеншчыне, а таксама раскопак Г. Татура ў 70-я гг. XIX ст. у Мінскай губ. (крамянёвыя прылады працы, бронзавыя ўпрыгожванні, гаршкі з пахавальных курганоў, жалезныя сякеры і інш.). З навейшых раскопак сваёй навуковай вартасцю вылучаліся прадметы, здабытыя падчас раскопак Ніжняга замка ў Вільні (кафля, цэгла, дахоўка, фрагменты посуду), а таксама на тэрыторыі Мядзельскай гміны.

У сфрагістычным аддзеле знаходзілася больш за 100 пячатак, сярод якіх даследчыкі выдзялялі адбіткі з персценяў полацкіх князёў Усяслава і Барыса, Вялікага князя Міндоўга, караля Яна Сабескага, а таксама розных дзяржаўных устаноў, грамадскіх і рэлігійных арганізацый Вялікага княства Літоўскага.

У аддзеле нумізматыкі (каля 3 тыс. адзінак) былі сабраныя ўзоры манет Вялікага княства Літоўскага і іншых краін Еўропы.

У этнаграфічным аддзеле, які налічваў каля 200 адзінак, знаходзіліся ўзоры народнай вопраткі і тканін[1], прадметы сялянскага побыту, музычныя інструменты, вялікая колькасць твораў народных

[1] Частка гэтай калекцыі знікла падчас яе дастаўкі ў Вільню з Мінска, дзе яна дэманстравалася на выстаўцы І. Луцкевіча і А. Іпеля ў 1918 г., другая частка была пазней перададзена ў фондавы збор БДМ.

разьбяроў Калекцыю тканін упрыгожвалі шытыя золатам і серабром шляхецкія кунтушы, залататканыя жаночыя гарсэты, слуцкія паясы. Калекцыю прадметаў хатняга ўжытку — гліняныя, медныя, цынкавыя вазы, збаны, талеры і іншы посуд. Не меншую ўвагу спецыялістаў прыцягвала калекцыя музычных інструментаў.

Сярод прадметаў рэлігійнага культу можна было ўбачыць калекцыю крыжоў, медальёнаў, складняў найбольш старажытныя з якіх датаваліся XII ст., сакасы віленскіх мітрапалітаў XV-XVI стст. Самастойнае значэнне мела калекцыя абразоў найбольш старажытныя з якіх датаваліся XIII ст.

Аддзел выяўленчага мастацтва (больш за 2 тыс. адзінак) уяўляў сабой выдатную калекцыю твораў славутых беларускіх мастакоў, разьбяроў, невядомых народных майстроў. Асобае значэнне ў аддзеле мела калекцыя гістарычнага партрэта, дзе захоўваліся працы як мастакоў віленскай (Смуглевіча, Рустэма, Хруцкага, Пешкі, Русецкага, Канеўскага, Сляндзінскага, Іопальфа, Шаламіцкага, Пятроўскага), так і расійскай школы (Трутнева, Брулова). Акрамя партрэтнага мастацтва ў аддзеле мелася скульптурная (працы Арлоўскага, Антакольскага, Грубэрскага, Крэменя, Яхімовіча) і графічная (працы віленскіх гравёраў першай пал. XIX ст. Кармеліта, Ставецкага, Падалінскага, Кіслінга, Эгерфельдэра, Вейса, Бальцэвіча, Навіцкага, Пятровіча, Пятроўскага, Пэрля) калекцыі. Супрацоўнікі музея таксама збіралі творы сучасных мастакоў як беларускага (Сергіевіч, Драздовіч), так і літоўскага (Зікарас, Шымоніс, Шылейка, Варнас, Калпокас, Дыджокас, Мацкявічус) паходжання.

У вайсковым аддзеле сваёй разнастайнасцю вылучалася стралковае і халоднае ўзбраенне — крыжацкія мячы, турэцкія ятаганы з дамаскай сталі, шпагі, крамянёвыя і пістонныя стрэльбы, пісталеты, бронзавыя гарматы-салютоўкі, лукі і стрэлы, сялянскія рагаціны і дубіны. Нязменную ўвагу наведвальнікаў прыцягваў меч віленскага ката. Асобна ў аддзеле фарміравалася калекцыя вайсковага абмундзіравання і рыштунку — рэнесансныя даспехі, кальчугі мясцовай вытворчасці, па-мастацку выкананыя рагавыя парахаўніцы, чапракі на сёдлы і г. д.

Аддзел рукапісаў быў найбольш багаты як па колькасных (каля 6 тыс. адзінак), так і па якасных паказчыках. Там захоўваліся 3 824 граматы XIV-XIX стст., з іх па два дакументы XIV і XV стст., больш за 300 — XVI ст., каля 700 — XVII ст., каля 1100 — XVIII ст., 1500 — XIX ст., не датаваных грамат каля 250. Сярод іх вылучаўся унікальны палеаграфічны помнік пад назвай «Поучения огласительные» Феадора Студзіта (1476 г.) — вельмі рэдкі для славянскай традыцыі

літаратурны твор, перапісаны ў Вільні па загаду пісара вялікага князя Аляксандра. Вялікую каштоўнасць мелі грамата пінскага князя Фёдара Іванавіча 1508 г., Слуцкі памяннік 1517 г., трэбнік 1545 г. з Жыровіцкай царквы, граматы каралёў Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Жыгімонта ІІІ, Уладзіслава IV і інш.

Важнае месца сярод палеаграфічных помнікаў займалі рукапісы лацінскага пісьма — польскамоўныя дзённікі і апісанні вандраванняў, «Гісторыя каталіцкай царквы ў Расіі» 1828 г. выдання, каталіцкія спеўнікі, катэхізісы для беларусаў-каталікоў, лацінскамоўныя літургічныя кнігі, а таксама новыя пераклады Евангелля на беларускую мову 1912-1921 гг.

Асобную, складаную частку калекцыі ўяўлялі так званыя новыя рукапісы, якія датаваліся канцом XIX — пачаткам XX стст. Гэта былі архівы беларускіх выдавецтваў, выданняў, арганізацый, асобных палітычных, рэлігійных і культурных дзеячаў, у тым ліку рукапісы М. Багдановіча і Я. Купалы, М. Гарэцкага і І. Дварчаніна, В. Жылкі і М. Танка, Р. Шырмы і Ц. Гартнага. Тут жа зберагаліся архівы Беларускай Пароднай Рэспублікі, Слуцкага паўстання, Беларускага пасольскага клуба пры Польскім Сейме, Беларускай рабоча-сялянскай грамады, Беларускага цэнтра ў Літве, Таварыства беларускай школы ў Літве, Віленскай беларускай гімназіі, беларускіх настаўніцкіх семінарый у Вільні і Барунах, беларускіх гімназій у Гродне і Радашковічах, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, Навуковага таварыства імя Ф. Скарыны, Камуністычнай пасольскай фракцыі, беларускай сялянскай партыі «Зялёны дуб», беларускага каталіцкага выдавецкага таварыства, паведамленні польскай дэфензівы пра беларускі рух [109].

Сярод амаль 400 рукапісных кніг асаблівую цікавасць спецыялістаў выклікалі экземпляры кірылаўскага пісьма, у тым ліку Жухавіцкае евангелле XIV ст., Віленскае евангелле, літургічныя праваслаўныя і уніяцкія кнігі XV-XVIII стст., чэцці-мінеі, літаратура, а таксама календары, апісанне беларускіх праваслаўных і уніяцкіх цэркваў і манастыроў, метрычныя кнігі, зборнікі выпісак з дакументаў XVI-XIX стст.

Пры музеі існавала бібліятэка, якая налічвала каля 15 тыс. кніг. Яна складалася са збору І. Луцкевіча (пераважна са старадрукаў), часткі бібліятэкі вядомага беларускага этнографа, археолага і музейнага дзеяча Е.Р. Раманава і бібліятэкі Б. Данілевіча, вядомай у Вільні з 1904 г. як бібліятэка-чытальня «Веды». Там мы знаходзім выданні друкарань Вільні, Масквы, Варшавы, Лоска, Семяцічаў Слуцка. Нясвіжа, Магілёва, Супрасля і шэрага заходнееўрапейскіх гарадоў. Найбольш старажытным выданнем у бібліятэцы была

Трыёдзь каляровая Швайпольта Фіёля (каля 1493 г.), змяніўшая мноства ўладальнікаў і набытая І. Луцкевічам у стараверaў. Не меншую каштоўнасць уяўлялі скарынаўскія выданні, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г., іншыя старадрукі. З пазнейшых вы - данняў меліся беларускія кнігі перыяду ўзнаўлення беларускага друку ў XIX ст. (пачынаючы з кнігі Аляксандра Рыпінскага «Беларусь», выдадзенай у Парыжы ў 1840 г.), падборкі беларускіх газет, заходнебеларускія і савецкія беларускія выданні 1920-1930-х гг. [177, с. 24].

Уключаючы ў сябе ўсе віды гістарычных крыніц — рэчавыя, пісьмовыя, выяўленчыя — калекцыі Беларускага музея імя І. Луцкевіча пры ўсёй разнастайнасці не з'яўляліся выпадковым, разрозненым зборам рэчаў. Як і большасць музеяў, што існавалі ў той час на беларускіх землях, фонды гэтага музея мелі агульнагістарычны характар. Іх склад адлюстроўваў патрыятызм і зацікаўленасць у гістарычным мінулым нацыянальнай інтэлігенцыі, якая дапамагала І. Луцкевічу ствараць яго музей.

З 13 450 адзінак захоўвання у пяці невялікіх экспазіцыйных залах музея агульнай плошчай 198 кв. м было прадстаўлена 2 350 прадметаў, г. зн. 17,5% ад агульнай колькасці фондавых калекцый. Экспазіцыя адкрывалася залай археалогіі, самай вялікай у музеі, у наступных асобных залах былі прадстаўлены этнаграфія, мастацтва, зброя. Такім чынам, кожная зала працавала па дакладнаму профілю. Усе матэрыялы былі згрупаваны па калекцыйнаму прынцыпу. Нягледзячы на значную перагрузку залаў і не заўсёды дакладную сістэматызацыю матэрыялу, падобны падыход меў рацыю. У той час як у музеях БССР гістарычныя помнікі ператвараліся ў ілюстрацыі да пэўных ідэалагічных тэзісаў, экспазіцыя Беларускага музея імя І. Луцкевіча была крыніцай унікальных ведаў пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Змены ў экспазіцыі музея, якія адбываліся на працягу 1930-х гг., характарызаваліся ў цэлым далейшым развіццём прынцыпу калекцыйнага паказу.

Развіццё Беларускага музея імя І. Луцкевіча забяспечвала яго ўправа, што дзейнічала на правах секцыі пры Беларускім навуковым тавары стве. Абавязкі загадчыка музея (1921-1939 гг.) і адначасова старшыні таварыства (1923 -1939 гг.) выконваў вядомы палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык, малодшы брат заснавальніка музея А.І. Луцкевіч. Бібліятэкарам у музеі працаваў вучоны-эрудыт, публіцыст У.І. Самойла, скарбнікам (адначасова выконваў абавязкі фатографа) — грамадскі і палітычны дзеяч, педагог А.С. Неканда-Трэпка. Мастацкія работы выконваў славуты беларускі графік і жывапісец Я. Драздовіч (ён жа займаўся

зборам этнаграфічнага матэрыялу). Значны аб'ём менш кваліфікаваных работ у музеі выконвалі вучні Віленскай беларускай гімназіі, якая была заснавана ў Базыльянскіх мурах у 1919 г.

Нягледзячы на ўсе намаганні, на працягу 1920-х гг. Беларускае навуковае таварыства не здолела арганізаваць сістэматычнага і планамернага папаўнення і вывучэння фондаў Віленскі магістрат выдаткоўваў сродкі і прадастаўляў памяшканні толькі для тых музеяў, дзейнасць якіх адпавядала афіцыйнай ідэалагічнай дактрыне[1]. Грамадскіх жа ахвяраванняў хапала толькі на правядзенне элементарных работ. Абмежаванымі былі вынікі ахвярнай працы добраахвотнікаў, якія не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі ў галіне матэрыяльнай культуры, а таксама ў музеязнаўстве [8, арк. 10].

У звароце «Да беларускага грамадзянства і беларускіх устаноў у краі і за граніцай», у прыватнасці, гаварылася: «...і таварыства і музей ня маюць ніякіх фундушаў рэчы, кнігі і дакументы без апекі і патрэбнае аховы трухлеюць і гніюць (пакоі ўзімку не апальваюцца, ад чаго сырасць не зводзіцца),... далейшае трыванне такога стану рэчаў можа прывесці да поўнай катастрофы Беларускага навуковага таварыства, а асабліва музею» [63, с. 69].

Ажыўленне дзейнасці Беларускага навуковага таварыства і стварэнне пры ім музейнай рады ў сярэдзіне 1930-х гг. адкрыла перад музеем новыя перспектывы развіцця. Палепшылася яго матэрыяльнае становішча — павялічылася грашовая дапамога з боку грамадства (пералічэнні аднаго старшыні Беларускага цэнтра ў Літве К.С. Дуж-Душэўскага з Коўна дазвалялі аплочваць працу ўсіх супрацоўнікаў). Невялікую суму пачалі выдаткоўваць польскія ўлады.

Павялічыліся новыя паступленні ў фондавы збор музея, абсалютная большасць якіх перадавалася ў якасці дару. Напрыклад, на працягу 1937 г. былі атрыманы 784 прадметы, з іх манет — 650, этнаграфічных прадметаў — 88, археалагічных знаходак — 9, прадметаў народнай разьбы — 2, абразоў і малюнкаў — 13, іншых прадметаў — 22. Акрамя помнікаў матэрыяльнай культуры і мастацтва ў 1937 г. музей узбагаціўся рукапісамі М. Багдановіча, Ул. Жылкі, К. Каганца, копіяй актаў судовага працэсу над Я. Коласам у Вільні, старымі рукапісамі, дасланымі Б. Брэжгам, багатай карэспандэнцыяй, прысве-

---

[1] У міжваеннай Вільні акрамя Беларускага існавалі наступныя музеі: Музей таварыства аматараў павук, археалагічны, этнаграфічны, мастацкі і прыродазнаўчы музеі Віленскага універсітэта, Музей літоўскага навуковага таварыства, Музей гісторыка-этнаграфічнага таварыства імя Ш. Апскага, Музей сучаснага мастацтва, Музей горада Вільні, музейны збор Бібліятэкі імя Урублеўскіх, музейны збор евангелічна-рэфармацкай царквы. У стадыі фарміравання знаходзіліся музеі караімскі, татарскі і дыяцэзіяльны.

чанай уніяцкаму пытанню, вялікай колькасцю фотаздымкаў [109, с. 63].

Памяшканні ў Базыльянскіх мурах са сховішчаў, цяжка даступных для агляду, пераўтварыліся ў залы з разгорнутай сістэматычнай экспазіцыяй. Няўхільна ўзрастала колькасць наведвальнікаў. Дынаміку наведвання Віленскага беларускага музея за шэсць апошніх передваенных гадоў дэманструюць наступныя лічбы:

| Год | Колькасць наведвальнікаў | Колькасць экскурсій |
|---|---|---|
| 1933 | 1320 | 48 |
| 1934 | 920 | 51 |
| 1935 | 903 | 42 |
| 1936 | 1494 | 64 |
| 1937 | 4569 | 110 |
| 1938 | 5000 | 70 |

Толькі на працягу тыдня прапаганды музеяў, які праводзіўся ў Вільні ў пачатку 1939 г., музей наведала 2 685 асоб, якіх сустракалі экскурсаводы з ліку найбольш таленавітых беларускіх студэнтаў [82, с. 127]. Асветніцкая работа, разгорнутая ў музеі напрыканцы 1930-х гг. набывала новыя, часам незвычайныя формы. Так, для павышэння эмацыянальнага ўзроўню ўспрыняцця экспазіцыі пасля заканчэння яе агляду для экскурсантаў гучалі грамзапісы беларускіх песень у выкананні спевака М. Забэйды-Суміцкага.

Вось як апісвае атмасферу, што панавала ў Беларускім музеі імя І. Луцкевіча, былая студэнтка Віленскага універсітэта Р. Жук-Грышкевіч: «І чамусьці ў вачох, як жывы, паўстаў вобраз Музэю Івана Луцэвіча... сівы, сярэдняга ўзросту, паважаны, у кажным цалю «джэнтэльмэн» (Антон Луцкевіч) паказвае нам, беларускім студэнтам старыя ёмістыя кнігі... Статут Вялікага Княства Літоўскага... Літоўская Метрыка.., і наракае, што ў музэі замала мейсца на ўсё музэйнае бясцэннае багацце, каб усё як належыцца й паказаць і перахаваць... а ў другой залі беларуская студэнтка Валя Жукоўская паясьняе наведнікам экспанаты — розных гатункаў зброі, якой нашыя слаўныя продкі баранілі свой край перад наезднікамі... а ў іншым пакоі іншыя экспанаты... На манэкіне апрануты беларускі народны строй, які даравала музэю беларуская студэнтка зь вёскі Шані, што на ГІалесьсі — у Пружаншчыне, а звонку музаю на залітым сонцам панадворку славутых Базыліянскіх муроў, у якіх аж кіпела беларускае жыццё, маса беларускіх студэнтаў сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, што на Завальвай.., сяброўкай якога мела гонар і шчасьце быць і я...» [107, с. 9].

Актывізацыя беларускага культурнага жыцця выклікала занепакоенасць у віленскіх гарадскіх улад. Напярэдадні другой сусветнай вайны яны перапыняюць фінансаванне Беларускага музея, распрацоўваюць планы яго злучэння спачатку з музеем Віленскага таварыства сяброў навук (буйнейшым у міжваеннай Вільні), потым — з музеем Літоўскага навуковага таварыства, даюць загад гарадскім экскурсаводам абыходзіць будынак на Вострабрамскай.

Тым не менш напачатку другой сусветнай вайны Беларускі музей імя І. Луцкевіча знаходзіўся напярэдадні новага ўздыму Яго калекцыі прыцягвалі ўвагу славутых гісторыкаў, археолагаў, мастацтвазнаўцаў, (напрыклад, прафесараў Станга з Осла, Фалька са Стакгольма, Дэ-Віля з Іспаніі) [79, с. 61]. Гіра аўтарытэт музея, у прыватнасці, сведчыць наступны факт. На адкрыцці Х з'езда Саюза музеяў Польшчы, што праходзіў з 23 па 26 чэрвеня 1934 г. у Вільні, з прывітальнай прамовай да ўдзельнікаў было дазволена звярнуцца прадстаўніку толькі аднаго віленскага музея — беларускага. З прамовай выступіў Антон Луцкевіч па-беларуску [259, с. 175].

Уся яго шматгадовая дзейнасць дае падставу гаварыць пра існаванне ў першай палове XX ст. у гістарычнай сталіцы Беларусі нацыянальнага музея з уласнай бібліятэкай і архівам.

Хутка пасля пачатку другой сусветнай вайны, у пачатку лістапада 1939 г. Вільня была перададзена савецкім кіраўніцтвам Літве. Ад гэтага часу да сярэдзіны чэрвеня 1940 г., калі Літва была далучана да СССР, Беларускі музей, пазбаўлены кіраўніцтва (у верасні 1939 г. НКУС былі арыштаваны А.І. Луцкевіч і А.С. Неканда-Трэпка), быў закрыты. У гэты час музейныя калекцыі знаходзіліся пад наглядам мастака П. Сергіевіча. Пасля ўтварэння Літоўскай ССР Беларускае навуковае таварыства ў Вільні спыніла сваё існаванне, а Беларускі музей быў перададзены ў падпарадкаванне Акадэміі навук Літоўскай ССР. Прэзідэнт апошняй, прафесар В. Крэве-Міцкявічус, прызначыў новы штат супрацоўнікаў, які складаўся з магістра Віленскага універсітэта, этнографа М. Пецюкевіча (дырэктара), Я. Бэкіша (нумізмата), П. Сергіевіча (мастака), У. Дрэмы (мастака) і журналіста Я. Шутовіча (бібліятэкара) [110, с. 81 ].

20 мая 1941 г. па просьбе Янкі Купалы і Якуба Коласа прэзідыум Акадэміі навук БССР звярнуўся з афіцыйнай просьбай у прэзідыум Акадэміі навук Літоўскай ССР аб перадачы БССР Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні ў абмен на архіўныя і музейныя матэрыялы, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР і маюць літоўскае паходжанне [30, арк. 23]. Прэзідыум АН Літоўскай ССР даў згоду на падобны абмен, пасля чаго на працягу чэрвеня ў Мінску была сфарміравана

спецыяльная камісія па перавозцы калекцый Беларускага музея ў Мінск. Але здзейсніць сваю місію камісіі ўжо не хапіла часу.

Пасля акупацыі нямецкімі войскамі Вільні Беларускі музей быў выведзены з сістэмы Акадэміі навук Літоўскай ССР і падпарадкаваны непасрэдна дэпартаменту навукі і мастацтва пры ўпраўленні асветы. Падпарадкаванне новаму ведамству адбілася на кадравым складзе музея. Яго дырэктарам быў прызначаны Я. Шутовіч, а бібліятэкарам стаў У. Паўлюкоўскі. Пакінуў працу ў музеі П. Сергіевіч. Пэўны час у перыяд нямецкай акупацыі ў музеі працавалі У. Паўлюкоўскі (будучы дырэктар Музея імя Пушкіна ў Вільнюсе), А. Антановіч (будучы прафесар Вільнюскага універсітэта) і Г. Цітовіч (будучы народны артыст СССР), Т. Шэлігоўскі (будучы прафесар, старшыня Саюза польскіх кампазітараў).

Акупацыйныя нямецкія ўлады не кранулі Беларускага музея імя І. Луцкевіча. Аднак і засваенню новых экспазіцыйных тэм, а таксама разгортванню адукацыйна-асветніцкай дзейнасці акупацыйны рэжым, безумоўна, не спрыяў. У гэтых умовах Я. Шутовіч распачаў работы па сістэматызацыі і вывучэнні фондавых калекцый. Арганізаваць планамерную сістэматызацыю і вывучэнне музейных прадметаў абмежаванымі сіламі супрацоўнікаў музея, зрабіць калекцыі даступнымі для будучых даследчыкаў і шырокага кола наведвальнікаў — гэта быў асноўны напрамак работы Беларускага музея ў перыяд нямецкай акупацыі.

У пачатку 1944 г. нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі Я. Шутовічу вызваліць Базыльянскія муры (будынкі забіраліся пад ваенны шпіталь) і перавезці фондавыя калекцыі ў Мастацкі інстытут. Каб уратаваць найбольш каштоўныя прадметы ад вывазу было вырашана схаваць іх у скляпеннях касцёла св. Міхала пад наглядам вядомага беларускага рэлігійнага дзеяча і вучонага ксяндза А. Станкевіча. Але гэтая мера перасцярогі была непатрэбна — адступленне нямецкіх войск з Вільні было настолькі паспешлівае, што нават думаць пра вываз культурных каштоўнасцей немцам не выпадала. Такім чынам, перыяд нямецкай акупацыі Беларускі музей перажыў амаль без страт.

Вось як апісвае Я. Шутовіч стан музея пасля таго, як лінія фронту пасунулася на захад ад Вільні: «... я ўрэшце дабраўся да музэю. Аглядаю яго. Дзьверы, што вялі ў калідор, у пакоі, ў залы, запятыя музэем, парасчыняныя, там-сям раскінутыя кніжкі, экспанаты; запасу паперы, які мы захоўвалі дзеля праектаванага выданым бюлетэня, няма, не хапае з аддзелу мілітарыяў некалькі пісталетаў і мячоў. Так, здаецца, усё у парадку. Відавочна, савецкія воіны шукалі ў памешканьні ваенных трафеяў — ну і забралі хіба сабе на памятку

ўспомненыя пісталеты і мячы. Таксама забралі і паперу, бо быў голад на гэты матар'ял. Шкадаваць ня было чаго. Добра і так. Я ўсцешыўся, што фонды музэю асталіся амаль цэлымі, захаванымі. Іду наведаць падвалы суседняга касьцёла сьв. Міхала. Там знаходжу таксама амаль усё ў парадку. Скрыпі некаторыя парасчыняны, але ўсё, што было ў іх, захавалася цалкам» [68, с. 38].

Пасля ўсталявання Савецкай улады ў Вільні ў ліпелі 1944 г. музей перадаюць спачатку ў падпарадкаванне Камітэта па справах мастацтва пры СНК Літоўскай ССР потым — Наркамасветы Літоўскай ССР. У кастрычніку 1944 г. Беларускі музей імя І. Луцкевіча атрымаў ордэр на новае, больш прасторнае памяшканне, але заняць яго ўжо не паспелі. СНК Літоўскай ССР ухваліў рашэнне аб ліквідацыі музея і падзеле яго калекцый паміж Літоўскай ССР і Беларускай ССР.

19 лістапада 1944 г. адбылася сустрэча дырэктара Я. Шутовіча з урадавай дэлегацыяй з Мінска на чале з намеснікам дырэктара па навуковай рабоце Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны В.В. Сабліным. Падчас сустрэчы апошні настойваў на неабходнасці пераводу Беларускага музея ў Мінск, дзе для ўсіх яго супрацоўнікаў будуць забяспечаны найбольш спрыяльныя ўмовы. Шутовіч адмовіўся ад гэтай прапановы, спаслаўшыся на неабходнасць калегіяльнага рашэння па такому важнаму пытанню з удзелам прадстаўнікоў віленскай беларускай супольнасці. На жаль, па абмеркаванне гэтага пытання часу ўжо не было. 20 лістапада Я. Шутовіч быў арыштаваны, а на яго месца прызначаны Ю. Пятруліс, пры якім і адбылася ліквідацыя музея.

Праз некалькі дзён пасля прыбыцця мінскай дэлегацыі СНК Літоўскай ССР сфарміраваў ліквідацыйную камісію, у якую ўвайшлі намеснік наркама асветы М. Мешкаўскене (старшыня), супрацоўнік ЦК КП Літвы А. Даўкша-Пашкявічус, дырэктар музея АН Літоўскай ССР К. Мякас. Камісія падзяліла ўсе музейныя прадметы на чатыры групы:

1) прадметы, што маюць адносіны да гісторыі літоўскага народа[1];

2) прадметы, што маюць дачыненне да гісторыі беларускага народа;

3) прадметы, што маюць дачыненне да літоўскага і беларускага народаў;

4) прадметы, што не маюць адносін ні да гісторыі літоўскага, ні да гісторыі беларускага народаў.

---

[1] Пад гісторыяй Літвы сябры ліквідацыйнай камісіі разумелі тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага ў перыяд яго вышэйшага росквіту, г. зн. ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Прадметы, якія ліквідацыйная камісія адносіла да першай і чацвёртай груп, заставаліся ў Вільні (у Мінск маглі быць перададзены толькі дублікаты). Прадметы другой групы перадаваліся ў Мінск (за выключэннем дублікатаў, а таксама тых прадметаў, якіх у фондах віленскіх музеяў не было, альбо яны былі прадстаўлены там недастаткова). Прадметы трэцяй групы падзяляліся паміж Вільняй і Мінскам у залежнасці ад іх гісторыка-культурных каштоўнасцей для беларускага і літоўскага народаў.

Сартаванне прадметаў па групах ажыццяўлялі спецыяльна запрошаныя літоўскія эксперты — аўтарытэтныя вучоныя (гісторыкі, мастацтвазнаўцы, археолагі, этнографы), музейныя прафесіяналы, мастакі. Навуковыя супрацоўнікі Беларускага музея выкарыстоўваліся толькі на тэхнічных работах. Урадавая дэлегацыя БССР на чале з В.В. Сабліным выконвала ролю статыста пры падзеле калекцый музея. Адукацыйны і маральны ўзровень яе членаў не дазваляў адстайваць інтарэсы беларускага народа нават у тых выпадках, калі літоўскі бок вызначаў як свае відавочна беларускія матэрыялы. Сітуацыю, што склалася, відаць, добра разумела інтэлегенцыя ў Мінску, якая захавалася пасля рэпрэсій 1930-х гг. і не раз апелявала да вышэйшых інстанцый. Гэтым тлумачыцца факт асабістага звароту сакратара ЦК КП(б)Б па ідэалогіі Ц.С. Гарбунова да былога супрацоўніка Беларускага музея П. Сергіевіча з просьбай далучыцца да работ ліквідацыйнай камісіі. Але мастак адмовіўся ўдзельнічаць у знішчэнні буйнейшага асяродка беларускай культуры [68, с. 40].

Ліквідацыйная камісія працавала да сярэдзіны чэрвеня 1945 г. У выніку яе работы фондавы збор Віленскага беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя Івана Луцкевіча быў падзелены паміж рознымі дзяржаўнымі ўстановамі Літоўскай і Беларускай ССР.

Лепшыя калекцыі трапілі ў Гісторыка-этнаграфічны музей АН Літоўскай ССР і яго філіялы (Карцінную галерэю, Музей прыкладнога мастацтва і інш.), Літоўскі дзяржаўны мастацкі інстытут, а таксама бібліятэку Віленскага універсітэта і АН Літоўскай ССР. У апошняй нават быў створаны спецыяльны беларускі фонд, які складаўся з перададзеных матэрыялаў [7]. Невялікая колькасць гісторыка-мастацкіх помнікаў меншай вартасці была падзелена паміж Дзяржаўным мастацкім музеем БССР (цяпер Нацыянальны мастацкі музей) і Дзяржаўным музеем БССР (цяпер Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі). Некаторыя дакументы, малюнкі і кнігі Беларускага музея імя І. Луцкевіча мы сёння знаходзім у Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў

у Дзяржынску, а таксама Фундаментальнай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

Ліквідацыя Беларускага музея імя І. Луцкевіча пазбавіла беларускую навуковую грамадскасць вялікай колькасці разнастайных першакрыніц, а шырокія колы насельніцтва Заходняй Беларусі — важнейшай нацыянальнай асветніцкай установы.

* * *

Два вельмі важныя ў навуковах і культурных адносінах музеі ў міжваенны перыяд знаходзіліся ў Гродне.

Падмуркам першага з іх можна лічыць прыватную калекцыю Ю. Ядкоўскага, якую будучы вучоны пачаў збіраць яшчэ ў юнацтве пад уплывам свайго пастаўніка, вядомага гродзенскага гісторыка і краязнаўца Я.Ф. Арлоўскага. Гэта калекцыя значна ўзбагацілася падчас яго працы на пасадзе кансерватара ў Гродне напярэдадні першай сусветнай вайны. Так, значную колькасць археалагічнага матэрыялу далі сумесныя раскопкі з В. Шукевічам у Начы, Берштах і Троках, з Ю. Талькам-Грынцэвічам — у Ланкішках. Згодна службовых абавязкаў Ядкоўскі быў павінен сачыць за станам не толькі рухомых, але і архітэктурных (нерухомых) помнікаў. Ён абследаваў замкі ў Крэве, Лідзе, Нясвіжы, Міры, палацы ў Свяцку і Дубічах, царкву ў Сынкавічах. З яго дапамогай удалося зберагчы касцёл у Гарадзішчы з фрэскамі Л. Хубля, а таксама іканастас XVII ст. з Супрасля. З гэтых паездак энергічны і настойлівы малады вучоны прывозіў каштоўныя этнаграфічныя матэрыялы, нумізматыку, старадрукі.

Інтэнсіўную працу па фарміраванні фондавага збору будучага гісторыка-археалагічнага музея прыпыніла першая сусветная вайна. Але і падчас нямецкай акупацыі Ю. Ядкоўскі, які адмовіўся ад эвакуацыі ў глыб Расіі, выкарыстоўваў кожную магчымасць узбагачаць свой збор. Важнай падзеяй для развіцця музейнай справы на Гродзеншчыне было ўтварэнне па ініцыятыве Ю. Ядкоўскага ў сакавіку 1920 г. Камісі па ахове помнікаў мастацтва і культуры пры гродзенскім павятовым упраўленні (падобныя камісіі, створаныя польскай грамадскасцю, зрабілі шмат падчас нямецкай акупацыі на этнічных польскіх землях). На першым арганізацыйным сходзе камісіі ў яе склад увайшлі асобы, якія падзялялі ідэю захавання гісторыка-культурнай спадчыны — гарадскі староста К. Рагалевіч, павятовы інжынер В. Герман, інспектар школ І. Ванатоўскі, архівіст А. Гедройц, нумізмат Л. Вільконскі, разьбяр І. Вільк. Адказным сакратаром быў абраны Ю. Ядкоўскі. Ён жа ўзначаліў работу па збіранні матэрыялаў для будучага музея.

Першапачаткова гэтыя матэрыялы канцэнтраваліся ў будынку архіва Гродзенскага староства. Але, ужо на пасяджэнні 22 сакавіка 1920 г. была ўхвалена адозва, згодна якой будынак архіва вызначаўся як часовы прытулак, да пераезду камісіі ў Стары замак. Там жа планавалася разгарнуць экспазіцыі будучага музея. Згодна задуме Ядкоўскага, апошні быў павінен мець назву «Нацыянальны», што, відаць, тлумачылася перш за ўсё прагматычнымі меркаваннямі, а менавіта імкненнем павысіць статус музея, што ў сваю чаргу адкрывала перспектывы шчодрага дзяржаўнага фінансавання. Далейшая дзейнасць Ядкоўскага на пасадзе захавальніка не дазваляе дапусціць думку, што назва «Нацыянальны» азначала яго намер даваць нацыянальную інтэрпрэтацыю беларускай гісторыка-культурнай спадчыне, якая захоўвалася ў музеі.

Вясна — пачатак лета 1920 г. былі часам актыўнага камплектавання збору музея шляхам набыцця старажытных рэчаў, ахвяраванняў ад прыватных асоб, а ў некаторых выпадках нават прымусовага вывазу, для таго каб выратаваць помнікі. Ядкоўскі абследаваў дзяржаўныя ўстановы, кляштары, крамы, адкуль прывозіў шмат каштоўных помнікаў. З дапамогай паліцыі ў сутарэннях дома Камінскай на Тэатральнай плошчы ім была знойдзена частка калекцый (каля 500 прадметаў) музея Гродзенскага педагагічнага таварыства, які існаваў да першай сусветнай вайны. Асабістай заслугай сакратара камісіі было выратаванне часткі бібліятэкі гродзенскіх дамінікан, дзе захоўваліся унікальныя кнігі з экслібрысамі выдатных асоб, пачынаючы з віленскіх выданняў XVI ст. Значная ўвага надавалася выяўленню і ўзяццю на ўлік архітэктурных помнікаў У першыя месяцы існавання Гродзенскай камісіі па ахове помнікаў мастацтва і культуры прыток матэрыялу (пераважна кніг і рукапісаў) быў выпадковы [256, s. 5-25].

Фарміраванне фондавага збору гродзенскага музея было перапынена ў ліпені 1920 г., калі войскі Чырвонай Арміі занялі Гродна. Напярэдадні члены камісіі С. Нітаслаўскі, В. Герман і Ю. Ядкоўскі вывезлі найбольш каштоўныя прадметы ў глыб Польшчы — у г. Влацлавек.

У Гродне быў створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які ажыццяўляў мясцовую ўладу. 26 ліпеня культурна-асветны аддзел камітэта выдаў распараджэнне, адзін з пунктаў якога заклікаў усіх асоб паведамляць пра карціны, вазы, статуэткі, фарфор, старыя акты, рукапісы і г.д., што знаходзяцца ў пакінутых гарадскіх дамах і навакольных сядзібах. На базе гэтых матэрыялаў рэвалюцыйныя ўлады планавалі стварыць мастацкі народны музей, для чаго быў знойдзены

адзін з пакінутых заможным гаспадаром дом. Туды ж перавезлі пакінутую ў горадзе частку калекцый Гродзенскай камісіі па ахове помнікаў мастацтва і культуры. Вядома, што супрацоўнікі культурна-асветнага аддзела спрабавалі практычна рэалізаваць ідэю народнага музея ў выглядзе экспанавання першых набыткаў. Але, як і ў папярэднім выпадку, гэтай рабоце перашкодзілі баявыя дзеянні.

У канцы верасня 1920 г. польскія войскі зноў занялі Гродна. Разам з імі быў Ю. Ядкоўскі, добраахвотна уступіўшы ў польскую армію. Ён адразу ж пачынае пошукі той часткі збораў камісіі, якая засталася ў Гродне. Яе выпадкова знайшлі на гарышчы дома, планаванага рэвалюцыйным культасветаддзелам пад музей. З цяжкасцямі, а часта беспаспяхова даводзілася шукаць кнігі камісіі. З вялікімі намаганнямі і дапамогай гродзенскага старасты К. Рагалевіча, які выдзеліў для гэтага з бюджэту горада 17 тыс. марак, былі прывезены эвакуіраваныя калекцыі з Влацлавека.

17 верасня 1921 г., пасля 15-месячнага перапынку, узнавіла сваю дзейнасць Гродзенская камісія на ахове помнікаў мастацтва і культуры. А на наступны дзень пасля яе пасяджэння адбылося ўрачыстае адкрыццё «Выстаўкі мясцовых старажытнасцей і старога Гродна», наладжанай Ю. Ядкоўскім з дапамогай члена камісіі Л. Вільконскага. На адкрыцці выстаўкі Ядкоўскі дзякаваў усіх, хто перадаваў ці пазычаў свае каштоўнасці.

У справаздачы мы чытаем: «З павета атрымана на выставу: ад кс. Сабалеўскага з Уснажы 2 свечнікі і 2 ступкі пачатку XVIII ст. (як дар), ад п. Разэнблюма з Уснажы — Макараўцаў 294 сярэбраныя польскія манеты XVI-XX стст., ад маёра М. Дарашкевіча план Гродна 1825 г., а таксама некалькі старадрукаў (дэфектны экземпляр рэдкага «Зельніка» з часоў Жыгімонта III), ад п. Сафіі Урсын-Нямцэвіч з Князевічаў — 3 партрэты (маршалка Лахніцкага пэндзлю Лампі, паэта Нямцэвіча і яго бацькі), шафа М.К. Агінскага, 2 шкляныя келіхі, мізурка, 2 габелены, сярэбраны арол канца XVIII ст., які належаў паэту Ю. Нямцэвічу, і турэцкі габелен ад п. Конрада Прушыньскага — слуцкі пас і партрэт Т. Касцюшкі, ад п. Немчыновіча — скарбавая скрыня з Гожы, жалезная, з багатай акоўкай і замком на цэлую крышку, датаваная «годам 1718» (адрамантаваная?) з двума ключамі (уласнасць п. Сільвестровіч), ад членаў камісіі п. Ю. Ядкоўскага (Старое Гродна) і Л. Вільконскага (медная чаканка з выявай Станіслава Аўгуста, прывілей Жыгімонта Аўгуста, манеты эпохі Пястаў і 100 злотых, адбітыя ў 1830 г.)» [256, s. 18].

Выстаўка карысталася вялікай папулярнасцю, што праявілася ў прытоку грашовых ахвяраванняў і вялікай колькасці наведвальнікаў.

Сярод апошніх быў «начэльнік» Польшчы Юзаф Пілсудскі, які аглядаў выстаўку ў суправаджэнні кіраўнікоў урада.

Можна сцвярджаць, што грамадскі рэзананс, які атрымала «Выстаўка мясцовых старажытнасцей», паспрыяў шырокай дзяржаўнай і грамадскай падтрымцы ідэі стварэння гістарычнага музея ў Гродне. Рашэнне пра гэта было ўхвалена ў чэрвені 1922 г. на адкрытым пасяджэнні камісіі з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы, у юрысдыкцыі якога ў міжваеннай Польшчы знаходзіліся буйнейшыя музеі краіны. Захавальнікам музея стаў Ю. Ядкоўскі. Ён жа адначасова займаў пасады кансерватара Беластоцкай акругі і загадчыка аддзела мастацтва і культуры Беластоцкага ваяводства[1]. Былі вызначаны тэрытарыяльныя межы дзейнасці музея: Гродзенскі, Ваўкавыскі, Сакольскі, Бельскі, Беластоцкі, Сувалскі, Аўгустоўскі і Сейненскі паветы. Гродзенская камісія па ахове помнікаў мастацтва і культуры прыпыніла сваё існаванне, замест яе была ўтворана музейная камісія.

9 снежня 1922 г. у адрэстаўраваным будынку староства адбылося ўрачыстае адкрыццё гродзенскага музея (ці як яго назваў Ядкоўскі ў прывітальным слове «першы Нацыянальны на крэсах»). З нагоды яго адкрыцця прывітальныя адрасы даслалі Варшаўскае навуковае таварыства, Познаньскі музей, Музей імя Дзедушыцкіх у Львове, дэкан факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта Ф. Рушчыц, віленскі акруговы кансерватар Е. Ромер і інш. Першая экпазіцыя, разгорнутая ў невялікіх чатырох залах, была адкрыта для наведвання па суботах і нядзелях з 11 да 15 гадзін.

Фондавы збор музея складаўся з наступных аддзелаў: дагістарычнай і раннегістарычнай археалогіі (у гэты ж аддзел уваходзілі геалагічныя і палеанталагічныя калекцыі), помнікаў культу, старажытнага адзення, народнага мастацтва (з улікам народных промыслаў), зброі і рыштунку, старажытнага мастацтва, разьбы, старажытных мастацкіх промыслаў (вырабы са шкла, керамікі, металу, гадзіннікі, компасы і г.д.), сучаснага мастацтва і мастацкіх промыслаў, нумізматыкі і сфрагістыкі.

Экспазіцыя музея размясцілася ў трох залах. У першай зале дэманстраваліся дагістарычныя археалагічныя матэрыялы, кафля з раскопак у Мірскім і Трокскім замках, калекцыя народных пасаў, сабраных на Гродзеншчыне, пацеркі XVIII — пачатку XIX стст., пісанкі. Тут жа можна было ўбачыць некалькі жывапісных палотнаў і

---

[1] Тэрытарыяльна кансерватарскія акругі, створаныя ў міжваеннай Польшчы з мэтай арганізацыі аховы нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны, не супадалі з межамі ваяводстваў.

медзярытаў з пераважна рэлігійнымі сюжэтамі работы XVI-XVII стст., а таксама некалькі арыгінальных дакументаў, у тым ліку прывілей г. Гродна на магдэбургскае права, дадзены вялікім князем і каралём польскім Казімірам IV Ягелончыкам у 1444 г.

Экспазіцыя другой залы адкрывалася старадрукамі (біблія на польскай мове 1561 г. выдання, першыя гродзенскія і супрасльскія старадрукі) і рукапісамі (прывілеі з уласнаручнымі подпісамі каралёў Уладзіслава IV, Аўгуста II, Аўгуста III). Далей экспанаваліся партрэты знакамітых дзяржаўных і палітычных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага — Тадэвуша Касцюшкі, Юліяна Нямцэвіча, маршалкаў Крыштафа Весялоўскага і Станіслава Юндзіла, віцебскага кашталяна Яўстаха Курча і інш. Тут жа знаходзілася так званая шафа Міхала Клеафаса Агінскага, дзе можна было ўбачыць аўтографы кампазітара, яго асабістыя рэчы, падсвечнікі, габелены і г. д.

Трэцяя зала знаёміла наведвальнікаў з калекцыямі нумізматыкі, керамікі і шкла (у апошняй вылучаліся мастацкай работы келіхі, выкананыя на гродзенскай мануфактуры А. Тызенгаўза). У асобных вітрынах дэманстраваліся пячаткі, слуцкія пасы, вышыўкі золатам, кальчугі, рыцарскія спражкі, ліхтары, пячаткі, гравюры, касцельная разьба па дрэве. Заканчвалася экспазіцыя залы зноў старадрукамі.

Акрамя экспазіцыйных памяшканняў у будынку Гродзенскага староства музею былі выдзелены плошчы пад інвентарызацыйна-кансерватарскую і фатаграфічную майстэрні, архіў і бібліятэку [250, с. 1-7].

Такім чынам, у момант адкрыцця і першы перыяд існавання экспазіцыя гродзенскага музея мела яшчэ аматарскі характар. Відавочна, яе стваральнікі імкнуліся размеркаваць сабраныя прадметы згодна калекцыйнаму прынцыпу. У адным выпадку мы нават бачым спробу ансамблевай падачы экспанатаў (фрагмент, прысвечаны М.К. Агінскаму). Але вытрымаць абраны спосаб размеркавання матэрыялаў стваральнікі музея не здолелі. У шэрагу выпадкаў музейныя прадметы розных тыпаў знаходзіліся побач, у той час як аднародныя прадметы экспанаваліся ў розных залах. Неабходна падкрэсліць, што пададзеная вышэй крытыка тычыцца менавіта першай экспазіцыі музея, якая ўвесь час дапаўнялася, удасканальвалася. Урэшце адбылася поўная рээкспазіцыя музея, якая выклікала патрэбу пераезду музея ў новы будынак у 1931 г.

Рашэнне аб перадачы Старога замка музею было прынята Гродзенскім староствам значна раней — 24 ліпеня 1924 г. Пасля перадачы замка Ю. Ядкоўскі з прыцягненнем варшаўскіх спецыялістаў правёў яго інвентарызацыю, вынікі якой былі вельмі несуцяшальныя.

У некалькіх залах не хапала пячэй, аконных шыб і кратаў, паркету, праламаны дах патрабаваў капітальнага рамонту. Замкавая гара патрабавала тэрміновых кансервацыйных работ. Гэтыя абставіны не дазвалялі адразу перавезці музей з будынка староства ў замак. Не спрыяла хуткаму пераезду музея і яго фінансавае становішча. Так, у 1924 г. бюджэт складаў 7 010 злотых: 4 613 — ад Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы, 1496 — ад ваяводства, 901 — ад прыватных асоб [142, s. 11].

Другая палова 1920-х гг. была перыядам напружанай працы па рэстаўрацыі Старога замка і прыстасавання яго пад музейныя патрэбы. Адначасова Ю. Ядкоўскі намагаўся разгарнуць адукацыйна-асветніцкую працу, добра разумеючы, што менавіта такім чынам музей можа набыць аўтарытэт у грамадстве. Нягледзячы на абмежаваныя плошчы будынка староства (у ім маглі знаходзіцца разам не болей за 25 чалавек), на працягу 1924 г. экспазіцыю наведала 2 038 чалавек. У сваёй справаздачы Ядкоўскі сцвярджаў, што на самай справе наведвальнікаў было больш, таму што ў прыведзеную лічбу ўвайшлі толькі тыя асобы, што пакінулі свае імёны ў кнізе наведвальнікаў [6, арк. 1-10].

Асаблівую ўвагу ў гэтых умовах захавальнік гродзенскага музея надаваў арганізацыі і правядзенню часовых выставак «...без якіх музей застаецца мёртвай з'явай» [142, s. 16]. Ён асабіста вёў папярэднюю перапіску з экспанентамі, праводзіў мантаж экспазіцый, складаў тэксты каталогаў выставак і, нарэшце, выконваў абавязкі экскурсавода. Згодна задуме Ю. Ядкоўскага, выстаўкі павінны былі праходзіць двойчы ў год — увесну і ўвосень.

24 красавіка 1924 г. адбылося адкрыццё «Першай вясенней выстаўкі», якая знаёміла жыхароў Гродна з працамі віленскага мастака Я. Казімероўскага. Каталог, выдадзены да выстаўкі, пералічваў 64 партрэты і пейзажы, што былі выкананы алеем, пастэллю і акварэллю [ 152].

2 лістапада 1924 г. адкрылася «Другая восеньская выстаўка», прымеркаваная да 50-годдзя творчай працы Я. Малдаўскага. На гэтай выстаўцы можна было ўбачыць больш за 200 прац мастака і яго вучняў, сярод якіх вялікую цікавасць выклікалі краявіды Гродна і ваколіц («Гродна ў 1920 г.», «Замак і бернардзінскі касцёл у Гродне», цыкл карцін «Нёман» М. Сланецкага, «Прадмесце Гродна», «Нёман з Каложы», «Гродна» К. Заморскага) [144].

Правядзенне выставак у 1924 г. выклікала шмат арганізацыйных турбот, галоўнай з якіх быў пошук належнага памяшкання. Яно так і не было знойдзена, і выстаўкі праходзілі ў будынку староства,

дзе ў той час знаходзілася сталая музейная экспазіцыя. Таму для экспанавання карцін прыйшлося згортваць частку гістарычных экспанатаў музея. Але месца ўсё роўна не хапала — карціны развешвалі ўшчыльную адна да адной ад падлогі да столі і нават на абодвух баках расстаўленых у залах мальбертаў. Нягледзячы на ўсе намаганні, цікавасць публікі да выставак была невысокая. Першую з іх наведала 240 чалавек, другую — 80, што тлумачылася не толькі тэхнічнымі недахопамі, але і адсутнасцю традыцый мастацка-выставачнай дзейнасці ў горадзе. Ускоснае пацвярджэнне апошняй думкі мы знаходзім на старонках тагачаснага гродзенскага перыядычнага друку: «Выстаўка карцін у Гродне? — здавалася б, што такая імпрэза занадта ў нас смелая і адразу асуджана на няўдачу. Таму што да гэтага часу сярэдні гараджанін не толькі пра набыццё, але нават пра агляд карцін не марыў» [138].

Пасля двухгадовага перапынку Ю. Ядкоўскі вяртаецца да выставачных праектаў. У маі 1926 г. ён арганізоўвае выстаўкі твораў мясцовых мастакоў-пейзажыстаў З. Буйноўскага [139] і М. Сланецкага [140], у лістападзе — зноў выстаўку М. Сланецкага і варшаўскай мастачкі З. Станкевіч [153]. Яшчэ праз два гады, у лістападзе 1928 г., гродзенская публіка магла пазнаёміцца з выстаўкай работ вядомага польскага мастака У. Гофмана, прымеркаванай да 25-годдзя яго творчай дзейнасці. На жаль, і да гэтых выставак цікавасць была не надта высокая. Аўтар адной з карэспандэнцый у мясцовай прэсе з жалем пісаў: «У Гродне пражывае 46 тысяч чалавек, а выстаўку карцін У. Гофмана наведала 113 чалавек» [261]. Падобную сумную статыстыку не змог змяніць у лепшы бок нават створаны Ядкоўскім на апошняй выстаўцы асобны аддзел, прысвечаны рэстаўрацыі Старога замка. Акрамя эскізаў, на якіх можна было ўбачыць замак у абноўленым выглядзе (аўтары — архітэктар Б. Збароўскі і Ю. Ядкоўскі), там былі прадстаўлены арыгінальныя выявы Старога замка розных часоў, у тым ліку вядомая гравюра М. Цюнта, малюнак І. Крашэўскага, план замка 1797 г., замкавыя інвентары розных часоў.

Асобнай вялікай работай музея быў удзел у двух выстаўках, арганізаваных Камітэтам па стварэнні помніка Э. Ажэшцы ў Гродне, членам якога з'яўляўся Ю. Ядкоўскі. На першай з іх, у маі 1926 г., дэманстраваліся праекты аднаўлення дома пісьменніцы, а таксама яе асабістыя рэчы — нататнік, фотаздымкі, частка гербарыя, крэсла, гадзіннік, рукапіс аповесці «Над Нёманам», перададзеныя на выстаўку прыватнымі асобамі. Другая выстаўка, прымеркаваная да адкрыцця 11 кастрычніка 1929 г. помніка Э. Ажэшцы ў Гродне, адбылася ўжо ў Старым замку, дзе ў двух залах экспанаваліся працы аўтара помніка,

скульптара Р. Зэрыха, асабістыя рэчы пісьменніцы, а таксама кнігазбор, ахвяраваны музею графіняй М. Красінскай [154, s. 47].

Надаючы шмат увагі арганізацыі і правядзенню выставак, Ю. Ядкоўскі сваёй асноўнай задачай усё ж лічыў збіранне і захаванне гісторыка-археалагічных матэрыялаў, а таксама пабудову на іх аснове сталай экспазіцыі. Ён праводзіў археалагічныя раскопкі, арганізоўваў экспедыцыі, набываў рэчы ў віленскіх, варшаўскіх і львоўскіх антыквараў, вёў перапіску з польскімі і замежнымі музеямі, якім прапаноўваў дублеты ў абмен на помнікі з мясцовай тэрытарыяльнай прывязкай, разгортваў выдавецкую дзейнасць. Не паслабляўся энтузіязм грамадскасці, дзякуючы якому фондавы збор музея таксама ўзбагачаўся каштоўнымі помнікамі (аналіз справаздач Ядкоўскага сведчыць, што апошнія былі галоўнай крыніцай камплектавання фондавых калекцый) [4, арк. 187].

У красавіку 1928 г. Ю. Ядкоўскі стварыў камітэт рэстаўрацыі Старога замка. У выніку дзейнасці камітэта ў 1931 г. музей быў пераведзены і пачаў дзейнічаць у Старым замку, помніку архітэктуры XI-XII стст. [5, арк. 168]

У 1934 г. асобая камісія разглядала вынікі археалагічных раскопак Ядкоўскага 1932-1933 гг. на Замкавай гары, калі былі адкрыты Ніжняя царква, княжацкі церам, сцяна XII ст., Верхняя царква XIV ст. Члены камісіі рэзка крытыкавалі кіраўніка музея за адсутнасць фіксацыі знойдзенага матэрыялу, запісаў праведзеных даследаванняў, нізкі ўзровень класіфікацыі знаходак. Яшчэ большы канфлікт паміж варшаўскімі археолагамі і Ядкоўскім выклікалі яго раскопкі Каложскай царквы 1935 г. У выніку Ядкоўскі адмовіўся ад кіраўніцтва Гродзенскім музеем і ў 1936 г. прыняў рашэнне аб пераездзе ў Варшаву [145, с. 7].

Пасля ад'езду Ю. Ядкоўскага ўсімі музейнымі і археалагічнымі работамі на тэрыторыі Старога замка кіраваў супрацоўнік Археалагічнага музея ў Варшаве доктар З. Дурчэўскі, запрошаны ў Гродна камітэтам рэстаўрацыі замка. Яго асноўныя намаганні былі скіраваны на археалагічныя і кансервацыйныя работы. Так, па яго ініцыятыве ў 1937 г. пачынаюцца работы па стварэнні на тэрыторыі замка яшчэ аднаго археалагічнага музея на аснове закансерваваных раскопаў.

У 1939 г. агульная колькасць калекцый музея дасягнула 16 тыс. адзінак. Сярод іх каштоўныя археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы, абразы, старадрукі, нумізматыка, тканіны, мемарыяльныя рэчы гістарычных асоб. Існаваў асобны кніжны фонд, які налічваў больш за 15 тыс. фаліянтаў.

Пасля ўз'яднання заходнебеларускіх зямель з БССР у дзейнасці музея адбыліся значныя змены. Па загаду савецкага кіраўніцтва старая экспазіцыя была згорнута, пачалася перадача калекцый у Беласток для плануемага там абласнога краязнаўчага музея. У Гродзенскім замку новыя супрацоўнікі дэманстравалі часовыя выстаўкі прапагандысцкага зместу, якія прывозілі з Масквы («Жыццё і дзейнасць В.І. Леніна», «Вызваленне Заходняй Беларусі»).

Вось як апісвае атмасферу ў гродзенскім музеі ў гэты час метадыст па музеях Наркамасветы ў дакладной запісцы старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Н.Я. Паталевічу: «Музей-замак у Гродне, які некаторы час знаходзіўся ў падпарадкаванні Упраўлення па справах мастацтва, некалькі месяцаў выкарыстоўваўся як склад, куды звозіліся канфіскаваныя з маёнткаў карціны, а сам музей літаральна разгромлены былым дырэктарам Бяльковічам і нанятымі ім у якасці навуковых супрацоўнікаў па гісторыі — этнографам Карэлінай і тэхнолагам-кажэўнікам Хінчуком. Уся экспазіцыя была згорнута і сарвана ў мэтах нібыта «карэннай перабудовы». Матэрыяламі абследавання высветлены факты п'янак і дэбошаў узгаданых супрацоўнікаў у музеі. У бягучы момант, нягледзячы на тое, што замак перайшоў у падпарадкаванне Наркамасветы, старыя супрацоўнікі і іх устаноўкі яшчэ засталіся. Бясконца цягнецца перадача спраў ад аднаго дырэктара да другога. Залы і экспанаты нагадваюць не карціну музея, а карціну нейкай бойкі»[32, арк. 16J.

Пасля гэтага звароту да вышэйшага кіраўніцтва сітуацыя ў музеі змянілася ў лепшы бок. У 12 залах замка была ўзноўлена і 13 красавіка 1941 г. адкрыта для наведвання гістарычная экспазіцыя, якая ілюстравала гісторыю Беларусі са старажытных часоў да 1940 г.

Значнае месца ў міжваенны перыяд у культурным і павуковым жыцці Гродна — горадзе, «азораным некалі светам прыродазнаўчых ідэй вялікага батаніка Жылібера» [141, s. 19], займаў Гродзенскі прыродазнаўчы музей.

Заснаванне гэтага музея было звязана з вяртаннем у 1924 г. у Гродна палымянага натураліста і калекцыянера С.П. Жыўны[1]. С першых дзён знаходжання ў родным горадзе С.П. Жыўна імкнуўся папулярызаваць ідэю стварэння ў Гродне агульнадаступнай навуковай і асветнай установы, падобна тым, якія ён бачыў на паўночна-

[1] Жыўна Станіслаў Паўлавіч (1893-1940) нарадзіўся ў Гродне ў сям'і фельчара. У пошуках працы ў 1908 г. з'ехаў у ЗША, дзе на працягу 15 гадоў працаваў прэпаратарам на кафедры прафесара Вуда ў Веслеянскім універсітэце (штат Канектыкут). Разам з Вудам удзельнічаў у шматлікіх экспедыцыях у розныя краіны свету. У выніку стварыў уласную багатую прыродазнаўчую калекцыю, з якой у 1924 г. вярнуўся ў родны горад. З 1926 па 1939 г. з'яўляўся захавальнікам Прыродазнаўчага музея ў Гродне. Памёр у 1940 г.

амерыканскім кантыненце. З цягам часу вакол натураліста згуртавалася кола прыхільнікаў з мясцовай інтэлігенцыі. Іх цікавіў перш за ўсё яго прыватны збор — экзатычныя мінералы, насякомыя, чучалы птушак і інш. Хутка зборам Жыўны зацікавіліся гарадскія ўлады, накіраваўшы да яго спецыяльную камісію з мэтай вывучэння і ацэнкі калекцыі. Па выніках работы камісіі 29 чэрвеня 1924 г. было ўхвалена рашэнне аб неабходнасці стварэння ў горадзе агульнадаступнага музея на падмурку збора С.П. Жыўны. З гарадскога бюджэту на ўтрыманне музея выдзялялася кожны год субсідыя. Малады натураліст, які прысвяціў калекцыяніраванню сваё свядомае жыццё, пры перадачы калекцый ва ўласнасць горада паставіў толькі адну ўмову — залічэнне яго на пасаду захавальніка будучага музея.

Спачатку калекцыі размясцілі ў двух пакоях будынка пажарнай аховы, дзе С.П. Жыўна адразу ж, на грамадскіх пачатках, прыступіў да выканання абавязкаў захавальніка. Першапачатковая ўвага была нададзена сістэматызацыі калекцый, а таксама іх папаўненню, перш за ўсё, мясцовымі ўзорамі флоры і фауны. Падобныя работы таксанамічнага характару працягваліся да 1926 г., калі Гродзенскае староства перадало пад музей новы будынак на вуліцы Дзельнай, а таксама экспазіцыйнае абсталяванне і прафінансавала мантажныя работы. Адначасова былі прыняты меры арганізацыйнага характару — створаны грамадскі камітэт па кіраўніцтву музеем з 12 асоб на чале з урачом І .Я. Якімовічам, ухвалены яго статут, абраны дырэктар (С.П. Жыўна). Нарэшце, 21 лістапада 1926 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё музея. На гэты момант у фондах мелася 2 864 адзінкі захоўвання, у тым ліку млекакормячых — 16, птушак — 289, матылькоў — 774, жукоў — 402, ракавін — 749, птушыных яек — 290, мінералаў — 344 [254, s. 13].

У другой палове 1920-х гг. С.П. Жыўна, з'яўляючыся дырэктарам і ў той жа час адзіным штатным супрацоўнікам музея (не лічачы пасыльнага), прыкладаў усе магчымыя намаганні для яго развіцця. Спалучаючы ў адной асобе вучонага і адміністратара, Жыўка паранейшаму асноўны акцэнт у сваёй працы рабіў на камплектаванні калекцый узорамі мясцовай прыроды. Так, калі падчас адкрыцця ў фондах мелася толькі 199 адзінак узораў беларускай флоры і фауны, дык напрыканцы 1929 г. гэтая лічба павялічылася да 4 828. Агульная ж колькасць калекцый склала 6828 адзінак [254, s. 14].

Значная частка новых паступленняў перадавалася прыватнымі асобамі. Буйнейшыя ахвяраванні зрабілі М. Вэнжык-Відаўска, якая перадала ў 1927 г. больш за 500 мінералаў з Урала і Сібіры, інжынер А. Дзержаноўскі, падараваўшы калекцыю чучалаў вадаплаваючых

птушак, якую сабраў у розных краінах свету, і інш. Сярод ахвярадаўцаў, што дасылалі ў музей прадметы большай ці меншай каштоўнасці, мы знаходзім імёны доктара навук і камენданта павятовай паліцыі, гміннага старасты і вучня сярэдняй школы.

Важнай крыніцай новых паступленняў былі абмены дублетамі з іншымі навуковымі ўстановамі. У 1932 г. такім чынам былі атрыманы каштоўныя экспанаты з Варшаўскага заалагічнага музея (чучалы малайскага мядзведзя, афрыканскага жырафа і леапарда). Свае дублеты ў Гродна дасылалі марская лабараторыя ў Гелі, гідрабіялагічная станцыя ў Віграх і інш.

Знешне простая і не патрабаваўшая высокай навуковай кваліфікацыі ўліковая работа непазбежна прыводзіла да неабходнасці навуковага даследавання. З'яўляючыся сябрам Гродзенскага таварыства аматараў прыроды, С. Жыўна рэгулярна выступаў на яго пасяджэннях, якія адбываліся ў памяшканні музея, дапамагаў парадамі і практычнымі дзеяннямі маладым натуралістам. Ён распрацоўваў і рассылаў па лясніцтвах анкеты для збору звестак пра мясцовую флору і фауну, перадаваў для даследчых мэт прадметы калекцый іншым навукоўцам. Можна сцвярджаць, што Гродзенскі прыродазнаўчы музей быў сапраўдным навуковым цэнтрам па збіранні, вывучэнні і папулярызацыі мясцовай, а таксама замежнай флоры і фауны.

Напрыканцы 1930 г. члены камітэта музея правялі яго рээкспазіцыю. Гэта было выклікана павелічэннем экспазіцыйных плошчаў на два дадатковыя пакоі. У асобных залах у вітрынах размясціліся калекцыі млекакормячых, птушак, земнаводных, рыб і мінералаў. Меўся спецыяльны пакой, дзе знаходзілася вучэбная прыродазнаўчая калекцыя, якая выкарыстоўвалася падчас выкладання прадметаў прыродазнаўчага цыклу ў школах горада. Планавалася выдзеліць усе прадметы мясцовага паходжання ў самастойны аддзел. Акрамя экспазіцыйных памяшканняў у будынку музея знаходзіліся майстэрня і бібліятэка.

Музей быў адкрыты для наведвання кожны дзень з 9 да 13 гадзін, а ў нядзелю з 12 да 18 гадзін, акрамя святочных дзён. Уваход быў платны і каштаваў для дарослых 30 грошаў, для дзяцей і ваенных — 10. С. Жыўна надаваў асветніцкай дзейнасці асаблівую ўвагу, звяртаючыся перш за ўсё да моладзі. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць наступныя лічбы. У 1931/32 навучальным годзе музей наведала 12 920 навучэнцаў, для якіх захавальнікам было праведзена 470 экскурсій. Лічба дарослых наведвальнікаў была значна меншай — 4 634 чалавекі, прычым большасць з іх складалі ваеннаслужачыя. Не абмяжоўваючыся асветніцкай дзейнасцю ў сценах музея, С. Жыўна

імкнуўся папулярызаваць яго калекцыі ў іншых гарадах. У 1928 г. прадметы з Гродзенскага прыродазнаўчага музея можна было ўбачыць на рэгіянальнай выстаўцы ў Беластоку, а ў 1930 г. — на турыстычнай выстаўцы ў Познані [254, s. 15].

Музейныя экспазіцыі ў значнай ступені дапаўняліся аддзеламі сістэматыкі, біялогіі, лекавых раслін, дрэў і кустоў Гродзенскага батанічнага сада, пасаджанага ў сярэдзіне 1920-х гг. сябрамі батанічнай секцыі мясцовага таварыства аматараў прыроды.

Пасля ўсталявання ў Гродне Савецкай улады ў 1939 г. батанічны сад быў закрыты для наведвальнікаў, а Гродзенскі прыродазнаўчы музей у якасці аддзела далучаны да Гістарычнага музея. С. Жыўну, стварыўшага музей і кіраваўшага ім на працягу 15 гадоў, звольнілі з працы, што адмоўна адбілася на далейшым лёсе музея. У красавіку 1941 г. Беластоцкі абкам КП(б)Б пастанавіў перадаць калекцыі былога Гродзенскага прыродазнаўчага музея Гродзенскаму педінстытуту, але высветлілася, што 40% чучал жывёл і птушак на працягу 1940 г. загінула, і перадача не адбылася [24, арк. 67]. Частка калекцый Гродзенскага прыродазнаўчага музея захавалася да нашых дзён. Яна ўваходзяць у аддзел прыроды Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

* * *

Захаванне і выкарыстанне ў навукова-асветніцкіх мэтах гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны на заходнебеларускіх землях у міжваенны перыяд праводзілася пад уплывам шырокага агульнаеўрапейскага інтэлектуальнага і грамадскага руху, вядомага пад назвай «рэгіяналізм»[1]. Сутнасць рэгіяналізму была ў папулярызацыі навуковых ведаў, стварэнні ўмоў для навуковай працы ў правінцыі, абуджэнні ў мясцовых жыхароў ініцыятывы. Росквіт рэгіяналізму ў Еўропе прыпадаў на 20-я гг. ХХ ст. У той час у розных краінах аднachасова было распрацавана шмат розных праграм, скіраваных на змяненне правінцыяльнага жыцця ў трох накірунках: адміністрацыйным, гаспадарчым, культурным. Апошні накірунак нас цікавіць у найбольшай ступені, таму што большасць аўтараў менавіта музеі разглядала найважнейшымі цэнтрамі па развіцці правінцыяльнай культуры.

У Польшчы, дзе меліся багатыя краязнаўчыя традыцыі і вопыт, ідэі рэгіяналізму ў жыццё праводзіла Польскае краязнаўчае таварыства (ПКТ), заснаванае ў Варшаве ў 1906 г. Кіраўніцтва ПКТ з самага пачатку імкнулася арганізаваць намаганні аматараў-адзіночак па

[1] Канцэпцыя рэгіяналізму была сфармулявана ў другой палове XIX ёт. у Францыі заснавальнікам літаратурнага гуртка фелібраў Ф. Містралем (1830-1914 гг.). За дзейнасць на адраджэнні правансальскай пароднай мовы і культуры Ф. Містраль у 1904 г. быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй.

вывучэнні краю, аб'яднаўшы іх у рэгіянальныя таварыствы. Пасля атрымання Польшчай незалежнасці рэгіяналізм робіцца прадметам тэарэтычнага абмеркавання, ажыўленых дыскусій, і гэта, безумоўна, уплывае на ажыўленне музейнай дзейнасці па ўсёй краіне.

У 1926 г. у Варшаве была апублікавана праграма рэгіяналізму. Яна характарызавалася прадуманасцю, лагічнасцю і выклікала вялікую цікавасць у Чэхіі, Англіі, Францыі, Італіі. У праграме, у прыватнасці, падкрэслівалася асаблівая роля музеяў у культурным і гаспадарчым жыцці правінцыі. У праграме давалася азначэнне краязнаўчага музея, які павінен быў стаць «...навуковай станцыяй і інстытутам асветніцкай працы, што каардынуе дзейнасць усіх правінцыяльных культурных устаноў пры іх поўнай аўтаноміі з адзінаю мэтаю: вывучэнне розных рэгіёнаў Польшчы» [247, с. 94]. Такім чынам, краязнаўчы музей афіцыйна атрымаў статус каардынатара ўсёй навуковай і культурнай дзейнасці ў правінцыі.

Хуткае павелічэнне колькасці правінцыяльных музеяў абумовіла ўзнікненне ў 1927 г. музейнай камісіі пры ПКТ. На чале яе стаў выдатны тэарэтык і арганізатар музейнай справы прафесар У. Антаневіч (ён жа кіраваў секцыяй рэгіянальных музеяў пры Саюзе музеяў Польшчы). Члены камісіі распрацавалі ўзорны статут краязнаўчага музея, дзе вызначаліся яго структура, мэты і задачы, крытэрыі да вядзення ўліковай дакументацыі, пабудовы экспазіцый, фарміравання бюджэту і інш. [244, s. 5-8].

У наступныя гады камісія ўздымала шэраг важных тэарэтычных і метадычных пытанняў развіцця музейнай справы ў краіне на нарадах захавальнікаў краязнаўчых музеяў, музейных з'ездах, у сталай рубрыцы, прысвечанай краязнаўчым музеям, у часопісе «Ziemia». Была створана пасада дырэктара музеяў ПКТ з каардынацыйнымі функцыямі, кожнаму музею вызначылі пэўную геаграфічную тэрыторыю яго дзейнасці, пачалі дзейнічаць курсы для музейных захавальнікаў [243, s. 278-279]. Важным крокам наперад была распрацоўка ў 1930 г. акрэдытацыйных стандартаў для краязнаўчых музеяў Польшчы, у адпаведнасці з якімі музей набываў такі статус толькі пры наяўнасці ўласнага памяшкання, калекцый значнай навуковай ці мастацкай вартасці, захавальніка — спецыяліста ў пэўнай дысцыпліне — і сталыя крыніцы фінансавання [258, s. 278-279].

На заходнебеларускія землі ў міжваенны перыяд сістэма арганізацыі польскага краязнаўчага руху распаўсюджвалася без змен і абмежаванняў. Ствараліся ваяводскія і павятовыя аддзяленні ПКТ, актыўна працавалі краязнаўчыя гурткі моладзі пры гімназіях і школах, выдаваліся краязнаўчыя часопісы, нарысы, хронікі работы тавары-

стваў. У 1936 г. у Віленскім краязнаўчым таварыстве было 63 сябры, Навагрудскім — 208, Свенцянскім — 12, Беластоцкім — 79, Гродзенскім — 20, Ваўкавыскім — 24, Баранавіцкім — 30, Лідскім — 15, Слонімскім — 35, Брэсцкім — 30, Пінскім — 41, Браслаўскім — 24, Глыбоцкім — 41 [149, s. 275].

Каштоўнымі калекцыямі па этнаграфіі, флоры, фауне і гістарычнаму мінуламу Заходняй Беларусі валодаў Палескі музей імя маршала Ю. Пілсудскага ў Пінску. Рашэнне пра яго стварэнне ўхвалілі на арганізацыйным пасяджэнні Палескага краязнаўчага таварыства (з 1927 г. Пінскае аддзяленне ПКТ) 27 кастрычніка 1924 г. Практычная работа па арганізацыі музея была ўскладзена на музейную камісію, у якую ўвайшлі 5 чалавек. Сярод іх такія ўплывовыя асобы, як пасол ад Палескага ваяводства ў сейме, сенатар П. Алевінскі, гарадскі староста і старшыня праўлення Палескага банка Ч. Мергенталер і інш. Старшынёй камісіі абралі настаўніка мясцовай гімназіі Р. Тарашкевіча[1], які да таго часу ўжо меў вопыт практычнай музейнай работы. Ён жа заклаў падмурак будучага музейнага збору, перадаўшы таварыству сваю бібліятэку, а таксама знаходкі, зробленыя падчас археалагічных раскопак у Пінскім, Лунінецкім і Столінскім паветах [253, с. 14].

Першапачаткова музей займаў два невялікія пакоі ў будынку магістрата, дзе апрацоўваліся, сістэматызаваліся і вывучаліся першыя паступленні. Тут жа ў 1926 г. была адкрыта першая экспазіцыя музея. Яна не вылучалася багаццем. Ч. Мергенталер у прадмове да музейнага каталога ўзгадвае выгляд экспазіцыі музея ў гэты перыяд: «Як жа ўбога выглядала на пачатку тая адзіная вітрына са зборамі!» [252, с. 4].

У зародкавым стане музей знаходзіўся да сярэдзіны 1928 г., пакуль пасля ад'езду ў Брэст Р. Тарашкевіча на пасаду захавальніка музея (якая ўжо аплочвалася) не быў запрошаны Дз. Георгіеўскі[2]. Пра стан фондавага збору музея ў гэты час дазваляе меркаваць падрыхтаваная Дз. Георгіеўскім у 1929 г. першая справаздача. Згодна ёй, у каталозе было зарэгістравана каля 1000 прадметаў, у тым ліку нумізматыкі — 704, этнаграфіі — 50, прыродазнаўства — 30, карцін і фотаздымкаў — 21. Мелася невялікая бібліятэка, якая складалася з

---

[1] Тарашкевіч Раман (1892-1962) — выпускнік Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, у 1922 — 1923 гг. асістэнт археалагічнага кабінета Музея імя Дзедушыцкіх у Львове. У 1924-1929 гг. працаваў настаўнікам гісторыі ў гімназіях Лунінца і Пінска. Рэдагаваў і выдаваў часопіс «Ziemia Pinska». З 1929 г. на пасадзе намесніка ваяводскага кансерватара ў Брэсце. У 1936 г. Р. Тарашкевіч змяніў прафесію і пачаў працаваць у дырэкцыі Польскага радыё ў Варшаве, потым па радыёстанцыях у Вільні і Баранавічах. Удзельнік другой сусветнай вайны. З 1946 г. працаваў ва ўстановах культуры г. Аполе ў Польшчы. Аўтар шэрага цікавых прац па гісторыі Палесся.

[2] Георгіеўскі Дзмітрый (1889-194?) нарадзіўся ў сям'і доктара ў Пінску, у 1908 г. скончыў Пінскае рэальнае вучылішча, у 1916 г. — прыродазнаўчае аддзяленне Варшаўскага універсітэта. Выкладаў прыродазнаўства, геаграфію і матэматыку ў сярэдніх навучальных установах Пінска, аўтар шэрага этнаграфічных прац. З 1928 па 1939 г. з'яўляўся захавальнікам, а з 1939 па 1941 г. навуковым супрацоўнікам Палескага музея ў Пінску. Лёс Дз. Георгіеўскага падчас нямецкай акупацыі невядомы.

272 тамоў. Вельмі скептычна адносна ўбачанага адазваўся наведаўшы пінскі музей напачатку 1930 г. прадстаўнік музейнай камісіі ПКТ М. Дрэўка: «...у цэлым цяжка апісаныя вышэй зборы назваць «музеем». Гэта толькі сціплы пачатак такой установы» [248].

Адразу ж пасля прыходу на пасаду дырэктара Дз. Геаргіеўскі распрацаваў новую структуру музея, згодна якой ён складаўся з наступных аддзелаў: архівальна-графічнага (дакументы, графіка, дрэварыт, малюнкі, фотаздымкі), жывой прыроды (палеанталогія, батаніка, заалогія, горная справа, прамысловасць, гандаль, археалогія, этнаграфія, мастацтва), нежывой прыроды (мінералы, узоры глебы, разрэзы шахт і штолен, фота і малюнкі каменаломняў, стромкіх берагоў рэк, цагляныя заводы, геалагічныя карты) [147, с. 248].

Новая структура была, безумоўна, крокам наперад. Яна адкрывала новыя перспектывы ў пашырэнні калекцый музея, навуковым вывучэнні сабраных прадметаў. У то жа час яна мела шэраг недахопаў. Так, вельмі спрэчным уяўляецца аднясенне археалогіі, этнаграфіі і мастацтва да «жывой прыроды», горная справа разглядалася як у аддзеле «жывой», так і «нежывой» прыроды і г. д.

Першая палова 1930-х гг. у жыцці пінскага музея характарызавалася перш за ўсё шырокай сістэматычнай работай па камплектаванні калекцый, якая праводзілася ў межах Драгічынскага, Камень-Кашырскага, Кобрынскага, Косаўскага, Лунінецкага, Пружанскага, Столінскага і Пінскага паветаў. Для збірання этнаграфічных і археалагічных матэрыялаў музей арганізоўваў экспедыцыі і выезды на веласіпедах, лодках, вазах і пешшу. Важнай крыніцай паступленняў былі ахвяраванні ад мясцовых жыхароў — настаўнікаў, афіцэраў, простых гараджан і нават сялян, якія прыходзілі ў горад на кірмаш. Асобныя прадметы і кнігі перадавалі дзяржаўныя ўстановы — Кракаўская Акадэмія навук, Міністэрства адукацыі, Упраўленне водных шляхоў.

Асаблівая ўвага пры камплектаванні музейнага збору надавалася этнаграфічным матэрыялам, што тлумачылася імкненнем зафіксаваць самабытную матэрыяльную культуру Палесся, шматлікія архаічныя рысы жыцця, якія знікалі пад уплывам цывілізацыі. Цэнтральнае месца ў этнаграфічных зборах музея займала калекцыя гараднянскай керамікі, якая камплектавалася як падчас выездаў, так і дзякуючы ахвяраванням патомных гараднянскіх ганчароў.

Геаргіеўскі наладзіў сістэму рэгістрацыі і каталагізацыі новых паступленняў. Усе яны заносіліся ў «Галоўны каталог». Акрамя таго, кожны прадмет меў картку з кароткім апісаннем даты вырабу, месца знаходжання, знешняга выгляду.

5 красавіка 1936 г. адбылася важная падзея — урачыстае адкрыццё экспазіцыі музея, які пераехаў у новы будынак, прадстаўлены бясплатна гарадскім банкам (на вул. Касцюшкі, 31, там ён знаходзіўся да 1996 г.) [148, s. 119]. На адкрыццё былі запрошаны інспектар музеяў ПКТ В. Бэр, захавальнік Люблінскага музея Ю. Дуткевіч, прадстаўнікі гарадскіх улад і іншыя ганаровыя госці. Сярод іх былі два гараднянскія ганчары, якія пешшу прынеслі ў Пінск свае вырабы ў падарунак музею і дэманстравалі жадаючым сваё майстэрства. Запрошаныя ўбачылі калекцыі, сістэматызаваныя наступным чынам: этнаграфія, прыродазнаўства, гісторыя, нумізматыка, фотаздымкі. Іх агульная колькасць складала ўжо каля 2 500 прадметаў (да пачатку другой сусветнай вайны яна павялічылася ўдвая) [245, s. 137].

Новая экспазіцыя падсумоўвала вынікі амаль дзесяцігадовай працы Дз. Геаргіеўскага па збіранні, каталагізацыі і вывучэнню культурнай і прыроднай спадчыны аднаго з найбольш унікальных рэгіёнаў Еўропы. У другой палове 1930-х гг. яму ўжо дапамагаў штат навуковых супрацоўнікаў: Дз. Геаргіеўскі сумяшчаў абавязкі захавальніка з абавязкамі куратара прыродазнаўчага і этнаграфічнага аддзелаў, выкладчык геаграфіі, віцэ-прэзідэнт Пінскага аддзялення ПКТ Ю. Абухоўскі займаўся камплектаваннем археалагічнай і этнаграфічнай калекцый, выпускніцы Віленскага універсітэта В. Ягадзянцы было даручана праводзіць інвентарызацыю археалагічнай калекцыі, афарміцельскія работы выконваў выпускнік Варшаўскай Акадэміі мастацтваў Хв. Лаўроў, прэпаратарскія — Л. Касперскі [251, s. 167].

Акрамя музейнай экспазіцыі ў новым будынку таксама знаходзіліся прыродазнаўчая лабараторыя і бібліятэка. Гэтыя ўстановы выклікалі вялікую зацікаўленасць сярод пінчукоў і шматлікіх турыстаў, якія прыязджалі на Палессе знаёміцца з прыродай і культурай краю. Так, у апошнім перадваенным, 1938 г. музей, які быў адкрыты штодзённа з 10 да 14 гадзін, наведала 5 485 чалавек. Кошт уваходнага білета складаў 30 грошаў, для дзяцей — 10 грошаў, для вяскоўцаў уваход быў бясплатны. У Палескі музей часта звярталіся вучоныя, арганізатары розных выставак, а таксама супрацоўнікі польскіх музеяў, якія жадалі набыць палескія народныя мастацкія вырабы. Так, Геаргіеўскі дапамагаў камплектаваць палескімі матэрыяламі зборы Варшаўскага археалагічнага музея, Кракаўскага этнаграфічнага музея, Музея Бутомскай зямлі ў Горным Шлёнску, Шлёнскага музея ў Катавіцах і інш. Важнай падзеяй у жыцці музея было запрашэнне аргкамітэта Сусветнай выстаўкі 1939 г. у Нью-Йорку да ўдзелу ў выстаўцы, куды былі давезены палескія «карабаны» (пляцёнае з лазы і саломы начынне) [250, s. 61-64].

У верасні 1939 г. пінскі музей быў падпарадкаваны гарадскому аддзелу народнай адукацыі і перайменаваны ў Пінскі гісторыка-рэвалюцыйны музей (пазней ён пачаў называцца Пінскі абласны гісторыка-краязнаўчы музей). Быў створаны новы аддзел «Край пад ігам буржуазнай Польшчы». Значна павялічыўся, дасягнуўшы ў 1941 г. 11195 адзінак, аб'ём фондавага збору музея за кошт прадметаў гісторыі і мастацтва, канфіскаваных новай уладай у шляхты і заможных мяшчан.

У 1929 г. пастанову аб стварэнні выстаўкі, якая б адлюстроўвала мінулае і сучаснасць горада, а таксама культурнае становішча рэгіёну ўхваліў Баранавіцкі павятовы рэгіянальны камітэт. Арганізацыя гэтай выстаўкі была даручана выкладчыку адной з мясцовых школ Л. Турскаму. Працуючы над выстаўкай, Турскі прыйшоў да высновы пра магчымасць стварэння сталай установы, якая б знаёміла з жыццём Баранавіцкага павета, — павятовага музея. Ён прадставіў рэгіянальнаму камітэту праект стварэння музея, які павінен быў складацца з трох аддзелаў (прыроды, этнаграфіі, гісторыі) і дэманстраваць сувязь Баранавіцкага павета з гісторыяй Польшчы.

Працы па стварэнні музея праводзіліся з вялікім энтузіязмам. Мясцовыя ўлады згадзіліся для гэтага выдаткоўваць штогод фінансавую падтрымку ў памеры 300 злотых. Акрамя экспанатаў выстаўкі фондавыя калекцыі ўзбагацілі прыватныя ахвяраванні. Актыўны ўдзел у музейнай працы брала грамадскасць, асабліва моладзь. І ўжо ў кастрычніку 1929 г. першыя наведвальнікі аглядалі экспазіцыю музея. Уваход у музей, адкрыты для наведвання па суботах, нядзелях і панядзелках з 16 да 18 гадзін, быў платны: 25 грошаў для дарослых і 10 грошаў для вучняў.

Найбольш каштоўны аддзел быў гістарычны. Там захоўваліся манетныя клады, знойдзеныя на тэрыторыі павета, невялікая калекцыя баністыкі, старажытны посуд, вырабы з фарфору, калекцыя зброі. Да найбольш цікавых прадметаў адносіліся дарожны несэсэр XVIII ст., капілка XVII ст. і некаторыя іншыя.

У аддзеле прыроды камплектаваліся батанічная, мінералагічная і заалагічная калекцыі, найбольш шматлікай была апошняя. Батанічная і мінералагічная калекцыі падчас далучэння Баранавіцкага павета да БССР знаходзіліся яшчэ ў стадыі фарміравання. Падобнае становішча было вызначана адсутнасцю спецыяліста ў галіне прыродазнаўства. Спецыфічнае месцазнаходжанне павета (ускраіна Навагрудскага ўзвышша на поўначы і пачатак Палескай нізіны на поўдні) і багацце флоры (больш за 10 тысяч відаў раслін) давалі магчымасць стварэння вельмі важнага навуковага аддзела.

Нешматлікім быў этнаграфічны аддзел, дзе меліся ўзоры народнага адзення, прылад працы, ткацтва, ганчарства. На думку Л. Турскага, беднасць этнаграфічнага аддзела тлумачылася недаацэнкай мясцовай грамадскасцю «простых» сялянскіх рэчаў. У сувязі з гэтым ім праводзілася работа па тлумачэнні і папулярызацыі сярод насельніцтва гэтай групы помнікаў матэрыяльнай культуры [151, s. 190].

Пасля ўз'яднання заходнебеларускіх зямель з БССР музеем, як сховішчам каштоўных калекцый і базай для развіцця музейнай справы ў рэгіёне, зацікавілася Камісія па абследаванню помнікаў гісторыі і культуры, якая прыбыла ў Баранавічы з Мінска. Як вынік — на працягу канца 1939 — першай паловы 1940 гг. з канфіскаваных навакольных шляхецкіх сядзіб і заможных гарадскіх кватэр у музей пачалі паступаць каштоўныя творы жывапісу і графікі, фарфор, старажытная мэбля, нумізматычныя калекцыі, старадрукі [180].

Вялікая колькасць першакласных твораў мастацтва (у тым ліку творы Рэмбранта, Матэйкі, Зімлера, Катоўскага, Раўха, калекцыя японскага, саксонскага і сеўрскага фарфору, італьянская мэбля эпохі Рэнесансу, калекцыя шкатулак XVII-XVIII стст.), што папоўнілі фонды музея ў гэты перыяд, абумовілі змену яго профілю. І ў 1939 г. з'явілася рашэнне СНК БССР пра адкрыццё ў Баранавічах Музея выяўленчага мастацтва.

Адкрыццё музея адбылося ўжо ў новым, больш прасторным будынку (вул. Міцкевіча, 45) і было прымеркавана да гадавіны ўз'яднання — 17 верасня 1940 г. Абноўленыя экспазіцыі Баранавіцкага музея выяўленчага мастацтва, якім кіраваў па-ранейшаму Л. Турскі, выклікалі вялікую цікавасць у шырокай аўдыторыі і адначасова крытыку з боку мясцовых партыйных улад. Вось што пісаў пасля адкрыцця экспазіцыі афіцыйны орган Баранавіцкага абкама КП(б)Б: «Большасць заўваг прыпадае на аддзел «Савецкае мастацтва», на яго непрадуманае афармленне, небагатую падборку мастацкіх работ, якіх тут прадстаўлена ўсяго некалькі штук. Дарэчы, дзве з іх — карціны Мартынава напісаны слаба, бледна. Гэта з'яўляецца галоўным недахопам. І гэты недахоп трэба ў бліжэйшы час выправіць, зрабіць аддзел савецкага мастацтва, самага вялікага мастацтва ў свеце, цікавым, змястоўным» [2291.

Як і ў Баранавічах, адкрыццю краязнаўчага музея ў Слоніме папярэднічала правядзенне ў 1924 г. выстаўкі старажытных дакументаў і кніг, арганізаванай І.І. Стаброўскім[1]. Але толькі праз чатыры

---

[1] Стаброўскі Іосіф Іосіфавіч (1869-1968) — нарадзіўся ў Слоніме, скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскае Аляксандраўскае ваеннае вучылішча, Маскоўскі археалагічны інстытут, Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Удзельнічаў у І сусветнай вайне ў званні палкоўніка, пасля кастрычніцкай рэвалюцыі

гады пасля правядзення арганізацыйнага збору мясцовых краязнаўцаў і ўтварэння Слонімскага аддзела ПКТ пачаліся падрыхтоўчыя работы па адкрыцці музея. Было знойдзена памяшканне ў будынку павятовай адміністрацыі, закуплена экспазіцыйнае абсталяванне, прызначаны дырэктар новай установы — І.І. Стаброўскі [146, s. 207].

У верасні 1929 г. у прысутнасці прэзідэнта Польшчы І. Масціцкага адбылося ўрачыстае адкрыццё музея, які меў яскрава акрэслены гістарычны профіль. Уся экспазіцыя была пабудавана на аснове калекцый, якія на працягу жыцця збіраў і ахвяраваў гораду І. І. Стаброўскі. Сярод іх можна было ўбачыць экспанаты, якія маглі б упрыгожыць залы лепшых музеяў Еўропы: багатую калекцыю неалетычных і мезалітычных прылад працы і керамікі, галаву старажытнаславянскага ідала, старажытнаславянскія рэлікварый слонімскія судовыя акты XVI-XVIII стст., Статут Вялікага княства Літоўскага, слуцкія паясы, драўляную скульптуру са слонімскіх касцёлаў, асобную вітрыну, прысвечаную паўстан ню 1863 г., два клады шведскіх манет, аўтографы Карамзіна, Дзяржавіна, Льва Талстога, два лісты Пушкіна да Наталлі Ганчаровай, кітайскія мініяцюры. Больш сціпла была прадстаўлена этнаграфія [ 249, s. 40].

Цяжка меркаваць, наколькі вытрыманай у навуковых адносінах была экспазіцыя. Напэўна, калекцыйны прынцып размеркавання матэрыялаў сумяшчаўся ў ёй з тэматычным, што тлумачылася выключна густам Стаброўскага — ён быў адзіным супрацоўнікам музея. Падобная сітуацыя прыводзіла да непазбежных памылак і нават анекдатычных выпадкаў (у прыватнасці, Стаброўскі даваў наступныя анатацыі да экспанатаў: «Гэтая чаша належала бліжэйшаму паплечніку Напалеона — Мюрату. Збягаючы ад рускіх войск, ён не паспеў выкарыстаць яе»). Але, безумоўна, не падобныя памылкі вызначалі агульны выгляд экспазіцыі музея, якая выклікала цікавасць наведвальнікаў пераважна навучэнцаў.

З'яўляючыся па складу апантаным вучоным-краязнаўцам і калекцыянерам, І.І. Стаброўскі аддаваў увесь час вывучэнню і каталагізацыі калекцый. Сучаснік наступным чынам апісвае адзін з яго тыповых рабочых дзён: «Калі адпачывае чалавек цяжка сказаць. На мой погляд, ён пераблытаў дзень з ноччу. Калі не прыйдзеш, усё застаеш яго за справай... Падвары невялікі мароз, а ў памяшканні халадэча. Не хапае паліва. Зазірнула ў пакой, дзе працуе Іосіф

---

служыў у Чырвонай Арміі. З 1921 г. жыў у Слоніме, дзе цалкам прысвяціў сябе музейна-краязнаўчай рабоце. Стваральнік і дырэктар (1929-1948 гг.) Слонімскага краязнаўчага музея. Быў членам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства, аўтар 16 навуковых прац і 2 вынаходніцтваў.

Іосіфавіч. Сядзіць, наставіўшы каўнерык свайго шыняля, а форткі ў вокнах насцеж. Пытаюся, як гэта разумець? Кажа: «Так лепш зберагаюцца экспанаты ад плесені» [214, с. 134].

Пасля ўсталявання ў горадзе Савецкай улады слонімскі музей фактычна спыніў сваё існаванне. Метадыст Наркамасветы БССР па музеях наступным чынам апісвае стан музея ў снежні 1940 г.: «У Слоніме памяшканне, прадстаўленае музею Часовым Упраўленнем у лістападзе 1939 г. (дом фабрыканта Гурэвіча), занята ўсё цалкам пад прыватную кватэру Старшыні Райвыканкама Швайнштэйна, а экспанаты музея, выкінутыя з яго старога будынка, скінутыя ў бязладдзі ў двух прахадных пакоях у нейкай прыватнай кватэры» [32, арк. 14].

Актыўную дзейнасць разгарнула Ваўкавыскае аддзяленне ПКТ, якое было ўтворана ў 1929 г. Пад кіраўніцтвам мясцовага энтузіяста-фатографа, інжынера па прафесіі Ч. Будыны-Давідоўскага, які ўзначаліў аддзяленне, была распрацавана праграма краязнаўчай працы. Галоўны акцэнт у ёй рабіўся на вывучэнне гістарычных помнікаў, народнай культуры і прыроды Ваўкавыскага павета. Акрамя таго, ставілася задача фотафіксавання найбольш каштоўных архітэктурных і прыродных аб'ектаў, наладжвання на сталай аснове экскурсійнай работы, і, урэшце, адкрыццё ўласнага музея. Першыя вынікі дзейнасці членаў аддзялення былі прадстаўлены грамадскасці ў снежні 1933 г. на Ваўкавыскай краязнаўча-турыстычнай выстаўцы. На ёй дэманстравалася каля 600 экспанатаў, у тым ліку абразы, народныя тканіны, старажытныя рукапісы, стардрукі, карты, фотаздымкі і г. д. Найбольшая ўвага надавалася старажытнаму Ваўкавыску [257, s. 5].

Да 1937 г. калекцыі аддзялення, агульная колькасць якіх павялічылася да 3 тыс. адзінак, ужо стала экспанаваліся ў будынку магістрата. Іх вывучэннем і сістэматызацыяй займаўся Г.І. Пех — ваўкавыскі чыгуначнік, аматар-калекцыянер і краязнаўца, які выдаткоўваў уласныя сродкі на набыццё новых прадметаў для музея 1150, s. 191]. У 1940 г. пасля надання Савецкай уладай ваўкавыскаму музею статуса дзяржаўнага Г. І. Пех сумесна з супрацоўнікамі гродзенскага музея праводзіў раскопкі на Шведскай гары, якія значна ўзбагацілі фондавы збор музея. Захаваць яго ў гады акупацыі не здолелі — найбольш каш тоўнае было вывезена ў Германію.

У другой палове 1930-х гг. актыўныя работы па камплектаванні музейных калекцый вялі аддзяленні ПКТ у Глыбокім (камісар аховы лясоў Л. Пякарскі) і Браславе (школьны інспектар І. Суя). Ёсць

некаторыя звесткі і пра існаванне калекцый пры аддзяленнях ПКТ у Лідзе, Дзісне і Брэсце напярэдадні другой сусветнай вайны.

Тры музеі, якія існавалі на заходнебеларускіх землях у міжваенны перыяд, мелі мемарыяльны характар. Яны не падпарадкоўваліся ні гарадскім уладам, ні Польскаму краязнаўчаму таварыству. Узнікненне і дзейнасць гэтых музеяў была вынікам добраахвотнай ініцыятывы мясцовых жыхароў, якія імкнуліся ўшанаваць памяць сваіх славутых землякоў.

Вялікі грамадскі рэзананс меў Мемарыяльны музей А. Міцкевіча ў Навагрудку. Першыя захады па яго стварэнні ў доме, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады паэта і які ў розныя часы наведалі І. Дамейка, В. Каратынскі, Э. Ажэшка, М. Канапніцкая і іншыя выдатныя дзеячы культуры, былі зроблены ў 80-я гг. XIX ст. Тады інтэлігенцыя горада ўхваліла рашэнне пра стварэнне дома-музея і звярнулася да новага ўладальніка (у 1830-я гг. дом, пакінуты без нагляду, быў прададзены з таргоў), але атрымала адмову. Наступная спроба мемарыялізацыі дома Міцкевіча была зроблена ў 1919 г., калі Навагрудскі часовы рэвалюцыйны камітэт абвясціў пра ўзяцце пад ахову дзяржавы дома паэта і арганізацыю ў ім музея [53, арк. 9]. Але і гэтая спроба не дала плёну, што тлумачылася ўключэннем у 1921 г. Навагрудка ў склад Польскай дзяржавы.

Справа зрушылася толькі пасля стварэння ў Навагрудку добраахвотнага навуковага таварыства пад назвай «Міцкевічаўскі камітэт». Камітэт займаўся мемарыялізацыяй месц, звязаных з жыццём паэта, выданнем яго твораў, наладзіў экскурсійнае абслугоўванне шматлікіх турыстаў. А на пасяджэнні камітэта 10 мая 1930 г. было ўхвалена рашэнне пра арганізацыю ў горадзе мемарыяльнага музея паэта. Праз год члены камітэта зрабілі першы практычны крок у гэтым напрамку — падчас шырокага святкавання міцкевічаўскіх дзён (вайсковы парад, свята песні, адкрыццё кургана памяці) у будынку адміністрацыі ваяводства адбылася выстаўка. На ёй дэманстраваліся розныя выданні А. Міцкевіча, яго партрэты, асабістыя рэчы, лісты філаматаў, творы мастацтва і г. д. [259, s. 68].

У 1935 г. частку гэтых матэрыялаў члены камітэта размясцілі ў дзвюх вітрынах у флігелі дома Міцкевіча, а праз два гады, пасля перадачы ўсяго дома ва ўласнасць Міцкевічаўскага камітэта пачаліся паўнамаштабныя работы па яго пераўтварэнні ў музей. 11 верасня 1938 г. адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. У той час экспазіцыя музея яшчэ не мела дакладнага плана. У шасці пакоях размясцілі партрэты паэта і яго сям'і, блізкіх знаёмых, мадэль сялянскай хаты, па якой сумаваў паэт на чужыне, бронзавую копію помніка Міцкевічу ў

Парыжы работы А. Бурдэля, асабістыя рэчы паэта, мэблю, яго пасмяротную гіпсавую маску работы французскага скульптара А. Прэольта, судовыя справы, метрычныя кнігі і інш. Асаблівая ўвага членамі камітэта надавалася фарміраванню музейнай бібліятэкі, якая складалася з розных выданняў твораў А. Міцкевіча (каля 5 тыс. тамоў) і навукова-літаратурных прац пра яго (каля 13 тыс. тамоў). Апошняе тлумачылася тым, што пры заснаванні музея члены Міцкевічаўскага камітэта планавалі, што гэта будзе адзіны ў свеце навукова-асветніцкі цэнтр, прысвечаны вялікаму паэту [194, с.140].

Гэтыя планы перакрэсліў пачатак другой сусветнай вайны. У верасні 1939 г. Міцкевічаўскі камітэт спыніў свае існаванне і на працягу доўгага часу музей не меў пэўнага статусу. Так працягвалася да 25 верасня 1940 г., пакуль ЦК КП(б)Б не прыняў пастанову, адпаведна якой музей пераходзіў у падпарадкаванне Наркамасветы БССР. Планавалася ўзвесці на кургане помнік паэту, узбагаціць мемарыяльную частку экспазіцыі мэбляй XVIII і XIX стст., адрамантаваць будынак [23, арк. 137]. Але часу рэалізаваць гэтыя планы ўжо не хапіла. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны Дом-музей Адама Міцкевіча быў знішчаны і адноўлены толькі ў 1955 г.

У канцы 1920-х гг. аматарамі-гісторыкамі была арганізавана невялікая мемарыяльная экспазіцыя, прысвечаная дзяржаўнаму і вайсковаму дзеячу, кіраўніку паўстання 1794 г. Андрэю Тадэвушу Банавентуру Касцюшку. Яна размясцілася ў адным з пакояў сядзібы ў Мерачоўшчыне, дзе ў 1746 г. нарадзіўся герой і прайшло яго дзяцінства. Арыгінальныя інтэр'еры сядзібы таго часу не захаваліся (у 30-я гг. XIX ст. яна была набыта ў Касцюшкаў В. Пуслоўскім, па загаду якога ў 1857 г. архітэктар М. Астрамецкі правёў рэстаўрацыйныя работы). Але там можна было ўбачыць некалькі асабістых рэчаў Касцюшкі, мэблю, яго партрэты і іншы ілюстрацыйны матэрыял. Пераўтварэнню ўсёй сядзібы ў мемарыяльны музей перашкодзіў пачатак другой сусветнай вайны, падчас якой сядзіба згарэла і больш не ўзнаўлялася [242, s. 256].

У 1939 г. савецкае кіраўніцтва расфарміравала створаны ў сярэдзіне 1930-х гг. Мемарыяльны музей Э. Ажэшкі ў Гродне. Яго памяшканне спачатку было занята музычнай школай, потым — фізкультурным тэхнікумам. Частку рукапісаў славутай пісьменніцы, перавезеную ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, здолелі захаваць, але большасць матэрыялаў знікла [32, арк. 14].

Важным цэнтрам па вывучэнні унікальнай з'явы прыроды — Белавежскай пушчы — быў музей у Белавежы, заснаваны ў 1919 г. па ініцыятыве тагачаснага начальніка акруговай рады дзяржаўных лясоў

Ю. Шрэдэрса. Работы па камплектаванні калекцый будучага музея пашырыліся ў 1921 г. пасля надання Белавежскай пушчы статусу запаведнай зоны (т. зв. «рэзервату») і прызначэння на пасаду яе кіраўніка прафесара Ю. Пачоскага. Апошні паклаў у аснову арганізацыі музея створаны ўласнаручна зельнік раслін Белавежскай пушчы. Спадкаемца Пачоскага на пасадзе кіраўніка «рэзервату» прафесар Ю. Карпінскі працягваў інтэнсіўнае вывучэнне пушчы, прычым не толькі з прыродазнаўчага, але і этнаграфічнага боку. Як вынік, у дадатак да зельніка з'явіліся заалагічная і этнаграфічная (пушчанскае бортніцтва) калекцыі, апрацаваныя з дапамогай таленавітага прэпаратара Я. Гундлаха.

У 1930 г. музей у Белавежы, першапачаткова размешчаны ў царскім палацы, быў адкрыты для наведвання шырокай публікі, перш за ўсё для турыстаў. Новыя магчымасці правядзення навукова-даследчай і асветніцкай дзейнасці адкрыліся ў 1937 г. пасля пераезду музея ў спецыяльна ўзведзены для яго побач з палацам будынак. Падчас другой сусветнай вайны музей разам з палацам згарэў і быў адноўлены ў 1946 г. [260, s. 7].

Як бачна, да 1939 г. на заходнебеларускіх землях сфарміравалася сетка грамадскіх краязнаўчых музеяў, якія з'яўляліся важнымі цэнтрамі па ўсебаковаму вывучэнню краю.

У кастрычніку 1939 г. Наркамасветы БССР накіраваў у заходнія раёны рэспублікі брыгаду навуковых супрацоўнікаў музеяў, якая абследавала музеі і помнікі. Паводле вынікаў абследавання, СНК БССР забараніў вываз з далучаных тэрыторый мастацкіх і архіўных каштоўнасцей без спецыяльнага дазволу. Наркамасветы паставіў на ўлік найбольш каштоўныя заходнебеларускія помнікі. Аддзелы народнай адукацыі часовых кіраўніцтваў уключылі ў свой бюджэт існаваўшыя музеі. Народнагаспадарчы план на 1940 г. прадугледжваў арганізацыю ў заходніх абласцях БССР наступных музеяў: абласных гісторыка-рэвалюцыйных — у Беластоку, Брэсце і Пінску, раённых краязнаўчых — у Ваўкавыску, Слоніме, Міры, літаратурнага — у Навагрудку, выяўленчага мастацтва — у Баранавічах і Беластоку, гістарычнага — у Гродна. Выкананне гэтага плана было перарвана акупацыяй Беларусі нямецкімі войскамі [32, арк. 18].

Знаёмства са зместам дзейнасці музеяў Заходняй Беларусі дазваляе сцвярджаць, што ў сваім развіцці яны праходзілі тыя ж этапы, што і музеі БССР. У той жа час паміж імі існавалі сур'ёзныя адрозненні. У якасці першага з іх неабходна ўзгадаць наяўнасць у Польшчы заканадаўчага права на ўтрыманне ў прыватнай уласнасці гісторыка-культурных каштоўнасцей (не будзем забывацца на тое,

што ў значнай ступені менавіта прымусовая экспрапрыяцыя дазволіла так хутка сфарміраваць фонды БД М). Акрамя таго, дзейнасць заходнебеларускіх музеяў абапіралася пераважна на прыватную ініцыятыву і дабрачыннасць, што непазбежна прыводзіла да нераўнамернасці ў іх рабоце. Мінімальны ўдзел дзяржавы абмяжоўваў маштабы музейнага будаўніцтва, якое вялося пераважна грамадскімі сіламі. Заходнебеларускія музеі, як і музеі БССР, зведалі ўздзеянне пралеткультаўскай ідэалогіі, але са спазненнем, толькі ў 1939 г., што зрабіла іх наступствы менш разбуральнымі.

Асобнае месца сярод музеяў Заходняй Беларусі займаў Беларускі музей імя І. Луцкевіча. Ён аб'ектыўна па змесце і маштабах дзейнасці выконваў функцыі нацыянальнага музея, з'яўляўся важным сродкам захавання беларускай культуры. Беларускі музей імя І. Луцкевіча актыўна спрыяў асэнсаванню прыналежнасці беларусаў да «адзінага дому», пачуцця агульных гістарычных каранёў Розныя тыпы першакрыніц, сабраныя ў фондах музея, склалі вельмі каштоўную базу для правядзення даследаванняў розных аспектаў беларускай гісторыі. На развіцці Беларускага музея імя І. Луцкевіча адбілася агульная палітыка польскага ўрада ў галіне навукі і культуры. Музею прыйшлося пераадольваць супрацьдзеянне з боку мясцовай адміністрацыі, незадаволенай яго шырокай нацыянальна-асветніцкай дзейнасцю.

Асаблівае месца ў культурным жыцці Заходняй Беларусі займалі гродзенскія музеі, якія шмат зрабілі для вывучэння краю і спрыялі яго культурнаму развіццю.

Важную ролю ў арганізацыі краязнаўчых музеяў Заходняй Беларусі адыграла Польскае краязнаўчае таварыства, якое сфарміравала цэлую сетку музеяў краязнаўчага профілю на тэрыторыі ўсёй краіны, у тым ліку і на заходнебеларускіх землях. З'яўленне першых заходнебеларускіх краязнаўчых музеяў датуецца сярэдзінай 20-х гг. XX ст. Цікавасць да збору і папулярызацыі краязнаўчых матэрыялаў дасягнула там свайго піку напярэдадні другой сусветнай вайны, калі агульная колькасць краязнаўчых музеяў і калекцый склала 9. Усе гэтыя музеі былі пад апекай павятовых краязнаўчых таварыстваў. Вялікі ўклад у развіццё музейнай справы ўнеслі аматары-краязнаўцы Р Тарашкевіч, Дз. Геаргіеўскі, І. Стаброўскі, Г. Пех, Л. Турскі. Яны выкарыстоўвалі музейныя зборы ў навуковых мэтах, абагульняючы іх у сваіх працах, узбагачалі музейныя калекцыі, сабраныя ў сувязі з распрацоўкай той ці іншай навуковай праблемы.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Такім чынам, мы прасачылі станаўленне і развіццё музейнай справы Беларусі з 1918 па 1941 г. Гэтыя 24 гады былі насычаны важнымі, часам драматычнымі гістарычнымі падзеямі, складанымі эканамічнымі, сацыяльна-палітычнымі і культурнымі зрухамі. На развіццё беларускай культуры дадзенага перыяду, у прыватнасці, музейнай справы руйнуючы адбітак наклаў факт знаходжання беларускіх зямель у складзе дзвюх антаганістычных дзяржаў — СССР і Польшчы.

Ад самага пачатку ўсталявання Савецкай улады на ўсходняй частцы беларускіх зямель былі распачаты канкрэтныя захады, накіраваныя на тое, каб усе скарбы мастацтва, гістарычныя рэліквіі як мага хутчэй зрабіліся даступнымі для шырокіх мас. Гэтая маштабная праца ажыццяўлялася Савецкай уладай па чатырох накірунках: выпрацоўка заканадаўства, накіраванага на перадачу помнікаў гісторыі і культуры з прыватнай у дзяржаўную ўласнасць, стварэнне цэнтральных і мясцовых органаў кіраўніцтва музейнай справай і аховы помнікаў, прыцягненне да музейнай дзейнасці старых, «буржуазных» спецыялістаў, выкарыстанне гісторыка-культурнай спадчыны ў прапагандысцка-асветніцкіх мэтах. Вынікам дадзенай працы, якая праводзілася губернскімі музейнымі камісіямі, было адкрыццё шэрага новых дзяржаўных музеяў: гісторыка-археалагічнага, прыродазнаўчага, сучаснага мастацтва, сельскагаспадарчага, эканамічна-прамысловага, ветэрынарнага, санітарнай асветы і гігіены ў Віцебску, гістарычнага ў Магілёве, мастацка-гістарычнага і медыцынскага ў Гомелі, абласнога ў Мінску.

Да першай сусветнай вайны сфарміраваўся агульнаеўрапейскі погляд на музей, як на месца вытанчаных эстэтычных практыкаванняў, процілеглых прагматычнаму суроваму свету. Падобная канцэпцыя музея не магла задаволіць ідэолагаў новага савецкага ладу, якія адразу ж паставілі на мэце зламаць бар'ер, які аддзяляў музей ад жыцця, надаць яму сацыяльную функцыю, інтэграваць у сацыяльнае асяроддзе.

Калі на Захадзе антымузейныя тэндэнцыі 1920-1930-х гг. выліліся ў авангардныя мастацкія творы (яны экспанаваліся ў музейных залах) і не падвяргалі сумненню існаванне музея як грамадскага інстытута, то ў СССР музей стаў полем ідэалагічнай бітвы. Савецкімі ідэолагамі было прапанавана новае разуменне музея як месца, дзе чалавек атрымлівае утылітарныя веды для канкрэтных мэт — пабудовы сацыялізму На гэтае разуменне ў значнай ступені паўплывалі лозунгі

рускага мастацкага авангарда пачатку XX ст., лідэры якога (Малевіч, Татлін, Родчанка) заклікалі да знішчэння традыцыйнага музея, як месца захавання «мёртвых цел» [235, с. 93].

У другой палове 20-х гг. XX ст. у БССР назіралася пашырэнне работы ў галіне музейнай справы на аснове стабілізаванай музейнай сеткі. У Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны музей з аддзяленнямі ў Віцебску, Магілёве і Гомелі. Шмат важных у навуковых адносінах музеяў былі створаны ў складзе розных наркаматаў, установу і ведамстваў БССР. Не менш важнай з'явай у музейным жыцці рэспублікі было масавае стварэнне акруговых і раённых грамадскіх краязнаўчых музеяў.

Грамадская патрэба ў пашырэнні музейнай дзейнасці праявілася таксама ў з'яўленні шэрага праектаў, якія выйшлі з-пад пяра выдатных беларускіх вучоных і музейных дзеячаў у 1920-я гг. Сюды адносяцца перш за ўсё праект рэарганізацыі музейнай сеткі БССР В.Ю. Ластоўскага, праекты М.М. Шчакаціхіна па стварэнні нацыянальнага мастацкага музея і А.А. Сцепуржынскага — гісторыка-археалагічнага музея. Аднак усе гэтыя праекты не былі здзейснены, галоўным чынам з-за недахопу сродкаў.

Адначасова адбывалася паступовае ўзрастанне ў сістэме дзяржаўнага апарату супрацьлегласцей паміж задачамі паглыблення культурнай работы і спрошчанымі ўяўленнямі пра культуру, адносінамі да музея як да інструмента ідэалагічнага ўздзеяння на масы. На мяжы 1920-1930 гг. негатыўныя тэндэнцыі пераважылі, што прывяло да разбурэння апарата кіраўніцтва музейнай справай, знішчэння старых музейных кадраў, продажу лепшых прадметаў музейных калекцый. Камплектаванне музейных калекцый у 1930-я гг. адлюстроўвала не рэальнае жыццё, рэальныя культурныя каштоўнасці, а утапічныя ідэі. Афіцыйная дзяржаўная ідэалогія трактавала гістарычны працэс як класавую барацьбу. Адпаведна гэтаму экспазіцыі гістарычных і нават мастацкіх музеяў ствараліся па сацыялагічных схемах.

Нягледзячы на тое, што на Усебеларускай нарадзе музейных супрацоўнікаў у 1932 г. было вырашана адкрыць музейныя курсы пры Магілёўскім педтэхнікуме, а пастанова ЦК КП(б)Б патрабавала арганізаваць музейную спецыялізацыю ў БДУ і ВПШ, сістэма падрыхтоўкі музейных кадраў у БССР наладжана так і не была. Гэткімі ж безвыніковымі былі спробы стварыць спецыяльны орган па каардынацыі дзейнасці музеяў, якія падпарадкоўваліся розным ведамствам. Было вельмі нізкае матэрыяльнае стымуляванне працы музейных супрацоўнікаў — спецыяліст з вышэйшай адукацыяй

атрымліваў 200-250 рублёў у месяц, г. зн. на 30% ніжэй сярэдняга заробку ў народнай гаспадарцы. Усё гэта прывяло да падзення прэстыжу музейнай прафесіі і музейнай дзейнасці ў цэлым.

Музеі ў Заходняй Беларусі ствараліся на іншых юрыдычных, арганізацыйных і інтэлектуальных пачатках. Ва ўмовах захавання права прыватнай уласнасці на гісторыка-культурную спадчыну дзейнасць заходнебеларускіх музеяў абапіралася перш за ўсё на прыватную ініцыятыву. З аднаго боку, гэта прыводзіла да абмежавання маштабаў музейна га будаўніцтва, з другога — дазволіла пазбегнуць татальнай уніфікацыі і ідэалагізацыі музейнай справы.

Найбольш каштоўныя помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў захоўваліся ў Беларускім музеі імя І. Луцкевіча, фондавае ядро якога сфарміравалася яшчэ да першай сусветнай вайны дзякуючы энтузіязму вядомага вучонага і дзяржаўнага дзеяча ІЛ. Луцкевіча. Вынікам калекцыянерскай і навуковай апантанасці І.І. Ядкоўскага і С.П. Жыўцы было з'яўленне двух буйных гродзенскіх музеяў — гісторыка-археалагічнага і прыродазнаўчага. Больш сціплымі фондавымі калекцыямі валодалі заходнебеларускія музеі, якія падпарадкоўваліся Польскаму краязнаўчаму таварыству, але ствараліся таксама дзякуючы мясцовым энтузіястам. Калекцыі заходнебеларускіх музеяў павялічваліся з рознай інтэнсіўнасцю, значная частка паступленняў мела выпадковы характар. Помнікі беларускай гісторыі і культуры ў іх экспазіцыях, за выключэннем Беларускага музея імя І. Луцкевіча, ва ўмовах знаходжання ў межах іншай дзяржавы не атрымалі нацыянальнай інтэпрэтацыі.

На мяжы 30-40-х гг. XX ст. пры пэўным «пацяпленні» палітычнага клімату ў СССР, назіраюцца змены ў дзяржаўнай культурнай палітыкі. Пры захаванні ранейшых ідэалагічных падыходаў, улады праводзяць шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на ахову гісторыка-культурнай спадчыны, спрабуюць палепшыць матэрыяльна-тэхнічнае становішча музеяў, забяспечыць іх кваліфікаванымі кадрамі. У 1940 г. па даручэнні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета БССР супрацоўнікі Наркамасветы зрабілі крытычны агляд стану музейнай справы. Паводле вынікаў агляду, была распачата перабудова музейнай сеткі БССР з улікам новага абласнога адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, адкрыта Дзяржаўная карцінная галерэя ў Мінску, антырэлігійныя музеі ў Віцебску і Гомелі (што ўратавала ад разбурэння культавыя помнікі, у якіх яны былі размешчаны), зроблены захады па перавозцы фондаў Беларускага музея імя І. Луцкевічаў Мінск.

У 1939 г. было зацверджана тыпавое палажэнне аб краязнаўчым музеі, дзе апошні вызначаўся як «навукова-даследчая і палітыка-

асветная ўстанова, якая дае паказ у рэчах, дакументах і мастацкіх адлюстраваннях гістарычнага працэсу, развіцця прыроды і гістарычнага грамадства» [2, арк. 4]. Праз два гады пры Наркамасветы БССР ствараецца Вучоны музейны савет. Усё гэта давала надзею на вяртанне ў бліжэйшым будучым да навуковых асноў у айчыннай музейнай дзейнасці.

У 1939 г. музеі БССР наведала 435,8 тыс. чалавек, з якіх 198,3 тыс. — у экскурсійных групах [84, с. 52]. Найбольш актыўнымі і шматлікімі наведвальнікамі былі школьнікі, якім надавалася асаблівая ўвага. З 1934 г. у шэрагу музеяў БССР дзейнічалі школьныя камісіі, што складаліся з музейных работнікаў, настаўнікаў, метадыстаў, перад якімі Наркамасветы ставіў задачу «цэнтралізаваць усю работу з дзецьмі». У пералік абавязковых работ школьных камісій уваходзілі распрацоўка школьных экскурсій, набыццё дыдактычных матэрыялаў, падрыхтоўка грамадскіх экскурсаводаў, педагагічнае вывучэнне юнага наведвальніка, работа з вучнямі па-за музеем [2, арк. 6].

Ацэньваючы перыяд станаўлення музейнай справы Беларусі ў 20-30-я гг. XX ст., можна прыйсці да наступнай высновы. Нягледзячы на складанасці эканамічнага і ідэйна-палітычнага характару, з якімі ў большай ці меншай ступені сутыкаліся ўсе музеі БССР і Заходняй Беларусі, менавіта ў гэты перыяд былі выпрацаваны прававыя нормы музейнай дзейнасці, формы і метады іх ажыццяўлення па практыцы. Былі створаны перадумовы для далучэння шырокіх народных мас да засваення каштоўнасцей нацыянальнай культуры. Музеі, як навукова-даследчыя і асветніцкія ўстановы, актыўна спрыялі ахове рухомай і нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны, разгортванню навукова-даследчых работ, распаўсюджванню ведаў аб прыродзе і грамадстве, павышэнню агульнакультурнага ўзроўню краіны.

## ВЫКАРЫСТАНЫЯ КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


1. Архіў ВАКМ. Ф. 1. Спр. 28.
2. Там жа. Ф. 4. Спр. 2/2.
3. Архіў ГАКМ. Ф. 9. Спр. 9.
4. Архіў ГГАМ. Спр. № 1.
5. Там жа. Спр. № 2.
6. Там жа. Спр. № 3.
7. АРЦБАНЛ.Ф. 21-2049.
8. БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 2.
9. ДАВВ. Ф. 246. Воп. 1. Спр. 311.
10. Там жа. Ф. 1947. Воп.1. Спр. 2.
11. ДАГВ. Ф. 60. Воп. 1. Спр. 126.
12. Там жа. Спр. 307.
13. Там жа. Спр. 1261.
14. Там жа. Спр. 1266.
15. Там жа. Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50.
16. ДАМВ.Ф.927. Воп.3. Спр. 1.
17. НА РВ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 238.
18. Там жа. Спр. 328.
19. Там жа. Спр. 342.
20. Там жа. Спр 401.
21. Там жа. Спр. 470.
22. Там жа. Спр. 652.
23. Там жа. Спр. 1089.
24. Там жа. Спр. 1200.
25. Там жа. Воп. 4. Спр. 1.
26. Там жа. Воп. 8. Спр. 14.
27. Там жа. Воп. 14. Спр. 1.
28. Там жа. Спр. 57.
29. Тамжа. Воп. 21. Спр. 2023.
30. Там жа. Воп 27. Спр. 110.
31. Там жа. Спр. 115.
32. Там жа. Спр. 252.
33. Там жа. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 35.
34. Там жа. Спр. 179.
35. Там жа. Спр. 2294.
36. Там жа. Спр. 2295.
37. Там жа. Спр. 2565.
38. Там жа. Ф. 7. Воп. 1. Спр. 198.

39. Там жа. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 2.
40. Там жа. Спр. 201.
41. Там жа. Спр. 521.
42. Там жа. Спр. 1061.
43. Там жа. Спр. 1700.
44. Там жа. Спр. 1927.
45. Там жа. Спр. 1935.
46. Там жа. Спр. 1947.
47. Там жа. Воп. 3. Спр. 664.
48. Там жа. Ф. 93. Воп. 1. Спр. 4706.
49. Там жа. Ф. 101. Воп. 1. Спр. 2215.
50. Там жа. Спр. 3504.
51. Там жа. Ф. 126. Воп. 1. Спр. 176.
52. Там жа. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 8384.
53. Там жа. Ф. 350. Воп. 4. Спр. 8.
54. Там жа. Ф. 804. Воп. 1. Спр. 1.
55. Там жа. Спр. 12.
56. Там жа. Спр. 16.
57. ЦНА НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 5.
58. Там жа. Спр. 15.
59. Там жа. Спр. 16.
60. Там жа. Спр. 26.
61. Асьвста. - 1924. - № 3.
62. Там жа. - 1928. - № 8.
63. Беларусю каляидар на 1929 г. - Вільня, 1928.
64. Вестник народного комиссариата просвещения ССРБ. - 1921. - № 2.
65. Віцебскі рабочы. - 1938. - 14 чэрвсия.
66. Вперед. - 1925. - № 4; Полымя. - 1926. № 3.
67. Журнал отдела народного образования Западной области. - 1918. - № 2/3.
68. З успамінаў Янкі Шутовіча // Спадчына. - 1995. - № 1.
69. Звезда. -1919.-4 марта.
70. Там жа. - 27 марта.
71. Там жа. - 1923. - 14 марта.
72. Там жа. - 1926. - 5 мая.
73. Звязда. - 1938. - 11 лістапада.
74. Известия Витебского Губкома РКП (б) и Губисполкома. - 1922. - 3 октября.
75. Известия Витебского Совета Крестьянских, Рабочих, Красноармейских и Батрацких Депутатов. - 1920. - 9 апреля.
76. Известия Губернского Совета Крестьянских, Рабочих, Красноармейских и Батрацких Депутатов. - 1918. - 10 ноября.

77. Известия Губкома РКП (б) и Губисполкома. - 1920. - 23 августа, 27 октября.
78. Інвентарная кніга Музэю ім. Ів. Луцкевіча Беларускага Навуковага Таварыства у Вільні // Спадчына. - 1935. - № 1. С.47-51; № 2. С.85-111; № 3. С.130-156; № 4. С.60-79; № 5. С.163--190.
79. Калосьсе. - 1936. - № 1.
80. Там жа. - 1937. - № 1.
81. Там жа. - 1938. - № 1.
82. Там жа. - 1939. - № 2.
83. Краязнаучыя арганізацыі БССР // Наш край. - 1925. - № 1.
84. Культурное строительство БССР. - Минск: ЦНХУ БССР, 1940. - 112 с.
85. Наш край. - 1925. -№ 1.
86. Там жа. - 1926. - № 1 (4).
87. Там жа. - 1926. - № 2-3 (5-6).
88. Там жа. - 1926. - № 6-7.
89. Там жа,- 1926.-№8-9.
90. Там жа. - 1926. - № 10-11.
91. Там жа. - 1926. - № 12.
92. Там жа. - 1927. - № 1.
93. Тамжа. - 1927. - № 2.
94. Там жа. - 1927. - № 3.
95. Там жа. - 1927. - № 5.
96. Там жа. - 1927. - № 8-9.
97. Там жа. - 1928. - № 4 (31).
98. Там жа. - 1928. - № 5.
99. Там жа. - 1928. - № 6-7.
100. Там жа. - 1928. - № 10.
101. Тамжа. - 1929. -№ 1.
102. Там жа. - 1929. -№ 3.
103. Там жа. - 1929. - № 6-7.
104. Тамжа. - 1929. - № 12(51).
105. Там жа. - 1930. - № 2.
106. Там жа. - 1930. - № 5-6.
107. Наша шва. - 1993. - № 10.
108. Памяці Івана Луцкевіча у першыя угодкі сьмерці яго. - Вільня, 1920. - 56 с.
109. Пералік архіўных дакументау Беларускага музея, забраных НКВД пры ЛССР 15/16. VIII. 1944 г. // Лабынцаў Ю. Архіў беларускага адраджэння: (Дакументальныя помнікі беларускай царкоўнай і грамадзянскай гісторыі

у зборах Музея імя Івана Луцкевіча у Вільні). - Мінск: Нац. б-ка Беларусь 1993.
110. Пецюкевіч М. Уснаміны пра Віленскі музей // Спадчына. - 1995. - № 2.
111. Полымя. - 1923. - № 5-6.
112. Там жа.-№7-8.
113. Там жа. - 1924. - № 4.
114. Там жа. - 1925. -№ 3.
115. Там жа. - 1926. - № 3.
116. Там жа. - 1927.-№ 7.
117. Там жа. - № 8.
118. Там жа. - 1928. - № 2.
119. Там жа. - № 8.
120. Там жа. - 1930. - № 3.
121. Правда. - 1929. - 5 ноября.
122. Там жа. 1935. - 21 апреля.
123. Праца Гомельскага Дзяржаунага Музэю імя Луначарскага за 1928-1929 гг. // Наш край. - 1929. № 12(51).
124. Працы першага ўсебеларускага краязнаучага зьезду. 7-11 лютага 1926 г. Менск: Інбелкульт, - 1926. - 81 с.
125. Працы другога усебеларускага краязнаучага зьезду. 10-13 лютага. 1927 г. - Менск: Інбелкульт, - 1927. - 119 с.
126. Савецкая Беларусь. - 1923. - № 115.
127. Савецкая краіна. - 1930. - № 1 - 2.
128. Там жа. - 1932.-№ 3.
129. Там жа. 1932. - № 4.
130. Там жа. - 1932. - № 5.
131. Собрание законов и распоряжений рабоче-крестьянского правительства БССР. 1932. - № 43.
132. Собрание узаконений и распоряжений рабочего и крестьянского правительства. 1924.-№1,-ст. 5.
133. Собрание узаконений и распоряжений рабоче-крестьянского правительства БССР. 1925. - № 7.
134. Собрание узаконений и распоряжений РСФСР. - 1928. - № 116.
135. Советская Белоруссия. - 1939. - 15 июня.
136. Там жа. 1941. - 2 марта.
137. Школа и культура Советской Белоруссии. - 1919. - № 2 3, отдел официальный.
138. Echo Grodzieńskie. - 1924. - 29 kwietnia.
139. Katalog wystawy obrazów artysty malarza Zycha Bujnowskiego. - Bialystock, 1926;

140. Katalog wystawy obrazów artysty malarza Marjana Słoneckicgo. - Grodno, maj 1926.
141. Miejskie muzeum przyrodnicze w Grodnie: Sprawozdanie z działalności za lata 1927 1929. - Grodno, 1931. - 32 s.
142. Muzeum w Grodnie. Rocznik II za rok 1924. - Grodno, 1925. - 41 s.
143. Muzeum w Grodnie. Sprawozdanie z czynności za rok 1923. - Grodno, MCMXXIV' 58 s.
144. Nadniemanski Kurjer Polski. - 1924. - № 90.
145. Wojewódzki Komitet Uczczenia króla Stefana Batorego w Grodnie. Sprawozdanie z prac na Starym Zamku w Grodnie. 1933-1937. - Grodno, 1938. - 46 s.
146. Ziemia. - 1928. -№ 13.
147. Там жа. - 1929. - № 13.
148. Там жа. - 1936. - № 4.
149. Там жа. - № 10-11.
150. Там жа. - 1938. - №5-6.
151. Там жа. - 1939. - № 5-6.
152. I Wiosenna Wystawa Prac Eugenjusza Kazimicrowskiego. - Kwiecień. - 1924.
153. V Wystawa obrazów i grafiki artystów malarzy Zofii Stankiewicz i Marjana Słoneckicgo. - Grodno, 1926.
154. VII Wystawa pośmiertna prac malarskich Zycha Bujnowskiego i prac rzeźbiarskich autora pomnika Elizy Orzeszkowej w Grodnie Romualda Zerycha. - Grodno, 1929.

155. Akanовіч Г. і інш. Музей Асіпавіцкай чыгуначнай школы // Наш край. - 1929. № 4.
156. Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. - 30-е годы 20 в. Минск: Беларус. навука, 1996. - 206 с.
157. Аляксандраў Г. Чарговыя задачы школьнага краязнаўства // Наш край.- 1926. -№ 10-11.
158. Аніхоўскі А. Гомельскі пэдагагічны музей //Асьвета. - 1929. - № 4.
159. Багуслаўскі А.Г. З гісторыіи аховы помнікау ў Беларусі //Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1983. - № 1.
160. Бандарчык В К. Старонкі беларускага савецкага краязнаўства // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі - 1972. - № 3.
161. Бандарэнка А. Гісторыя аднаго музея // ЛіМ. - 1989. - 28 ліпеня.
162. Бронский Н. Открытие домика, где проходил I съезд РСДРП // Рабочий. - 1937.
14 апреля.

163. Бяляцкі А. Скарбы першага беларускага музея // Літаратура і мастацтва. - 1987. 2 кастрычніка.
164. Г-ский Н. Академический Центр Наркомпроса ССРБ // Вестник Народного Комиссариата Просвещения С.С.Р.Б. - 1921. - №1. - октябрь.
165. Дабратворскі М. Год заснаваньня Зоолёгічнага Музэю Інстытуту Беларускае Культуры // Наш край. - 1928. - №12 (39).
166. Дзянісаў У. З гісторыі аховы помнікау // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі -1984. - № 3.
167. Дмитриев В. Почему необходимы художественные хранилища // Звезда. - 1919. № 383.
168. Жуков Ю.Н. Становление и деятельность советских органов охраны памятников истории и культуры. 1917-1920. - М.: Наука, 1989. - 302 с.
169. Ігнатовіч Ф.І., Швед В.В., Госцеў А.П. С.П. Жыўна і яго уклад у стварэнне Гродзенскага музея прыроды // Краязнаучыя запіскі. Зборнік артыкулаў да 75-годдзя заснавання ГДГАМ. - Гродна, 1995.
170. Ігнатоўскі У. Ад Беларускай Тэрміналёгічнай Камісіі да Беларускай Акадэміі Навук// Наш край. - 1928. - № 12.
171. Попова О.В. Музейное строительство в годы довоенных пятилеток (1928-1941) // Очерки истории музейного дела в СССР / Труды НИИ музееведения. Вып. V. М.: 1963.
172. К изучению истории ВКП(б) / Сборник - М.: Партиздат ЦК ВКП(б), 1937. - 31 с.
173. К.1. Беларускі Дзяржауны Музей у Менску // Беларуская школа у Латвіі. - 1926. № 2.
174. Кандрацьева Л.Ф. З гісторыі музейнай справы у Магілёве // Гісторыя беларускага Падпяпроўя / Матэрыялы навук. канф. 13-14 лістап. 1997 г. - Магілёў, 1999.
175. Каршук М. Усесаюзная Краязнаучая канферэнцыя у Маскве // Асьвета. - 1924. № 3.
176. Касьпяровіч М. Арганізуйце школьныя музеі! // Савецкая Беларусь. - 1923. № 116.
177. Ён жа. Віленскі беларускі музей // Наш край. - 1929. - № 3.
178. Ён жа. Краязнаўства і школа // Комуністычнае выхаванне. - 1930. - №3.
179. Ён жа. Краязнаўства. - Менск: Белдзяржвыд, 1929. - 159 с.
180. Кашкурэвіч А. Баранавічы будуць мець карцінную галерэю // Чырвоная звязда. - 1940. – 29 сакавіка.
181. Клепиков Н.Я. Становление государственной системы охраны памятников истории и культуры Белоруссии (1917 - 1932). Автореф. дис... канд. ист. наук: 07.00.02. / Бел. гос. ун-т. - Минск, 1994. - 24 с.
182. Ксяневіч Ю. Трагічны лёс музея // Полымя. - 2001. - № 3.

183. Кузина Г.А. Государственная политика в области музейного дела в 1917-1941 гг. // Музей и власть. Государственная политика в области музейного дела (XVIII- XX вв.) / Сб. науч. тр. - М.: 1991. - Ч. 1.
184. Курчицкий А.В. Страницы истории Гомельского областного краеведческого музея // Краеведческие записки (к 80-летию Гомельского областного краеведческого музея). - Гомель, 2000.
185. Лабачэўская В.А. Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі. - Мінск: Бел. навука, 1998. - 375 с.
186. Лабынцаў Ю. Архіу беларускага адраджэння: (Дакументальныя помнікі беларускай царкоунай і грамадскай гісторыі у зборах Музея імя Івана Луцкевіча у Вільні). Мн.: Нац. б-ка Беларусі 1993. - 48 с.
187. Ламака М. Як мы утварьлі валасны школьны музей // Асьвета. - 1924,- № 3.
188. Лінкін Б. Паказ у музэях лясоу тутэйшага краю // Наш край. - 1927. - № 4. С. 30- 31; Зьбіткоўскі М. Настаўленьне да зьбіраньня раслін і назіраньняу над імі // Наш край. - 1927. - № 5. С. 35-36; Сташэўскі Організаваньне раённага музэю // Наш край. - 1929. - № 1. С. 54 і інш.
189. Лоренц С. Музеи и коллекции Польши. - Варшава: Полония, 1956. - 132 с.
190. Луцкевіч А. Беларускі музей ім. Івана Луцкевіча. - Вільня, 1933. - 16 с.
191. Луцкевіч Л. Скарбніца Беларушчыны. Беларускі нацыянальны музей у Вільні: 1921-1945 гг. // Літаратура і мастацтва. - 1991. - 15 сакавіка.
192. Лютынскі В. З гісторыі музейнай справы у Оршы // Аршанская газета. - 2001. № 92, 93.
193. Лявонны Ю. Музей у палоне // Чырвоная Беларусь. - 1931. - №1.
194. Ляруй В.Л. Дом і музей Адама Міцкевіча у Навагрудку // Полымя рэвалюцыі. 1940. -№ 11.
195. Мазуркевіч Я. Віцебскае Аддзяленне Беларускага Дзяржаўнага Музэю // Наш край. - 1928. - № 10 (37).
196. Марголіна Р. Палеская скарбніца// Беларуская мінуўшчына. - 1997. - № 3.
197. Марцелев С.В. К духовному расцвету. - Минск: Беларусь, 1974. - 406 с.
198. Маскоўкіна Е.В. Музейнае будаўніцтва// Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1975. - № 4.
199. Мікалаеу А.М. Гомельскі Дзяржауны Культурна-гістарычны музей // Наш край. 1928. - № 12.
200. Мікіцінскі У. Слуцкі раённы краязнаучы музей // Наш край. - 1928. - № 1.
201. Мялешка С. Полацкі акругoвы краязнаучы музей // Наш край. - 1929. - № 12.

202. Мяшэчка Я.М. Краязнаўства і музеі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. - № 1.
203. Налівайка Л.Д. Спадчына народа// Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. - 1981. № 3.
204. Новік-Пяюн С. Памяці І І. Стаброўскага // Ніва. - 1968. - 11 лютага.
205. Огай М.Н. История и судьба «храма муз»// Краеведческие записки (к 80-летию Гомельского областного краеведческого музея). - Гомель, 2000.
206. Писаненко А.Д., Шкляров Л.П. История зоологического музея Белорусского университета// Фауна и систематика: Тр. Зоол. музея Бел. ун-та. - Мн.: Навука і тэхніка, 1995. - Вып 1.
207. Пічэта У. Краязнаўства у Беларускім Дзяржауным Універсітэце // Наш край. 1927. - № 10.
208. Плешавеня А.М. Музей прыроды у Гродна// Матэрыялы рэснубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства». 8-9 кастр. 1990 г. - Гродна, 1990.
209. Пружинина Я.Б. Музейное строительство в БССР // Советский музей. - 1993. № 2.
210. Пяцэвіч Р. і інш. Краязнаўчы рух на Случчыне // Наш край. - 1928. - № 12.
211. Рак-Міхайлоускі С. Аб музеях БССР да XV гадавіны Кастрычніка // Савецкая краіна. - 1932. - № 10.
212. Романчук И. Наркомпрос БССР не руководит музеями // Советский музей. 1938. - № 8.
213. Рывкин М., Шульман А. Юдель Пэн. Художник и педагог. - Витебск.: Белорус, об-о еврейск. общин и орг-ий, 1994. - 71 с.
214. Рылко М. Старонкі аднаго жыцця // Маладосць. - 1969. - № 11.
215. Садоўскі Ф.П. Аб недаацэнцы краязнауства// Савецкая краіна. - 1931.- № 6.
216. Ён жа. Музэй - магутны агітатар і прапагандыст сацыялістычнага будаўніцтва // Савецкая краіна. - 1931. - № 3. С.19-23.
217. Ён жа. «Савецкая Краіна» - барацьбіт за савецкае краязнаўства // Савецкая краіна. - 1930. -№ 2.
218. Салауёва А.А., Царук В.М. Гродзенскі дзяржауны гісторыка-археалагічны музей - ад заснавання да сённяшняга дня // Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Музей і развіцце гістарычнага краязнаўства». 8-9 кастр. 1990. - Гродна, 1990.
219. Салаўеў П. Краязнаучая дзейнасць Горацкай С.Г. Акадэміі ім. Кастрычніцкай Рэвалюцыі і Навуковага Таварыства// Наш край. 1927. № 10. С.31-34.

220. Самавічус Р. Беларускі музей // Вяртанне 2. Зборнік артыкулаў і дакументаў. Мінск:: Белар. фонд культуры, 1994.
221. Саўчук А.І. Выставачная дзейнасць Гродзенскага музея у 1920-я гады // Краязнаучыя Запіскі. Вып. 5. - Гродна. 2000.
222. Супінскі А.К. За новы музей // Наш край. - 1930. - № 7-8.
223. Сурмач Г. Музей Івана Луцкевіча у Вільне // Полацак. - 1991. № 4.
224. Сьмігельскі В. Праца пэдагагічнага кабінэту Менскага акруговага аддзелу народнае асьветы // Асьвета. - 1927. - № 4.
225. Троська Я. 6 экскурсій па Магілеву // Наш край. - 1925. - № 12 (39).
226. Уладзіміраў У. Школьна-краязнаўчая экскурсія 8 Н.-Барысаўскай школы па БССР // Наш край. - 1930. - № 9-10.
227. Усава Н. Мастацкі Мінск 19 - пачатку 20 стагоддзя. Фарміраванне мастацкага асяродка. «Генеалогія» мастацкага музея // Мастацтва. - 2001. - № 3.
228. Фёдарава Л. В. Заснаванне музея і дарункі жыхароў Гродзеншчыны (1920-1929 гг.) // Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства». 8-9 кастр. 1990 г. - Гродна, 1990.
229. Фінкевіч А. Музей выяўленчых мастацтваў //Чырвоная Звязда. - 1940. - 22 лістапада.
230. Цітова А.А. Ю. Ёдкоускі - першы дырэктар музея у Гродне// Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства». 8-9 кастр. 1990 г. - Гродна, 1990.
231. Чарныш А.П. Ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна і яго роля у прапагандзе гісторыі края // Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей. Мат-лы нав.-практ. краязн. канф. 22 снежня 1995 г. - Ваўкавыск, 1997.
232. Чыгрын С. Слова пра Іосіфа Стаброўскага // Голас Радзімы. - 1991. - 16 мая.
233. Чэбан І. Мікалай Шчакаціхін і стварэнне нацыянальнага беларускага музея // Беларускі гістарычны часопіс. - 1996. - № 4.
234. Швед В.В. Штрыхі да партрэта Юзафа Ядкоускага // Краязнаучыя Запіскі. Зборнік артыкулаў да 75-годдзя заснавання ГДГАМ. Гродпа, 1995.
235. Шкловский В. Гамбургский счет: Статьи - воспоминания - эссе (1914-1933). М.: Сов. писатель, 1990. - 544 с.
236. Шмидт С. «Золотое десятилетие» советского краеведения // Отечество. Краеведческий альманах. - М.: Профиздат, 1990.

237. Шода Т. А. «Будущий счастливый обладатель...» //Краеведческие записки (к 80-летию Гомельского областного краеведческого музея). - Гомель, 2000.
238. Шоцік В.І. Юзаф Ядкоускі і яго роля у стварэнні кнігазбору музея // Матэрыялы першых Кнігазнаўчых чытанняў. - Мінск: Нац. б-ка Беларусі, 2000.
239. Шчарбакоў С.А. Баранавіцкі краязнаучы музей // Памяць. Баранавічы. Баранавіцкі раён. - Мінск: Бел ТА, 2000.
240. Шчуцкі. Аб перабудове работы Віцебскага музэю // Савецкая Краіна. - 1932. -№2(16).
241. Яніцкая М. Стан музейнай справы у БССР у 20-30 гады // Вяртанне 2. Зборнік артыкулаў і дакументаў. - Мінск: Белар. фонд культуры, 1994.
242. Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. - Wrocław: Ossolineum, 1992. - T. 2. - 472 s.
243. Antoniewicz W. O stan i byt muzeów krajoznawczych w Polsce // Ziemia. - 1930. -№ 15-18.
244. Ён жа. Zadania i organizacja muzeów krajoznawczych // Ziemia. - 1927. - № 1.
245. Ber W. Przyszlosc246. poleskiego muzeum okręgowego // Ziemia. -1935. № 6-7.
247. Breżgo B. Muzea Witebskie // Ziemia. - 1926. - № 15-16.
248. Bujak J. Muzealnictwo etnograficzne w Polsce (do roku 1939) // Zeszyty naukowe uniwersytetu Jagiellońskiego. CCCCXII. - Warszawa - Kraków: PWN, 1975. - Zesz. 8. - 159 s.
249. Drewko M. Muzeum P.T.K. w Pińsku // Ziemia. - 1930. - № 15-18.
250. Ён жа. Muzeum P.T.K. w Słonime // Ziemia. -1930. - № 15-18.
251. Georgiewski D. Polesie na wystawie w Nowym Yorku // Poleszuk. - Pińsk, - 1939.
252. Ён жа. Muzeum Poleskie PTK w Pińsku // Ziemia. -1939. - № 5-6.
253. Ён жа. Zbiory etnograficzne i przyrodnicze Muzeum poleskiego im. Marszałka J. Piłsudskiego w Pińsku. - Pińsk, 1935. - 61 s.
254. Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi pińskiej. - Pińsk, 1928. - 39 s.
255. Jakimowicz J. Miejskie Muzeum Przyrodnicze // Niemen. -1935. - Zesz. 1.
256. Jodkowski J. Muzeum w Grodnie (Przewodnik tymczasowy) // Muzeum w Grodnie. Zarys dziejów i rozwoju. 1920-1922. - Grodno, MCMXXIII.
257. Ён жа. Powstanie i rozwój muzeów w Grodnie. 1920-1922. // Muzeum w Grodnie. Zarys dziejów i rozwoju. 1920-1922. - Grodno, MCMXXIII.
258. Kempno M. Pierwsze czterolecie ruchu krajoznawczego w powiecie wołkowyskim (1929-1933)//Tygodnik Wołkowyski. - 1934. - №1 (60).

259. Lauterbach A. O muzeach prowincjonalnych i regionalnych // Ziemia. - 1930. - № 15 -18.
260. Lorentz St. Album wileńskie. - Warszawa: Państw. Inst. Wydawniczy, 1986. - 237 s.
261. Okołów C, Gacuta W. Muzea w Białowieży. - Białowieża, 1970. - 36 s.
262. S.M.M. O twórczości malarskiej Wl. Hofmanna z okazji wystawy jego obrazów w Grodnie // Głos Prawdy ziemi Grodzieńskiej. -1928. - 31 października.
263. Treter M. Muzea współczesny. Studium muzeologiczne. Początki, rodzaje, istota i organizacja muzeów. Publiczne zbiory muzealne w Polśce i przyszły ich rozwój. Kijów, 1917. - 103 s.
264. Zycka L., Łęska M. Działalność popowstaniowa polaków na ziemi Mińskiej. - Warszawa, 1939. - 313 s.

## МУЗЕІ БЕЛАРУСІ, СТВОРАНЫЯ Ў ПЕРЫЯД З 1917 ПА 1941 г.

| № | Час заснавання | Горад | Назва музея | Ведамасная прыналежнасць | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1918 | Віцебск | Гісторыка- археалагічны музей | Наркамасветы | У 1924 г. атрымаў статус Віцебскага аддзялення БДМ, з 1928 г. - самастойны музей, перайменаваны ў культурна- гістарычны, пазней у сацыяльна-гістарычны. Прыпыніў існаванне ў 1941 г. |
| 2 | 1919 | Магілёў | Дзяржаўны гістарычны музей пралетарскай культуры | Пададдзел па справах музеяў і аховы помнікаў даўніны і мастацтва | У 1924 г. атрымаў статус Магілёўскага аддзялення БДМ, з 1928 г. - самастойны музей, перайменаваны ў краязнаўчы. Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 3 | 1919 | Мінск | Абласны музей | Наркамасветы | Разрабаваны падчас польскай акупацыі летам 1920 г., адноўлены ў 1923 г. пад назвай БДМ, у 1930 г. перайменаваны ў Мінскі сацыяльна-гістарычны. Спыніў існаванне ў 1944 г. |
| 4 | 1919 | Гомель | Мастацка-гістарычны музей імя Н.І.Троцкай | Наркамасветы | У кастрычніку 1919 г. перавезены ў Маскву. |
| 5 | 1919 | Гомель | Педагагічны музей | Наркамасветы | |
| 6 | 1919 | Гомель | Музей імя А.В. Луначарскага | Наркамасветы | У 1924 г. атрымаў статус Гомельскага аддзялення БДМ, з 1928 г.- самастойны музей, перайменаваны ў гістарычны. Прыпыніў існаванне ў 1941 г. |
| 7 | 1919 | Віцебск | Прыродазнаўчы музей | Наркамасветы | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 1919 | Белавеж | Прыродазнаўчы музей | Акруговая рада дзяржаўных лясоў | Існуе па сённяшні дзень |
| 9 | 1920 | Віцебск | Музей сучаснага мастацтва | Наркамасветы | Спыніў існаванне ў 1922 г. Большасць экспанатаў перададзена ў Рускі музей і Трац- цякоўскую галерэю. |
| 10 | 1921 | Вільня | Беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І.Луцкевіча | Беларускае навуковае таварыства | Спыніў існаванне ў 1944 г. |
| 11 | 1921 | Гомель | Медыцынскі музей імя М.І. Пірагова | Губаддзел аховы здароўя | |
| 12 | 1921 | Мінск | Заалагічны музей | БДУ | Існуе па сённяшні дзень |
| 13 | 1922 | Гродна | Гісторыка-археалагічны музей | Камісія па ахове помнікаў мастацтва і культуры | Існуе па сённяшні дзень |
| 14 | 1923 | Слуцк | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | Закрыты ў 1936 г. |
| 15 | 1923 | Магілёў | Музей санітарнай асветы | Губаддзел аховы здароўя | |
| 16 | 1923 | Мінск | Дом-музей І з'езда РСДРП | Гістпарт. | Згарэў ў 1941 г., адноўлены ў 1948 г |
| 17. | 1924 | Бабруйск | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | |
| 18. | 1924 | Орша | Культурна-гістарычны музей | Акруговае таварыства краязнаўства | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 19. | 1924 | Орша | Сельскагаспадарчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | Спыніў існаванне ў 1930-я гг. |
| 20. | 1924 | Барысаў | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 21. | Пач. 1920-х гг. | Віцебск | Сельскагаспадарчы музей | Наркамзем | |
| 22. | Пач. 1920-х гг. | Віцебск | Эканамічна-прамысловы музей | Наркамасветы | |
| 23. | Пач. 1920-х гг. | Віцебск | Музей санітарнай асветы і гігіены | Губаддзел аховы здароўя | |
| 24. | Пач. 1920-х гг. | Віцебск | Ветэрынарны музей | Губветаддзел | Перададзены ў Віцебскі ветэ рынарны інстытут |
| 25. | Пач. 1920-х гг. | Горкі | Вучэбны музей | Сельскагаспадарчая акадэмія | |
| 26. | 1925 | Мінск | Музей рэвалюцыі | Гістпарт | Спыніў існаванне ў 1941г. |
| 27. | 1926 | Мінск | Музей прыроды | Інбелкульт | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 28. | 1926 | Пінск | Палескі рэгіянальны музей | Аддзяленне ПКТ | У 1939 г. перайменаваны ў гісторыка-рэвалюцыйны (пазней у гісторыка-краязнаўчы), існуе па сённяшні дзень пад назвай «Музей Беларускага Палесся» |
| 29. | 1926 | Мінск | Цэнтральны педагагічны музей | Наркамасветы | |
| 30. | 1926 | Гродна | Прыродазнаўчы музей | Гарадскі камітэт па кіраўніцтву музеем | Далучаны да Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея ў 1939г. |
| 31. | 1926 | Мінск | Музей працы | Інстытут сацыяльнай гігіены | |
| 32. | 1926 | Полацк | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | |
| 33. | 1926 | Клімавічы | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | |
| 34. | 1927 | Мазыр | Краязнаўчы музей | Акруговае таварыства краязнаўства | Спыніў існаванне ў 1938 г. |
| 35. | 1928 | Мінск | Геалагічны музей | Інбелкульт | |
| 36. | 1929 | Слонім | Рэгіянальны музей | Аддзяленне ПКТ | Існуе па сённяшні дзень. |
| 37. | 1929 | Баранавічы | Рэгіянальны музей | Аддзяленне ПКТ | У 1940 г. перапрафіляваны ў музей выяўленчага мастацтва, спыніў існаванне ў 1941 г. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 38. | 1920-я гг. | Мінск | Сельскагаспадарчы музей | Саўнаргас | |
| 39. | 1920-я гг. | Магілёў | Сельскагаспадарчы музей | Саўнаргас | |
| 40. | 1920-я гг. | Гомель | Прамысловы музей | Саўнаргас | |
| 41. | 1920-я гг. | Мінск | Музей крымінальнага вышуку | НКУС | |
| 42. | 1920-я гг. | Мерачоўшчына | Мемарыяльны музей Т. Касцюшкі | Грамадскі камітэт | Знішчаны падчас нямецкай акупацыі. |
| 43. | 1920-я гг. | Азарычы | Краязнаўчы музей | Раённае таварыства краязнаўства | |
| 44. | 1920-я гг. | Асіпавічы | Краязнаўчы музей | Раённае таварыства краязнаўства | |
| 45. | 1920-я гг. | Бобр | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 46. | 1920-я гг. | Бешанковічы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 47. | 1920-я гг. | Быхаў | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 48. | 1920-я гг. | Бялынічы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 49. | 1920-я гг. | Бярэзіне | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 50. | 1920-я гг. | Гарадок | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 51. | 1920-я гг. | Дрыса | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 52. | 1920-я гг. | Камарын | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 53. | 1920-я гг. | Капаткевічы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 54. | 1920-я гг. | Капыль | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 55. | 1920-я гг. | Лагойск | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 56. | 1920-я гг. | Лепель | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 57. | 1920-я гг. | Мсціслаў | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 58. | 1920-я гг. | Нароўля | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 59. | 1920-я гг. | Плешчаніцы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 60. | 1920-я гг. | Смалявічы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| бі. | 1920-я гг. | Смілавічы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 62. | 1920-я гг. | Сураж | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 63. | 1920-я гг. | Сянно | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 64. | 1920-я гг. | Талачын | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 65. | 1920-я гг. | Тураў | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 66. | 1920-я гг. | Ушачы | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 67. | 1920-я гг. | Хоцімск | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 68. | 1920-я гг. | Чэрыкаў | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 69. | 1920-я гг. | Чэрвень | Краязнаўчы | музей Раённае таварыства краязнаўства | |
| 70. | 1920-я гг. | Мінск | Палітэхнічны музей | Цэнтральная школьная станцыя | |
| 71. | 1934 | Магілёў | Музей гісторыі рэлігіі і атэізма | Наркамасветы | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 72. | 1936 | Магілёў | Дом-музей С. Арджанікідзе | Наркамасветы | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 73. | 1930-я г г. | Мінск | Музей | Дом Чырвонай Арміі | |
| 74. | 1930-я гг. | Гродна | Мемарыяльны музей Э. Ажэшкі | Грамадскі камітэт | Расфармаваны ў 1939 г. |
| 75. | 1937 | Ваўкавыск | Рэгіянальны музей | Аддзяленне ПКТ | Існуе па сённяшi дзень. |
| 76. | 1938 | Навагрудак | Мемарыяльны музей А.Міцкевіча | Міцкевічаўскі камітэт | У 1940 г. перайшоў у падпарадкаванне Наркамасветы, знішчаны ў гады нямецкай акупацыі, адноўлены ў 1955 г. |
| 77. | 1939 | Мінск | Дзяржаўная мастацкая галерэя | Кіраўніцтва па справах мастацтва | Існуе па сённяшні дзень |
| 78. | 1939 | Віцебск | Мастацкая галерэя Ю.М. Пэна | Кіраўніцтва па справах мастацтва | Спыніла існаванне ў 1941г. |
| 79. | 1939 | Гомель | Антырэлігійны музей | Наркамасветы | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 80. | 1940 | Мінск | Гісторыка-археалагічны музей | БДУ | Спыніў існаванне ў 1941 г. |
| 81. | 1940 | Віцебск | Антырэлігійны музей | Наркамасветы | Спыніў існаванне ў 1941 г. |

# МУЗЕЙНЫЯ ДЗЕЯЧЫ БЕЛАРУСІ, ПАЦЯРПЕЎШЫЯ ПАДЧАС РЭПРЭСІЙ 1930-х гг.

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Гады жыцця | Назва музея, займаемая пасада | Рэпрэсіі |
|---|---|---|---|---|
| I. | Барагодскі Мікалай Мікалаевіч | 1877-1938 | Віцебскі культурна-гістарычны музей, намеснік дырэктара /1928-1936/ | У 1937 г. арыштаваны, асуджаны да вышэйшай меры пакарання, рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 г. |
| 2. | Васілевіч Язэп Ігнатавіч | 1870-1934(7) | Віцебскае аддзяленне Беларускага | У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза дзяржаўнага музея, загадчык вызвалення Беларусі» Іў 1931 г. выс- /1924-1929/ ланы з Беларусі, памёр у Башкірыі. |
| 3. | Данільчык Арцемій Андрэевіч | 1896-? | Музей рэвалюцыі, дырэктар /1935-1936/ | Арыштаваны ў 1936 г. па абвінавачванні ў антысавецкай прапагандзе і агітацыі. Асуджаны на 5 гадоў зняволення, у 1956 г. часткова рэабілітаваны. |
| 4. | Каспяровіч Мікалай Іванавіч | 1900-1937 | Цэнтральнае бюро краязнаўства, навуковы сакратар /1926-1929/ | У 1930 г. арыштаваны, асуджаны на 5 гадоў, у 1937 г. паўторна арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, рэабілітаваны пасмяротна ў 1958 г. |
| 5. | Кійко Мікалай Фёдаравіч | 1902-? | Музей рэвалюцыі, навуковы супрацоўнік /1930-1935/ | Арыштаваны ў 1935 г. па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, асуджаны на 3 гады зняволення, рэабілітаваны ў 1989 г. |
| 6. | Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч | 1883-1938 | Беларускі дзяржаўны музей, дырэктар/1927-1929/ | Арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў 1930 г., асуджаны на высылку, у 1937г. арыштаваны паўторна і расстраляны, рэабілітаваны пасмяротна ў 1958 г. і 1988 г. |
| 7. | Луцкевіч Антон Іванавіч | 1884-1946 | Беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. Луцкевіча, дырэктар /1921-1939/ | У 1939 г. арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў зняволення. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1989 г. |
| 8. | Ляўданскі Аляксандр Мікалаевіч | 1893-1937 | Беларускі дзяржаўны музей, намеснік дырэктара /1928-1929/ | У 1937 г. арыштаваны і расстраляны ў Мінску, рэабілітаваны пасмяротна ў 1958 г. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 9. | Мялешка Сяргей Міронавіч | 1901—? | Полацкі краязнаўчы музей, загадчык/1926-1930/ | У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы з Беларусі. |
| 10. | Неканда-Трэпка Антон Станіслававіч | 1877-1942 | Беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. Луцкевіча, супрацоўнік /1921 -1939/ | У 1939 г. арыштаваны і сасланы на 10 гадоў у Сібір. |
| 11 | Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч | 1883-1937 | Галоўнавука пры Наркамасветы БССР, старшыня /1928-1930/ | Арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў 1930 г., асуджаны на высылку, у 1937 г. арыштаваны паўторна і расстраляны, рэабілітаваны пасмяротна ў 1957 г. і 1988 г. |
| 12 | Рак-Міхайлоўскі Сымон Аляксандравіч | 1885-1938 | Мінскі сацыяльна-гістарычны музей, дырэктар/1931-1933/ | Арыштаваны ў 1933 г. па абвінавачанні ў шпіёнскай дзейнасці, асуджаны да Ю гадоў, расстраляны ў 1938 г., рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 г. |
| 13. | Раманчук Іосіф Арсенневіч | 1899-? | Музей рэвалюцыі, дырэктар /1930-1931,1936-1937/, Мінскі сацыяльна-гістарычны музей, навуковы'супрацоўнік /1937-1939/ | У 1937 г. выключаны з партыі, у 1939 г. арыштаваны па абвінавачванні ў контр-рэвалюцыйнай дзейнасці і сувязі з польскай разведкай, асуджаны да вышэйшай меры пакарання, у 1940 г. прысуд адменены пасля касацыйнай скаргі. |
| 14. | Скакальскі Гдалій Абрамавіч | 1901—? | Музей рэвалюцыі, навуковы супрацоўнік /1936-1939/, дырэктар/1939-1940/ | У 1943 г. асуджаны на 5 гадоў ссылкі, рэабілітаваны ў 1997 г. |
| 15. | Славін Цодык Якаўлевіч | 1887-1937 | Бабруйскі краязнаўчы музей, загадчык/1924-1937/ | У 1937 г. арыштаваны па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, загінуў у адным з лагероў ГУЛАГа. |
| 16. | Якубчык Сымон Міхайлавіч | 1892-1938 | Мінскі сацыяльна-гістарычны музей, дырэктар /1933-1937/ | Арыштаваны ў 1937 г., асуджаны да вышэйшай меры пакарання як польскі шпіён, расстраляны ў Мінску ў маі 1938 г. |

## ЗМЕСТ